117 ДА 1989 г. ЧАСОПІС ВЫХОДЗІЎ ПАД НАЗВАЙ “ПОМНІКІ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ”

ЧАСОПІС БЕЛАРУСКАГА ФОНДУ КУЛЬТУРЫ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ДРУКУ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# СПАДЧЫНА

3/96

## У НУМАРЫ

СПАДЧЫНА

ПОМНІКІ ЛІТАРАТУРЫ



РЭЛІГІЙНАЯ ГІСТОРЫЯ



ГАРТАЮЧЫ СТАРЫЯ ВЫДАННІ





Адрас рэдакцыі: 220029, Мінск, Старажоўская, 5. Тэл. 234-26-50.

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў 25.06.96.
Фармат 84Х108 1/32. Друк афсетны. Ум. друк. арк. 15,12.
Ум. фарба-адб. 15,22. Ул.-выд. арк. 17,49. Тыраж экз. Зак. 658.

Надрукавана з дыяпазітываў рэдакцыі ў друкарні
выдавецтва “Беларускі Дом Друку".
220013, Мінск, праспект Францішка Скарыны, 79.

Выходзіць 6 разоў на год. Выдавецтва “Полымя". Мінск.



**На першай старонцы вокладкі:** невядомы мастак. Партрэт Альбрыхта Станіслава Радзівіла. XVII ст.
**На другой старонцы вокладкі:** Ларыса Геніюш і Паўліна Мядзёлка. Зэльва, жнівень 1968 г. (БДАМЛіМ. Друкуецца ўпершыню).
**На чацвёртай старонцы вокладкі:** руіны палаца Сапегаў у г.п. Ружаны Брэсцкай вобласці.

Паўла УРБАН

# МОВА СТАРАЖЫТНЫХ ЛІЦЬВІНОЎ

Фармулёўка адносна ліцьвіноў і жамойтаў, якая трапіла ў ведамае пасланьне 1420 г. вялікага князя Вітаўта нямецка-рымскаму імпэратару Жыгімонту Люксэмбурскаму, яшчэ дасюль успрымаецца гісторыкамі як доказ этнічнай тоеснасьці ліцьвіноў і жамойтаў, тоеснасьці Літвы і Аўкштоты. Зьмест гэтай Вітаўтавай фармулёўкі[1] зводзіцца да чатырох галоўных пунктаў: 1.этнічна і моўна ліцьвіны і жамойты былі адным народам; 2.Літва і Жамойць — ідэнтычныя паняцьці; 3.жамойты ад даўнейшых часоў называлі сябе ліцьвінамі, і ніколі жамойтамі; 4.для жамойтаў уласна Літва была Аўкштотай.

У фармулёўцы ёсьць супярэчнасьці, і ў ёй заўважаецца палітычны падтэкст. Гэты падтэкст дыктаваўся тагачаснымі палітычнымі спрэчкамі вакол самой Жамойці, вакол таго, каму яна павінна была належаць. Бо вялікі князь Вітаўт у іншых сваіх ранейшых і пазьнейшых пасланьнях і граматах гаварыў таксама пра асобны “народ жамойтаў”, які, паводле Вітаўта, меў яшчэ і сваю “адметную мову”.

Што да гэтак званай “тоеснасьці” ці "ідэнтычнасьці” Літвы і Аўкштоты, дык гэтай канцэпцыі зь нейкай асаблівай упартасьцяй трымаецца, напрыклад, сёньня ведамы польскі гісторык Марцэлі Косман. У сваёй кнізе, нядаўна выдадзенай у Варшаве, дзясяткі разоў ён паўтарае ў розных варыянтах амаль адную і тую ж фразу. Накшталт: Тэўтонскі ордэн ”usiiowai zagarn№ж ziemie Ïmudzinyw, a nastкpnie Litwк wiaњciw№, czyli Auksztotк”; ”na terenie Auksztoty, czyli Litwy wiaњciwej”[2].

Быццам Марцэлі Косман ня мог не заўважыць адну ”драбніцу”, што ў старых архіўных актах і хроніках пра гэтую “Аўкштоту” заўсёды была гаворка як пра адну зь земляў уласна Літвы.

Вынікае, што сваё асабістае ўяўленьне пра “Аўкштоту” мае іншы, таксама сучасны, польскі гісторык Гэнрык Віснэр. Напачатку сваёй кнігі[3] Віснэр апублікаваў схематычную карту, на якой пазначаныя мясьціны расьсяленьня ў XIII ст. важнейшых балцкіх плямёнаў. Дык “Аўкштота” там зьмешчаная на поўдзень ад самой “Летувы", а гэта на поўнач

ад Наваградку адразу на правым узьбярэжжы Нёману паміж нёманскай Бярэзінай і гарадамі Гародняй і Мерачам.

Але памыляецца таксама і Гэнрык Віснэр, бо тут, над Нёма-нам, ніякай Аўкштоты ня было.

Пры падтрымцы папскіх легатаў з Авіньёну 2 кастрычніка 1323 г. вялікі князь Гедымін быў аформіў мірнае пагадненьне з магістрам Лівонскага ордэну, з рыскім архібіскупам і гараджанамі Рыгі, а таксама з намесьнікам караля Даніі ў Эстоніі. У гэтым пагадненьні, у якім Гедымін выступаў як "**кароль Літвы**", была гаворка пра "мірныя", у тым ліку і гандлёвыя, зоны, да якіх залічаліся Жамойць і **Аўкштота**, Пскоўская зямля ды яшчэ іншыя "землі русаў" (der Russen), "падпарадкаваныя" Гедыміну[4]. У Пскове сядзеў тады намесьнік Гедыміна князь Давыд Гарадзенскі[5], а пад гэтымі іншымі "землямі русаў", разумеліся, напэўна, Полацкае і Віцебскае княствы.

З гэтага мірнага пагадненьня вынікае, такім чынам, што Аўкштота не атаясамлівалася з уласна Літвой і, будучы адной зь пералічаных "мірных зонаў", знаходзілася бліжэй да межаў крыжацкага Лівонскага ордэну.

Зрэшты, ёсьць таксама больш канкрэтнае акрэсьленьне месцазнаходжаньня Аўкштоты. Нямецкі храніст Герман Вартбэрг сваю "Хроніку Лівоніі" пісаў у Рызе, і ён, пэўна, добра ведаў, дзе магла знаходзіцца Аўкштота. Вось жа, апісваючы падзеі жніўня 1373 г. і называючы канкрэтна Аўкштоту, на тэрыторыі гэтай Аўкштоты Вартбэрг зьмяшчаў якраз гарады-замкі Вількамір і Жэймы. З гэтых ягоных зьвестак вынікае яшчэ, што названая ім **"зямля Аўкштота"** ляжала на поўнач ад ракі Вяльлі, бо ўжытыя Вартбэргам тэрміны "Nergha" і "Nerga" азначалі Павільле і самую Вяльлю[6]. Напад гэты на Аўкштоцкую зямлю, які апісаў Герман Вартбэрг, зьдзейсьніў з войскам крыжакоў Прусіі вялікі магістар Тэўтонскага ордэну Вінрых фон Кніпродэ.

Значыцца, у атаясамленьні Літвы з Аўкштотай вялікі князь Вітаўт ня выявіў шчырасьці. Дарэчы, як і іншыя вялікія князі, таксама сам Вітаўт ніколі не тытулаваў сябе "князем Аўкштоты". Дзеля палітычных матываў схітрыў яшчэ Вітаўт, калі тлумачыў, быццам "этнічна і моўна ліцьвіны і жамойты былі адным народам", пра што, аднак, гаворка будзе наперадзе.

Для часоў вялікага князя Вітаўта нам проста няведамы саманазоў для Жамойці і жамойтаў. Няведама, ці маглі яны называцца сучаснымі тэрмінамі: "Žemaitija" і "Ћemaiиiai". У лацінскіх тэкстах для іх звычайна дастасоўваліся назвы "Samogitia (Samogithia)" і "Samogiti (Samogithi)", а ў старамоўнанямецкіх тэкстах — "Samaythen (Samaiten)" і "Samaythen (Samaiten)". У згаданым пасланьні 1420г. нямецка-рымскаму імпэратару Жыгімонту Люксэмбурскаму вялікі князь Вітаўт, дзеля тлума-чэньня, два разы ўжыў яшчэ **славянскія** тэрміны ў называньні Жамойці і жамойтаў, гаворачы, што іх гэтак называлі **"ў літоўскай мове"**: "Sed quod terra

Samaytarum est terra inferior ad terram Lythwanie, ideo **Szomoyth** vocatur, quod **in Lythwanico** terra inferior interpretatur"; "... quum una est tantum terra Samaytarum et non plures, que terra **in Lythwanico Somoyth** quasi terra inferior appelatur".

Як ведама, у славянскамоўных летапісах Жамойць і жамойты ўпершыню былі згаданыя ў Галіцка-Валынскім летапісе (у складзе Іпацеўскага летапісу), дзе Жамойцкая зямля і жамойцкі народ называліся аднолькава: "Жемойть" і "жемойть". Накшталт: краіна "Русь" і народ "русь"; краіна "Літва" і народ "літва". Гэткая тэрміналёгія Галіцка-Валынскага летапісу сустракаецца таксама ў беларускіх летапісах XVI ст., але тут пераважаюць назвы "Жомойть" і "жомойть". У беларускамоўных юрыдычных дый іншых дзяржаўных актах Вялікага Княства Літоўскага XV—XVI стст. у дачыненьні да Жамойці і жамойтаў ужывалася ўнармаваная форма гэтай тэрміналёгіі: "Жомойтская земя" або "Жомойть" і зноў жа "жомойть" для абазначэньня народу.

Калі-нікалі гісторыкі нагадваюць, што аднойчы Вітаўт і Ягайла гаварылі на роднай "літоўскай мове", і з гэтага робяць выснову, што Вітаўт і Ягайла ведалі гутарковую летувіскую мову. Здарылася гэта ў студзені 1424 г. на зьезьдзе ў Луцку трох манархаў — нямецка-рымскага імпэратара Жыгімонта Люксэм-бурскага, польскага караля Уладзіслава Ягайлы і вялікага князя Вітаўта. На тым зьезьдзе якраз Ягайла падтрымаў ідэю каранаваць Вітаўта каралеўскай каронай, ад якой неўзабаве катэгарычна адмовіўся, бо сустрэўся з рэзкай апазыцыяй з боку польскіх магнатаў і духавенства. З гэтае прычыны 17 лютага 1429 г. Вітаўт піша іранічна-зласьлівы ліст Ягайлу, у якім нагадвае, што ў прысутнасьці толькі імпэратара Жыгімонта і ягонай жонкі ён, Вітаўт, зьвярнуўшыся да Ягайлы ў "літоўскай мове", парадзіў яму, Ягайлу, вельмі не сьпяшацца зь ідэяй каранацыі, а выпадала б найперш абмеркаваць гэтую справу з дарадцамі, што зробіць і ён, Вітаўт"[7].

Якая была гэтая "літоўская мова"? Абмен думкамі зь Ягайлам на гэтай мове Вітаўт пераказаў на лацінскай мове.Пэўна ж, Ягайла і Вітаўт ведалі беларускую мову і карысталіся ёю.

Напрыклад, прапануючы ў 1420 г. карону Чэхіі Ягайлу, чэскія паслы рабілі стаўку на "славянскую еднасьць" ды падкрэсьлівалі яшчэ гэткую акалічнасьць (цытуем вытрымку з пасольства ў польскім перакладзе): "Dostojnoњci Waszej jako wiadcy sprawiedliwemu, **a z przyrodzenia przychylnemy jкzykowi naszemu czeskiemu**, ïaioњliwie i cikïko skarïymy sik na wielkie, niesiychane, nieludzkie i niechrzeњcijacskie okruciecstwa wyrządzane przez Zygmunta, kryla wкgierskiego, wbrew Panu Bogu Wszech-mog№cemu i jego њwiкtym prawdom a Zakonowi, dokony-wane na ludziach jкzyka czeskiego i siowiacskiego"[8]. Сытуацыя зьмянілася пасьля таго, як напачатку траўня 1424г. Польшча, паддаўшыся ціску Ватыкану, абвесьціла вайну чэскім гусітам[9].

Тым ня менш, чэскі пасол з Прагі Ян Адляр, неўзабаве зьявіўшыся ў Кракаве, тут на аўдыенцыі ў караля Уладзіслава Ягайлы зноў рабіў намёк на гэтую “прыроджаную прыхільнасьць” Ягайлы да чэхаў дый іншых народаў славянскай мовы, хоць мэта пасольства Яна Адляра абмежавалася да просьбы паспрыяць, каб чэская дэлегацыя магла сустрэцца дзеля перамоваў зь нямецка-рымскім імпэратарам Жыгімонтам Люксэмбурскім[10].

У справе атрыманьня каралеўскай кароны канфлікт паміж Вітаўтам і Ягайлам нарастаў, што з боку Ягайлы вылілася ў інтымную перапіску зь Вітаўтам і перасыланьне лістоў праз сваіх “давераных” людзей. Перапіска гэтая вялася якраз **на беларускай мове**, пра што могуць сьведчыць гэтыя заўвагі ў адказах Вітаўта: “Quod autem scripsistis in littera ruthenica”[11]; “Insuper scribit nobis Vestra fraternitas in ruthenico”[12]. Або вось яшчэ нататка перакладчыка да беларускага ліста Ягайлы ад 26 траўня 1429 г.: “Copia littere domini regis Polonie, scripte domino magno duci in ruthenico, translate in latinum”[13].

Вялікі князь Вітаўт, пэўна, ня вельмі шанаваў прыгадваную “інтымнасьць” Ягайлы. Ягайлавы лісты, пісаныя на беларускай мове, перакладаліся на лацінскую або старанямецкую мову і кур‘ерам разам з тлумачальнымі лістамі самога Вітаўта накіроўваліся ў Будапешт ці Вену да імпэратара Жыгімонта Люксэмбурскага, а таксама ў Мальбарк да вялікага магістра Тэўтонскага ордэну.

Але вернемся да праблемы: ці сапраўды была нейкая моўная розьніца паміж нюансамі: “Insuper scribit nobis Vestra fraternitas in ruthenico” — “Nos vero lithwanico diximus ad vos“? Напрыклад, Статуты ВКЛ называліся “літоўскімі”, хоць яны, кажучы словамі Францішка Скарыны, былі “тиснутые рускими словами а словенскым языком”.

У сувязі з гэтым цікава найперш адзначыць тлумачэньне жамойтамі сваёй “этнічнай” роднасьці зь ліцьвінамі, якое адлюстравалася ў гэтак званай “Proposicio Samagitarum” для Канстанцкага царкоўнага сабору. Жамойцкую дэлегацыю на гэты сабор узначальвалі ліцьвіны падольскі намесьнік Юры Гедыгольд і Юры Балімін Надабовіч, а таксама лацінскі сакратар Вітаўта паляк Мікалай Сапеньскі, які 13 лютага 1416г. і выступіў перад саборам з прыгаданай “Жамойцкай прапановай”. У прапанове, а фактычна скарзе, гаварылася, што хрысьціянства для жамойтаў ня было навінкай і чужым, бо шмат хто з жамойтаў меў кантакты з “хрысьціянскім літоўскім народам”. Тут і была ўжытая біблейская формула наконт этнічнай роднасьці жамойтаў зь ліцьвінамі (напрыклад, у тэксьце Бібліі, дзе апавядалася пра цара Давыда): “Мы косьць твая і цела тваё”[14].

Прыгледзімся бліжэй да гэтае праблемы. На жаль, дзеля паўнаты гістарычнага малюнку давядзецца часткова паўтарыць тое, пра што была гаворка ў нашай кнізе[15]. Асабліва гэта датычыць цытаваньня вытрымак з арыгінальных тэкстаў.

Неабходнасьць гэтага паўтору кампэнсуецца далучэньнем новага цікавага матарыялу.

11 жніўня 1416г. Канстанцкі сабор прыняў пастанову наконт хрышчэньня жамойтаў і даручыў гэтую справу львоўскаму архібіскупу Яну Рашоўскаму і віленскаму біскупу Пётру Ястрабцу. У пастанове гэтай падкрэсьлівалася і чатыры разы паўтаралася, што хрышчэньне тычылася Жамойцкай зямлі і "народу Жамой-таў"[16]. Гэта, пэўна, не магло супадаць з крыху пазьнейшай фор-мулай вялікага князя Вітаўта пра тое, быццам "**жамойты ад даў-нейшых часоў называлі сябе ліцьвінамі, і ніколі жамойтамі**".

25 жніўня 1417г. кароль Польшчы Ўладзіслаў Ягайла і вялікі князь Вітаўт, знаходзячыся ў Троках, афармляюць супольнае пасланьне ўдзельнікам Канстанцкага сабору. У ім паведамлялася пра першыя крокі на шляху хрышчэньня жамойтаў, якія з даручэньня Сабору рабіліся ў Жамойці прыгадванымі Львоўскім архібіскупам Янам і Віленскім біскупам Пётрам. У пасланьні гэтым зноў была гаворка толькі пра "народ Жамойтаў"[17].

23 кастрычніка 1417г. вялікі князь Вітаўт выдае ў Троках першы фундацыйны акт адносна заснаваньня ў Жамойцкай зямлі Медніцкай каталіцкай япархіі. У гэтым акце выразна рабілася этнічнае адрозьненьне паміж жамойтамі і ліцьвінамі, бо, паводле Вітаўта, прызначаны ім віленскі пробашч Мацей на катэдру Медніцкай япархіі быў "Ліцьвінам" — "origine Lytwanus"[18].

Між іншага, грунтуючыся толькі на пазьнейшых паведамленьнях Яна Длугаша[19], яшчэ і цяпер польскія гісторыкі мяркуюць, што віленскі пробашч Мацей, прызначаны Вітаўтам на пасаду першага біскупа ў Жамойці, быў немцам, народжаным у Вільні, а "ліцьвінам" яго называлі з тае прычыны, што быў грамадзянінам ВКЛ[20]. Аднак жа ў кракаўскіх "Календарах" (запісах магістрату Кракава) каля 1422г. было запісана, што жамойцкі біскуп Мацей, пераведзены зь Меднікаў у Вільню, быў ліцьвінам: "nacione Lythwanus"[21]. Зь Меднікаў на катэдру Віленскай каталіцкай япархіі ён перайшоў у траўні 1422 году.

У першым сваім пасланьні ад 24 кастрычніка 1417г., высланым для азнаямленьня ўдзельнікам Канстанцкага сабору, львоўскі архібіскуп Ян і віленскі біскуп Пётра паведамлялі, што дзеля справы хрышчэньня "жамойцкага народу" яны асабіста наведаліся ў "Жамойцкую зямлю", а затым на прапанову вялікага князя Вітаўта высьвецілі на пасаду біскупа Медніцкай каталіцкай япархіі магістра свабодных навук і віленскага пробашча Мацея[22].

Яшчэ два іншыя пасланьні гэтых ярархаў удзельнікам Канстанцкага сабору ня маюць дакладнай даты, але яны былі напісаныя таксама ў Троках дзесьці перад 30 лістападам 1417г. У гэтых пасланьнях былі вылучаныя якраз два вельмі важныя моманты: першае, што віленскі пробашч Мацей, высьвечаны

на катэдру Медніцкай япархіі, больш чым дастаткова ведаў “жамойцкую гаворку”[23]; другое, што магістар свабодных навук і віленскі пробашч Мацей быў “Ліцьвінам” і поўнасьцю валодаў “жамойцкай гаворкай”[24].

Мы ўжо гаварылі, што біскуп Мацей зь Меднікаў быў пераведзены на катэдру Віленскай каталіцкай япархіі ў траўні 1422г. У сувязі з гэтым, 20 студзеня 1423г. вялікі князь Вітаўт піша ліст да Папы Марціна V, у якім просіць Папу пацьвердзіць прызначэньне на катэдру Медніцкай япархіі ў Жамойці для “жамойцкага народу” дасюлешняга пробашча ў Троках Мікалая. Паводле Вітаўта, троцкі пробашч Мікалай таксама ведаў “гаворку жамойцкага народу”[25].

Да гэтага можна дадаць, што пра існаваньне асобнай “жамойцкай гаворкі” ведалі таксама ў Прусіі. Справа ў тым, што, хоць вялікі князь Вітаўт імкнуўся атрымаць ад Тэўтонскага ордэну ў Прусіі ўсю Жамойць, у ейных “старых межах па Нёману”[26], ён, аднак, змушаны быў задаволіцца, казаў Вітаўт у 1420г., толькі тым, “чым валодаў”[27]. У выніку паводле Мельніцкага мірнага пагадненьня 1422г. да Прусіі адышла значная тэрыта-рыяльная частка Жамойці — пачынаючы на ўсходзе ад замку Юрбарку над Нёманам да самой Палангі над Балтыйскім морам, разам з горадам Клайпедай. Гэтая жамойцкая тэрыторыя ўвайшла ў склад Самбійскай каталіцкай япархіі.

Вось жа біскуп гэтай япархіі Міхаіл Юнге быў зьвярнуўся да Базэльскага царкоўнага сабору з той праблемай, каб было дазволена карыстацца ў царкоўным жыцьці ягонай япархіі мовамі мясцовых насельнікаў, у тым ліку і “мовай жамойтаў”. Адпаведны дазвол Базэльскага царкоўнага сабору быў пазначаны датай 14 траўня 1435 году[28]. Вынікае, такім чынам, што ў Прусіі, а канкрэтна ў Самбіі, таксама рабілася адрозьненьне паміж жамойцкай мовай і мовай уласна ліцьвіноў.

Каб не адрадзілася паганства (пра гэта крыху пазьней), тая ж праблема выкарыстаньня народнай гаворкі ў царкоўным жыцьці ўзнікла ў 1503г. перад вялікім князем Аляксандрам і біскупам жамойцкай Медніцкай япархіі Мартынам (1492—1515). У грамаце, якую біскуп Мартын атрымаў 5 студзеня 1503г. ад вялікага князя Аляксандра, справа тычылася ня толькі нізкай рэлігійнай адукацыі парафіяльных ксяндзоў у Жамойці, але яшчэ і праблемы, што гэтыя сьвятары былі няздольныя карыстацца ў набажэнствах “гаворкай літоўскай або гэтай жамойцкай“[29].

Няведаньне там ксяндзамі “гаворкі літоўскай“ можа тлумачыцца тым фактам, што Медніцкая каталіцкая япархія стваралася ў 1417г. у тых межах Жамойці, у якіх яна паводле мірнага пагадненьня 1398г. была трапіла пад уладу Тэўтонскага ордэну. Дык у межах Медніцкай япархіі магло жыць таксама ліцьвінскае насельніцтва, асабліва далей на захад ад вусьця ракі Нявяжы ўздоўж Нёману. Зрэшты, у

спрэчках з крыжакамі Прусіі за адноўлены Вітаўтам замак Вялену вялікі князь Вітаўт даказваў у 1413г., што гэты замак ён адбудаваў на тэрыторыі ўласна Літвы[30]. Горад Вялена называўся таксама ў згаданай грамаце для жамойцкага біскупа Мартына, і ён у рэлігійным значэньні, парафіяльна знаходзіўся пад асабістым патранатам вялікага князя Аляксандра. Моцай гэтай граматы біскуп Мартын атрымліваў права, якое дазваляла яму прызначаць ксяндзоў у сваёй япархіі, кіруючыся ўласным меркаваньнем.

У гэтым дачыненьні цікавая таксама фундацыйная грамата Бартоша. Гэта, напэўна, Бартош Табаравіч — брат віленскага біскупа Войцеха Табара (1492—1507). Аўтар граматы пан Бартош меў уласны дом у Вільні, а пры афармленьні граматы 21 сакавіка 1507г. прысутнічалі гэткія высокія дзяржаўныя асобы: стараста жамойцкі Станіслаў Янавіч Кязгайла, ваявода троцкі Мікалай Мікалаевіч Радзівіл, ваявода полацкі Станіслаў Глябовіч ды малады яшчэ тады падчашы Альбэрт Гаштоўт. Сярод сьведкаў, названых у грамаце, былі яшчэ канонікі Вільні.

Пан Бартош паходзіў зь Віленшчыны, а ягоная фундацыйная грамата тычылася Таўрогаў, што знаходзіліся ў Жамойці над ракой Юрай ды якія ён атрымаў у спадчыну. Якраз дзеля змаганьня з пагрозай адраджэньня паганства, у гэтых Таўрогах пан Бартош меў намер заснаваць касьцёл з прызначэньнем сюды сьвятароў, якія ведалі б “гутарковую жамойцкую мову” і маглі б навучаць парафіянаў слову Божаму ў “мове жамойтаў“[31].

Выпадае зьвярнуцца яшчэ да аналягічнай граматы (гл. грамату для жамойцкага біскупа Мартына), якую 18 верасня 1501 г. быў атрымаў ад вялікага князя Аляксандра віленскі біскуп Альбэрт (Войцех) Табар. Тут прыгадвалася толькі “гаворка літоўская” або “літоўская гаворка”, а гэта ў сувязі з тым, што, ня ведаючы гэтай ліцьвінскай гаворкі, ксяндзы парафіяльных касьцёлаў Віленскай каталіцкай япархіі не маглі толкам навучаць сваіх парафіянаў слову Божаму[32].

Нагадаем, што ў тым часе ў касьцёлах Жамойцкай і Віленскай каталіцкіх япархіяў набажэнствы спраўляліся на незразумелай для насельніцтва лацінскай мове. Выключэньнем было, мабыць, пераказваньне, і то ў польскай мове, галоўных малітваў: “Ойча наш”, “Верую” і “Багародзіца”.

У гэтай грамаце, якую атрымаў біскуп Войцех Табар, пералічваліся 28 каталіцкіх парафіяльных цэнтраў, сярод якіх былі названыя: Рудаміна, Ліда, Беліца, Дубінкі, Пабойск, Быстрыца, Сьвянцяны, Даўгі, Мерач, Слонім, Дубічы, Краснае Сяло, Валожын, Маладэчна, Радашкавічы, Койданава, Трысьцянка, Далістаў, Ганязь. У дадатак была названая яшчэ і Вільня, у якой, як пісаў Жыгімонт Гербэрштайн, было шмат праваслаўных цэркваў, чымся каталіцкіх касьцёлаў[33].

Аднак каталіцкія парафіі былі яшчэ, напрыклад, у Гарадні, Наваградку, Ваўкавыску, Слуцку і ў далёкім Стрэшыне над

Дняпром. Справа ў тым, што Віленская каталіцкая япархія абымала першапачатковыя тэрыторыі Троцкага і Віленскага ваяводзтваў, а ў Віленскае ваяводзтва ўваходзілі тады і Наваградчына, і Міншчына, і Падняпроўе. Зрэшты, на “чыста праваслаўных землях” ад пачатку XV ст. існавалі Кіеўская каталіцкая япархія, Камянецкая каталіцкая япархія і Ўладзімірская (пазьней Луцкая) каталіцкая япархія.

На якой жа “літоўскай мове” ці “гаворцы” маглі гутарыць на пачатку XVIст. парафіяне названых тут гарадоў і мястэчкаў? Але пакуль што абмяжуемся да канстатацыі, што ў XV і напачатку XVIст. з пункту гледжаньня Вільні існавалі дзьве асобныя “народныя гаворкі” ці мовы: літоўская (ліцьвінская) і жамойцкая.

Для роздуму зацытуем найперш вытрымку зь ведамай “Размовы Паляка зь Ліцьвінам”. Гэтая “Размова”, напісаная на польскай мове, была выдадзеная брашурай у 1564г. Яна зьявілася ў абставінах тагачасных палітычных спрэчак вакол мэтазгоднасьці дзяржаўнага аб‘яднаньня Вялікага Княства Літоўскага з Польскім Каралеўствам. Аўтар гэтага твору — няведамы, хоць ён прыпісваецца пяру тагачаснага віленскага войта Аўгустына Ратундуса.

Адразу адзначым, што аўтар “Размовы” зыходзіў з тэорыі “рымска-італійскага” паходжаньня старажытных ліцьвінаў, і гэтую тэорыю, пісаў аўтар, ён падчэрпнуў “у старых рускіх летапісах”. Грунтаваўся, адным словам, на беларускіх летапісах XVI ст., дзе шмат было прыдуманай фантазіі. Інакш кажучы, няведамы аўтар “Размовы Паляка зь Ліцьвінам” зыходзіў не з рэчаіснасьці, але гэтую рэчаіснасьць падганяў пад сваю тэорыю.

Цытуем у арыгінале: “...panowai Liboniis et Sudinis. O tego Gnubuta wnuku abo potomku czeimu, Radywiiem go zwano, iї byi poraїyl Tatary i j№l siк podmykaж dalej ku poiudniu, a iї mu siк Ruњ dobrowolnie poddaia i tu siк juz j№l ruski jкzyk z litewskim mieszaж, bo Rus byli bojowi i ozdobni a wdzikczni u Litwy ludzie, przeto im kwoli jкla siк Litwa po rusku mywiж, bo ruski naryd, ktyry potym od siawy abo siowa Siowiany nazwano, byi juї siк roszyrsyi po wielkiej czкњci w Europie a litewski nie byi uїyteczny, jedno tu nad tym morskim brzegiem, gdzie teraz Prusy, Їmodź, Iflanty, aї po Wilij№”[34].

Зьмест гэтага выказваньня аўтара “Размовы Паляка зь Ліцьвінам” дае падставы сьцьвярджаць, што ў выніку “зьмяшаньня рускай мовы зь літоўскай” ліцьвіны перанялі русінскую мову і зь незапамятных часоў карысталіся ёю. Пацьверджаньнем гэтай рэчаіснасьці можа быць пасланьне вялікага князя Гедыміна да манахаў-францішканаў Саксоніі (26 траўня 1323г.), у якім Гедымін запрашаў манахаў-прапаведнікаў у сваё Княства, але толькі тых, хто валодаў “польскай” і “русінскай” мовамі[35]. Сюды належыць таксама выказваньне пра мову ліць-віноў італійскага гуманіста Энэя Сільвія Пікаляміні ці Папы Пія II (1458—1464). У сваім трактаце пра Літву Пікаляміні якраз пісаў: “Sermo gentis Schlavonicus est”[36] — “Мова народу (літоўскага) славянская”.

Можна яшчэ паразважаць над зьместам пасольскай інструкцыі, выдадзенай у сьнежні 1504г. у канцылярыі Польскага Каралеўства для Эразма Цёлка, які накіроўваўся ў Рым дзеля перамоваў з новаабраным Папам Юліюсам II. У гэтай пасольскай інструкцыі была гаворка пра тое, быццам землі “Літоўскага княства з даўнейшых часоў былі заселеныя палякамі”[37]. Калі адкінуць палітычную тэндэнцыйнасьць, дык вынікае, што і ў Кракаве глядзелі на ліцьвіноў як на народ славянскі ці народ славянскай мовы.

Зьвернем яшчэ ўвагу на гэткі факт. У грамаце вялікага князя Аляксандра ад 7 верасьня 1503г. для віленскага біскупа Войцеха Табара Івашка Сямёнавіч Сапега характарызаваўся: “Prae-sentibus... et Joanne Sopiha secretario nostro **Litvano** (secreterius noster Litvanus)”[38]. Сапега належаў да Паноў-Рады ВКЛ, але вылучаць яго ў сэнсе “natione Lithuanus” было недарэчна, бо ў гэтай грамаце ў якасьці сьведкаў называліся яшчэ іншыя “ліцьвіны”. Гэта віленскі ваявода Мікалай Радзівілавіч Радзівіл, стараста Жамойці Станіслаў Янавіч Кязгайла, троцкі ваявода Ян Юравіч Забярэзінскі, полацкі ваявода Станіслаў Глябовіч, нядаўны смаленскі ваявода Станіслаў Пятровіч Кішка, падчашы Мікалай Мікалаевіч Радзівіл дый іншыя.

Няма таксама падставаў меркаваць, што Сапега вылучаўся як “сакратар Літоўскі” (secretarius Lithuanicus), бо дзеля гэтага існавала іншая форма (месны склон): “Johanne Sopyha secretario nostro magni ducatus Lithvaniae”. Грамату гэтую пісаў (per manus) у Вільні паляк і неўзабаве канцлер Польшчы Ян Ласкі, які таксама характарызаваўся як “**supremus** secretarius noster”, але без дадатку “**Polonus**”. Гэткі тытул быў таксама ў ВКЛ (месны склон): “Phietko alias Janusko (Fiedzka Janusevicz) de cancellaria Ruthenorum notario **supremo**” (1501).

Так што адсутнічалі ў грамаце палітычныя матывы дзеля падзелу дзяржаўных сакратароў: “ сакратар Літоўскі” і “сакратар Польскі” або “сакратар Літвы” і “сакратар Польшчы”.

Пры дзяржаўнай канцылярыі ВКЛ Івашка Сямёнавіч Сапега працаваў у славянскім сакратарыяце, што вынікае, напрыклад, з папскіх булаў 1501г. У адной з гэтых булаў Папы Аляксандра VI нагадвалася, што Івашка Сапега — “secretarius Ruthenicus”[39] у вялікага князя Аляксандра. Другая папская була ў красавіку 1501г. была адрасаваная віленскаму біскупу Альбэрту Табару, у якой канстатавалася: “Proinde petis, ut Johannem Sopega dilecti filii nobilis viri Alexandri magni ducis Lithuane **in cancellaria Ruthenica secretarium** et capitaneum super hiis audire, et tibi, quod in has re agendum sit, respondere velimus”[40].

Выконваючы місію мітрапаліта ВКЛ Іосіфа Баўгарыновіча, у другой палове 1500г. Івашка Сапега наведаўся ў Ватыкан, дзе меў аўдыенцыю ў Папы. Адсюль у сваёй буле, накіраванай біскупу Войцеху Табару, Папа Аляксандар VI тлумачыў, на якіх умовах магло адбыцца аб‘яднаньне

Каталіцкай і Праваслаўнай цэркваў.

Зусім верагодна, што характарыстыкі “secretarius noster Litvanus“ і “secretarius Ruthenicus”, дастасаваныя да Івашкі Сапе-гі, у нечым супадалі і разумеліся ў сэнсе “secretarius linguae lithuanicae”. Івашка Сямёнавіч Сапега быў для Вільні таго часу проста сакратаром славянскай ліцьвінскай мовы, у тым ліку дзяржаўнай, пісьмовай (lingua ruthenica). А тое, што старабеларуская пісьмовая мова пачала спакваля называцца “літоўскай”, пра гэта могуць сьведчыць “Лексікон” Памвы Бярынды і маскоўскія запісы 1627г. ходу дыскусіі, тэмай якой быў “Катэхізіс” Лаўрэна Зізанія[41].

Гэткім можа быць адказ на раней пастаўленае пытаньне ў сувязі з задумай у 1501г. у парафіях Віленскай каталіцкай япархіі палепшыць рэлігійнае выхаваньне парафіянаў на гутарковай “літоўскай” мове мясцовага насельніцтва.

---

[1] “Sentenciastis enim et pronunciastis primo in terra Samaytarum, que est hereditas et patrimonium nostrum ex lagitima attavorum et avorum nostrum successione, quam et nunc possidemus, que eciam est et semper fuit unum et idem cum terra Lythwanie, nam unum ydeoma et uni homines. Sedquod terra Samaytarum est terra inferior ad terram Lythwanie, ideo Szomoyth vocatur, quod in lythwanico terra inferior interpretatur. Samayte vero Lythwaniam appelant Auxtote, quod est terra superior respecta terre Samaytarum. Samagithe quotas appelant, et propter talem ydemnitatem (identitatem) in titulo nostro nos de Samagicia non scribimus, quia totum unum est, terra una et homines uni” (Codex epistolaris Vitoldi, magni ducis Lithuaniae (= CEV). Collectus opera Antonii Prochaska. Reprint. New York, 1965, Pars I, Nr. 861, p.467).

[2] Marceli Kosman. Orzei i Pogoc. Z dziejyw polsko-litewskich XIV—XXw. Warszawa, 1992, str. 12, 18, 21, 49, 56, 81, 92, 99, 106, 149, 221, 241.

[3] Henryk Wisner. Litwa i Litwini. Szkice z dziejyw pacstwa i narodu. Olsztyn, 1991.

[4] Послания Гедимина. Подготовил В.Т.Пашуто и И.В.Шталь. Вильнюс, 1966, N 8, ст. 68—69.

[5] Тамсама, N 7, ст. 62—63.

[6] “Eodem anno (1373) in octava assumptionis (22. August) frater Wynricus, generalis magister, edusit suos contra Letwinos in terram Austheithen, ubi rex Keinstut cum suo exercitu non permittens eum transire. Magister procedens ad terram Nerghe, ubi putabat se transiturum. Rex autem et ibi eum prohibuit, item eciam circa aliud vadum. Vastavit igitur magister generalis terram circa Nerghe usque Valkenberge. Deinde direxit suos ad terram Seymen manens ad X noctes in terris infidelium, ipsis multa damna inferendo” (Hermanni de Wartberge Chronicon Livoniae // Scriptores Rerum Prussiarum. Band 11, Leipzig, 1863, p. 104).

[7] “Cum autem apud nos in cubiculo constitueremur, incepit dominus Romanorum rex cum Vestra Serenitate conferre, memorando hesternum factum; vestra vero serenita adstatim dixit, quomodo placeret vobis et gauderetis. Nos vero **in lithwanico** diximus ad vos: domine rex, non festinetis in isto facto, consiliamur prius desuper cum prelatis et baronibus vestris, et nos similiter facturi sumus. Ad quod vos iterum dixistis: quomodo vobis placeret et gauderetis, immo ad hoc nimium essetis affecti; pro quo dominus Romanorum rex sua domina consorte vestre serenitati sunt regraciati, et ita a vobis decessimus, prelatis et baronibus consiliariis vesris ad vos in consilium intrantibus” (CEV. Pars II, Nr. 1345, p. 816).

[8] Jadwiga Krzyïaniakowa, Jerzy Ochmacski. Wiadysiaw II Jagieiio. Wrosiaw, 1990, Str. 267.

[9] CEV. Pars II, Nr. 1146, pp. 637—638.

[10] "Preconsules civitatum Nove, Antique et Minoris Pragensium nec non barones, milites, nobiles et clientes, vestri humiles servitores, V.S. uberrimas et et immensas referrimus graciarum acciones, de graciosissimis ipsis per littera et nunccium eiusdem S.V. legacionibus et intimatis, et signanter de hoc, quod serenitas vestra ipsis audienciam obtinuit, per ipsos diu et affectuose desideratam et optatam, supplicantque humilliter et devote, quatenus V.S. amore Jeshu Cristi et complacione ydiomatis bohemici, quem semper vestris regiis et graciosis favoribus prosequi consuevistis predictam audienciam, ut cepit, velit deducere ad effectum" (CEV. Pars II, Nr. 1148, p. 641).

[11] CEV. Pars II, Nr. 1352, p. 827.

[12] Ibidem, Nr. 1353, p. 831.

[13] Ibidem, Nr. 1356, p. 833.

[14] "Quia lux illa que illuminat omnem mundum, cecitatis nostre tenebras tunc illustrare inceperat, dum auctori lucis placuit gentem Lithwanicam ad agnicionem vere lucis hoc est fidei catholice invitare. Multi ciquidem de fratribus nostris **cum eademgente Lithwanica, cuius nos caro et ossa existimus,** sacro fonte baptismatis sunt renati, qui conversacionem habentes inter christianos ibidem in Lithwania quantum sapere poterant et quantum ipsis per predicatores fuerat declaratum, nobis indicabant nos docentes, quod salus, a summo rerum dependens opifice, nulli penitus provenire debet et poterit nisi viris catholicis Christi fidem devote colentibus" (Codex Mednicensis seu Samogitiae dioecesis (CMSSD) // Fontes historiae Lituaniae. Roma, 1984, Pars I, Nr. 1, p. 2).

[15] Паўла Урбан. Да пытаньня этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў. Менск, 1994.

[16] "Est enim gens quedam Samaytarum aquilonarium parcium, ethnici et gentilitatis errore seducti, et si sonum illum audierint, minus tamen efficaciter retinentes, relicto Creatore creaturam adorantes in idolatria perstiterunt nostris temporibus permittente Domino, ad illius misericordiam reservati... Etenim Spiritus Sancti lumine eorum mentibus inspirante et operante gracia atque carissimis Ecclecie filiis Wladislao Polonie rege illustri et nobili viro Witoldo Lituanie duce cooperantibus, gens eadem Samaytarum cupit a squalore illius vetuste gentilitatis fonte sacri baptismatis ablui ac dyabolice captivitatis absolvi vinculis et redempcionis humani generis et inde felicitatis eterne fieri participem, prout prefacti principes nobis per suos solennes oratores intimarunt postulantes..." et etc. (CMSSD. Pars I, Nr. 7, p. 30.

[17] "...nos nempe e diverso in mari magno et spacioso terrarum nostrarum versus orientum reptilia, gentem scilicet Samagiticam noviter infidelitatis cecitate frementem de profundo aquarum extrahentes ad hauriendum aquas in gaudio conducimus salvatoris. Qua de re, ut gaudium vestrum plenum sit, clarius rem nuperrime gestam in sinceritate vestre fidei vestris reverendis paternitatibus declaramus predicte scilicet gentis Samagitice paucas iam et communes seu plebeias dicte gentis absque baptismate resultare reliquias, cum alii magnates nobiles et alii in multitudine milium fere numerabili divina vocati gracia vestraque ad hoc diligenti sollicitudine vestrorum iuxta mandatorum seriem incitati et allecti, graciam sacri gurgitis devotis mentibus susceperunt" (Ibidem, Nr. 11, pp. 35—36).

[18] "Ne igitur sicut navis sine remige relicta de facili periclitatur, sic gens ista Samagittarum nondum in fide sancta instructa et firmata deficiente pastore in errores priores paganicos et revera peyores recidivare videratur, nos igitur huiusmodi pericula evitare et opus tam sanctum sollempniter inchoatum fine laudabili cupientes terminare, episcopatum seu ecclesiam kathedralem ibidem in terra Samagittarum in districtu Medinicenci dignum duximus erigendum et fundandum et de facto erigimus et fundamus, ad quem wenerabilem

virum magistrum Mathiam **orogine Lytwanum**, praepositum Wilnensen ydo neum et discretum, postulamus...” (Ibidem, Nr. 13, p. 39).

[19] “Myednicensi autem ecclesiae cathedrali primus Mathias natione Almanus, in Wilno tamen natus, qui linguam Lithuanicam et Samagitticam norat...” (Joannes Diugosz. Opera omnia. Vol. XIII, Liber XI, Cracoviae, 1877, p. 215).

[20] Grzegorz Biaszczyk. Diecezja Ïmudzka od XV do początku XVII wieku. Poznań, 1993, Str. 39—40.

[21] “Anno Domini MCCCC decimo septimo de licentia speciali sacri concilii Constanciensis, sede tunc vacante, fundata et erecta est eclesia cathedralis Medniczensis in Samagicia cum aliis ecclesiis parochialibus ibidem, per illustres principes dominos Wladislaum regem Polonie et Alexandrum alias Wytawdum magnum ducem Lythvanie, plantata vero per dominos Johannem Leopoliensem archiepiscopum et Petrum Vylnensem episcopum... cui primus **episcopus dominus Mathias nacione Lythwanus** presidebat et hic postmodum translatus fuit de ecclesia Medniczensi ad Wylnensem” (CMSSD. Pars I, Nr. 10, p. 34).

[22] CMSSD. Pars 1, Nr. 14, pp. 40—42.

[23] “...venerabilem virum magistrum Mathiam prepositum Wilnensem, de vite puritate, morum venustate et sciencia ceterisque virtutibus multipliciter commendatum **ac de ydiomate Samagitico sufficientissime institutum**, ex hominibus assumptum et pro hominibus in pontificem constitutum Medinicensem ad instanciam prefatorum clarissimorum principum in virtute Trinitatis vivice consecravimus...” (Ibidem, Nr. 18, p. 48).

[24] “...venerabilem dominum Mathiam magistrum arcium, prepositum Wilnensem **Lythwanum, necnon ydiomate samagitico plenissime eruditum**, virum utique et morum eminencia stabilem et virtutum laudabili venustate redimitum... a nobis consecratus” (Ibidem, Nr. 19, p. 50).

[25] “Beatissime Pater Domine benignissime. Quamvis post translacionem vestram in Christo patris domini Mathie episcopi alias Mednicensis in Samaicia novelle plantacionis ad ecclesiam Wilnensem, de qua sibi facta est dudum promissio, honorabilis N(icolaus) prepositus collegiate ecclesie Trocensis etatis mature, moribus compositus, de legittimo matrimonio natus, vita et sciencia commendabilis, sacerdos actu celebrans **sciensque gentis Samaitice ydioma**, ad eandem ecclesiam Mednicensem sit nominatus et vocatus” (Ibidem, Nr. 33, p.72).

[26] CEV. Pars II, Nr. 1005, pp.551—552.

[27] Ibidem, Nr. 898, p.494.

[28] “Sane pro parte venerabilis Michaelis episcopi Sambiensis nobis nuper exhibita peticio continebat, quod sepius contingit rectores parrochialium ecclesiarum in diocesi Sambiensi, quarum parrochiani neophiti et circa partes Samagitarum et aliarum diversarum linguarum constituti sunt, ipsorum parrochianorum ydeoma intelligibiliter loqui ignorantes, confessiones per interpretes audire presumunt... quare pro parte ipsius episcopi nobis fuit humiliter supplicatum, ut premissis periculis et scandalis per oportune provisionis remedium obviare dignaremur” (CMSSD. Pars I, Nr. 44, p. 85).

[29] “Quoniam coram nobis constitutus Reverendus in Christo pater dominus Martinus episcopus Mednicensis devote et sincere nobis dilectus exposuit et declaravit defectus nonnullos ecclesiarum parochialium dioecesis suae et collationis nostrae propter ecclesiarum huiusmodi rectores **idiomatis lituanici seu illius samogitiensis** ignaros et non bene in divinis literis institutos, qui nec praedicationi, unde fides sancta catolica augmentum acciperet, sufficere possunt, sed nec sacramenta Ecclesiae maxime confessionis rite et debito modo administrare valent...” (Ibidem, Nr. 97, p. 151).

[30] CEV. Pars I, Nr. 532, pp. 258—259.

[31] “Eam ob rem nos Bartosius palatinatus Wilnensis in terra Samogitarum super Taurogi haeres, sciens oppidanos et villicos gentilismi ac idolatriae erroribus usque adeo imbutos, ut perdifficile ab assueto larium deorum domesticorum cultu valeant advocari, neque illis alio consultum modo arbittrari, ecclesiam aedificandam et presbyterum **vernaculae samogitarum linquae** per Reverendissimum episcopum Samogitarum instituendum decrevimus... Porro curatus noster et successores illis legitimi ad dictam in Thaurogi ecclesiam investiti tenebuntur singulis diebus dominicis et festis missam cantare et populum clara voce praecepta consequendae salutis **samogitarum lingua docere**” (CMSSD. Pars I, Nr. 106, pp.165—166).

[32] “...quomodo reverendus in Cristo pater dominus Albertus episcopus Vilnensis sincere et grate nobis plurimum dilectus certo ecclesiarum in diocesi sua collacionis vero nostre coram nobis exposuit propter huiusmodi ecclesiarum rectores **idiomatis lythuanici ignaros** et aliquos non bene institutos divinis litteris, qui nec predicacioni, unde fides sancta augmentum acciperet, sufficere possunt sed nec rite sacramenta ecclesie, maxime confessionis ministrare et procurare minime possunt et valent... donare volumus donamusque, et damus ad tempora duntaxat sue vite capellas et prebendas huiusmodi, quociens ipsas vaccare contingerit, posse ad easdem idoneos **et Lythuanici idiomatis** et divinarum litterarum presbiteros... impedire possit aut quovis modo valeat” (Codex diplomaticus Ecclesiae cathedralis necnon Dioeceseos Vilnensis. Vol. I, Krakow, 1948, Nr. 507, pp. 616—617).

[33] Сигизмунд Герберштейн. Записки о Московии. Издательство Московского университета. Москва, 1988, стар.187.

[34] Rozmowa Polaka z Litwinem. 1564. Wydai Jyzef Korzeniowski. Krakyw, 1890, Str.68.

[35] Послания Гедимина. Вильнюс, 1966, N 6, стар.54—55.

[36] Aeneas Sylvius. De Lituania // Scriptores Rerum Prussicarum. Band IV, Leipzig, 1870, p. 238.

[37] “Beatissime Pater. Regnum Poloniae, magnus ducatus Lithuaniae, regiones et ducatus Lithuaniae, Russiae et Prussiae, qui illi Regno subiecti sunt ab annis centenis, ab initio inhabitati per Polonos illius Regni et praesertim ab initio plantatae fidei in Regno illo, sicut munquam cesserunt barbarorum gentium hostes vicini illud impugnare invadereque Regnum, sic nunquam requiem habere potuit usque in praesentia tempora a belligeratione continua” (Acta Alexandri regis Poloniae, magni ducis Lithuaniae. Wydai Fryderyk Papée. Krakyw, 1927, Nr. 270, pp.442—443).

[38] Codex diplomaticus Ecclesiae cathedralis necnon Dioeceseos Vilnensis. Vol. 1, Krakyw, 1948, Nr. 564, pp. 676—679.

[39] Ibidem, Nr. 484, pp. 568—569.

[40] Vetera monumenta Poloniae et Lithuaniae gentiumque finitimarum historiam illustrantia. Collecta ab Augustino Theiner. Vol. II, Romae, 1861, Nr.300, p. 280.

[41] Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии. Минск, 1962, стар.139—143.

Станіслаў РУДОВІЧ

# УТВАРЭННЕ КААРДЫНАЦЫЙНАГА ЦЭНТРА БЕЛАРУСКАГА НАЦЫЯНАЛЬНАГА РУХУ Ў МЕНСКУ (САКАВІК 1917 г.)

Калі на акупаванай германскімі войскамі тэрыторыі Беларусі ўжо напрыканцы 1915г. у якасці калегіяльнага носьбіта беларускай ідэі дзейнічаў віленскі Беларускі народны камітэт — каардына-цыйны орган беларускіх палітычных, грамадскіх і прафесійных арганізацыяў, то на ўсход ад лініі фронту да зрынання царызму не існавала палітычнага цэнтра, які б гуртаваў вакол сябе сілы нацыянальна-вызваленчага руху і выказваў інтарэсы беларускай нацыі як цэласнай сацыяльна-этнічнай супольнасці. На працягу першых двух з паловай ваенных гадоў беларускі нацыянальны рух у межах Расейскай імперыі фактычна знаходзіўся ў дэза-рганізаваным стане: мабілізацыі ў войска, эвакуацыя многіх гаспадарчых, навучальных установаў, масавыя ўцёкі параскідалі ягоных актывістаў па розных кутках велізарнае краіны. Толькі ў некаторых гарадах — Петраградзе, Менску, Яраслаўлі, Казані ды інш. — дзейнічалі нешматлікія, амаль не звязаныя паміж сабою беларускія арганізацыі, створаныя дзеля дабрачыннай і культурна-асветнай працы сярод ураджэнцаў Беларусі, найперш уцекачоў. У гэтых арганізацыях, што з‘яўляліся падчас вайны адзінымі дазволенымі асяродкамі беларускага руху, кулуарна абмяркоў-валіся і праблемы палітыкі. Але адкрытае іх дыскутаванне ды вылучэнне палітычных патрабаванняў было немагчымае ў абмежаваных умовах самадзяржаўнага рэжыму, яшчэ больш звужаных абставінамі ваеннага часу.

Тым не менш ужо напрыканцы 1916г., калі стаў відавочным татальны крызіс, што ахапіў гіганцкую імперыю, і краіна жыла ў прадчуванні немінучых пераменаў, між беларускіх дзеячаў выспявае думка пра неабходнасць арганізацыйнай кансалідацыі, напрацоўку пэўнай праграмы дзеянняў. Верагодна, як першую спробу ў гэтым накірунку трэба разглядаць выданне восенню 1916г. у Петраградзе дзвюх

беларускіх газетаў: "Дзянніца" (кірыліцай) пад рэдакцыяй З.Жылуновіча і "Swietač" (лацінкай) пад рэдакцыяй Э.Будзькі; газеты, аднак, здолелі пратрымацца толькі два месяцы. Прыкладна ў той жа час на нарадзе беларускіх актывістаў у Петраградзе (паводле сведчання П.Мядзёлкі, яна адбылася неўзабаве пасля забойства Распуціна[1], г.зн. у другой палове снежня 1916г.) было вырашана склікаць нелегальны беларускі з'езд, " каб злучыць свае сілы для тае пільнейшай работы, якая будзе з'ездам назначана". Месцам яго правядзення абралі Кіеў, дзе ў Саюзе гарадоў працаваў І.І.Краскоўскі, які меў магчымасць схаваць з'езд пад дахам гэтай установы. Дзеля абвешчання аб маючым адбыцца з'ездзе, наладжвання сувязі ў месцы знаходжання беларускіх згуртаванняў і асобных удзельнікаў руху накіраваліся патаемныя кур'еры. Але ў гэты час выбухнула Лютаўская рэвалюцыя.

Зрынанне самадзяржаўя кардынальным чынам змяніла сітуацыю ў краіне і ўнесла істотныя карэктывы ў папярэднія намеры беларускіх адраджэнцаў. Здабытыя ў часе рэвалюцыі шырокія палітычныя свабоды, аслабленне цэнтральнай агульнарасейскай улады стварылі вялікія магчымасці для легалізацыі, арганізацыйнага афармлення і абвешчання праграмаў нацыянальна-вызваленчых рухаў нярускіх народаў Расеі. Першыя крокі ўрада Г.Я. Львова ў нацыянальным пытанні давалі падставу спадзявацца, што ўлада расейскіх лібералаў забяспечыць выпрацоўку аптымальных дзяржаўна-прававых формаў дзеля выяўлення і ўзгаднення шматлікіх нацыянальных інтарэсаў. Ужо ў першай дэкларацыі, апублікаванай 3 сакавіка 1917 года, Часовы ўрад урачыста абвесціў аб адмене ўсіх саслоўных, рэлігійных і нацыянальных абмежаванняў. Спецыяльнай урадавай пастановай ад 20 сакавіка адмяняліся абмежаванні ў дачыненні правоў жыхарства і перамяшчэння, уласнасці, заняткаў гандлем і прамысловасцю, паступлення на дзяржаўную службу і ў навучальныя ўстановы, што, у прыватнасці, азначала ліквідацыю нераўнапраўя для асобаў каталіцкага веравызнання, скасаванне мяжы яўрэйскай аселасці і г.д. Дазвалялася таксама ўжываць нацыянальныя мовы ў недзяржаўных арганізацыях і навучальных установах.

Канкрэтныя захады ў дачыненні да пэўных нацыянальных рэгіёнаў напачатку таксама выглядалі абнадзейліва. Найперш яны тычыліся Фінляндыі і Польшчы. Так, 7 сакавіка Часовы ўрад адмяніў нарматыўныя акты канца XIX—пачатку XX стст., што абмяжоўвалі гарантаваныя раней царызмам аўтаномныя правы Фінляндыі, і выказаў намер склікаць фінляндскі сойм, які не збіраўся ад пачатку вайны.

16 сакавіка ў адозве да палякаў урад выказаўся за

аднаўленне незалежнасці Польшчы, на што ніяк не мог рашыцца царызм — нават у процівагу аналагічнаму кроку Германіі ды Аўстра-Венгрыі, якія напрыкнцы 1916г. дэклaравалі ўтварэнне “самастойнай” польскай дзяржавы з акупаваных імі земляў Каралеўства Польскага і дазволілі заснаванне ў Варшаве падкантрольнай ім Часовай Дзяржаўнай рады Польшчы. Праўда, урад Львова згаджаўся прызнаць незалежнасць Польшчы пры ўмове ўсталявання яе межаў толькі з санкцыі Ўсерасійскага Ўстаноўчага сходу і ўступлення яе ў “свабодны ваенны саюз” з Расеяй. Акрамя таго, у расейскай адозве да палякаў выказвалася спадзяванне, што “звязаныя з Польшчай вякамі сумеснага жыцця народы атрымаюць пры гэтым трывалае забеспячэнне свайго грама-дзянскага і нацыянальнага існавання”[2]. У адказе на адозву, з якім без прамаруджвання выступіла варшаўская Дзяржаўная рада, усе выстаўленыя Часовым урадам умовы былі адхіленыя і недвух-сэнсоўна заяўленыя прэтэнзіі на “тэрыторыю, што ляжыць паміж этнаграфічнай Польшчай і Расеяй, здаўна звязанаю з лёсам Польшчы”. Лёс гэтых земляў, паводле меркавання Дзяржаўнай рады, “павінен быць вырашаны з пункту гледжання дзяржаўных інтарэсаў незалежнай Польшчы і з павагай волі народаў, што насяляюць гэтую тэрыторыю”[3].

Літаральна з першых дзён рэвалюцыі на палітычную арэну энергічна выступаюць нацыянальныя рухі іншых народаў скалыхнутай імперыі. На пачатку сакавіка 1917г. у Кіеве з прадстаўнікоў ад розных украінскіх арганізацыяў фармуецца іх каардынацыйны орган — Украінская Цэнтральная рада. Яна выказваецца за пераўтварэнне Расейскай імперыі ў дэмакратычную федэратыўную рэспубліку, дзе кожны народ, у тым ліку ўкраінскі, павінен атрымаць права нацыянальна-тэрытарыяльнай аўтаноміі. З падобнамі патрабаваннямі выступаюць і ўкраінцы г.Петраграда. 19 сакавіка гэтыя патрабаванні падтрымлівае грандыёзная 100-тысячная маніфестацыя ў Кіеве под жоўта-блакітнымі сцягамі; у той жа дзень у Кіеве расчынілася першая нацыянальная гімназія. Тэрыторыю будучай аўтаномнай Украіны Цэнтральная рада вызначала ў складзе Кіеўскай, Падольскай, Валынскай, Палтаўскай, Чарнігаўскай, Харкаўскай, Херсонскай, Екацярынаслаўскай, Бесарабскай і сумежных частак Таўрычаскай, Варонежскай і Курскай губерняў.

12—13 сакавіка 1917г. Паўднёва-Відземскі земскі з‘езд, што адбыўся ў г.Вальмар (цяпер г.Валміера, Латвійская Рэспубліка), прызнаў неабходным утварэнне цэласнай адміністрацыйнай адзінкі пад назовам “Латвія”, якой належыць надаць статус аўтаноміі на чале з соймам, надзеленым

заканадаўчымі правамі па пытаннях мясцовага жыцця. Аўтаномная Латвія павінна аб'яднаць усе населеныя латышамі землі ў складзе Курляндскай губ., 4 паветаў Ліфляндскай і 3 паветаў (Рэжыцкага, Люцынскага і Дзвінскага) Віцебскай губерняў. Аналагічную рэзалюцыю адначасова прымае шматлюдны сход латышоў г.Масквы.

У сакавіку 1917г. прадстаўнікі некалькіх літоўскіх палітычных партыяў, што дзейнічалі на тэрыторыі Расеі (усяго за час вайны там апынулася да $^{1}/_{3}$ дарослага насельніцтва Літвы), утварылі ў Петраградзе Літоўскі нацыянальны савет, які прызнаў, што “Літва павінна быць вылучана ў самастойную адміністрацыйную адзінку, прычым кіраванне Літвой павінна быць даручана органам і асобам з асяроддзя самога насельніцтва Літвы”. Тэрмін “Літва” вытлу-мачваўся Літоўскім саветам не ў этнаграфічным, а ў губернска-адміністрацыйным сэнсе: літоўскія палітыкі ўлучалі ў склад Літвы Ковенскую, Сувалкаўскую і Віленскую губерні цалкам, у тым ліку і тыя паветы, дзе літоўскае насельніцтва знаходзілася ў меншыні[4]. Выказвалася патрабаванне ўвесці ў неакупаваных паветах Віленскай губ. (Дзісенскім, Вілейскім і Ашмянскім) літоўскую адміністрацыю. Дзеля ажыццяўлення гэтых намераў Літоўскі нацыянальны савет 13 сакавіка пастанавіў сфармаваць Часовы камітэт кіравання Літвой у складзе 12 літоўцаў і 12 прадстаўнікоў іншых народаў, што насяляюць Літву (6 беларусаў, 3 яўрэяў, 2 палякаў і 1 рускага). Часоваму камітэту належала падрыхтаваць скліканне ўстаноўчага сходу Літвы, які мусіў вызначыць форму кіравання краем і стаўленне да суседзяў. Гэтая праграма была даведзеная да ведама Часовага ўрада.

Аналагічныя імкненні да нацыянальнага самавызначэння ўжо ў сакавіку 1917г. выявіліся і сярод многіх іншых народаў Расеі. Газеты стракацелі паведамленнямі з Эстоніі, Малдовы, Закаўказзя, Паволжа, Сярэдняй Азіі, Сібіры аб утварэнні разнастайных нацыянальных установаў і арганізацыяў, якія распрацоўвалі праекты дзяржаўнага жыцця на грунце роўнасці і суверэнітэту народаў. У большыні гэтых праектаў утрымліваліся патрабаванні федэра-тыўнага ладу Расеі, дзяржаўна-тэрытарыяльнай і культурнай аўтаноміі кожнага народа. Паводле некаторых звестак, у першыя месяцы пасля Лютаўскай рэвалюцыі прадстаўнікі 37 народаў і краёў падалі Часоваму ўраду заявы з пажаданнямі аўтаноміі[5].

Калейдаскоп падзеяў, у якіх выяўляўся ўсплеск грамадзянскай актыўнасці між нярускіх народаў краіны, ускосна і прама ўплываў на працэсы ў беларускім нацыянальна-вызваленчым руху, уцягваў у гэты вір ягоных актывістаў і прыхільнікаў. Палітычныя крокі, аператыўна

зробленыя з пачатку рэвалюцыі нацыянальна-патрыятычнымі сіламі ў іншых рэгіёнах, успрымаліся як прыклады, вартыя пераймання. Ва ўзнёслай атмасферы першых рэвалюцыйных тыдняў здавалася, што ўздзеянне гэтых сілаў на Часовы ўрад забяспечыць хуткае пераўтварэнне Расейскай дзяржавы ў федэратыўную дэмакратычную рэспубліку. Годнае месца ў новай Расеі мусіць заняць і беларускі народ. Надзённай задачай у гэтай сітуацыі сталася арганізацыя самавыяўлення яго нацыянальна-дзяржаўных запатрабаванняў. Урэшце, дзяржа-ваўтваральныя тэндэцыі, што намеціліся ва ўкраінцаў, латышоў, літоўцаў, верагодная перспектыва адраджэння незалежнай Польшчы непасрэдна закраналі нацыянальныя інтарэсы бела-рускага народа, ставілі яго перад неабходнасцю раней ці пазней тэрытарыяльна размежавацца з суседзямі. Выказаныя польскімі і літоўскімі палітыкамі прэтэнзіі на землі з пераважна беларускім насельніцтвам не абяцалі лёгкасці ў вырашэнні гэтай праблемы.

Усе пералічаныя фактары прыспешвалі лідэраў беларускага руху да арганізацыйнай кансалідацыі. Палітычныя абставіны ў паслялютаўскі перыяд вымагалі, каб цэнтр такой кансалідацыі знаходзіўся на тэрыторыі самой Беларусі, бо толькі яе насельніцтва, натуральна, магло быць асноўнай сацыяльнай базай руху. Хадою гістарычных падзеяў на ролю цэнтральнага асяродка нацыянальна-кансалідацыйнага працэсу стаў вылучацца Менск. Ужо ў канцы XIX ст. па колькасці насельніцтва і эканамічным патэнцыяле ён паступова набываў значэнне галоўнага горада Беларусі. У гады Першай сусветнай вайны такое значэнне Менска ўзмацнілася. Гістарычны цэнтр краю і галоўнае апірышча беларускага руху ў даваенны час — Вільня — апынулася ў зоне германскай акупацыі. Ва ўсходняй частцы Беларусі менавіта Менск стаў месцам канцэнтрацыі адміністрацыйных і гаспадарчых установаў, што сваёй дзейнасцю ахоплівалі беларускі этнічны абшар, надаючы яму адзнакі пэўнай рэгіянальнай цэласнасці. Найперш такую функцыю аб‘ектыўна выконвала дыслакаванае ў Менску камандаванне расейскага Заходняга фронту, які падзяляў край на дзве часткі і адначасова, нібы гіганцкая сашчэпа, уваткнутая вастрыямі ў паўночную і паўднёвую ўскраіны Беларусі, звязваў яе цэнтральныя і ўсходнія раёны ў параўнальна адзіную прыфрантавую зону. У Менску ж знаходзіліся і мясцовыя ўстановы разнастайных арганізацыяў па абслугоўванні фронту: камітэты Ўсерасейскага земскага саюзу (УЗС) і Саюзу гарадоў — уплывовых структураў, якія за гады вайны згрупавалі нямала апазіцыйных царызму ліберальна і нават сацыялістычна настроеных дзеячаў, якія адыгралі не апошнюю

ролю ў зрынанні самадзяржаўя: ваенна-прамысловы камітэт; асобаўпаўнаважаны па ўладжаванні ўцекачоў на Заходнім фронце (са сваім апаратам); іншыя ўрадавыя і грамадскія арганізацыі дапамогі пацярпелым ад вайны і г.д. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі ў Менску праводзіліся рэгіянальныя форумы шматлікіх палітычных партыяў, месціліся іхныя мясцовыя кіруючыя органы. Было важна, каб менавіта з гэтага буйнейшага ваенна-адміністрацыйнага і палітычнага цэнтра Беларусі свет апавяшчаўся пра нацыянальныя інтарэсы і запатрабаванні беларускага народа, каб адсюль ішлі імпульсы да яго дзяржаўна-палітычнай канса-лідацыі.

Да зрынання царызму ў горадзе дзейнічала толькі адна беларуская нацыянальная арганізацыя — Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны. Утвораны летам 1915г., ён пасля акупацыі Вільні, дзе знаходзілася ўправа таварыства, фактычна ператварыўся ў самастойную ўстанову. Аддзел аб‘ядноўваў некалькі дзесяткаў чалавек — пераважна прадстаўнікоў інтэлігенцыі, службоўцаў, духоўных асобаў. У шэрагах актывістаў былі П.П.Аляксюк, А.І.Лявіцкі (пісьменнік ЯдвігінШ.), Л.І.Дубейкаўскі, ксёндз А.С.Астрамовіч (паэт А.Зязюля), У.С.Фальскі, С.Я.Плаўнік (пісьменнік Зм.Бядуля), А.А.Смоліч, Ф.Г.Шантыр, паэт М.Багдановіч і інш. Акрамя дабрачыннай дзейнасці (былі заснаваныя прытулкі для ўцекачоў, кравецкія і ткацкія майстэрні, некалькі сталовак), Менскі аддзел вёў культурна-асветную працу, арганізаваў беларускі хор, драматычную трупу. Адна з ягоных сталовак пад назовам “Беларуская хатка” ператварылася ў своеасаблівы клуб нацыянальнай інтэлігенцыі, дзе ладзіліся нелегальныя вечарынкі-суботнікі. Старшынёй камітэта аддзела пэўны час быў ліберальны адвакат В.І.Чавусаў, у студзені 1917г. гэтую пасаду заняў вядомы ў краі палітык, буйны абшарнік Р.А.Скірмунт, якога, калі верыць пазнейшым звесткам А.Смоліча на допытах у АДПУ, прыцягнуў да працы ў беларускай арганізацыі Максім Багдановіч[6].

Адразу па Лютаўскай рэвалюцыі Менскі аддзел Беларускага таварыства дапамогі пацярпелым ад вайны аб‘явіў сябе нацыянальным камітэтам і распачаў даволі энергічную аргані-зацыйную і прапагандысцкую працу. Ягоны прадстаўнік П.Аля-ксюк увайшоў у склад Выканаўчага камітэта грамадскай бяспекі г.Менска[7], які разам з грамадзянскім камендантам горада браў на сябе ініцыятыву скасавання старой адміністрацыі, усталявання новага парадку і фактычна з‘яўляўся неафіцыйным органам Часовага ўрада. Паводле ўспамінаў Л.Зайца, 4 сакавіка на паседжанні Беларускага камітэта абмяркоўвалася ягоная прапанова аб

дэлегаванні прадстаўніка ў Менскі савет рабочых дэпутатаў, што ствараўся. Нягледзячы на нечаканую падтрымку гэтай прапановы Р.Скірмунтам, яна не прайшла, і ў савет накіравалі толькі назіральніка з інфармацыйнымі мэтамі; у далейшым сувязь паміж Беларускім камітэтам і Менскім саветам перапынілася[8].

6 сакавіка 1917г. падчас арганізаванай новымі ўладамі і штабам Заходняга фронту агульнагарадской маніфестацыі ў гонар перамогі рэвалюцыі адбыўся першы выступ Беларускага камітэта з палітычнымі лозунгамі: ягоныя прадстаўнікі прайшлі ў калоне пад сваім сцягам з надпісамі: “Вітайма волю народу” і “Жыве Беларусь”[9]. 10 сакавіка камітэт правёў на Залатой Горцы самастойны мітынг, на якім з прамовамі па-беларуску выступілі П. Аляксюк, А. Смоліч, У. Фальскі, Ф. Шантыр[10].

Неўзабаве Беларускім камітэтам была наладжаная больш шырокая акцыя — 12 сакавіка 1917г. у Менску прайшоў г.зв. дзень беларускага значка. У рамках гэтага мерапрыемства ў кінатэатры “Гігант” адбыўся новы беларускі мітынг, на якім выступілі Р.Скірмунт, доктар філасофіі П.П.Масоніус, Л.Заяц, А.Смоліч, Ф.Шантыр і іншыя прамоўцы. У рэзалюцыі мітынгу ўжо акрэсліваецца галоўны праграмны тэзіс беларускіх адраджэнцаў у паслялютаўскі перыяд — пажаданне аўтаноміі Беларусі: “Беларусы, стоячы на глебе краёвай аўтаноміі, будуць выбіраць ва Ўстаноўчы сход грамадзянаў, што падзяляюць гэты прынцып”[11]. Адначасова на вуліцах горада прадаваліся “значкі нацыянальных колераў Беларусі — чырвонага з белым”[12]. Выручаныя сродкі меркавалася накіроўваць на стварэнне беларускага друку. Падсумоўваючы вынікі мерапрыемства, “Мінская газета” пісала 13 сакавіка 1917г.: “Учарашні дзень у Менску па справядлівасці належыць назваць “днём беларусаў”. Упершыню забытая мова забытай беларускай вёскі дамінавала ўсюды: на вуліцах, у кавярнях, кінематографах”. 19 сакавіка Беларускі камітэт наладзіў аналагічную акцыю ў Бабруйску, дзе існавала яго філія[13]. Адбылося яшчэ некалькі беларускіх мітынгаў і ў Менску.

Пэўны ўплыў Беларускага камітэта адчуваецца і ў іншых падзеях тых дзён. Так, калі група менскіх адвакатаў запланавала арганізаваць для насельніцтва цыкл папулярных лекцыяў пра выбары ва Ўстаноўчы сход, было вырашана чытаць іх на рускай, польскай, яўрэйскай і беларускай мовах[14]. Гарадскі выканаўчы камітэт грамадскай бяспекі пастанавіў адкрыць у Менску Народны дом, а загадваць ім даручыў Беларускаму камітэту[15]. Факты, такім чынам, сведчаць, што прысутнасць у грамадскім жыцці горада беларускай арганізацыі была ў першыя тыдні пасля Лютаўскай рэвалюцыі

даволі прыкметнай.

У Беларускім камітэце, аднак, не маглі не ўсведамляць, што ў гарадах краю ў сувязі з этнічнай стракатасцю жыхароў, сярод якіх удзельная вага беларусаў звычайна не перавышала 10—15%, нельга разлічваць на вялікую падтрымку з боку насельніцтва. Асноўным патэнцыяльным апірышчам беларускага нацыянальнага руху з'яўлялася сялянства, практычна цалкам беларускае паводле этнічнай прыналежнасці. Але ў адрозненне ад гараджанаў, якія мелі больш высокі культурна-адукацыйны ўзровень, а таму лягчэй успрымалі палітычныя навацыі, сялянства, амаль непісьменнае, не толькі вызначалася неразвітай грамадзянскай свядомасцю, але доўгі час наогул не ведала наконт перамогі рэвалюцыі ці вельмі своеасабліва трактавала тыя нешматлікія звесткі і чуткі, што даходзілі да вёскі. З Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні, напрыклад, у пачатку красавіка паведамлялі: "Неадукаваная маса беларускіх сялян кепска зразумела здзейснены пераварот — кажуць, што ўсё гэта зрабілі паны, каб вярнуць прыгоннае права"[16]. Таму задача, што паўставала перад беларускімі адраджэнцамі, была складаная ўдвая: прапаганду нацыянальнай ідэі сярод вяскоўцаў даводзілася папярэджваць тлумачэннем элементарных асноваў палітычнай ды і агульнай культуры.

З першых крокаў палітычнай дзейнасці Беларускі камітэт у Менску робіць спробы наладзіць сталыя сувязі з вёскай. Пра няўхільную патрэбу гэтага гаварылі прамоўцы на згаданым ужо мітынгу 10 сакавіка[17]. Неўзабаве Беларускім камітэтам быў накіраваны прадстаўнік у Вілейскі павет дзеля арганізацыйнай працы сярод сялянаў з тым, каб правесці выбары делегатаў ад іх у склад камітэта. Мітынг, што адбыўся 15 сакавіка ў Менску ў Брылеўскім завулку, дэлегаваў у склад нацыянальнага камітэта аднаго прадстаўніка ад мясцовага насельніцтва і аднаго — ад уцекачоў з Наваградскага павета[18].

Беларускі камітэт быў ці не першай у Менску грамадскай арганізацыяй, якая па Лютаўскай рэвалюцыі звярнула ўвагу на неабходнасць шырокай палітычнай прапаганды і арганізацыйнай работы сярод сялянства. Гэтая акалічнасць магла даць беларускім нацыянальным дэмакратам пэўную перавагу, дазваляла раней за іншых зафіксаваць адпаведныя ідэі ў грамадскай свядомасці вяскоўцаў. Аднак з прычыны малалікасці камітэта, беднасці і недасведчанасці прапагандысцкіх кадраў скарыстаць "эфект першынства" аказалася для яго даволі праблематычна.

Праўда, у другой палове сакавіка 1917г. узнікла нагода, якая, як уяўляецца, давала Беларускаму камітэту шанц у

нейкай ступені кампенсаваць недахоп уласных сілаў. 19 сакавіка сход служачых Менскага губернскага камітэта УЗС, разгледзеўшы пытанне аб прапагандзе ў войсках, зрабіў выснову, што “прапаганда не менш, калі не больш, неабходна і сярод сялянаў”. У сувязі з гэтым сход прызнаў мэтазгодным, каб служачыя камітэта поруч са сваімі абавязкамі па забеспячэнні фронту (а іх выкананне было звязана з перыядычнымі паездкамі на перыферыю, паўсядзённымі кантактамі з людзьмі) заняліся і “абслугоўваннем палітычных патрэб насельніцтва”[19]. Было вырашана прапанаваць пачаць такую ж працу заходнефрантавому камітэту УЗС, служачым мясцовага земства і карпарацыі народных настаўнікаў, а на распрацоўку праграмы прапаганды ў вёсцы стварыць спецыяльную камісію, якую ўзначаліў загадчык урачэбна-санітарнага аддзела губернскага камітэта УЗС доктар У.В.Марзон (пазней — вядомы ў Савецкай Беларусі вучоны-хірург, прафесар, заслужаны дзяяч навукі БССР). Камісія на першым жа паседжанні пастанавіла пашырыць свой склад і запрасіць “людзей, што маюць жывую сувязь з мясцовай вёскай, самабытнай паводле сваіх мясцовых варункаў, і людзей, што ведаюць тутэйшую мову”[20]. Такім чынам, у камісію поруч са служачымі губернскага камітэта УЗС былі ўключаны інспектары народных вучылішчаў Далінка і Прэферансаў, земскі ўрач Нікольскі і прадстаўнікі Беларускага камітэта Аляксюк і Смоліч. У выніку камісія камітэта УЗС трансфармавалася ў больш-менш самастойную арганізацыю пад назовам Камітэт прапаганды на вёсцы асноваў новага дзяржаўнага ладу. Прэзідыум Камітэта прапаганды склалі Марзон (старшыня), Аляксюк (таварыш старшыні), Далінка, служачыя губернскага камітэта УЗС І. І.Масюкевіч, А. А.Ціхаміраў і член губернскай земскай управы Д. К.Вашчынін[21].

Хоць сябры камітэта не дасягнулі поўнай згоды наконт зместу меркаванай прапаганды, яны вырашылі ўсё ж не адкладваць рэальную працу на вёсцы і пачаць яе ў Бабруйскім ды Ігуменскім паветах. Дзеля гэтага пастанавілі “звязацца са старшынёй Бабруйскага аддзела Беларускага камітэта сп.Бабарыкіным, запрасіўшы яго ўзяць удзел у рабоце Камітэта прапаганды”, а па Ігуменскім павеце намецілі для гэтай мэты служачага Мінскага губернскага земскага камітэта Белага і інспектара народных вучы-лішчаў Пакроўскага. Першы мітынг Камітэт прапаганды вырашыў наладзіць 27 сакавіка ў Смалявічах, выступіць на якім было даручана Марзону, Алексюку і Смолічу[22]. Пры гэтым палічылі за лепшае абвесціць сялянам аб маючым адбыцца мітынгу па неафіцыйных каналах, у абход службовых асобаў воласці,

чыя прыхільнасць да новага ладу, відаць, была пад сумненнем.

У тыя ж дні Камітэт прапаганды апублікаваў адозву да сялянаў з тлумачэннем прагрэсіўнага характару падзеяў і заклікам падтрымаць новыя ўлады, але не паддавацца правакацыйным падбухторванням да смуты, пагромаў і рабункаў, бо іх можа скарыстаць праціўнік на фронце, а таксама нутраныя ворагі пераменаў. Адозва складзеная на рускай мове, тым не менш і ў форме звароту — “Граждане селяне!” — і ў змесце дакумента выразна адчуваецца свайго роду “беларускі каларыт”. Так, паведаміўшы, што Часовы ўрад ураўнаваў у правах усіх грамадзянаў незалежна ад саслоўя, веравызнання і нацыянальнасці, адозва пераконвала: “Каталікі-беларусы — родныя браты праваслаўных беларусаў. І тыя, і другія мусяць жыць дружна, дапамагаць адзін аднаму і супольна адстойваць свае інтарэсы”. Думка пра неабходнасць як класавай, так і нацыянальнай кансалідацыі беларускіх сялянаў прачытваецца і ў наступных словах дакумента: “Яўрэі і палякі былі згуртаваны, арганізаваны, а таму ім і лягчэй жылося пад уціскам старой улады. Нам, сялянам, таксама неабходна аб‘яднацца, каб не быць прыдушанымі іншымі класамі і нацыянальнасцямі”[23]. Не выклікае сумнення, што адзначаныя асаблівасці адозвы — вынік удзелу ў працы Камітэта прапаганды прадстаўнікоў Менскай беларускай арганізацыі.

Супрацоўніцтва Беларускага камітэта з Камітэтам прапаганды на вёсцы асноваў новага дзяржаўнага ладу рабілася, як бачна, больш цесным. У 20-х чыслах сакавіка абедзве арганізацыі ўжо вялі сумесную падрыхтоўку да склікання краёвага сялянскага з‘езда. З‘езд быў прызначаны на 4 красавіка 1917 года [24].

Адначасна з актыўнымі прапагандысцкімі і арганізацыйнымі захадамі, накіраванымі на пашырэнне нацыянальна-дэмакратычных поглядаў насельніцтва Беларусі, менскі Беларускі камітэт, знаходзячыся ў цэнтры палітычнага жыцця краю, натуральнай ходою рэчаў вылучаўся на галоўную ролю сярод беларускіх арганізацыяў і суполак, расцярушаных па ўсёй Расейскай дзяржаве. Па сутнасці, яшчэ да фармальнага прызнання менскага беларускага асяродка ў якасці цэнтральнага органа нацыянальнага руху ён пачаў выконваць каардынацыйныя функцыі. У прыватнасці, згодна ягонай тэлеграме ад 22 сакавіка 1917г., петраградскія беларусы ўстрымаліся ад прызначэння дэлегатаў у згаданы вышэй Часовы камітэт для кіравання Літвой[25]. Натуральна, што менавіта менскі камітэт пасля Лютаўскай рэвалюцыі ўзяў на сябе ініцыятыву па скліканні з‘езда беларускіх арганізацыяў,

падрыхтоўка да якога, як ужо зазначалася, распачыналася яшчэ падчас самадзяржаўя. Неабходнасць правядзення своеасаблівага агляду нацыянальнага руху і распрацоўкі палітычнай праграмы абумовіла абвастрэнне становішча пасля прызначэння даты агульнакраёвага з‘езда сялянаў, прыйсці да якога належала з вызначанымі пазіцыямі па асноўных пытаннях.

Скліканне нацыянальнага з‘езда Беларускі камітэт намеціў на 25 сакавіка 1917г. у Менску. Ва ўмовах распыленасці белару-скага руху, калі месцазнаходжанне шмат каго з удзельнікаў заставалася невядомым, немагчыма было арганізаваць правільныя выбары дэлегатаў. Даводзілася б запрашаць на з‘езд тых, пра каго меліся звесткі, што прадвызначыла некаторую выпадковасць ягонага складу. Былі разасланыя запрашальныя тэлеграмы разнастайным беларускім суполкам у краі і па-за яго межамі, сялянскім арганізацыям, настаўнікам і асобным дзеячам, якія праяўлялі цікавасць да беларускага пытання[26]. Пры гэтым “з прычыны надзвычайнасці моманту” менскі камітэт настойваў на прыбыцці “магчыма большай колькасці ўдзельнікаў”. У тэлеграме беларускім актывістам у Петраградзе падкрэслівалася: “Неабходна прыбыць усім”[27].

Момант склікання з‘езда сапраўды набываў рысы надзвычайнасці. Актывізацыя пасля Лютаўскай рэвалюцыі нацыянальных рухаў народаў, што хавала ў сабе зараджэнне федэратыўных дачыненняў між імі, выклікала прыкметную занепакоенасць той часткі расейскай палітычнай эліты, якая лічыла такую перспектыву для краіны непрымальнай. Кіруючыся часта зусім living рознымі тэарэтычнымі пастулатамі, неаднолькавымі стратэгічнымі і тактычнымі мэтамі, прадстаўнікі шмат якіх грамадскіх плыняў (ад кансерватараў і лібералаў да сацыялістаў усемагчымых адценняў), у тым ліку і прыхільнікі радыкальнага змянення сацыяльна-палітычнага ладу, усталявання рэспублікі з максімальна шырокай дэмакратыяй, — у нацыянальным пытанні нярэдка сыходзіліся на адной платформе: захаваць непадзельнасць, унітарны характар вялікай Расейскай дзяржавы. Гістарычныя крыніцы сведчаць, што ў Мінску пасля падзення царызму першы імпульс да згуртавання гэтых сілаў даў стары народнік С.П.Кавалік, які, адбыўшы працяглую катаргу і пасяленне ў Сібіры, пражываў тут з 1898г. Ён належаў да пакалення рэвалюцыйных народнікаў 70-х гадоў XIX ст., для якіх, у адрозненне ад рэвалюцыянераў папярэдняга і наступнага дзесяцігоддзяў, найбольш было характэрнае нігілістычнае стаўленне да нацыянальнага пытання. Лічачы, што Расея знаходзіцца на парозе сацыялістычнай рэвалюцыі, яны бачылі

ў нацыянальна-вызваленчых памкненнях народаў толькі перашкоду для аб‘яднання рэвалюцыйных сілаў краіны. С.П.Кавалік не быў выключэннем і, як сам засведчыў незадоўга да смерці, усё жыццё захоўваў погляды, сфармаваныя ў гады рэвалюцыйнай маладосці. З першых дзён Лютаўскай рэвалюцыі 70-гадовы ветэран народніцкага руху браў актыўны ўдзел у палітычным жыцці Менска, займаў розныя пасады ва ўстановах УЗС, органах урадавай адміністрацыі і мясцовага самакіравання, грамадскіх арганізацыях. Ён, несумненна, уплываў на сваіх маладзейшых паплечнікаў і аднадумцаў, што прыйшлі да ўлады; для іх, асабліва для эсэраў, ён быў жывой легендай, “дзядулем рускай рэвалюцыі” (па аналогіі з К.К.Брэшка-Брашкоўскай — “бабуляй рэвалюцыі”).

З ініцыятывы С.П.Каваліка 11 сакавіка 1917г. у гарадскім тэатры адбыўся г.зв. сход расейскіх грамадзянаў г. Менска. Асноўная думка ўступнага слова Каваліка і іншых выступленняў карэнілася ў сцверджаннях, што “нацыянальныя перагародкі лічацца перажыткам старога парадку”, таму іх трэба адкінуць і “будаваць свае праграмы на палітычных платформах”. Аналіз матэрыялаў гэтага сходу наводзіць на думку пра наяўнасць фактару, дзеянне якога ў комплексе з мноствам іншых спрыяла фармаванню негатыўных дачыненняў, а нярэдка варожасці з боку немалой часткі ўдзельнікаў дэмакратычнага і сацыялістычнага руху на Беларусі да любой пастаноўкі нацыянальнага пытання. Праўдападобна, такога роду нацыянальны нігілізм можна разглядаць як рэакцыю на сталыпінскую палітыку ў заходніх губернях Расейскай імперыі ў перадрэвалюцыйнае дзесяцігоддзе, калі выбары ў Дзяржаўную думу, а затым і ў створанае земства праводзіліся тут па нацыянальных курыях, што суправаджалася дыскрымінацыяй значнай часткі насельніцтва па нацыянальна-рэлігійнай прыкмеце. Па Лютаўскай рэвалюцыі абгрунтаванае імкненне ўлічыць нацыянальныя асаблівасці і інтарэсы падчас дзяржаўнага будаўніцтва, у прыватнасці пры фармаванні новых органаў улады, успрымалася як спроба закансерваваць стары антыдэмакратычны парадак. Менавіта такой логікай прасякнута рэзалюцыя згаданага сходу. “Групоўка насельніцтва па палітычных пытаннях на нацыянальныя курыі,— гаварылася ў ёй, — ёсць перажытак старога ладу і несумяшчальна з тымі свабодамі, якія абвешчаны новым урадам. Тыя, хто прытрымліваецца такой групоўкі, падтрымліваюць стары лад, што абапіраецца на нацыянальную варожасць насельніцтва”. За гэтай пасылкай, слушнай у дачыненні да выбарчай сістэмы, ішла несувымерна шырокая, далёкасяжная выснова: “У

цяперашні час нацыянальныя пытанні павінны адысці на задні план, адзінай задачай перажыванага моманту ёсць яднанне ўсіх расейскіх свабодных грамадзянаў дзеля падтрымання новага ўрада па ажыццяўленні намечанай ім праграмы. Іншых лозунгаў,— безапеляцыйна заяўляла рэзалюцыя, — не павінна быць”[28].

Гэткія ўстаноўкі неаднаразова прапагандаваліся С.Кавалікам і пазней. У канцы сакавіка газеты змясцілі ягоны “Адкрыты ліст да Беларускага камітэта”, разасланы, відавочна, у дні працы з‘езда нацыянальных арганізацыяў. У ім ветэран расейскага народніцтва палемізаваў з адозвай да беларусаў, распаўсюджанай камітэтам у выглядзе ўлёткі. Пратэст Каваліка выклікалі словы адозвы, дзе падкрэслівалася самабытнасць беларускага народа, адрозненне ад палякаў і рускіх, а таксама тэзіс, што беларусы ёсць гаспадарамі краю, бо жывуць тут спрадвеку. Адкінуўшы праблему культурна-этнічнай самаідэнтыфікацыі беларусаў, наяўнасці ў іх асобных нацыянальных інтарэсаў, аўтар адкрытага ліста пераносіў размову ў плоскасць класавых дачыненняў, праводзіў думку аб нібыта аўтаматычным вырашэнні нацыянальнага пытання ва ўмовах шырокіх грамадзянскіх свабодаў.

У хуткім часе пасля заснавання Камітэта прапаганды на вёсцы асноваў новага дзяржаўнага ладу С.Кавалік быў запрошаны ў яго склад, што паўплывала на стаўленне гэтай арганізацыі да беларускага руху і яе далейшую гісторыю.

Літаральна напярэдадні з‘езда нацыянальных арганізацыяў з‘явіўся яшчэ адзін трывожны для беларускіх адраджэнцаў сімптом. 22—23 сакавіка на дзвюх нарадах групы сялянскіх дэлегатаў, што знаходзіліся ў Менску для выбараў губернскага харчовага камітэта, “з удзелам мясцовых грамадскіх дзеячаў” быў утвораны Менскі губернскі сялянскі камітэт (ён лічыў сябе падраздзяленнем Усерасійскага сялянскага саюза), якому даручалася склікаць 20 красавіка 1917г. з‘езд сялянаў Менскай губерні[29]. Старшынёй сялянскага камітэта стаў начальнік менскай міліцыі, бальшавік М.В.Фрунзе (дзейнічаў пад псеўданімам М.А.Міхайлаў), а сакратарыят камітэта часова месціўся ў штабе міліцыі, што сведчыла пра вядучую ролю Фрунзе ў гэтай задуме. Такім чынам, паралельна з падрыхтоўкай Беларускім камітэтам агульнакраёвага з‘езда сялянаў распачыналася работа па правядзенні аналагічнага губернскага з‘езда. Паколькі кіраўнікі сялянскага камітэта адразу ж занялі адмоўную пазіцыю ў дачыненні да беларускага руху, палітычнага супрацьстаяння ў гэтай сітуацыі наўрад ці можна было ўнікнуць.

На такім неспакойным фоне адбываўся ў Менску 25—27 сакавіка 1917г. з‘езд беларускіх нацыянальных арганізацыяў.

У ім удзельнічала каля 150 чалавек (паводле іншых звестак — 75)[30].

Сабраўшыся 25 сакавіка перад адкрыццём з‘езда, група дэлегатаў (А.Смоліч, А.Бурбіс, З.Жылуновіч, В.Адамовіч і інш.) вырашыла аднавіць легальную дзейнасць “старой баявой адзінкі” — Беларускай сацыялістычнай грамады (БСГ). Свой сход яны канстытуявалі як канферэнцыю БСГ. У прынятай рэзалюцыі канферэнцыя выступіла ў падтрымку Часовага ўрада, заклікаўшы працоўны народ аказваць на яго арганізаваны націск; адначасова падкрэсліла скрайнюю патрэбу энергічна рыхтавацца да Ўстаноўчага сходу. У пытанні аб вайне канферэнцыя БСГ падтрымала шырока прапагандаваны ў той час лозунг “рэвалюцыйнага абароніцтва”, улічыўшы неабходнасць вызвалення захопленых ворагам тэрыторыяў. Канферэнцыя выказалася ў прынцыповым плане за агульнанародную ўласнасць на зямлю і перадачу яе сялянам для карыстання ў адпаведнасці з працоўнай нормай і адзначыла як надзённую задачу партыі скрупулёзную распрацоўку аграрнай праграмы і перадачу яе на суд працоўнага сялянства. Канчатковае вырашэнне аграрнага пытання грамадаўцы аднасілі да кампетэнцыі краёвага сойму Беларусі. Нарэшце, канферэнцыя выразна сфармулявала галоўнае патрабаванне БСГ у галіне нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва — аўтаномія Беларусі ў складзе федэратыўнай Расейскай рэспублікі, пастанавіўшы заняцца больш дэталёвай распрацоўкай і гэтага пытання (у прыватнасці, вызначыць межы аўтаномнай Беларусі, дзеля чаго ўвайсці ў кантакт з суседзямі: літоўцамі, украінцамі і г.д.). Абавязкі кіруючага органа грамады было даручана часова выконваць Менскаму бюро БСГ на чале з А.Смолічам, які і абвесціў на нацыянальным з‘ездзе дэкларацыю толькі што адроджанай старэйшай беларускай партыі. Фракцыя БСГ заняла на з‘ездзе левае крыло.

Сярод астатніх дэлегатаў вылучалася каталіцкая дэмакратычная фракцыя (ад яе імя выступіў ксёндз В.Гадлеўскі), народная дэмакратычная (В.Зямкевіч) і “беспартыйная група” (Шарэйка). У цэлым, аднак, партыйна-палітычная дыферэнцыяцыя дэлегатаў з‘езда была не вельмі выразная. Паводле сведчання З.Жылуновіча, сярод бальшыні з іх панаваў прыўзняты настрой, надзея на хуткае ажыццяўленне патрыятычнага ідэалу, “нацыянальнае пачуццё ў іх прэваліравала над іншым”.

Мае сэнс звярнуць увагу на ўдзел як гасцей з‘езда прадстаўнікоў ад арганізацыяў, якія не былі носьбітамі беларускай нацыянальнай ідэі. Гэта ў пэўнай меры патлумачвае цікавасць, што праяўлялі да беларускага руху

іншыя палітычныя сілы. (На жаль, адсутнасць спісу ўдзельнікаў з‘езда не дазваляе атрымаць наконт гэтага поўную інфармацыю.) Адным з першых перад дэлегатамі выступіў старшыня менскага Камітэта прапаганды У.В.Марзон, які ”шчыра прывітаў першы нацыянальны з‘езд белар[усаў] і прызываў яго к супольнай і згоднай рабоце”. Не хавалі сваёй цікавасці палякі. Прывітанне ад палякаў Аршанскага павета перадаў з‘езду Гардзялкоўскі, а польскі мітынг у Століне прыслаў тэлеграму з выказваннем гатоўнасці “разам працаваць на карысць і дабро роднага краю”. Член Менскага савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў І.Ф.Кузьміцкі заклікаў з‘езд прадэман-страваць салідарнасць з тымі, “што гніюць у акопах”. З.Жылуновіч выступіў ад імя Петраградскага савета, у склад якога ўваходзіў.

Урадавую адміністрацыю прадстаўляў на беларускім з‘ездзе памочнік менскага губернскага камісара І.І.Мятлін — рускі, але не навічок у палітычным жыцці Беларусі: ён вызначыўся актыўным удзелам у рэвалюцыйных выступленнях у Менску яшчэ ў 1905 годзе, калі, на думку даследнікаў, займаў пазіцыі, блізкія да бальшавіцкіх. Прамова Мятліна, выбранага напачатку таварышам старшыні з‘езда, вельмі кантраставала з агульным настроем дэлегатаў. Ён прызнаў пастаноўку нацыянальных праблемаў нясвоечасовай, матывуючы тым, што трэба ўмацаваць атрыманую свабоду, згуртавацца ўсім разам дзеля склікання Ўстаноўчага сходу. Беларускі ж рух Мятлін наогул ахарактарызаваў як штучную з‘яву, пазбаўленую цвёрдага падмурку ў народных нізах. Бальшыня дэлегатаў, што яшчэ знаходзіліся ў палоне рэвалюцыйнай эйфарыі, былі здзіўленыя такімі поглядамі прадстаўніка новай, дэмакратычнай улады і не змаглі стрымаць сваіх эмоцыяў. Яны заяўлялі, што таксама імкнуцца да ўмацавання свабоды, але такая вялікая дзяржава, як Расея, не зможа захаваць стабільнасць без пашырэння правоў насяляючых яе народаў. Рэзкасць асобных выступленняў пераўзышла дапушчальныя рамкі, у выніку Мятлін не толькі склаў абавязкі таварыша старшыні, але і наогул пакінуў з‘езд з групай аднадумцаў. Гэты інцыдэнт, на першы пагляд нязначны, не быў толькі прыкрай выпадковасцю. Ён стаў адной з першых пасля Лютаўскай рэвалюцыі праяваў доўгай канфрантацыі і між тых элементаў палітычна актыўнай часткі насельніцтва Беларусі, якія ў цэлым былі зарыентаваныя на дэмакратычныя каштоўнасці, але розніліся поглядамі на беларускае пытанне.

Кола праблемаў, разгляданых з‘ездам, добра адлюстроўвае пералік камісіяў, на якія падзяліліся дэлегаты на другі дзень працы: агітацыйна-палітычная, друку і

выдавецкай справы, школьная, этнаграфічная, фінансавая, земская, арганізацыйная. Паводле дакладаў камісіяў на пленарным паседжанні былі выпрацаваныя асноўныя пастановы з‘езда.

Дакладчык агітацыйна-палітычнай камісіі А.Смоліч заклікаў звярнуць пільную ўвагу на прапагандысцкую працу сярод сялянаў. Пры гэтым беларускія адраджэнцы пагаджаліся весці яе сумесна з іншымі ўстановамі, сярод якіх быў названы толькі Камітэт прапаганды на вёсцы асноваў новага дзяржаўнага ладу. Вызначаліся тры галоўныя накірункі прапаганды: 1) агульна-палітычны — папулярызаваць у вёсцы ідэі дэмакратычных свабодаў і неабходнасць падтрымкі Часовага ўрада, які іх абараняе; 2) пашыраць лозунг нацыянальнага самавызначэння “ў сэнсе краёвай аўтаномнасці”; 3) прапаганда “пад сцягам шырокіх сацыяльных рэформаў”. Змест апошняга пункта ў дакументах з‘езда, аднак, не канкрэтызаваўся.

Паводле даклада Б.Тарашкевіча аб стане народнай адукацыі ў краі з‘езд высунуў патрабаванне найхутчэйшай рэформы пачатковай і сярэдняй школы. Было вырашана дамагацца ўвядзення ўсеагульнай адукацыі, павелічэння колькасці школаў розных тыпаў, пашырэння пазашкольнай асветы. Ставілася пытанне аб адкрыцці на Беларусі ўніверсітэта, іншых вышэйшых навучальных установаў. З‘езд выказаўся за паступовы пераход пачатковых школаў на родную мову навучання, а таксама за ўвядзенне ў курс сярэдніх школаў і настаўніцкіх семінарыяў выкладання беларускай мовы, літаратуры, гісторыі Беларусі ды іншых краязнаўчых дысцыплінаў. Улічваючы цяжкасці, што паўставалі на гэтым шляху (адсутнасць падручнікаў, востры недахоп падрыхтаваных настаўніцкіх кадраў), з‘езд пастанавіў заснаваць таварыства “Прасвета” з удзелам вядомых дзеячаў беларускае культуры, наладзіць выданне навучальных дапаможнікаў, арганізаваць беларускія курсы для настаўнікаў.

Прынцыповае значэнне мелі ацэнка з‘ездам перажыванага моманту і патрабаванне рэфармаваць састарэлую нацыянальна-дзяржаўную будову Расеі. Беларускі з‘езд вітаў перамогу Лютаўскай рэвалюцыі і вырашыў “падтрымаць Часовы ўрад у яго барацьбе са знешнімі ворагамі за свабоду Расеі і яе народаў і з прыслужнікамі старога рэжыму”. Былі пасланыя прывітальныя тэлеграмы ўраду, Петраградскаму савету рабочых і салдацкіх дэпутатаў, франтавым, а таксама нацыянальным арганізацыям (украінскім, літоўскім і інш.). Будучыня Расейскай дзяржавы ўяўлялася беларускім адраджэнцам “у выглядзе федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі, у якой асобныя нацыянальнасці будуць мець свае

нацыянальныя парламенты для загадвання ўсімі мясцовымі патрэбамі краю”. Беларусь павінна была атрымаць у абноўленай Расеі статус аўтаномнай дзяржаўна-тэрытарыяльнай адзінкі з уключэннем у яе Менскай, Магілёўскай, Горадзенскай, Віцебскай, большай часткі Віленскай, некаторых паветаў Смаленскай і Чарнігаўскай губерняў. Дзеля больш дакладнага вызначэння этнаграфічных межаў Беларусі пастанавілі стварыць спецыяльную камісію з запрашэннем у яе Я.Ф. Карскага, А. А. Шахматава, М. К. Любаўскага і М. В. Доўнар-Запольскага. З‘езд выказаў пратэст супраць намераў Літоўскага нацыянальнага савета ўключыць у склад Літвы ўсю Віленскую губерню.

У якасці вышэйшага прадстаўнічага і заканадаўчага органа аўтаномнай Беларусі праектавалася стварэнне Беларускай краёвай рады, у якую павінны былі ўвайсці прадстаўнікі ўсіх нацы-янальнасцяў краю. Да яе абрання ролю “вышэйшай краёвай інстытуцыі” з`езд “паводле патрэбы” меркаваў браць на сябе. Рэалізацыя такой “звышзадачы” была, аднак, магчымая толькі пры ўмове, што беларускія адраджэнцы здолеюць аб‘яднаць вакол ідэі стварэння агульнакраёвай сістэмы ўлады ўсе ўплывовыя палітычныя сілы Беларусі, а таксама асноўную частку яе насельніцтва — беларускае сялянства.

Дзеля арганізацыі кіравання краем “у кантакце з Часовым расейскім урадам”, падрыхтоўкі выбараў у Беларускую краёвую раду і прапаганды выбараў ва Ўсерасейскі Ўстаноўчы сход “на прынцыпах федэратыўна-дэмакратычнай рэспублікі” з‘езд сфармаваў выканаўчы орган — Беларускі нацыянальны камітэт (БНК). У яго склад увайшлі 18 чалавек, сярод іх былі Р.Скірмунт, юрысты П.Аляксюк, Л.Заяц, Ф.Шантыр, аграномы А.Смоліч, Я.Канчар, служачыя У.Фальскі, І.Краскоўскі, А.Бурбіс, настаўнікі М.Кахановіч, Бабарыкін, ксёндз В.Гадлеўскі, рабочы-паэт З.Жылуновіч і іншыя. 10 членаў БНК з‘яўляліся сябрамі Беларускай сацыялістычнай грамады. Старшынёй нацыянальнага камітэта пасля доўгіх спрэчак быў абраны Р.Скірмунт — прадстаўнік старасвецкага арыстакратычнага роду аграрыяў, а затым і прадпрымальнікаў, былы член І Дзяржаўнай думы, дзе ўваходзіў у г.зв. Тэрытарыяльнае кола, створанае дэпутатамі-”краёўцамі” Беларусі і Літвы. Выбіраючы Скірмунта кіраўніком БНК, а па сутнасці і лідэрам нацыянальнага руху, дэлегаты разлічвалі на ягоны палітычны досвед, звязы з асобамі вышэйшага рангу ў Расеі, энергічнасць, бралі пад увагу прыкметную радыкалізацыю ягоных поглядаў напярэдадні і ў час рэвалюцыі. З‘езд выбраў таксама дэлегацыю да Часовага ўрада на чале са Скірмунтам.

Дзеля правядзення на месцах выпрацаванай праграмы меркавалася арганізаваць губернскія, павятовыя і валасныя аддзелы БНК, склікаць пад яго эгідай сялянскі (прызначаны ўжо раней) і настаўніцкі з‘езды, стварыць пры БНК камісію па падрыхтоўцы рэформы мясцовага самакіравання. Было вырашана сістэматычна выпускаць адозвы і ўлёткі, а таксама пачаць выданне ў Менску беларускай газеты; да яе выхаду М.С.Кахановіч прапанаваў выкарыстоўваць рэдагаваны ім "Могилевский вестник".

Найважнейшым вынікам сакавіцкага з‘езда беларускіх арганізацыяў сталася афармленне ў Менску палітычнага цэнтра, вакол якога ў якасна новых умовах паслялютаўскага перыяду мелася адбывацца дзяржаўна-палітычная і нацыянальна-культурная кансалідацыя той часткі беларускага народа, што заставалася пад юрысдыкцыяй Расеі. Дакументы з‘езда сведчаць, што ён надаваў сабе і выбранаму ім Беларускаму нацыянальнаму камітэту ролю часовых агульнакраёвых органаў улады, закліканых забяспечыць канстытуяванне Беларусі як аўтаномнай дзяржаўна-палітычнай адзінкі ў складзе Расейскай федэратыўнай дэмакратычнай рэспублікі. Аўтаномія Беларусі ўяўлялася пры гэтым блізкай перспектывай, яе атрыманне з рук дэмакратычнай расейскай улады здавалася магчымым у выніку невялікіх намаганняў. Беларускія патрыёты-адраджэнцы — у большасці пачынаючыя палітыкі — не маглі яшчэ адэкватна ацаніць маштабы геапалітычных і эканамічных інтарэсаў Расеі на Беларусі, магутнасць існуючых у краі "цэнтралісцкіх" сілаў, а таксама рэальны ўзровень нацыянальнай самасвядомасці асноўнага класа беларускай нацыі — сялянства, павесці якое за сабой было магчыма, толькі прапанаваўшы радыкальную і зразумелую сацыяльна-эканамічную праграму, найперш па аграрным пытанні. У тагачасных аб‘ектыўных умовах створанаму Беларускаму нацыянальнаму камітэту надзвычай праблематычна было стаць зародкам агульнакраёвай улады на Беларусі; ён мог быць толькі грамадскай установай, каардынацыйным цэнтрам беларускага нацыянальнага руху, які яшчэ мусіў вырасці ва ўплывовую палітычную сілу.

**Крыніцы**

[1] Мядзёлка П. Сцежкамі жыцця. — Мн., 1974. С. 89—93.

[2] Документы и материалы по истории советско-польских отношений. - Т.1. — М., 1963. С. 35—36.

[3] Там жа. С. 43—44.

[4] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей: НА РБ), ф.60, в.3, спр.171, арк.19—22; спр.175, арк.10—13.

[5] Мялешка І. Натуральныя саюзьнікі// Гоман. — 1917. 8 ліпеня.

[6] Показания А.Смолича от 20 октября 1930 г.// Навіны Беларускай акадэміі. 1992. 11 снежня.

[7] Игнатенко И.М. Февральская буржуазно-демократическая революция в Белоруссии.— Мн., 1986. С. 110.

[8] Заяц Л. Абмылковы крок (Менскі савет рабочых дэпутатаў і Беларускі нацыянальны камітэт) // Савецкая Беларусь. — 1927. 20 сакавіка.

[9] Краўцоў М. (Касьцевіч М.). Усебеларускі зьезд // Беларускі звон.— 1921. 9 верасня.

[10] Минская газета.— 1917. 11 сакавіка; Минский голос.— 1917. 11 і 12 сакавіка.

[11] Минский голос.— 1917. 14 сакавіка.

[12] Минская газета.— 1917. 13 сакавіка.

[13] Минский голос.— 1917. 16 сакавіка; Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі ў Менску (далей: НГА Беларусі ў Менску), ф.700, в.1, спр.383, арк.56 адв.

[14] Минский голос.— 1917. 19 сакавіка.

[15] Вестник Минского губернского комиссара.— 1917. 19 сакавіка.

[16] НА РБ, ф.60, воп.2, спр.70, арк.123.

[17] Минская газета.— 1917. 11 сакавіка.

[18] Минский голос.— 1917. 14 сакавіка.

[19] НГА Беларусі ў Менску, ф.700, в.1, спр.383, арк.23—23 адв.

[20] Вестник Минского губернского комиссара.— 1917. 23 сакавіка.

[21] НГА Беларусі ў Менску, ф.700, в.1, спр.383, арк.56.

[22] Там жа, арк.56 адв.

[23] Вестник Минского губернского комиссара.— 1917. 24 сакавіка.

[24] Там жа.

[25] ЦДГА г. Санкт-Пецярбурга, ф.1935, в.1, спр.16, арк.7.

[26] Минская газета.— 1917. 22 сакавіка.

[27] ЦДГА г. Санкт-Пецярбурга, ф.1935, в.1, спр.16, арк.4.

[28] Вестник Минского губернского комиссара.— 1917. 15 сакавіка.

[29] Великая Октябрьская Социалистическая Революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т.1. — Мн., 1957. С. 138.

[30] М.К. (Коханович М.). Белорусский съезд в Минске //Могилевский вестник.— 1917. 30 сакавіка.

Яўген АНІШЧАНКА

# ІНКАРПАРАЦЫЯ БЕЛАРУСІ Ў РАСЕЙСКУЮ ІМПЕРЫЮ ЗА КАЦЯРЫНАЮ II

## Пад крылы двухгаловага арла

Як Рэч Паспалітая апынулася здабычай трох агрэсараў — Расеі, Прусіі ды Аўстрыі — напісана шмат. Менш вядома, якія захады рабіў царскі ўрад, каб замацавацца на захопленых землях ды ўпэўніць жыхароў яшчэ не далучаных тэрыторыяў у сваёй “вызвольнай” місіі.

Пачаткова правы на паўночна-ўсходні абшар Рэчы Паспалітай як на сваю гістарычную спадчыну ўрад імператрыцы Кацярыны II заявіў на сакрэтнай канферэнцыі двара ў 1763г., карыстаючы з смерці Аўгуста III. Тады віцэ-прэзідэнт ваеннай калегіі і будучы генерал-губернатар беларускіх губерняў З.Чарнышоў раіў “захватить” Ліфляндыю, Мсціслаўскае, Полацкае ваяводствы — словам, тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага “от местечка Ула” на правабярэжжы Дзвіны і на левым беразе Дняпра. Гэты абшар меркавалася аб’яднаць са Смаленскай губерняй, каб адразу распаўсюдзіць на яго агульнаімперскія парадкі. Праўда, план гэтак хуткага абрусення да пары адклалі, бо палічылі за лепшае дамагчыся пратэктарату і апекі над нутраным ладам слабай суседкі.

Перамагла лінія кіраўніка замежнай палітыкі Расеі М.Паніна, які раіў трымаць на залежнай мясцовасці войскі, каб “страхом вырвать у поляков то, чего от них ласково добиться не можно”. Каб не патураць умацаванню якой-небудзь адной партыі, здольнай на незалежныя дзеянні, і каб раскалоць наагул магчымы супрацiў, у Пецярбургу вырашылі “держаться совершенно вне сцены и предоставить действовать своим друзьям”. Такімі былі шэфы дысі-дэнцкіх (Слуцкай і Торуньскай) канфедэрацыяў. На подкуп надзейных крэатураў надалей выдаткоўвалася блізу 8% бюджэту. А ўжо на заклік або добраахвотнае запрашэнне хаўруснікаў ці пакрыўджаных царскі двор дамагаўся права мірыць варожыя групоўкі ў імя прадухілення анархіі і братазабойчай вайны, дзеля абароны залатых вольнасцяў шляхты, каб праславіцца заступнікам прыгнечаных.

Зайздрасць царадворцаў выклікалі прыклады манархаў

Прусіі і Аўстрыі, якія ў 1769—1770гг. узвялі санітарныя кардоны вакол сваіх доляў захопу Рэчы Паспалітай для вынішчэння ўзброеных канфедэрацыяў. Такі ж кардон 24 снежня 1770г. паставілі па Дзвіне і царскія войскі. Напачатку 1771г. Дзвіну і Дняпро рашылі злучыць простаю мяжою, выціснуць канфедэратаў з аточанага абшару і потым далучыць яго да імперыі. Аднак сярод саўдзель-нікаў разбору доўжыліся спрэчкі вакол ураўнаважання тэры-тарыяльных апетытаў і часу сумеснага выступлення. На сакрэтных нарадах 7 лютага і 16 траўня 1771г. у прысутнасці імператрыцы Кацярыны II успыхнулі звадкі, бо царадворцы ніяк не маглі вызначыць, на які беларускі абшар распасцерці свае прэтэнзіі. Найбольш заўзяты абрусіцель граф Р.Арлоў нават папракаў М.Паніна за бяздзейнасць. Таму ў студзені 1772г. рада загадала Паніну тэрмінова “трудиться”, каб падаць адпаведныя гістарычныя доказы.

З-за непадрыхтаванасці інтэрвенцкага корпусу вырашылі наяўныя сілы ўводзіць часткамі, разбітых канфедэратаў вывезці ў Казанскую губерню на перахрышчэнне і нават сабраць батальён з навербаваных дэзерціраў або гайдамакаў. 12 сакавіка 1772г. Кацярына II загадала выставіць на будучай мяжы захопу 9 легіёнаў, 24 пяхотныя роты, 9 эскадронаў і тысячу казакоў — блізу 50 тыс. войска пад наглядам генерал-маёра М.Кахоўскага. Войскі ставіліся ў Віцебску, Друі, Лядах, Лоеве, Магілёве, Менску, Мсціслаўі, Вор-шы, Полацку, Рагачове, Себежы. Палявым камандзірам загадалі пературыць кожны пост дыслакацыі ў “гауптвахту и наглухо запереть” яе гарматамі ды пікетамі. (Праз тыя гаўптвахты потым трапяць у Сібір блізу 5 тыс. канфедэратаў!)

Шляхту ваяводстваў і паветаў занеслі ў спісы, падзяліўшы на лаяльных і няверных. Рэгістрантам абвяшчалі, каб яны ўстрымаліся “от возмутительных сборищ”. Забараняліся ўсялякія збройныя наезды. Каму ж карцела ўсчыніць суд над сапернікам, то ён мусіў прасіць дазволу расейскага начальніка. Апошні сачыў, каб наезд “не обратился под сим предлогом в возмутительное собрание”. Шпіёнскія абавязкі ўсклалі нават на гэбрайскія кагалы, а там, дзе іх не было, — на рабінаў, якія “за своим выбором и поруками давали надежных людей, чтобы разведать о приближении какой возмутительской шайки”.

Сартаванне шляхты на два лагеры падмацавалі бізуном і пернікам. Пры вайсковых гарнізонах стварылі 12 вайсковых магазінаў. Кожны з іх поўнілі 21 тыс. чвэрцяў збожжа і 64125 пудоў сена — прыблізна на 40 тыс.руб. срэбрам. Вываз хлеба за мяжу быў прыпынены, пакуль “не будут обеспечены наши войска”. Грошы за правіянт і фураж выдавалі толькі лаяльным пастаўшчыкам, а з астатніх бралі кантрыбуцыяй або гвалтам. Планавалася нават забараніць вінакурэнне тым, хто адмовіцца

ад рэквізіцыяў або пры недахопе грошай у дзяржаўным скарбе.

Хаця З.Чарнышоў планаваў апанаваць край у траўні — чэрвені 1772г., аднак М.Панін падаў абгрунтаванне анексіі толькі 21 траўня. Свае вялікадзяржаўныя доказы царская рада ўхваліла 11 чэрвеня разам з маніфестам і дэкларацыяй. Акружэнне Кацярыны II выказала прэтэнзіі на 825208 дзесяцін "лутчей и плодоноснейшей земли", якія з 1712г. трымала Рэч Паспалітая. Гэты абшар абвя-шчаўся "издревле России принадлежавшим с 1523 года". Да гэтага дадалі фінансавыя страты за ўтойванне 300 тыс. расейскіх уцека-чоў і розныя гандлёвыя перашкоды. Уся шкода расейскай дзяр-жаве і памешчыкам ацэньвалася ў 21 млн.руб. Гэтыя рэпарацыі Рэч Паспалітая мусіла задаволіць добраахвотнымі тэрытары-яльнымі саступкамі, каб усё выглядала "без компро-метирования в публике и было только следствием насильственного угнетения" папярэдняй дзяржавай. Сам З.Чарнышоў тлумачыў, што далучэнне патрэбна "НЕ ПО ДОГОВОРАМ, НО ОРУЖИЕМ либо по правам имеющихся... В УДОВЛЕТВОРЕНИЕ ТЕХ ПРЕТЕНЗИЙ, КАКИЕ РОССИЯ ОТ ПОЛЬШИ ИЗ ДАВНИХ ЛЕТ ИМЕЕТ..."

Між тым камплектаванне акупацыйнага корпусу сустракала цяжкасці з-за дэзерцірства рэкрутаў. Іх месца занялі 5 тыс. башкі-раў, якія вылучаліся асаблівай жорсткасцю. Нарэшце, 13 жніўня 1772г. З.Чарнышоў атрымаў загад увесці войскі ў Беларусь паміж 1—7 верасня 1772г. і пасунуць фармаванні ажно пад Берасце.

Пасля дамоўленасці з Прусіяй і Аўстрыяй аб долях захопу кожным манархам у лютым 1772г. Пецярбург адсунуў раздзельную мяжу з левабярэжжа Дзвіны ў Полацкім ваяводстве на ўсход, на ўскрай Аршанскага павета. Новую граніцу сумесная камісія зацвердзіла на месцы ў 1775г., бо на той год сойм Рэчы Паспалітае мусіў узаконіць захоп. Расейская доля набыцця адразу атрымала назву "атрыманых... далучаных ад Польшчы, ...беларускіх" у адрозненне ад астатніх земляў — "Литвы" або "Польши". Яшчэ да соймавай згоды 28 траўня 1772г. Кацярына II распарадзілася пачаць у верасні практычныя дзеянні для замацавання набытых земляў як "издревле к империи законно принадлежащих". Іх падзялілі на Пскоўскую і Магілёўскую губерні. Навапрызначаным пскоўскаму губернатару М.М.Кра-чэтнікаву і магілёўскаму М.В.Кахоўскаму загадвалася сакрэтна апісаць далучаную тэрыторыю дзеля ўвядзення новай адміністрацыі і абкладання. Губернатары мусілі да 15 студзеня прывесці жыхароў да вернападданай прысягі, вызначыць колькасць падатковага насельніцтва, велічыню дзяржаўнага зямельнага фонду і яго даходы, віды і праўны стан землеўладанняў, інвентарызаваць маёмасць езуітаў,

Кацярына II.

акрэсліць стан гандлю і заняткі жыхароў, закартаграфаваць землі і падзяліць іх на паветы адпаведна агульнаімперскаму ўзору.

Усё тое рабілася пад сакрэтам і спрытна, каб паставіць сойм Рэспублікі перад фактам акупацыі і атрымаць ад яго толькі фармальную санкцыю ў выглядзе добраахвотнага сыходу сойму і караля, а таксама дамагчыся адначасовай добраахвотнай прысягі новападданых. Усё мела выглядаць як мірнае і добраахвотнае “присоединение”. Ажыццяўляў першасныя акцыі згаданы З.Чарнышоў, пастаўлены царскім намеснікам з неабмежаванымі паўнамоцтвамі спачатку на два гады. За абачлівасць і кемлівасць ягоныя паўнамоцтвы падоўжылі да 1772г. Як кіраўнік ваеннага ведамства імперыі З.Чарнышоў распачаў сваю дзейнасць армейскімі сродкамі і пры дапамозе адпаведных кадраў. Дадатковыя войскі ўводзілі на захоплены абшар пад нагодай “справедливой импортации” (размеркавання) фуражу і правіянту. Адразу разгарнулі дывізію або палявы корпус (звыш 10 тыс. чал). З іх на пастаянную дыслакацыю або гарнізонамі паставілі батальёны ў Дынабургу, Старым Быхаве, Віцебску, Полацку, Рагачове, Сянне (кожны па 807 чал. у складзе 6-ці рот). З прычыны некамплекту яны лічылі ў 1792г. 4824 чал., у 1795г. — 6094. З-за адсутнасці чыноўнікаў уведзеныя армейскія злучэнні выконвалі розныя гаспадарчыя паслугі, вайскоўцамі запаўнялі

кіроўныя пасады губернскіх установаў.

Прысяга і новы падушны ўлік насельнікаў праводзіліся разам. За адмову ад вернападданай прысягі шляхце і духавенству прыгразілі канфіскацыяй маёмасці і прымусовым высяленнем за мяжу ў трохтыднёвы тэрмін. Лічылі насельніцтва вайсковыя каманды на падставе вусных і дакументальных дэклярацыяў уладальнікаў, але з абавязковым пацверджаннем іх сапраўднасці прыходскімі святарамі. Апошнія падпісвалі прысяжныя лісты за непісьменных, асабліва сялян.

Новая ўлада жорстка абышлася з праціўнікамі. У Сібір, што праўда, не высялялі. Аднак прыватныя войскі магнатаў запісалі ў дваровыя — гэта значыць распусцілі і аддалі на ўтрыманне гаспадарам. Фальваркавую паслугу (войтаў і інш.) абклалі сямігрыўнавым акладам (70 кап. срэбрам), а зямян — 40-алтынным (1 руб. 20 кап.). Ад падушнага падатку вызвалілі беззямельную шляхту, што служыла ў панскіх дварах, ды маёмную шляхту, якая не мела сялян. Можна ўявіць, які поспех займела сярод дробнае шляхты гэтая ўрадавая акцыя. Бо царызм засцярог яе ад зраўнавання з прыгонным людам. Да таго ж пры рэвізіі жыхары ваколіц лічыліся асобнымі спісамі, якія падавалі самастойна “с подробным описанием фамилий, гербов и со всеми свидетельствами” аб сваім непадатковым становішчы і высакародным паходжанні. Так распачаўся г.зв. разбор шляхты, якой у 1782г. на далучанай тэрыторыі лічылася больш як 24 тыс. чал. Сартаванне рабілі з мэтай, “чтоб впредь без высочайшей воли никто себе тем (дваранскім. — **Я.А.**) достоинством не почитал и потому бы принадлежащим только дворянству правом, кроме действительных дворян, не мог никто пользоваться”.

Можных жа паноў новы ўрад прыхіліў да сябе тым, што абвесціў пададзеныя рэвізскія даведкі вечнымі прыгоннымі актамі на запісаныя ў іх сялянскія душы. А паколькі падліковыя каманды пісалі ўсіх “где кого ревизор застал” ці пажадаў застацца, то гэта падахвоціла ўласнікаў запрыгоніць за сабой чужых сялян — наймітаў, розныя станы раней вольных людзей (чыншавую шляхту, іншаземцаў, зямян, вольнаадпушчаных, бабылёў, нават мяшчан і гэбраяў). Такіх людзей у 1782г. сам Чарнышоў налічыў 12 тыс. чал. Заняволеныя змагаліся за вяртанне ранейшага становішча, часам праз уцёкі.

Пасля рэвізіі ўсялякія самавольныя пераходы ападаткаваных душаў забараняліся, а дзеля кантролю за іх рухам уводзілася пашпартная сістэма. Пашпарты друкавалі ў Пецярбургу, прыблізна па 20 тыс. штогод, выдавалі іх на прамысловы адыход самі ўладальнікі. У гарадах дазвол давалі магістраты. Па ваколіцах паставілі выбарных

Павел I.

“начальнікаў”. Недазволены выхад з месца запісу расцэньваўся як уцёкі, жабрацтва і бадзяжніцтва, што вяло да непажаданых сварак за рабочыя рукі, да недабору падаткаў, разладжвала фіскальную сістэму дзяржавы. Таму новая ўлада звязала падначаленыя ўстановы і жыхароў кругавой адказнасцю за парушэнне новых парадкаў. Дзеля гэтага сам З.Чарнышоў загадаў надзяліць бабылёў зямлёй на дзяржаўных уладаннях ці здаць іх у работнікі заможным гаспадарам.З таго часу бабыльства змяняецца новай праслойкай — дваровымі, якія ў 1782 — 1785гг. складалі каля 0,03% усіх сялян. Калектыўную адказнасць за прадухіленне вольнага руху неслі практычна ўсе насельнікі.

Вынікі рэвізіі расчаравалі пецярбургскі ўрад, які лічыў, што вяртае тэрыторыі, населеныя “по большей части ее [Расеі. — **Рэд.**] подданными, привлекавшимся путем всяких соблазнов и набегов на русскую землю и насильственного похищения ее жителей польской стороной”. З усіх зарэгістраваных 1,2 млн. чал. выхадцаў з Масковіі налічылася толькі 1%. І тут выявіўся сапраўдны намер акупантаў. Расейскія памешчыкі займелі права не вывозіць назад сваіх уцекачоў, а проста закладваць іх пад банкаўскія пазыкі. Дзеля гэтага ўказам ад 15 лістапада 1776г. дваранскім банкам загадалі не адрозніваць беларускіх падданых ад вялікарасейскіх. З таго часу ў Беларусі расквітнеў гандаль

людзьмі і продаж іх без зямлі.

Асабліва ходкім таварам аказаліся выхадцы з межаў Рэчы Паспалітай, якія спакусіліся царскімі маніфестамі аб амністыі з дазволам запісвацца ў гарадскія таварыствы беларускіх губерняў. З 1779 да 1792гг. толькі ў Полацкую губерню вярнулася 10 тыс. чал. — пераважна галота, якая тулялася “в Польше и Литве” сярод чорнарабочых. Пагнала іх адтуль уведзеная у 1789г. соймам Рэчы Паспалітай рэкруцкая павіннасць. Беларускія ж магістраты пазбаўляліся іх з-за боязі крадзяжоў і дармаедства. А на мяжы гэтых людзей пераймалі армейскія вярбоўшчыкі. Адбывалася гэта так. Гандляр душамі паіў, карміў вяртальніка... і закоўваў у жалеза. Або пісаў таго сваім дваровым і тую квітанцыю даваў расейскім уладам пры надыходзе ягонае чаргі на пастаўку рэкрута. Так памешчыкі набывалі прыгонных, а расейская армія... некамплект і мёртвыя душы. Такая хітрая практыка дазваляла расейскаму дваранству пазбавіць уласныя ўладанні ад цяжару рэкруцкіх пабораў за кошт беларускага сялянства, а мясцовыя паны гэткім чынам пазбаўляліся непрацаздольных. Згаданая сістэма дазваляла да пары (да 1794г.) не ўкараняць на далучанай тэрыторыі рэкрутчыны. Пасля поўнага заняцця беларускіх земляў расейскім уцекачам не стала дзе хавацца ад урадавага вышуку і рэвізскага ўліку. Гэта і дазволіла ўвесці тут рэкруцкае ярмо на галаву беларускага селяніна.

Рэвізія і апісанне далучанай тэрыторыі мелі мэтай таксама ўвесці новы тэрытарыяльна-адміністрацыйны падзел на адзінкі з падобнай колькасцю рэвізскіх душаў. Пскоўская і Магілёўская губерні адразу былі падзеленыя на правінцыі на чале з ваяводамі, набранымі пераважна з камандзіраў раскватараваных войскаў. Паводле ўказу ад 22 ліпеня 1773г. правінцыі падзялілі на паветы па 20-30 тыс. рэвізскіх душаў кожны. Велічыні паветаў пера-размеркавалі ў 1776г. паводле “Учреждения для управления губерний” (1775г.). У 1777г. утварылі Полацкае намесніцтва (губерню) у складзе 11 паветаў і Магілёўскае — з 12 паветаў, але ўжо без правінцыяў.

Сэнс перабудовы быў у наступным. Са скасаваннем у 1772г. ранейшых ваяводстваў і паветаў зніклі і адпаведныя ім судова-адміністрацыйныя структуры, у тым ліку і шляхоцкія соймікі як органы рэгіянальнага самакіравання, немагчымыя ў сама-дзяржаўнай краіне. Утварэнне правінцыяў перад падзелам на паветы ставіла мэтай адразу запоўніць кіраўнічую адміністрацыю расейскімі кадрамі.

Генерал-губернатар або намеснік, надзелены неабдымнымі паўнамоцтвамі, залежаў непасрэдна ад царыцы і засядаў у Сенаце падчас знаходжання ў Маскве. З.Чарнышоў наогул кіраваў Беларуссю з уласнага родавага маёнтка Яраполч, што за 130 км ад Масквы. Наязджаў на падначаленую тэрыторыю ён толькі дзеля сустрэчы

З.Г.Чарнышоў.

каранаваных асобаў і надзвычайных рас-параджэнняў. Чарнышоў надта любіў цырыманіялы, помпу і нямецкі — прускі — парадак. У Магілёве ён паставіў сабе сапраўдны царскі трон, а паштовыя тракты абсадзіў так, што яны нагадвалі “сады”.

Непасрэднае кіраўніцтва на месцах ажыццяўлялі губернатары (правіцелі), пераважна генеральскага звання, людзі зазвычай пажылыя і трупехлыя, але выхаваныя ў кавалерыйскіх сёдлах захопнікаў. Згодна штатнаму раскладу 1772г., правіцелі ўзна-чальвалі губернскую канцылярыю ў складзе 247 чал., якія выконвалі распараджэнні і намесніка, і Сената, і імператарскага двара. Тут даводзілася круціцца і трымаць нос па ветры. Для неадкладных камандаў правіцель трымаў 132 вайскоўцаў, у тым ліку 112 шараговых. Фінансамі распараджалася камерная экспедыцыя (пазней — казённая палата) на чале з дырэктарам дамаводства і ў складзе 55 чыноў. Крыгс-камісар на чале 5 чал. даглядаў мытні (у кожнай — 24 штатныя адзінкі і 28 аб’ездчыкаў) і заставы (12 вартаўнікоў мяжы і 24 аб’ездчыкі). Кватараваннем і забеспячэннем войска займаліся правіянцкі магазін (20 чал.) і правіянцкі дэпартамент (5 чал.). Увесь штат, прыкладам, Пскоўскай губернскай канцылярыі лічыў 379 чал., на якіх выдаткоўвалася чвэрць губернскіх даходаў .

У правінцыях расейскую адміністрацыю складалі таксама

канцылярыі — блізу 450 чал., кожная на чале з ваяводам, і пастаянныя гарнізонныя батальёны. Апошнія былі пастаўленыя ў Полацку, Віцебску, Дынабургу, Талачыне, Рагачове, Хіславічах. Кожны батальён меў 595 шараговых, якіх дапаўняла рота інвалідаў (ветэранаў). Агулам першы штат царскай улады у абедзвюх губернях лічыў больш за 9 тыс. чал. Усе пасады запаўняліся простым прызначэннем з маскоўскага Сената паводле рэкамендацыяў намесніка і правіцеляў губерняў. У хатнія справы шляхоцкага саслоўя царызм умешваўся рэдка. Іх вырашалі правінцыйныя земскія суды ў складзе двух суддзяў, рэгента і пісара. На кожную губерню прыходзілася 12 такіх суддзяў. Свае чыннасці з расейскай адміністрацыяй земскія суды вялі на расейскай мове, а ўласныя рашэнні афармлялі на польскай. Суддзі абіраліся з мясцовых абываталяў, але іх прызначэнне залежала ад волі вышэйшай улады (ваяводаў і губернатараў). Разам з падзелам правінцыяў на паветы і ўсталяваннем двухступеннай сістэмы кіравання (губерня-павет), што распачалося пасля 22 ліпеня 1773г., для шляхты адчыніліся дзверы і да губернскіх пасадаў. Выбары ў вышэйшыя, ніжэйшыя земскія і павятовыя суды рэгламентавала спецыяльная працэдура, якая нагадвала шчыльнае сіта, праз якое не мог праскочыць ніводзін ненадзейны кандыдат. Пасля 1778г. мясцовае шляхоцтва атрымала магчымасць выбіраць павятовых і губернскіх прадвадзіцеляў дваранства для рэпрэзентавання сваіх краёвых і карпарацыйных інтарэсаў. Новая ўлада надта клапацілася, каб на выбарныя пасады трапілі асобы, якія б маглі адказваць уласнай маёмасцю. Таму ў 1773г. да дваранскіх выбараў дапусцілі шляхту, якая мела больш як 10 прыгонных. Затым у 1782 — 1785гг. выбарчых правоў пазбавілі тых, хто трымаў чужых сялян праз залог-заставу і арэнду. Уведзеныя цэнзавыя абмежаванні выкраслілі немаёмную шляхту з палітычнага жыцця — гэтаксама, як пазней тое ж зробіць сойм Рэчы Паспалітай 1788 — 1792гг. Аднак гэтым разам не выявілася ніякай апазіцыі ці адпору.

З самага пачатку царызм дэкляраваў нязменнасць саслоўных правоў. Аднак урад Кацярыны II афіцыйна не прызнаваў Статуту Вялікага Княства Літоўскага ў якасці крыніцы права. У 1785г. у Магілёве яго для даведак расейскіх чыноў пераклалі на расейскую мову. Хаця земскія суды кіраваліся статутавымі нормамі, аднак апошнія даўно састарэлі і мелі абмежаваны ўжытак. Царская адміністрацыя магла прыпыніць або наогул забараніць выкананне ўсялякага рашэння шляхоцкіх выбарных суддзяў, калі яно пярэчыла імперскаму заканадаўству. Усе спрэчкі і скаргі спачатку апеляваліся ў Юстыц-калегію Ліфляндскіх, Эстляндскіх і Фінляндскіх справаў пры Сенаце (нешта накшталт вярхоўнай юрыскан-сультацыі), а з 1780г. — у спецыяльны беларускі

М.М.Крачэтнікаў.

дэпартамент. Апошні практычна разгледзеў толькі адну справу. Як непатрэбны інстытут яго зачынілі ў 1782г., а права канчатковых рашэнняў перадалі агульнасаслоўным губернскім палатам грамадзянскага і крымінальнага судоў (верхнім земскім судам), якія для прысуду чакалі рэзалюцыі губернатара. Згаданы тыпова імперскі, а не дэкляраваны статутавы, парадак судаводства дазваляў царызму надзейна кантраляваць паводзіны шляхты.

Аднак шляхта паспрабавала-такі не скарыцца. Асаблівае абурэнне ў яе выклікала ўвядзенне ў 1773г. пасадаў соцкіх і дзесяцкіх, абіраных з сялян у дапамогу расейскім ваяводам ды камісарам. Апошнія камісарылі здзекліва, маглі пакараць кожнага фанабэрыстага шляхцюка з дапамогай ягонага ж уласнага прыгоннага. Незадаволенасць дробнай шляхты выдатна скарысталі мажнаўладцы, адсунутыя ад вагароў улады расейскімі чынамі. Падчас выбараў у 1776г. земскіх суддзяў мсціслаўскай правінцыі аршанскі стараста І.Язафовіч і камергер польскага двара І.Галынскі падбілі незадаволеных на калектыўны пратэст супраць гвалтаў тамтэйшага губернатара М.Кахоўскага.

Апошні публічна назваў павадыроў пратэсту “пугачоўцамі і бунтаўнікамі” і забараніў павятовым прадвадзіцелям без ягонага дазволу склікаць шляхту “для совещания об общественных надобностях”, а тым больш скардзіцца

"наверх". Наменік заявіў, што з часу далучэння ўдвая выраслі пасевы жыта, што памешчыкі замест 1 руб. з сялянскай душы зараз бяруць 3 руб. падатку, што свае вёскі яны цяпер прадаюць утрая даражэй дый няма недабораў. Маўляў, пры такой спрыяльнай уладзе скаргі беспадстаўныя. Сенат валаводзіў справу да 1780г., імкнучыся ўзгадніць забарону самавольных шляхоцкіх сходаў з папярэднім заканадаўствам Рэчы Паспалітай. Дзеля гэтага скарысталі статутавае палажэнне, паводле якога павятовыя соймікі склікаліся каралямі і мелі трымацца вызначанай тэматыкі. Сенат увогуле забараніў склікаць тыя соймікі без царскага дазволу. Пакрыўджаныя маглі скардзіцца асабіста, але не калектыўна. Агульныя інтарэсы дазвалялася з таго часу рэпрэзэнтаваць толькі губернскім і павятовым прадвадзіцелям.

Менавіта яны складалі спісы выбаршчыкаў, якія прыбывалі ў губернскі горад на выбары прадвадзіцеляў. Выбары пачыналіся з выслухоўвання прамоваў наместніка і губернатара і поўнага тэксту Установы для кіравання губернямі. Пасля выбаршчыкі ішлі шыхтом (па два ў рад) у царкву служыць урачысты малебен дый складаць прысягу перад Усявышнім. Урачыстасць віталі званамі й гарматамі. Затым на раздзельных паседжаннях прадстаўнікі кожнага павету выбіралі свайго прадвадзіцеля і земскіх суддзяў. Кандыдатаў балатавалі чорнымі і белымі шарамі. Вынікі зацвярджалі губернатары. У апошні дзень пад гарматныя громы

**ПАМЕРЫ СЕКВЕСТРУ 1772 ГОДА (СЯЛЯН-МУЖЧЫН)**

| Уласнік | Уладанне | У мястэчках | | У вёсках | | Разам |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | хрысціян | гэбраяў | хрысціян | гэбраяў | |
| **І.Агінскі** | Бялынічы | 468 | 167 | 1090 | | 1725 |
| (кашталян | Стараселле | 192 | 60 | | | 252 |
| віленскі) | Коханава | 133 | 5 | 1212 | | 1350 |
| | Мікуліна | 237 | 80 | 3891 | 42 | 4250 |
| | Копысь | | | 521 | 6 | 527 |
| | Калышкі | 270 | | 1731 | | 2001 |
| **І.Агінскі** | Рудня | 135 | 95 | 607 | 180 | 1017 |
| (стараста | Лёзна | 256 | 192 | 1313 | 80 | 1841 |
| дзярэчынскі) | | | | | | |
| **М.Агінскі** | Круглае* | 258 | 70 | 2519 | 15 | 2862 |
| (гетман) | Паўловічы | | | 119 | 3 | 122 |
| **Кс.Агінскі** | Вяледзічы і | | | 1100 | 16 | 1116 |
| (стражнік) | Тадуліна | | | | | |
| **Л.Пацей** | Яновічы | 380 | 249 | 6455 | 26 | 7203 |
| (стражнік) | Астроўна | 121 | 138 | 3697 | 26 | 3982 |
| | Кадзін | 251 | 90 | 2004 | 14 | 2359 |

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Расна | 171 | 194 | 338 | 9 | 712 |
| | Беразятння | | | 473 | 7 | 480 |
| **А.К.Сапега** | Прыдруйск | 74 | 70 | 2532 | 128 | 2804 |
| (ваявода) | Дуброўна і Ляды | 1767 | 722 | 15726 | 387 | 18602 |
| **К.Радзівіл** | Копысь* | 794 | 248 | 6436 | 327 | 7805 |
| (ваявода) | Раманава* | 173 | 74 | 1779 | 64 | 2090 |
| | Невель* | 1013 | 123 | 9846 | 192 | 11174 |
| | Себеж* | 349 | 52 | 4617 | 88 | 5106 |
| | Тарантова* | | | 3006 | | 3006 |
| | Казадаўе* | | | 182 | | 182 |
| **А.Чартарыскі** | Буева* | | | 1104 | 9 | 1113 |
| (канцлер) | Серуты* | | | 488 | 9 | 497 |
| | Шклоў* | | | 12150 | | 12150 |
| **І.Якавіцкі** | Дабея | | | 120 | | 120 |
| **А.Пац** (пісар) | Галаўчыно* і Княжыцы* | 557 | 191 | 6822 | 106 | 7676 |
| **Мнішка** (маршалак) | Халаблін* | | | 64 | 5 | 69 |
| **Г.Аскерка** | Эйзбахаўшчына | | | 1015 | 49 | 1064 |
| **Л.Борх** | Рамшына | | | 11947 | 310 | 12257 |
| **Друцкія-Любецкія** | Любавічы* | 420 | 215 | 3233 | 24 | 3892 |
| **Я.Юдыцкі** | Хелч* | | | 226 | | 226 |
| Разам **прыватных** | | **8019** | **3035** | **108234** | **2212** | **121500** |
| **Віленская капітула** | Стрэшын* | | | 2926 | | 2926 |
| | Сорыца* | | | 2754 | | 2754 |
| | Падгор'е | | | 1986 | | 1986 |
| **Рэжыцкая плябанія** | | | | 1241 | | 1241 |
| **Чэпельская плябанія** | | | | 1986 | | 1986 |
| **Гуфы базылянаў** | Махрова* | | | 147 | | 147 |
| | Горспля* | | | 203 | | 203 |
| | Парэчча* | | | 161 | | 161 |
| Разам **духоўных** | | | | 11404 | | 11404 |
| **дзяржаўных** | | | | 143067 | | 143067 |
| **Агулам** | | **8019** | **3035** | **262705** | **2212** | **275971** |

Складзена паводле: БЭФ, Мн., 1961. Т.3. С.42—43; РБАСА, ф.248, воп.64, спр.5607, арк.96, 137, 430, 451, 516, 662—669, спр.5625, арк.170, 790; НГА РБ, ф.3219, воп.1, спр.2035, арк.1—21.

* Уладанні, цалкам адабраныя ў дзяржаўны скарб.

губернскі дваранскі сход выносіў агульныя пастановы і пажаданні, якія да ног царыцы адвозіла спецыяльная дэпутацыя.

Новая ўлада дамаглася паслухмянасці дзякуючы секвестру і канфіскацыям уладанняў. На працягу 1772 — 1775гг. у дзяржаўны скарб было забрана 45 маёнткаў пятнаццаці можных асобаў (гл. табліцу).

З прыведзеных звестак вынікае, што ў нелаяльнай знаці ца-рызм адабраў 108234 сялян-мужчын, або амаль палову (48%) зарэ-гістраванага сялянства. Але пасля хадайніцтваў ранейшым гаспадарам было вернута 46102 душаў, ці палова секвестраванага. Другая палова разам з дзяржаўным сялянствам была падараваная высокім дастойнікам ды чыноўнікам з унясеннем 10 кап. за даравальную грамату. Граматы выдавалі за ваенныя подзвігі, службовую стараннасць, адданасць трону, асабістыя паслугі, у гонар урачыстасцяў венцаноснага дома. Напрыклад, контр-адмірал Ф.Ушакоў атрымаў 500 душаў з Гомельскага староства “за оказанные им искусства и храбрость”, адмірал В.Я.Чычагаў — 1388 сялян “в награждение долговременной и усердной службы”. Адным з першых атрымаў буйное падараванне (3902 душы сялян Нішчанскага, Ліснянскага і Клясціцкага войтаўстваў) кіраўнік дыпламатычнай падрыхтоўкі першага падзелу Рэчы Паспалітай і задушэння паўстання Е.Пугачова граф М.І.Панін. Перад самай смерцю, 24 сакавіка 1779г., ён прадаў царскую ўзнагароду свайму сакратару, вядомаму драматургу Дз. Фанвізіну — усяго 350 двароў, 3183 душы сялян і 13373 дзес. зямлі. Актыўны ўдзельнік следчай камісіі для расправы над пугачоўцамі, тады малады капітан, Г.Р.Дзяржавін атрымаў 321 душу сялян.

Быў адораны царскай ласкай прыдворны Алімп. Пералічу найбуйнейшыя падараванні: Г.Р.Пацёмкін— 10912 двароў, 78854 сялян абодвага полу, 110740 дзес., С.Г.Зорыч— 3453 двароў, 25132 сялян, 85580 дзес., І.М.Рымскі-Корсакаў— 1548 двароў, 11196 сялян, 71862 дзес., З.Р.Чарнышоў— 1565 двароў, 12502 сялян, 115152 дзес., А.А.Безбародка — 307 двароў, 2829 душаў, 22307 дзес., К.Р.Дашкава— 326 двароў, 5354 душаў, 16410 дзес., М.В.Кахоўскі — 297 двароў, 1710 душаў, 7531 дзес. і г.д. Увогуле Усходняя Беларусь стала палігонам насаджэння расейскага землеўладання. Кацярына ІІ раздала тут 155440 сялян-мужчын — 77% усіх яе падараванняў.

Паводле спісаў 1782г. усе 120 расейскіх саноўнікаў і дваран складалі толькі 2% землеўладальнікаў. Трымалі яны 168424 сялян (36% памешчыцкіх сялян) і звыш 2,1 млн. дзес. зямлі, ці 30% далучанага абшару. Гэтыя падарункі азмрочваліся даўгамі, спагонамі ды спрэчкамі папярэдніх трымальнікаў і спадкаемцаў. Існавала пагроза іх адчужэння

М.І.Панін.

праз мясцовыя суды ў ранейшыя рукі. Каб таго не адбылося, у 1777г. урад абвесціў усё секвестраванае ды сканфіскаванае неадчужальным да часу Генеральнага межавання. Апошняе ў 1783—1785гг. выканала Смаленская межавая кантора, якая правяла суцэльнае вымярэнне, картаграфаванне і статыстычнае апісанне земляў. Усе ўладальнікі самі або праз давераных распісаліся ў межавых дакументах за сапраўднасць дзеянняў землямераў. Тым самым яны добраахвотна і пад калектыўнаю парукаю прыраўнавалі насаджанае расейскае землеўладанне да спрадвечнага тутэйшага. Такія вось хітрыкі адных і згодлівасць другіх дазволілі паслядоўна зрусіфікаваць існы зямельны лад ды падарваць шляхоцкае саслоўе.

Праўда, пры арышце збанкрутаваных гаспадарак, пры сялянскіх хваляваннях, сваволі гаспадароў царызм умешваўся ў дачыненні між панамі і сялянамі. Дзіўна, але да Паўла І такіх хваляванняў амаль не было. Гэта тлумачыцца насаджэннем эканомікі сацыяльнай філантропіі: навападданым далі часовыя падатковыя льготы, утварылі багадзельні для калек і ўбогіх, на іхнае ўтрыманне збіралі харч і дровы, забаранялі вывозіць хлеб, калі здараўся неўраджай, заводзілі вясковыя запасныя крамы на ўтрыманне заняпалых і згалелых сялян і г.д. Падчас рэвізіі 1772г. М.Крачэтнікаў збіраўся акрэсліць памеры сялянскіх надзелаў

і павіннасцяў, каб абмежаваць уціск адзінаверных. Але хутка амовіўся, “снисходя на просьбу шляхетсва, чтоб первыя те ведомости не сделались им затруднительны”. Таму шляхта пазбегла нежаданай перспектывы прымусовага пераразмеркавання зямлі на карысць сялян і рэгулявання павіннасцяў ненавіснай Расеяй. А беларус-селянін застаўся панам сахі і касы на поўнай волі свайго пана. Так што інвентары, якімі зазвычай кіраваліся паміж сабой паны, не сталі афіцыйна прызнанымі дакументамі, абавязковымі для выканання.

У адрозненне ад папярэдняй дзяржавы, падаткі з 1772г. сталі выбіраць з рэвізскіх душаў. За кошт увядзення падушных збораў падаткі з далучанай тэрыторыі ўзраслі з 172825 руб. срэбрам да 1,3 млн. — г.зн. у 7 разоў. Але гэта сведчыла не аб драпежніцтве царызму, а пра памеры падману скарбу Рэчы Паспалітай пры ранейшым падворным і пазямельным абкладанні (калі не лічылі, колькі чалавек жыве ў хаце ці на зямлі). Натуральна, што знаць сустрэла навіну абурэннем. Шэраг знакамітых асобаў звярнуліся ў Пецярбург з заявай аб немагчымасці выплочваць драпежніцкія падаткі... з-за голаду і галечы сялян. Прычым апошняе звальвалі на якасць глебы і нават на гэбраяў. Каб высветліць сапраўднае становішча на месцах, Кацярына II 8 снежня 1772г. выклікала генерал-дырэктара Ліфляндскай эканоміі барона і калежскага саветніка А.І.Энгельгарта. На чале 8 экспертаў-немцаў ён да сакавіка 1774г. правёў рэвізію дзяржаўных уладанняў і прапанаваў шэраг захадаў для “поправления худаго домостроительства” ў вёсцы.

Камісія засведчыла гаспадарчую запушчанасць староставаў і параіла кампенсаваць падушны падатак аднаўленнем і завядзеннем фальваркаў — усё на карысць пасэсараў. Фальваркі заводзілі і каб выкараніць галечу, і каб вызваліць дзяржаву ад харчовага ўтрымання беднаты і не турбавацца аб спагнанні недабораў непа-пулярным гвалтам. Спаганяць мусілі самі пасэсары праз паншчыну. А паколькі трымальнікі староставаў ведалі толькі адзін спосаб кіравання — пугу ды бізун, то новая ўлада папрасіла іх ужываць цялесныя пакаранні так, каб яны “не походили на тиранство, но... были сносные и умеренные”. Каля 7% дзяржаўных сялян раздалі ў бясплатнае карыстанне арандатарам, бо маёнткі былі аблытаныя даўгамі, што ў 9-10 разоў перавышалі гадавыя даходы. Сяляне проста мусілі выплаціць тыя даўгі, каб ужо затым перайсці ў дзяржаўны скарб. Зразумела, што пасэсары дзяржаўных арэндаў імкнуліся замацаваць гэтак выгадны набытак у спадчыну, а сяляне стараліся як маглі вызваліцца з-пад прыватнай залежнасці.

Каб унікнуць хваляванняў і недабораў падчас арэнды, улада заключала з пасэсарамі староставаў пяцігадовыя кантракты. Пасэсар меў здаць уладанне не разораным і без

Ц.І.Тутамлін.

даўгоў, спаганяць якія непазбежна мусіла дзяржава. Чыноўнікі як маглі ўхіляліся ад такой перспектывы, бо за заняпаласць гаспадарак іх каралі вылічэннямі з заробнай платы. Таму ў кантрактах загадзя абгаворвалі перыядычную рэвізію арандаваных маёнткаў з апытаннем сялян. Пры справядлівасці сялянскіх скаргаў недаборы спаганялі з арандатара. Каб пераадолець боязь памешчыкаў арандаваць староствы (звычайна ўжо разрабаваныя папярэднікамі), царызм заахвочваў паншчыну.

Адрозна ад сваіх папярэднікаў, Кацярына II талерантна паставілася да 52 тыс. усходнебеларускіх гэбраяў, бальшыня якіх жыла ў вёсках, а не ў мястэчках ці гарадах краю. Праўда, напачатку мясцовыя ўлады спакусіліся зваліць на іх “поголовное убожество” сялян. Бараніць адзінапляменнікаў пры царскім двары ўзяўся магілёўскі купец Б.Шпеер. З ягоным актыўным удзелам і пад старшынствам пскоўскага губернатара М.Крачэтнікава ў Полацку 6 — 7 верасня 1773г. прайшла нарада дэпутатаў ад кагалаў губерні. Яна выпрацавала Установу аб арганізацыі кагалаў, якая фактычна дзейнічала да часу знішчэння кагалаў (1884г.). Згодна з

праектам, кожны кагал узначальвалі 6 старшыняў з 3 памочнікамі. Чацвёра старшыняў выбіраліся агульным сходам падаткаплатнікаў, а два — брацтвамі рамеснікаў. У кожнай правінцыі быў свой кагал, якому падпарадкоўваліся філіі-прыкагалкі. Працэсы паміж гэбраямі і хрысціянамі разбіралі земскія суды, а духоўныя справы вырашалі рабіны з уласнымі суддзямі. Выбары суддзяў ва ўсе кагалы былі штогадовыя. Першыя выбары ў кагалах Магілёўскай губерні адбыліся 1 чэрвеня, а ў Пскоўскай — 10 снежня 1774г. Усяго ў 13 кагалаў і 63 прыкагалкі было абрана 483 суддзі.

Гэбрайскім грамадам нядоўга давялося зведваць карысці ад захавання сацыяльнай аўтаноміі. Прапінацыя (права вінакурэння і продажу напояў) раней лічылася традыцыйнаю прэрагатываю шляхты. 30 снежня 1772г. Чарнышоў дазволіў прапінацыю ўсім асобам свецкага і духоўнага стану, акрамя дробнае шляхты. Для карыстання гэтым правам было дастаткова заплаціць спецыяльны вінакурны падатак з колькасці рэвізскіх душаў. У гарадах і мястэчках вінакурэнне на водкуп здавалі магістраты, а ў паветах — памешчыкі. Паколькі ў 1779г. гэбраям дазволілі запісвацца ў купцы і мяшчане наваствораных гарадоў Полацкай і Магілёўскай губерняў, то паміж магістратамі і дваранамі разгарэлася барацьба за гэбраяў-падаткаплатнікаў.

Пасля выбараў прадвадзіцеляў у 1779г. дваранскія сходы запатрабавалі захаваць прапінацыю за шляхтаю, бо скардзіліся, што гарады марнуюць палову ўраджаю і тым даводзяць сялян да галечы. Гарадскія магістраты кінуліся бараніць свае старадаўнія прывілеі, але коштам выключэння з іх гэбраяў. Хрысціянская верхавіна гарадоў адмаўляла гэбраям у прапісцы як дарэмным утрымальнікам, выганяла з пляцаў і сядзібаў, не дапушчала да выбарных пасадаў і вінных водкупаў і г.д. Цар не прыняў боку пакрыўджаных, хаця задаволіў некаторыя іхныя скаргі. У 1786г. гэбраяў пазбавілі права вінакурэння ў гарадах, дазволіўшы трымаць корчмы і шынкі па панскіх маёнтках з умовай “не отвлекать крестьян” ад паншчыны, — працей кажучы, не спойваць іх.

Аднак памешчыкі разгортвалі ўласнае вінакурэнне ды марнавалі грошы. Практычна палова дзяржаўных сродкаў асядала ў бязмерных панскіх кішэнях, што, разам з няспыннымі захопніцкімі войнамі, спрычыніла рост бюджэтнага дэфіцыту. Яго пагашалі бесперапынным выпускам папяровых асігнацыяў. Золата і срэбра знікалі з абарачэння. Квітнелі фальшываманецтва ды кантрабанда, апошняя — асабліва на мытнях беларускіх губерняў, дзе замежныя тавары прапушчалі без мыту. Паколькі тутэйшыя гэбраі актыўна пасярэднічалі ў замежным гандлі, дык яны і трапілі ў спіс галоўных злачынцаў і кантрабандыстаў.

Судны дзень надышоў у кастрычніку 1789г., калі ў Маскве

Я.Сіверс.

ў магілёўскага купца Вольфа Мойшавіча знайшлі 700 руб. падробленых асігнацыяў. Маскоўскае купецтва скарыстала момант і запатрабавала забараніць гэбраям запісвацца ў расейскіх гарадах на жыхарства як несумленным гандлярам. Кацярына II загадала беларускаму намесніку П.Пасеку знайсці і знішчыць "гнездо" фальшываманетнікаў у Шклове ці каля мяжы з Поль-шчай. Але марна. Тады ўлады вырашылі штогод рабіць генеральны перагрус усіх кірмашоў ды лавак імперыі (!), каб выкараніць кантрабанду й злодзеяў. Першую рэвізію зрабілі ў Маскве, але тутака знайшлі запісанымі ў купецтва толькі трох гэбраяў. Справа набыла галоснасць, бо канфіскацыя тавараў спыняла гандаль ды наносіла страты. Дый ці варта тады наагул штогод спыняць увесь гандаль дзяржавы з-за нейкіх там гэбраяў? І царскія ўлады сталі на звыклы шлях забаронаў. 23 снежня 1791г. Кацярына II забараніла гэбраям запісвацца ў грамадзянства расейскіх гарадоў. Яны маглі жыць толькі ў межах беларускіх і іншых заходніх губерняў. Так усталявалася знакамітая мяжа аселасці.

З першых дзён далучэння новая ўлада запэўніла ўсе станы жыхароў у захаванні не толькі маёмасных правоў, але і свабоды веравызнання. Аднак да далучаных земляў паставіліся як да пераважна праваслаўных, з часу вуніі XVI ст. гвалтоўна або падманам адарваных ад адзінавернай Расеі,

а насельніцтва іх захавала ў сэрцах нястомнае жаданне зноў вярнуцца да веры продкаў. Між тым падушныя перапісы паказалі іншае. Паводле стану на 1782г. каталіцтва вызнавала 114 тыс. вернікаў (9%), лютэранства — 5 тыс. (0,5%), праваслаўе — 481 тыс. (38%), але палова насельніцтва (665 тыс., ці 52%) была ўніятамі. Матэрыяльны стан канфесіяў розніўся вельмі значна. У тым жа 1782г. 674 духоўнікі-каталікі трымалі 474439 сялян і 255460 дзес. зямлі, тады як звыш 2300 праваслаўных святароў валодалі 2717 сялянамі і 10127 дзесяцінамі. Каб зрабіць далучаную прастору сапраўды адзінавернаю, патрабавалася змяніць канфесійную структуру насельніцтва на карысць праваслаўя.

Самым моцным бастыёнам Ватыкану, які Кацярына II не адважылася закрануць, быў езуіцкі ордэн. 200 законнікаў Полацкай, Дынабургскай, Віцебскай, Аршанскай калегіяў ды 2-х рэзідэнцыяў (у Магілёве і Мсціслаўі) валодалі 40% усяе ўласнасці рыма-каталіцкага духавенства. Яны першыя прысягнулі на вернасць двугаловаму арлу, які ахаваў іх ад вынішчальнага папскага брэвэ (загаду аб роспуску ордэну ў 1774г.). Праўда, рэктар Полацкай калегіі С.Чарневіч тады ж хадайнічаў перад уладамі аб сама-роспуску ордэну, які, меркавалася, пры малалікасці манаства і без падтрымкі Вярхоўнага пантыфіка “нядоўга пратрымаецца”. Тады ўлады падпарадкавалі ордэн залежнаму ад іх каталіцкаму біскупу С.Сестранцэвічу. Яго ў 1783г. зрабілі арцыбіскупам магілёўскім, чыёй касцельнай уладзе падлягалі ўсе каталікі імперыі.

Наваствоpанае арцыбіскупства царызм акружыў шчыльным даглядам. Каталіцкім святарам катэгарычна забаранілі схіляць у сваю веру іншаверцаў. Парафіяльных плябанаў забавязалі даносіць на замежных пастыраў, што гасцявалі ў краі. Калі ж апошнія ўязджалі без дазволу ўладаў, то іх спрытна вытуралі. У 1785г. уладанні каталіцкай царквы былі прыраўнаваныя да дзяржаўнай маёмасці, што дазваляла сэкулярызаваць іх у кожны момант і засцерагчы ад адчужэння фундатарамі (заснавальнікамі).

Узвышэнне праваслаўя да стану паноўнага вызнання даводзілася рабіць, так бы мовіць, з нуля. Бо толькі ў адной Магілёўскай губерні ў 1772г. праваслаўныя інакі трымалі ледзьве 2% сялян пад юрысдыкцыяй усіх цэркваў і кляштараў і самі станавіліся за саху. Субсідыі двара, заснаванне гарнізонных цэркваў, падтрымка саноўнікаў у падараваных маёнтках не змянілі сітуацыі. Вялікую надзею ўрад усклаў на Генеральнае межаванне, падчас якога збіраўся даць кожнай прыходскай царкве стандартны выдзел у 36 дзес. зямлі. Але памешчыкі-каталікі адвялі належныя нормы мізэрнай колькасці праваслаўных цэркваў. Давялося атакаваць іншаверную іерархію.

З. Карнееў.

Для ўніятаў настаў судны дзень. Яшчэ ў 1767г. ва ўрадзе ўніятаў цвёрда лічылі сектай, “отщепенцами нашей веры, отнюдь к католицкой прямо не присоединившихся”. У 1780г. канцлер імперыі А.Безбародка наважыўся “дать последний и решительный удар секте, происшедшей от хитрости папистов и от крайнего невежества наших единоверных”, скарыстаўшы звальненне з пасады полацкага ўніяцкага біскупа Я.Смаржэўскага. У царскіх кабінетах вырашылі цягнуць з намінацыяй пераемніка, а тымчасам навярнуць у праваслаўе як мага больш уніятаў-сялян, якія толькі чакаюць царскага слова і падтрымкі. Рабілася тое пад выглядам апытання адшчапенцаў і іх добраахвотнай згоды вярнуцца да рэлігіі продкаў. Настроі ў прыходах высвятлялі “сколь возможно осторожнее, не говоря нигде ни о каком обращении к благочестивой церкви”.

Аднак схаваць намеры не ўдалося. Шырыліся чуткі аб пагалоўным галенні барадаў. Сялян застрашалі павелічэннем аброкаў за непадтрымку ўрадавай акцыі і наагул чым толькі не пужалі. Сам перавод нярэдка гвалтам выконвалі вайсковыыя каманды. Сакрэтны вышук выявіў, што з 1772г. вернападданую прысягу не склала палова манахаў-базіліянаў! Зачыніць уніяцкія кляштары не адважыліся, бо за надзейнасць ксяндзоў заступілася заможнае купецтва. Каталіцкі клір скарыстаў урадавы дазвол на апытанне прыхаджан-уніятаў і

стаў перацягваць іх у сваю веру. Нягледзячы на цяжкасці, царызму ўдалося з 1780 да траўня 1783г. навярнуць у праваслаўе 95 уніяцкіх прыходаў з 111573 вернікамі. У параўнанні з 1777г. гэта было амаль двухразовае павелічэнне праваслаўнае паствы. Аднак усё роўна праваслаўе не трыумфавала, і бальшыня сялянства так і трымалася пасяродкі паміж каталіцтвам і верай “вызваліцеляў”.

Далучаны край у Пецярбургу называлі Беларускімі губернямі, Белай Расеяй. Соймавая згода, вернападданая прысяга, пераважна мірнае прырашчэнне праваслаўя — усё разам мусіла пераконваць свет і нашчадкаў аб добраахвотным далучэнні насельнікаў усходнебеларускіх земляў да Расейскай імперыі. Адтуль і павялася і старанна выпястоўвалася канцэпцыя “воссоединения”...

## “Запрашэнне” агрэсара

Паноўны стан ацалелай пасля першага падзелу Рэчы Паспалі-тай усведамляў неабходнасць рашучых дзеянняў як адзінага шанцу выжыць.

Ратунку ад скону дзяржавы шукаў Чатырохгадовы (Вялі-кі) сойм 1788 — 1792гг. Увасабленнем ягонае рэфармацыйнае працы стала Канстытуцыя 3 траўня 1791г. Радыкалы замацавалі ў ёй дэкларацыю аб перадачы сялян пад апеку закона і дзяржавы. Аднак асабістую волю атрымалі толькі імігранты-новапасяленцы. Свайму ж сялянству волі не далі, баючыся агаліць панскія маёнткі. Вызваленне сялян пакінулі на асабістую ініцыятыву валадароў прыгонных, якія, натуральна, заенчылі ўжо ад самай дэклярацыі абмежавання панскага свавольства. 2 жніўня 1791г. кароль паспяшаўся загадаць пры найменшым з’яўленні бунтоў прыводзіць сялян у паслушэнства.

Свае пастановы сойм лічыў рэвалюцыйнымі крокамі дзеля выратавання і будучага росквіту. Ён скінуў палітычны дыктат Расеі (пратэктарат) — “путы няволі і безуладдзя” — ды паабяцаў вызваліць абываталяў “ад дэспатызму мажнаўладцаў”. Праўда, каб пазбавіць магнатаў звыклай кліентуры, давялося... адабраць у немаёмнай шляхты права выбарчага голасу. І хаця такім чынам касавалася векавечная шляхоцкая роўнасць, але вярхі рабілі ўсё, каб надаць прысяганню новай Канстытуцыі характар усеагульнай, аднадушнай і шумнай акцыі. Соймавыя павадыры абвесцілі праціўнікаў Канстытуцыі “ворагамі Айчыны, здраднікамі і бунтаўнікамі” дый забаранілі яе нават тлумачыць.

Атмасфера эйфарыі аказалася паказной і часовай. Соймавы замах на састарэлы лад і шляхоцкую роўнасць зноў раскалоў грамадства і стаў выгаднай зачэпкай для замежнага ўмяшальніцтва. Найбольш скарыстала з сітуацыі Расея, за

якой ранейшыя соймы (1768 і 1775гг.) замацавалі канстытуцыйнае права гаранткі і ахоўніцы існага ладу Рэчы Паспалітай. Ужо ў сакавіку 1790г. Кацярына II пасунула 25-тысячнае войска да заходніх межаў імперыі. Сваім дыпламатам яна загадала дзейнічаць на сойме “через приятелей так, чтоб не обвинил свет нас, яко начинателей новой войны, а союзники не уклонились от соучастия” у прадугледжанай агрэсіі. З 500 дэпутатаў Вялікага сойму ў спіс надзейных хаўруснікаў Расеі трапіла 56 паслоў і 34 сенатары: інфлянцкі біскуп Язэп, кашталян Антон, віцебскі ваявода Міхал Касакоўскі, жмудскі біскуп Стэфан Гедройц, троцкі кашталян Казімер Канстанцін Плятар з братам Аўгустам, мсціслаўскі ваявода Ксавэры Хаменскі, віленскі ваявода Міхал Геранім Радзівіл, віленскі біскуп Ігнацы Масальскі, наваградскі ваявода Язэп Несялоўскі, берасцейскі ваявода Лявон Швыкоўкі, менскі ваявода Адам Хмара, з Ашмянскага павета пасол Ігнацы Хаменскі, з Браслаўскага — граф Станіслаў Мануцы і Ян Швыйкоўскі, з Лідскага — лоўчы Язэп Забела, з Аршанскага — маршалак Вінцэнт Язафовіч, з Менскага — Сымон Шыдлоўскі, а таксама літоўскі стольнік Язэп Чартарыскі і кашталян Сымон Забела. Варта ведаць гэтыя імёны.

Пасля таго, як у жніўні 1790г. Сойм прыняў закон аб непадзельнасці тэрыторыі Рэчы Паспалітай і ўвёў пакаранне за хабар для лабіравання чужаземных інтарэсаў, каранаваныя драпежнікі прыспешылі свае ўгоды. У сакавіку 1791г. прускі і расейскі манархі ўзгаднілі зоны анексіі тэрыторыяў Рэспублікі. Анексія мела быць кампенсацыяй за страты ў войнах супраць Турцыі і Францыі. У студзені 1792г. царызм завершыў вайну з Турцыяй і вызваліў войскі для запланаванай інтэрвенцыі. Пецярбург разлічваў на радасны прыём з боку адзінаверцаў і на “черный народ, который... поляков господ своих ненавидит”. Для інтэрвенцыі падрыхтавалі 6 конных, 10 пяхотных, 5 казачых палкоў і Эстляндскі корпус пад камандай генерал-аншэфа М.Н.Кра-чэтнікава. Гэтую сілу забяспечылі 10-дзённым запасам харчу, які меў быць дастаўлены з Полацка, Дынабурга, Рагачова і Талачына на паўтары тысячах фурманак.

27 красавіка 1792г. незадаволеныя магнаты падпісалі ў Пецярбургу так званы Таргавіцкі акт. Соймавыя новаўвядзенні Канстытуцыі 3 траўня там называліся гвалтоўным парушэннем кардынальных правоў Рэспублікі, якое трэць дэпутатаў навязала і самому сойму, і ўсяму народу. Перад уварваннем войскаў у ВКЛ таргавічане вырашылі стварыць лаяльныя шляхоцкія канфедэрацыі, каб інтэрвенцыю “можно было объяснить просьбою о помощи со стороны народа” і прадэманстраваць, што канфедэрацыі “составляются добровольно ШЛЯХЕТСТВОМ, угнетенным и лишенным прав

своих и вольности беззаконною и насильственною конституциею 3 мая”. (Вось вам і “народ”, які вечна прагнуў “яднання”.) Да таго ж Кацярына II загадала Крачэтнікаву спяшацца “занять КАК МОЖНО СКОРЕЕ и БОЛЕЕ княжества Литовского”, каб апярэдзіць скліканне там паспалітага рушання і не дапусціць пранікнення ў імперыю агалошанай соймам “вольности между крестьянами”. Такі быў страх нават перад тым, чаго папраўдзе сойм не абвяшчаў!

Крачэтнікаў рушыў 73-тысячную армію 11 траўня 1792г. з загаданай хуткасцю. Гэта адбылося адразу пасля пышнага святкавання гадавіны Канстытуцыі 3 траўня ў Вільні, адкуль варшаўскі Сойм запэўнівалі аб рашучасці ліцьвінаў бараніць закон і караля. Аднак рашучасці не хапіла, і літоўскае войска ратавалася панічнымі ўцёкамі з мяжы. Склікаць паспалітае рушанне Сойм не спяшаўся: упэўнены ў масавай падтрымцы сваіх рашэнняў, ён не жадаў узбройваць сялян і мяшчан ды асцерагаўся справакаваць супольнае ўварванне агрэсіўных суседзяў.

Між тым прускі манарх, ужо патаемна звязаны з Пецярбургам, адмовіўся ад саюзніцкай дапамогі Рэчы Паспалітай. Нарада пры каралю спрабавала праз літоўскага канцлера І.Храптовіча ўлагодзіць Кацярыну II абяцаннем аддаць трон ейнаму ўнуку. Аднак царыца рашуча запатрабавала капітуляцыі і вуснамі свайго пасла Я.Булгакава абвесціла вайну. Сойм 19 траўня прыпыніў дзейнасць да перамогі і абвесціў ваеннае становішча. Але ініцыятывай ён не валодаў. Зрэшты, не ўбачылі святочнага прыёму і наездцы.

Спісы шляхты, якая выступала з антысоймавымі адозвамі і добраахвотнымі запрашэннямі царскіх войскаў у ВКЛ, збіраў генерал-паручнік Сымон Касакоўскі. Ад кіраўнікоў мясцовых канфедэрацыяў патрабавалі залучаць туды шляхту, нават калі яе будзе “хотя небольшое число”. Спісы абвяшчаліся ў гарадскіх канцылярыях, каб, як пісаў Крачэтнікаў, усё выглядала “по законам древней их конституции” — так сказаць, законна і прыстойна. Праз разасланых эмісараў абвяшчалася, што царскія войскі маршыруюць “не для разорения и угнетения поселян, а выступают защитниками их вольности и охранителями от всякого угнетения”. Уласнікаў запэўнівалі аб непарушнасці прыгону. Не маючы прыгонных і супакоеная адсутнасцю пагрозы зраўнавання з імі, шляхта ў бальшыні абыякава назірала за парадным шэсцем “вызваліцеляў”. Патрыёты дзівіліся на ўцёкі ўласных войскаў і пыталіся: “Якія-такі ёсць намер нашага войска, што адступае, будучы з непрыяцелем у роўнай сіле, перавышаючы яго мужнасцю і ахвотаю?”

11 чэрвеня паў Нясвіж з 500 гарматамі, 1569 стрэльбамі, 277 цесакамі, 266 шаблямі, 26 бочкамі пораху. 29 афіцэраў і 803 жаўнераў прывялі да прысягі і распусцілі па хатах. Пад

Шчучынам Крачэтнікаў выдаў загад, што за супрацiў ён “употреблять будет войско”, а палонных накiруе ў Цвер. Рэшткi лiтоўскай армii пакiнулi альбо практычна кiнулi край без абароны.

25 чэрвеня 317 чал. стварылi канфедэрацыю Менскага ваяводства. 30 чэрвеня 500 чал. падпiсалi акт Горадзенскага звязу. 8 лiпеня свае подпiсы паствiлi 1400 чал. Берасцейскага ваяводства. Свой корпус Крачэтнiкаў размясцiў так: 3 палкi стаялi па лiнii Берасце — Нараў, 3 — памiж Пiнскам i Горадняй, 5 — на лiнii Слуцак — Наваградак — Лiда — Вiльня. Крачэтнiкаў неадкладна паведамiў царыцы, што зараз “в целой Литве не найдется таких, кои бы способны были предпринять что-либо против покровительствуемой конфедерации”.

Генеральную канфедэрацыю ВКЛ абвесцiлi ў Вiльнi 14 чэрвеня 1792г. пад старшынствам вялiкага лiтоўскага канцлера Аляксандра Сапегi. Абраны польным гетманам княства С.Касакоўскi адвёў на прысягу гэтай канфедэрацыi 2 тыднi. Дэпутатам i прыхiльнiкам Вялiкага сойму далi 2 месяцы скласцi рэцэсiю (адрачыся ад падтрымкi Сойму) пад пагрозай секвестру маёмасцi. Гетман загадаў хапаць “агiтатараў вольнасцi сялян” як бунтаўнiкоў i адсылаць iх на суд канфедэрацыi. Гараджан, местачкоўцаў i гэбрайскiя кагалы заахвочвалi даносiць на тых, хто абцяжарваў iх новымi соймавымi падаткамi. З “працiўнiкамi волi лiтоўскага народу” Касакоўскi патрабаваў абыходзiцца як з “партызанамi i няпрыяцелямi сваёй Айчыны”. Духавенства мусiла 4 тыднi бласлаўляць абаронцаў “рэспублiканскiх свабодаў” i абвяшчаць забарону распаўсюджваць лiсты супраць “Вольнай канфедэрацыi ВКЛ”.

Праўда, неўзабаве водцы канфедэрацыi ўбачылi “на амбонах касцельных не апосталаў... а партызанаў, а ў некаторых плябанiях — не пастыраў, а бунтаўнiкоў”. Ксяндзам параiлi не блытаць палiтыку з догмаю, абавязаўшы “даносiць верна i сумленна на парушальнiкаў публiчнага спакою i тых, хто не па-людску абыходзiцца са сваiмi падданымi”. У iмя захавання цэласцi каталiцкае веры была ўведзеная цэнзура. Для пашырэння адукацыi меркавалася ўзнавiць езуiцкi ордэн. Аднак для гэтага трэба было адабраць прыватызаваныя маёнткi...

Настаў час пець Лазара. Ва ўнiверсале ад 29 жнiўня 1792г. павадыры Вольнай канфедэрацыi ВКЛ ахвотна заявiлi, што канфедэрацыю падтрымлiвае “40 тысяч народу лiтоўскага, брацці шляхты рознай ва ўрадах у самiм княстве”. I гэта пры тым, што аднае шляхты ў ВКЛ лiчылася блiзу 86 тыс., а сярмяжнага люду — каля 630 тыс. З Вiльнi канфедэрацыю ВКЛ перавялi ў Берасце. 31 жнiўня яе злучылi з кароннаю канфедэрацыяй, каб узнавiць скасаваны Вялiкiм соймам лад. Урачыстасць вiталi 51 гарматным стрэлам. Для ўзнагароды

паслугачоў з Масквы выпісалі 15 партрэтаў царыцы...

Царскія войскі апанавалі абшар прыблізна ў 3 тыс.кв.км і з насельніцтвам больш як 7 млн.чал. Менавіта гэты абсяг царскі ўказ ад 8 снежня 1792г. назваў “издревле России принад-лежавшим”, дзе гарады пастаўленыя расейскімі князямі, а “народы общаго с россиянами происхождения, нам единоверные”. Тым не меней Крачэтнікаву загадалі “не открывать никому истинных видов” таго “вяртання”, хаваючы планы “всегда под предлогом удобнейшего пропитания или же движением со стороны турков”. З гэтымі землямі адразу абыходзіліся як з заваяваным краем. Польска-літоўскае войска подкупам “и силою оружия” распушчалі, непаслухмяных слалі ўглыб Расеі. Крачэтнікаву даверылі пасаду генерал-губернатара далучаных земляў, ваенная і цывільная ўлада не размяжоўваліся. Да апошняй дапушчаліся “природныя тамошния жители, в коих более привязанности к империи нашей усмотрено будет”.

Чыноўнікаў бралі з Маларосіі, Тульскай і Калужскай губерняў. Адміністрацыю і суды стваралі на ўзор Установы 1775г. Усе захады нацэлілі на ўкараненне “правосудного, кроткого, чело-веколюбивого правления”, каб новападданыя самі тлумачылі далучэнне да Расеі анархічным ладам папярэдняе дзяржавы. З таго часу “анархію” стала модна проціпастаўляць выратавальнай ролі цэнтралізаванага імперскага кіравання.

Афіцыйна пра далучэнне царская ўлада абвесціла 27 сакавіка 1793г. На апанаваным абшары паводле ўказа ад 3 траўня 1795г. была ўтворана Менская губерня. Астатнюю Рэч Паспалітую было вырашана ўладкаваць на сойме ў Горадні. Таргавічане не адважыліся склікаць сойм, баючыся скасоўваць тэрытарыяльную цэласць дзяржавы, і даручылі зрабіць тое сталай радзе, складзенай пераважна з вялікакняскіх прадстаўнікоў. Але і яны адмовіліся. За гэта расейскі пасол у Варшаве О.Ігельстром ахрысціў ранейшых сяброў “шулерами, разбойниками и плутами”.

Тады націснулі на караля, якому захопнікі абяцалі сплаціць 33 млн. ягоных уласных даўгоў ды даць 200 тыс. чырвоных (каля 396 тыс.руб. срэбрам) штогадовай пенсіі. І Станіслаў Аўгуст Панятоўскі павёў Айчыну ў небыццё. Ён аддаў загад аб капітуляцыі польска-літоўскага войска. Панятоўскі прыстаў да аб’яднанай канфедэрацыі, а Вялікі сойм назваў згубай. Кароль склікаў у Горадні сойм, загадаўшы выбіраць на яго толькі таргавічан. Выбары прайшлі пад акампанемент дзяжурнай патрыятычнай рыторыкі, гарматных стрэлаў і піўных струмянёў. Панятоўскага са світай у 153 асобы прыдворных прывезлі ў Горадню і пасадзілі пад хатні арышт. Да 5 студзеня 1797г. ён бавіўся тут паляваннямі, балямі, гульнёй у більярд, пісаннем мемуараў.

Горадзенскі сойм адбыўся пад аблогай расейскіх войскаў у прамежак з 17 чэрвеня да 23 кастрычніка 1793г. З 140 ягоных паслоў амаль палова карміласся грашовымі падачкамі Пецярбурга, хаця паслы натхнёна абураліся вераломствам запрошаных войскаў і агітавалі адзін аднаго не саступаць ніводнага кавалка зямлі. Нават кароль адважна заявіў, што ён падтрымаў таргавічан дзеля захавання цэласці Рэчы Паспалітай і пазбавіць яе братазабойчай грамадзянскай вайны. Сойм аднагалосна забараніў расчалясоўваць Рэспубліку, паклікаўшы на дапамогу Бога і еўрапейскія дзяржавы. Тады расейскі пасол Я.Сіверс арыштаваў 5 паслоў і наклаў секвестр на ўладанні Л.Тышкевіча і М.К.Агінскага. У выніку 74 галасамі супраць 59 сойм вылучыў паўнамоцную дэпутацыю для падпісання анексійнага трактата з Расеяй.

22 ліпеня дэлегацыя падпісала вочны дагавор з Расеяй, саступіўшы ёй захопленыя землі. Узамен Кацярыну II прасілі абараніць рэшткі тэрыторыі краіны ад тэрытарыяльных дамаганняў прускага караля. Дзеля паскарэння злучэння Панятоўскі нават пагаджаўся аддаць карону вялікаму князю Канстанціну. Кацярына II паабяцала захаваць тэрытарыяльную цэласць рэштак дзяржавы і не перашкаджаць іх канстытуцыйнаму ўладкаванню.Гэта было сустрэта захапленнем і адзначана святочным абедам на 77 прыбораў. 17 жніўня 1793г. сойм ратыфікаваў дамову з Расеяй. Толькі 12 паслоў пратэставалі супроць ганебнага акту. Астатнія для заспакаення ўласнага сумлення перад нашчадкамі заявілі, што саступілі сіле і запабеглі пагрозе грамадзянскае вайны.

Тут і прускі манарх запатрабаваў сабе падобнае дамовы. Расейская імператрыца загадала паслам згадзіцца. Што тут пачалося! Абураныя паслы нават выгналі Падгорскага за прапанову пагадзіцца з гвалтам. Тады Сіверс атачыў замак 2 батальёнамі, навёў на яго гарматныя жаралы і загадаў прынесці дэпутатам літоўскага народу сена для начлегу. Пры поўным маўчанні залы Сойм ухваліў дамову з Прусіяй. Наступныя справы рушылі лягчэй. Быў ухвалены 15-тысячны штат войска. Л.Тышкевіча паслалі да царыцы нагадаць прапанову аб персанальнай уніі дзяржаваў.

Аднак у Пецярбургу ўжо не лічыліся з таргавічанамі — гэтым “рассадником коррупции и бесправия”. Тады сойм назваўся Гора-дзенскай канфедэрацыяй і без абмеркавання прыняў Кансты-туцыю ацалелай Рэчы Паспалітай. Апошняя засталася ўнітарнаю дзяржаваю (без падзелу на Карону і ВКЛ), падзеленаю на роўна-вялікія ваяводствы. Ваяводствы складаліся з трох паветаў або зем-ляў. Са спадчыны Вялікага сойму засталіся зямянскія суды, пазбаў-немаёмнай шляхты выбарчых правоў, а таксама права мяшчан буйных гарадоў набываць землі і шляхоцкую годнасць. Ствараўся аднакаморны сойм, які склікаўся што 4 гады на 8-тыднёвыя

сесіі. З кожнага павета выбіралі па 2 пaслы. Каралю пакінулі дэка-рацыйныя функцыі. Рэальную ўладу забрала сталая Рада, якая магла склікаць сойм нават без згоды караля. На месцах кіравалі парадкавыя камісіі, куды выбіралі па 12 чал. з кожнай зямлі.

У апошнія дні сесіі сойм ухваліў пастановы наконт Галоўнага Літоўскага трыбуналу, спадчыны Радзівілаў і лёсу Кракаўскага арцыбіскупства. Ліцвіны абаранілі сваю аўтаномію і дабіліся, каб у кароне і ВКЛ было па 4 каталіцкія арцыбіскупствы, а аднаму з уніяцкіх біскупаў далі сенатарскае крэсла ў годнасці мітрапаліта. Каб не звязваць вынікі другога падзелу такімі заканадаўчымі путамі, Кацярына ІІ з маўклівай згоды горадзенскай Рады 17 студзеня 1794г. забараніла друкаваць соймавыя пастановы — усе!

Як іх ні хавалі, але ў лютым надышлі выбары ў парадкавыя камісіі. Удзельнікі Таргавіцкай канфедэрацыі мелі на іх першынство. Гэта азначала поўную рэстаўрацыю рэжыму, што існаваў да канстытуцыі 1791г.

Адчайныя спробы выратаваць Айчыну ўзброеным паўстаннем на чале з Т.Касцюшкам, як вядома, не мелі поспехаў. Манархі Расеі, Аўстрыі і Прусіі супольна рушылі душыць паўстанне. Венцаносцы Расеі і Аўстрыі першымі пажалі карысці і таропка заявілі, што “убежденные опытом прошедшего времени и решительной неспособности польской республики устроить у себя сильное правление или же жить в состоянии какой-либо независимости, признали за благо выполнить совершенный раздел этой республики”. У снежні 1794г. царскі двор акрэсліў заходнюю мяжу сваёй анексіі — па рацэ Буг да Берасця і “до пограничной черты воеводства этого имени в Подляхии, затем она направится до прямой линии границами воеводства Брестского и Ново-грудского до р.Немана напротив Городно, откуда она пойдет вниз по этой реке до места, где она вступает в прусские владения”.

Такім чынам, тэрыторыя расейскай анексіі сутыкалася з прускай. Іх сутыкненне прывяло нават да сур’ёзнай падрыхтоўкі да вайны. Прадухіліць апошнюю мелі планы захавання Рэчы Паспалітай у якасці буфернай дзяржавы. Але бакі не пайшлі на захаванне самастойнасці Рэспублікі. Яны вырашылі канчаткова і цалкам падзяліць ахвяру ў якасці ўзнагароды самім сабе за саюзныя дзеянні супраць рэвалюцыйнай Францыі. У пошуках паразумення з Прусіяй Пецярбург вырашыў адступіцца ад спрэчнага горадзенскага прадмесця і ад часткі горадзенскай эканоміі. У рэшце рэшт пруска-расейскія чыноўнікі акапалі мяжу 371 слупамі і падпісалі акт аб яе дэмаркацыі 3 жніўня 1796г. Раздзельчы трактат усе тры манархі падпісалі 13 кастрычніка 1795г. Праз тыдзень польскі кароль адрокся пасаду і апошнія гады правёў у Пецярбургу. Памёр ён 12 лютага 1798г. Начамі стагнаў,

рыдаў, клікаў Бога і сваімі енкамі прыводзіў прысутных у жах. Хавалі яго з належнымі ўрачыстасцямі: пашану аказала 20-тысячнае войска, а малебства чыніў арцыбіскуп С.Сестранцэвіч. 15 студзеня 1797г. удзельнікі апошняга падзелу абавязаліся не ўжываць у сваіх тытулах назвы "Польскае Каралеўства". Рэч Паспалітая знікла.

17 снежня 1794г. па ўсіх цэрквах ВКЛ быў абвешчаны царскі маніфест аб "освобождении Литвы от мятежников" і вечным далучэнні рэштак Княства да імперыі. Падзячны малебен спраўлялі 4 выхадныя дні запар адначасова з прынясеннем вернападданай прысягі ўсімі саслоўнымі станамі. У мэтах увядзення новай адміні-страцыі і падаткаў ВКЛ спачатку падзялялася на тры часткі: Гора-дзенскую (з Горадзенскім, Ваўкавыскім, Слонімскім, Наваградскім, Берасцейскім паветамі), Ковенскую — усяго ў складзе 17 паветаў. Гэтую будову перайначылі ўказам ад 8 жніўня 1796г., калі княства падзялілі на Віленскую (11паветаў) і Слонімскую (8паветаў) губерні. Адчынілі іх у якасці намесніцтваў, але без назначэння генерал-губернатараў: кожная мела асобнага губернатара.

Аднак і такі падзел праіснаваў нядоўга. Не хапала сродкаў на выкуп Ліды, Наваградка, Ваўкавыска дзеля пераводу іх у разрад павятовых цэнтраў. Вырашылі браць сродкі з секвестраваных уладанняў. Аднак пасля звароту арыштаваных маёнткаў ранейшым гаспадарам грошай стала не хапаць. Тады, 12 снежня 1796г., Віленскую і Слонімскую губерні аб'ядналі ў Літоўскую ў складзе 11 паветаў. Згодна рэвізіі 1795г. тут лічылася 1567893 чал. падатковага насельніцтва.

Матывы ваганняў ураду наконт тэрытарыяльнае будовы далучанага дазваляе зразумець ліст літоўскага генерал-губернатара М.Рапніна. У ім царскі намеснік раіў цалкам змілітарызаваць суды і адміністрацыю і часова не дапушчаць шляхту да выбараў на пасады. У прыватнасці, у кожны земскі суд меркавалася ўвесці расейскага афіцэра "под видом укрощения могущих случиться от проходящих и квартирующих войск обид". Намеснік жадаў дапусціць выбарных асобаў толькі для разгляду спрэчак Галоўным Літоўскім трыбуналам, а затым усё судаводства падпарадкаваць Сенату. Але такі план яўнай русіфікацыі супярэчыў урадавым абяцанням захаваць існае судаводства і мясцовыя асаблівасці. Дый сам Рапнін неўзабаве стаў наракаць на празмерную загружанасць ад цэнтралізацыі ўлады. Давялося шукаць іншыя шляхі абрусення.

Ва ўрадзе загаварылі пра такую адміністрацыю, дзе сядзелі б не адныя "русопяты", а разам з імі і адданая мясцовая знаць. З гэтага б вынікала прызнанне моцы Статута ВКЛ. Канцлер імперыі А.Безбародка пагаджаўся на такі

сімбіёз з наступных мерка-ванняў: “Власть самодержавная будет в полной силе и святости с Литовским статутом столько же, сколько и с Уложением (1649г. Расейскай імперыі. — **Я.А.**), ни нравам, ни времени несообразным. Искать педантически единообразия была бы таковая же химера, как и предполагать равенство между людьми”. Здаецца, зразу-мела.

У адпаведнасці з гэтым разлікам у снежні 1795г. у Горадні ў якасці найвышэйшай мясцовай установы паставілі Вярхоўнае літоўскае праўленне, падначаленае трэцяму дэпартаменту Сенату. Яго склалі 154 чал. у чатырох галіновых аддзяленнях. Кожнаму начальніку аддзялення вылучылі трох экспедытараў з мясцовых дваран і 5 перакладнікаў з польскай мовы — усяго 17 “польских” асобаў. Кіраваў праўленнем царскі намеснік. Выканаўчую ўладу здзяйснялі карпусныя камандзіры з дапамогай камісараў, абраных ад розных станаў. Суд і расправу чынілі ранейшыя земскія і гродскія суды, ратушы і магістраты. Яны дзейнічалі імем царыцы “на древних их правах”. Да выбараў дапусцілі толькі тых суддзяў, хто засядаў да 3 траўня 1791г., або да Вялікага сойму.

Судовыя спрэчкі па апеляцыі ішлі ў Літоўскі трыбунал, але ён адсылаў свае рашэнні на канчатковы нагляд Вярхоўнага праўлення або намесніка.З-за забароны смяротнага пакарання ў імперыі даводзілася стасаваць працэдуру ранейшай дзяржавы — прыцягваць сведкаў, прымаць прысягі, наймаць адвакатаў, следчых. Тым самым у спадчыну царызму дастаўся распаўсюджаны хабар, валакіта, пратэкцыянізм. А паколькі расейскія чыноўнікі служылі за мізэрнае жалаванне, то прадажнасць судова-адміністрацыйных установаў, так бы мовіць, падвоілася.

Як пісаў віленскі губернатар Я.Булгакаў, мясцовыя жыхары не спяшаліся займаць выбарныя пасады без перспектывы атрымаць чыны і ленты. Яны не з’яўляліся на позвы, абскарджвалі прысуды, пераносілі працэсы ў іншыя паветы. Судовыя працэсы зацягваліся з-за некамплекту суддзяў, розначасовасці сесій, абавязку разглядаць прэтэнзіі па чарзе. Суды дзейнічалі беспакарана, бо заканадаўства самой імперыі патрабавала не датыкацца цела і годнасці высакароднай асобы. А мясцовая шляхта надта ж паважала ўласную недатыкальнасць. На Вярхоўнае праўленне хлынула такая безліч блытаніны ды валакіты, што Рапнін у роспачы загаласіў: “Боже, вынеси меня отсель. Лучше как можно скорее ввести ваш образ правления, нежели настоящий, половинный, который никак слажен быть не может”.

Аднак згаданы парадак задавольваў усіх удзельнікаў сваім бюракратызмам і беспакаранасцю. Літоўскае праўленне выдавала ўказы за пячаткай “з арлом і літоўскай пагоняй”. Сваволя і ўверсе і ўнізе асвячалася імем царыцы і “польским законом”.

Давялося шукаць паразумення нават з відавочнымі ўдзельнікамі касцюшкоўскага паўстання, уладанні якіх Кацярына II меркавала прадаць паслухмяным асобам. Усяго ў Менскай губерні было секвестравана 67 тыс. дзяржаўных сялян і 28 тыс. сялян каталіцкага і ўніяцкага духавенства. Разам з папскімі маёнткамі дзяржаўны скарб забраў 140 тыс. сялян (22% усіх прыгонных). У межах Літоўскай губерні пад секвестр трапіла звыш 175 тыс. сялян, або 35% ападаткаванага сялянства, у маёнтках “дерзких, развратных бунтовщиков, изменяющих присяге и Отечеству своему”. Ім далі год і 6 месяцаў на прысягу і продаж уладанняў, нават дазволілі вывезці даходы і выкуп закладзенай маёмасці.

Ва ўрад хлынулі слязлівыя лісты аб добранадзейнасці і звычайныя даносы. Як ні лічыла царыца заганным, каб памешчыкі-каталікі валодалі праваслаўным людам, як ні імкнулася яна, каб на далучаных землях “все имения составить во владении русских помещиков”, але планы русіфікацыі землеўладання засталіся папяровымі марамі.

С.Забелу маёмасць вярнулі “...по старости и дряхлости”. А.Чартарыскаму — таму, што ён быў “безосновательно оклеветан и совсем не знал о восстании”. Уладанні К.Агінскага ўзялі ў апеку, “ибо он не в полном состоянии ума”. Латыфундыі М.Радзівіла пакінулі ў спакоі таму, што той сядзеў у паўстанцкай радзе непрыкметным радцам ды выявіў “непоколебимую к престолу ея императорского величества верность” і г.д.

Аднак вырашальнымі аказаліся даўгі ўласнікаў. Яны заявілі 130 прэтэнзіяў на суму больш як 2,7 млн. злотых. Прычым 1,4 млн. прыпадала на двух Агінскіх — віленскага ваяводу і падскарбія ВКЛ. Ліквідаваць тыя даўгі хвораму царскаму скарбу азначала павялічыць падатковы ўціск і справакаваць сялянскія хваляванні. Расейскія саноўнікі і чыноўнікі не спяшаліся займаць збанкрутаваныя маёнткі. Таму нязначнымі аказаліся і поспехі абрусення маёнткаў. Да 1796г. у Менскай губерні ў рукі 37 расейскіх памешчыкаў трапіла 43 тыс. сялян — 61% секвестраваных ці 11% усіх зарэгістраваных падушным перапісам душаў. Да моманту смерці Кацярына II паспела раздаць 65 тыс. душаў, або 12% ападаткаванага сялянства, у Літоўскай губерні.

Сярод адораных зноў-такі апынуўся цвет расейскай бюракратыі: 24 вайскоўцы — ад брыгадзіра да генерал-фельдмаршала — і 12 чыноў — ад калежскага асэсара да сапраўднага стацкага саветніка. Самыя буйныя падарункі дасталіся графу М.Салтыкову — 4701 душа з уладанняў М.Агінскага, сапраўднаму стацкаму саветніку І.Остэрману — 4167 з уладанняў Віленскага капітула, вядомаму А.Сувораву — 6927 у Берасцейскай і Кобрынскай эканоміях, генерал-аншэфу М.Рапніну — 3995 сялян з Пінскай эканоміі, генерал-

фельдмаршалу П.Румянцаву — 5718 з Берасцейскай эканоміі. Палову падараванняў царыца выканала коштам каталіцкіх і ўніяцкіх валоданняў.

А вось як урад захоўваў сваё чалавекалюбнае аблічча перад сялянамі, якіх аддаў у пажыццёвае трыманне пасэсарам. Такія маёнткі здалі пад заклад пасэсарскіх прыватных сялян "с тем, что всегда их взять можно, когда заблагорассудится". Дакладней, як толькі здараліся злоўжыванні, спадчынныя ўладанні ўпраўляючых адбіралі ў дзяржаўны скарб, а недаборы выкалочвалі з прыватнаўласніцкіх сялян. Упраўляючыя кіраваліся інструкцыямі, якія забаранялі абыходзіцца з дзяржаўнымі сялянамі як з уласнымі прыгоннымі. Сялян забаранілі здаваць у наём, ганяць на працы ва ўласных фальварках, адбіраць у іх пустыя надзелы, драбіць сем'і і г.д. На пачатку 1794г. урад загадаў карміць галодных такіх сялян коштам запасаў панскіх фальваркаў. Вываз хлеба за мяжу быў прыпынены, што прывяло да недахопу звонкай манеты і развіцця кантрабанды. Войскам стала бракаваць харчу, і яны заняліся марадзёрствам. Уладам давялося скараціць іх кватараванне і перайсці на камплектаванне арміі з мясцовых ураджэнцаў. Так упершыню ў 1794г. у Беларусі была ўведзена рэкруцкая павіннасць. Пасля рэвізіі 1795г. у 25-гадовую службу бралі 5 чал. з 500 сялянскіх душаў.

Царызм прадоўжыў палітычную дыскрымінацыю дробнай шляхты. Пасля ўказа ад 3 траўня 1795г. выбарчыя правы і права прысутнічаць на дваранскіх сходах захавалі толькі ўласнікі зямлі ды прыгонных. З ліку правадзейных урад выкрасліў таксама арандатараў чужых сялян. Абмежаванні не закранулі тых, хто паступаў на расейскую ваенна-грамадзянскую службу і хто "по заслугам и непоколебимой верности имел прежде чины польские". Аднак ні пасад, ні чыноў шарачковая драбната ў бальшыні не мела.

Больш за тое, яна адчула нечуваны ўціск пасля таго, як урад дапусціў на выбары ў павятовыя ніжнія земскія суды дзяржаўных сялян. Не мог і не жадаў фанабэрысты шляхцюк сядзець у судзе побач з мужыком. Не было таго да Расеі. А што казаць пра шаноўнага пана, які абыходзіўся з вясковым людам нібы з быдлам?

Пакрысе загарэлася вуголле незадаволенасці. У красавіку 1796г. Рапнін пісаў царыцы з Літвы, што "головы здесь начинают крутить и уже нашлись между мелкой шляхты такие безмозглые, которые заговоры начали". Ён сам злавіў мяцежнікаў у Горадні: камердынера літоўскага падскарбія Андрэя Любавецкага, павятовага ротмістра Міхала Снарскага, шляхцічаў Тодара Занеўскага, Яна Горскага, Міхала Пачобута, Язэпа Нявінскага, Франца Кратовіча, Лявона Канцэвіча і ксяндза Міхала Скідзеля. Данёс на змоўшчыкаў шляхціч

Хібоўскі. Ён чуў ад Любавецкага, што ёсць 300 чал., гатовых знішчыць увесь расейскі гарнізон у Горадні разам з Рапніным дый узнавіць каталіцтва. Змоўшчыкі вельмі спадзяваліся на шляхту і сялян Ваўкавыскага павета. Іх пацягнулі на следства ў таемную экспедыцыю Сенату. Пачобут там выкруціўся заявай, што ён згаджаўся на план “шутя и дурача”. Т.Яворскі назваў падбухторванні сялян “сумасшествием”. Жартаўнікоў адаслалі назад да Рапніна. На ягоную прапанову Любавецкага і Снарскага саслалі ў Сібір, але потым перавезлі ў Аляксандраўскі равелін. Астатніх удзельнікаў “вздорного, глупого и возмутительного заговора... за буйственное поползновение, которое еще не принесло беды”, вызвалілі ад пакарання.

Раскрыты замах, зрэшты, сапраўды нязначны, паказаў прыдворным, што галоўная пагроза зыходзіць ад маламаёмных станаў шляхты і сялян. Апошнія, як пісаў Рапнін, хутчэй пагодзяцца “молчать и терпеть все, ожидая чей верх решительно будет”, каб затым перакінуцца на бок мацнейшага. Прыведзеныя звесткі надта ж трапна падсумаваныя словамі намесніка Менскай, Ізяслаўскай і Брацлаўскай губерняў Ц.Тутамліна. Ён казаў, што “знатные вельможи” Рэчы Паспалітай спачатку згадзіліся на рэформы Вялікага сойму, “чтобы господствовать по-прежнему”. Але з уласных інтарэсаў і пыхлівасці яны ахвяравалі Айчынаю “в пользу благоприятствующих соседей”. Практычна ўсе падзелы Рэчы Паспалітай адбываліся шляхам змовы царызму з мясцовай арыстакратыяй.

Пецярбург паспяхова карыстаўся з сацыяльнага эгаізму знаці ва ўласных мэтах. Анексіі ён абгрунтоўваў то абаронай адзінаверцаў, то захаваннем у непарушнасці старавеччыны, то прадухіленнем грамадзянскай вайны і неабходнасцю замірэння ў суседзяў. Але ж з тымі самымі лозунгамі насіліся і абаронцы рэспубліканскіх свабодаў. Яны гэтаксама заклікалі на дапамогу выратавальныя штыхі ад імя ўсяго літоўскага народу, а потым енчылі ад чужынскага гвалту.

У гэтай палітычнай мітусні варта ўгледзець наступнае.

Афармленне захопаў у выглядзе добраахвотнага запрашэння расейцаў “пакрыўджанымі” і пагалоўнай прысягі на вернападданасць мусілі ўпэўніць у добраахвотнасці далучэння — “воссоединения”. Але ж народ да таго не спрычыняўся аніяк. Па-другое, менавіта з часоў падзелаў паходзіць цэлая тэорыя аб непазбежнасці і дабратворнасці пераходу ад анархіі да моцнай цэнтральнай улады. Маўляў, “палякі” не здолелі падпарадкавацца ўласнаму абсалютызму, то і давялося зведаць гвалт чужога дэспата. Нарэшце, расейскі дэспатызм часоў Кацярыны II замацоўваўся на далучанай тэрыторыі без таго азіяцкага дзікунства, якое наступіць потым.

**Інструкцыя кіраўніка знешняй палітыкі Расейскай імперыі М.Паніна паслу ў Варшаве М.Рапніну ад 14 жніўня 1767г.**

"Нашей целью ставится диссидентское дело не для разпространения в Польше нашей [праваслаўнай. — **Я.А.**] и протестантских вер, но для приобретения себе оным чрез посредство наших единоверных и протестантов одиножды навсегда твердой и надежной партии с законным правом участвовать во всех польских делах не по одному ныне от республики изпрашиваемому ручательству ея законов на целость ея конституции и форму ея вольного правления, но и по присвояемому еще нам себе в вечныя времена покровительству сих законников яко слабейшей части в будущем правительстве польском, которая потому сохранение свое в оном должна всегда заимствовать от онаго нашего покровительства.

Причины нас побудившие в том состоят, что протестантския религии, обуздывая суеверие и сокращая власть духовенства, вывести излишним своим в Польше разпространением могут легко во всем поляков из невежества, в которое они теперь по большей части погружены, а освобождением от онаго довести их еще по ступеням и до учреждения новых порядков, кои б концентрируя в одно место и всю польскую силу, привести ее могли бы скоро обратиться во вред покровительницы их в настоящее время, а соперницы первой и главной в будущее, ибо между политическими обстоятельствами ни злоба за претерпенное, ни благодарность за прежния одолжения известным образом места иметь не могут.

В разсуждении наших единоверных не настоит подобно сему неудобств, но, с другой стороны, приведя их до излишнего разпространения, так чтоб они сами собою, независимо от нас, могли в республике опираться и разделить правление ея, подвергнем мы себя хотя разного рода, но не меншему, однако ж, неудобству в разсуждении и без того так частых и великих побегов, кои тогда, видя в Польше при безопастности большее в вере разпространение с выгодами разного во всем народа и, ежели знать долженствовало бы, натурально усугубит к несказанаму вреду всего государства, из чего Россия могла бы иметь еще некоторыя для переду [на будучыню. — **Я.А.**] и будущих случаев неоправданные опасения и о самих своих пограничных провинциях, правом и обычаями с Польшею отлагающихся.

На первое из требований короля о вмещении в Сенат белорусского епископа надлежит также требовать и другим

епископам униатским, чего нельзя, ибо сие будет в досаду ея императорского величества, коя требует, чтобы все ея желания приняли, а он один бессилен против католических епископов, и надо, чтоб в разсуждении униатов, паче всего о сих стараниях на будущем сойме и в новом трактате совершенно умолчено чтоб было для того, что всякое об них напоминание долженствовало бы по крайней мере для одной пристойности произвесть с нашей стороны новыя и увеличенныя требования, когда ж их по справедливости инако почитать не можем, как отщепенцев нашей веры, отнюдь к католицкой прямо не присоединившихся, кои были первым орудием всему угнетению греческой и кои потому самому долженствовали б и понесть всю тягость ея возстановления вместо того, что они по вышесказанному правилу довольствуются доверить единоверных наших и протестантов в настоящем их количестве до законного с протчими равенства. Не хотим, впрочем, дотрагиваться до униатов, но паче оставить их в полном молчании, только бы шуму и с польской стороны соответственно было, чем сугубое наше намерение верно и достаточно будет.

На второе и третье о выборе польских королей и о признании католицкой веры господствующей, согласны мы, но поставить сие в цену податливости поляков на полное возстановление диссидентов. Надлежит сказать шефам [дысідэнцкіх канфе-дэрацыяў. — **Я.А.]**, что именование господствующей не может быть угодно ея императорскому величеству как потому, что сие наименование ея не принадлежит, но и паче в разсуждении посторонней державы, которой самое участие в правах разных вер, составляющих корпус республики, основано на публичных правах торжественных трактатов, не упоминая уже, что оное именование ни малейшего основания в фундаментальных польских законах не имеет, где напротив точно поставлена католицкая религия наравне с другими, так и особливо по намерению в коем начато и продолжается, по-видимому, самовольно сие именование, что им сие намерение, конечно, без ошибки проникает, полагая, что господа поляки мнят тонкостию своею одержать то, чего инако достигнуть не могут и что по сей причине самовластным присвоением религии своей качеств господствующей хотят они избавиться одолжения, которое б нам за формальное признание онаго им долженствовало, а выиграв у нас сию первую перчатку, обманываясь тем дешевле в удовлетворении справедливых ея законов желаний, что они, имея перед глазами своими живой пример князей Чарторижских [каралеўскае акружэнне. — **Я.А.**], обольстят нас и будут судить, что мы им тем менее в обман отдались потому для приведения в безопастность религии своей и чтоб ей от иных держав для переду не инако же как чрез посредство наше законным образом характера

господствующей с тем знаменитым преимуществом, каков есть изключительный католиков выбор к короне. Остается им, откладывая на сторону всякия пустыя тонкости и замашки, войтить прямодушно в наши виды и содействовать политике их успеху, что в противном случае, естли они не примут тот час в своих двояких замыслах, могут тотчас нам легко наскучить и выводя ея [Кацярыну II. — **Я.А.**] из терпения в содержании на своем иждивении войск своих в землях республики для пропитания, волею ея находящихся, принудить уже тем одним к перемене сего содержания на их собственной счет и к употреблению сих войск невольно другим образом, нежели как они по сю пору употреблялись, а особливо касательно до имений тех магнатов, которыя более в подобие ея выжидали двояко, следовательно, и под маскою посредников угождающих ея воле будут мешать или же приводить в слабость исполнение оной. А что после так откровенного ея императорского величества изъяснения должно им выбирать хотят ли они сами и для собственной своей пользы и для пользы Отечества своего быть полезным орудием дел наших, кои не далее клонятся возстановления диссидентов персонально во всем их яко согражданах законно принадлежащего права равенства, с которыми, как им прежде уже в сем довольно изъяснено, поправления всех с некоторого времени предприятиях и повреждением вольности и законов польских. Сие обнадежение республики во все времена торжественнаго и сильнаго ручательства России, яко соседней и собственным им своим благосостоянием всем им не менее обязанной империи на целость конституции и форм правления республики, нужно или же в противном сему случае довести нас невольно до исполнения всего того собственно нашими способами и силами без всякаго им в успехе одолжения и что, напоследок, естли б они, паче чаяния, забывая собственное свое благосостояние и лишая себя самих чрез то всей власти и законности, которую мы им за их чистосердечное содействование обещали на ущерб неприятелей их князей Чарторижских, хотели, по одному фанатическому упорству, наклонялись допустить нас до употребления собственных наших способов и сил, в таком случае пускай они по крайней мере разсудят наперед, что из такой крайности выйти может кроме прямо бедствий Отечеству их, ибо мы тут, имея уже всячески свободные руки, не будем более ничего уважать, но только о том мыслим, что б дело совершилось, а между тем употребляем к совершению онаго способы с содержанием войск во всех потребностях, получая без разбору хотя силою от тех, кои, имев все средства к упреждению мер крайности, пренебрегли, однако ж, легкомысленно воспользоваться оными по многим с нашей стороны советам и напоминаниям.

Этого не надобно более откладывать, чтоб не заставить

господ поляков думать, что они нам больше нужны, нежели то в самом существе дела может во всякия препроводить причины к скорейшему убеждению их от Вас самих избираемых пристойными разсуждениями, а особливо сущей неприятности или, лучше сказать, невозможности, что какая посторонняя держава вступилась за часть поляков нам противоборствующих и стала нам препятствовать в вожделениях вынуждением употреблять собственных наших способов и сил, когда все Чарторижские вообще совершенно признали справедливость наших требований и когда опять разстояние мест, хотя бы которая и хотела покуситься, не дозволит ей сделать безпосредственно дей-ствительной помощи.

Четвертое королевское требование о установлении по всем законам наказания против отступников господствующей религии не может дозволено быть, ибо оно во всем равного свойства с первым и подлежит, следовательно же, одинаковому с оным решению, тем более, что издревле уже позволено было униатам переходить к нашей религии — право, которое при нынешних обстоятельствах надобно стараться когда нужно имянно возобновить, то, конечно, и оставить со всем в молчании для переду для того, чтобы сохранить на настоящее время пред глазами публики непорочность наших намерений, касающихся до нашей собственной веры [тут зроблена заўвага: “возобновить или же без упоминания считать возобновленным в общем подтверждении всех прежних преимуществ нашей церкви”. — **Я.А.**].

Пятое, чтоб диссиденты в Сенате и на сойме определенным числом допущены были, может не только дозволено, но и нами самими желаемо быть потому, что без точного и непременного для переду постановления, коликому числу диссидентов и из каких мест необходимо быть должно в Сенате и на соймах, всегда королю-католику и католическому дворянству, яко числом своим несравненно превосходящему, свободно будет изключать их вовсе от перваго и других королю, не производя диссидентов в сенаторы под видом, что между просителями разных вер проситель католик персональными своими качествами достойнее других, а дворянству католическому, имея всегда на своей стороне превосходное число голосов, не соглашаться добровольно никогда на выбор диссидентов в земские послы. Почему диссиденты, хотя ж и вошли они чрез покровительство наше в Сенат и на соймы, лишились б опять скоро потом сего драгоценнаго права не явным уже насильством, но совершенным отделением онаго в волю и во власть одних католиков, кои им натурально доброохотствовать не могут. Напротив же того, когда при допущении господ диссидентов в Сенат и на соймы число сенаторских, министерских и посольских мест, кои им именно принадлежат, имеют с

точностию и таким образом определено будет, чтоб ни Сенат, ни сойм без того определенного числа соучавствующих диссидентов действительно иметь не могли, созидаемое нами самими здание получит сею оградою самую твердость, и диссиденты только волею и вдвое того неволею католиков будут иметь всегдашнее безпосредственное и независимое участие в законодательной власти Отечества своего. Надлежит пользоваться сим королевским требованием, но стараться так, чтобы сие ограниченное число в самом деле не чрезмеру уже ограничено было.

Шестое требование — дабы четыре на унию отступившие епархии в нынешнем их состоянии непоколебимо оставлены были, будучи само по себе согласно с главным правилом, не повстречало бы, конечно, с нашей стороны препятствий, но как всякое о сих епархиях упоминание может подлежать неудобству выше сего описанному, то дабы в разсуждении их ненависти не навесть себе и королю польскому новых и напрасных хлопот, всего лутче будет оставить их со всею униею как на сойме так и в будущем трактате [паміж Расеяй і Рэччу Паспалітай. — **Я.А.**] в полном и неприкосновенном молчании яко такую секту, которая ни в тех, ни в других законах прямо соединенною считаться не может.

Воображаю заботу Вашу от несообразимости и упрямства и двоякости новых наших партизанов и как в сем лабиринте с одной стороны, весьма похваляя, что Вы, имея от короля точнейшие уверения коим образом он во всем по воле двора нашего и согласно его воли поступать будет, решились допустить на сойм креатур его, дабы способом их стараться о успехе диссидентского дела в полной мере, так, с другой стороны, не могу обойтись, чтобы не повторить с какою нужною осмотрительностию долженствует Вами употребляемо быть королевское и его партии посредство, дабы инако не удалить от себя втуне новых наших партизанов. Тем более на короля и слова его, когда он нам уже единожды изверился, не можно уже до времени полагаться с полною доверенностию, разве новое его поведение заставит нас принять лучшее и со славою его сходственное мнение.

Надлежит також сказать, что диссидентское дело единое всех отвращает. Можно будет после их удержать и утешить разными награждениями здешних знатных и прибыльных мест. А когда главных таким образом удержим, то прочие за ними сами собой последуют и легко уже будет то зделать, изведав довольно ветренность и корыстолюбие господ поляков. Не спорю я против сего заключения, но как опять и то неоспоримо, что, имея содействие королевское, лутче в то же время иметь и содействие новых наших партизанов,

нежели совокупя их мы сами толикими трудами и толиким иждивением разрушим дело собственных наших рук, естли б паче чаяния шефы конфедераций стали противиться успеху на сойме диссидентского дела для того одного, что король, переменя прежния свои поступки, начал и сам собою и чрез друзей своих способствовать оному, то дабы с сохранением его польского величества на нашей стороне избавиться, однако ж от сего великого неудобства, чрез которое можем мы инако лишиться вовсе новой нашей независимости и для переду толь нужной партии.

Советую Вам сказать откровенно о будущем поведении короля в пользу диссидентского дела с теми из начальников ея, на коих Вы с большею надеждою положиться можете, а особливо с новым примасом и убеждая их не только истинною Отечества пользою, но и собственною своею к согласному с его величеством действованию. Но естли они, невзирая на сии Ваши увещевания и столько же легко обуздываясь чинимыми к сану и ко времени важнейших из них оставили о доставлении сим последним знатных от короля награждений из одной к его злобе или же по сущему фанатизму стали безрассудно шуметь и готовиться к ясному сопротивлению по диссидентскому делу, в таком случае не оставите Вы, повторяя им все выше сего по поводу другого и третьего королевских требований пред-писанное, решительно сказать, буде иногда необходимость, и до того доведете, что войска ея императорского величества в готовности у них в глазах для употребления чрез 24 часа к таким мерам, которые им не инако, как тягость чувствительная, а смотря по обстоятельствам и весьма бедственны быть могут, что до наступления сойма остается им несколько времени на выбор между сими крайними мерами и между приобретением навсегда милости и покровительства ея императорского величества и что, напоследок, желаете Вы без всякого отлагательства знать от них — Да или Нет, — дабы по ответу разполагать будущее с ними поведение, которое они таким образом сами себе определить властны.”

Выяўлена **Яўгенам Анішчанкам** у Архіве замежнай палітыкі Расейскай імперыі, фонд 79, вопіс 6, справа 916, аркушы 84—94 адв.

Алесь ЛУКАШУК

# 421° ПАВОДЛЕ ГАЛОЎЛІТУ

Калі амэрыканскі фантаст выдаў кнігу пра спаленьне кніг у будучыні*, супрацоўнікі цэлага савецкага ведамства маглі з поўным правам сказаць, што ягоны твор прысьвечаны іхнай прафэсійнай дзейнасьці, якая раней заставалася па-за ўвагай і прызнаньнем шырокай грамадзкасьці. Уклад супрацоўнікаў гэтага ведамства ў нацыянальную культуру цяжка пераацаніць. Вось толькі адзін маленькі фрагмэнт іх творчасьці, якую захоўваюць архівы:

*“Зьнішчэньне кніжак рабіць шляхам пропуску праз рэзальныя машыны друкарняў. Макулятуру ў дробна парэзаным выглядзе здаваць ва ўтыль. У райцэнтрах, дзе ў друкарнях няма рэзальных машынаў, прынятую літаратуру спальваць з адзнакай на акце спаленьня”.*

Шыхтавы статут блякне перад чаканным стылем Галоўнага ўпраўленьня ў справах літаратуры і выдавецтваў БССР, якое ўваходзіла ў склад Наркамату асьветы. Афіцыйны скарот — Галоўлітбел, яшчэ карацей — Галоўліт. Асьветніцкая ўстанова з такой назвай была створаная паводле пастановы СНК БССР ад 3 студзеня 1923 году. Згодна з задачамі, папярэдне, перад друкам, Галоўліт пераглядаў усе рукапісы, здымкі, малюнкі і выдаваў ці не выдаваў дазвол на друк, ажыцьцяўляў кантроль за друкарнямі, бібліятэкамі, кнігарнямі, слухаў радыёперадачы. Без Галоўліту немагчыма ўявіць гісторыю навукі, нацыянальнага тэатру й кіно, жывапісу, скульптуры, эстрады і журналістыкі.

Апроч Галоўнага ўпраўленьня, для дагляду і своечасовай крытычнай дапамогі ва ўсіх абласных, акруговых і раённых цэнтрах дзейнічалі мясцовыя “літы” са сваімі штатамі.

Шматгранная дзейнасьць Галоўліту ў Беларусі працягвалася да пачатку вайны, а потым была адноўленая ў 1944-м у

---

*Рэй Брэдбэры ."451° паводле Фарэнгейта”. Пры такой тэмпэратуры (233° паводле Цэльсія) пачынае гарэць папера.

Навабеліцы, у першыя дні дзейнасьці ўраду БССР. Пасьля сьмерці Сталіна, 15 сакавіка 1953г., Савет Міністраў вывеў Галоўліт са складу Міністэрства асьветы і перадаў у Міністэрства ўнутраных справаў, якое тады ўключала і былы НКВД — МГБ. Праз паўгода, у кастрычніку 1953-га, Галоўліт пакінуў сьцены МУС і набыў самастойны статус і новую назву — Упраўленьне па ахове ваеннай і дзяржаўнай тайны ў друку. У 1963г. Галоўліт далучылі да наваствоpанага Дзяржаўнага камітэту па друку і паліграфіі, а з 1966-га да скону БССР цэнзурнае ведамства існавала як Галоўнае ўпраўленьне па ахове дзяржаўнай тайны пры Савеце Міністраў.

Галоўліт, натуральна, лічыў сваю дзейнасьць дзяржаўнай тайнай і не афішаваў уласныя подзьвігі. Тым болей, што самая масавая, непасрэдная прадукцыя Галоўліту — прабел, пустата, не-быцьцё. Трэба прызнаць, што Галоўліт досыць пасьпяхова выконваў сваю функцыю. Папраўіць ужо амаль нічога немагчыма. Нават прачытаныя праз паўстагодзьдзя рукапісы і вернутыя навуковыя й мастацкія творы ў абсалютнай бальшыні ўжо выконваюць іншую ролю, у новым кантэксьце дзейнічаюць іначай, чым калі б яны пабачылі сьвет своечасова. Далёка ня ўсё, што забараняў Галоўліт, адносілася да катэгорыі шэдэўраў, але тыя творы былі хлебам і вадой культуры, без якіх немагчыма зьяўленьне вяршыняў. Увогуле, катэгорыя **адсутнасьці** ці ня самая істотная для тлумачэньня нацыянальнай гісторыі апошняга стагодзьдзя. Адсутнасьць адных людзей і ідэй зрабіла магчымаю прысутнасьць зусім іншых...

Ланцуговая рэакцыя не-быцьця робіцца заўважнай часам празь дзесяцігодзьдзі ды праяўляецца ў агульнай дэградацыі грамадзтва, калі бальшыня дарослых выракаецца роднае мовы і можа пазбавіць дзяцей Радзімы.

Нягледзячы на грыфы “не падлягае агалошаньню”, якімі Галоўліт пазначаў усё, што выходзіла зь ягоных сьценаў, выбраныя архіўныя старонкі даволі выразна агалошваюць ня толькі мэтадалёгію, але і псыхалёгію “міністэрства праўды”, якая існавала ў 30-ыя гады, ды і пазьней.

### Як Калінін зьеў усё мяса, а Сталін скурыў тытунь

30 сакавіка 1938 году ўпаўнаважаны СНК па Сіроцінскім раёне Барсукоў і загадчык аддзелу культуры й прапаганды райкаму Ліўшыц вырвалі з насьценнага календара пяць лісткоў — за 22 красавіка, 5 мая, 9 ліпеня, 8 і 21 лістапада. На лістках былі зьмешчаныя партрэты Леніна, Сталіна, Калініна, Молатава й Будзённага.

Сваю акцыю Ліўшыц і Барсукоў ня толькі ня сталі трымаць у таямніцы, але з вырванымі партрэтамі прыйшлі на заняткі раённага Інстытуту завочнага навучаньня партыйна-камсамольскага актыву і правялі дыскусію, прысьвечаную баль-

шавіцкай пільнасьці. Яе падрабязнасьці пераказваюцца ў лісьце начальніка Сіроцінскага райліту Градоўкіна ў Менск. Аказваецца, Барсукоў і Ліўшыц вырвалі партрэты правадыроў, бо, паводле іхнага меркаваньня, каляндар быў варожай правакацыяй. У сваім лісьце начальнік райліту падрабязна інфармуе пра ход думак пільных камуністаў:

"Лісток календара за 22 красавіка — партрэт тав. Леніна. Ягоны гальштук, па-іхнаму, уяўляе галаву сабакі. Лісток за 5 мая — партрэты тав. Леніна, тав. Сталіна, тав. Молатава. Тав. Сталін курыць люльку — па-іхнаму, тав. Сталін курыць у дзьве люлькі. Гэта значыць, што тав.Сталін пакурыў увесь тытунь у гады рэвалюцыі, і ў СССР тытуню не было. Лісток за 9 ліпеня — партрэт старшыні калгаса імя Варашылава тав. Бадмаева, які перадае рапарт тав. Сталіну аб перамогах у Бурат-Мангольскай АССР, па-іхнаму, паказвае, што тав. Сталін, прымаючы рапарт, перадае левай рукой нож. 8 лістапада — партрэт тав. Леніна і тав. Сталіна, размова праз "прамы дрот". У гэты час, па-іхнаму, тав. Сталін закрывае рот рабочаму, каб маўчаў. Лісток 21 лістапада — тав. Калінін і тав. Будзённы едуць на машыне. Па-іхнаму, тав. Калінін трымае на руках галаву цяляці, што азначае, што тав. Калінін паеў усё мяса і яго ў СССР не было."

Далей аўтар ліста паведамляў: "Гэта контррэвалюцыйная хлусьня была распаўсюджаная па некаторых установах праз слухачоў завочнага навучаньня, але празь мяне і мясцовыя органы НКВД была папярэджаная. Усё гэта ўзята ад упаўнаважанага СНК БССР Барсукова, які і падштурхнуў культпрапа, растлумачыўшы, што гэта паказала нейкая жанчына ў Менску, якая прыехала з Масквы".

Справа аб лістках календара таксама была перададзеная на бюро райкама. Як НКВД папярэджваў сіроцінскіх партыйна-камсамольскіх актывістаў, дакладна невядома, але жаданьня гадаць над няякаснай паліграфіяй у іх, верагодна, доўга не ўзьнікала. Ужо праз два тыдні пасьля выкрыцьця "выкрыцьця" ліст зь Сіроціна патрапіў у Галоўліт, а адтуль у ЦК КП(б)Б, дзе на ім зьявілася ляканічная рэзалюцыя і паведамленьне аб яе выкананьні. Акцыя Барсукова і Ліўшыца была расцэненая як контррэвалюцыйная правакацыя; Барсукоў мусіў узгадаць таямнічую "жанчыну з Масквы", а Ліўшыц пакаяцца ў наўмысным паклёпе на правадыроў. Хаця насампраўдзе ашалелыя ад бальшавіцкай пільнасьці таварышы сталі ахвярамі якраз таго, за што змагаўся Галоўліт...

**Як беларускія таварышы выкрылі таджыцкіх трацкістаў на мове ідыш**

Галоўліт штомесяц дасылаў у аддзел друку ЦК КП(б)Б зьвесткі аб зробленых выкрэсьліваньнях і правакацыях, спыне-ных

ягонымі супрацоўнікамі, прычым прыводзілася аргумэн-тацыя дзеяньняў цэнзара. У цэнзуры працавалі паліглёты — у першыя дзесяцігодзьдзі савецкай улады у Беларусі выдаваліся газэты і часопісы на нямецкай, польскай, літоўскай мовах, на ідышы. Дасьведчанасьць цэнзараў сягала так далёка, што калі ў жніўні 1937 году гэбрайская газэта “Юнгер Ленінец”, якая выдавалася ў Менску, хацела надрукаваць таджыцкую народную легенду “Чалавечае шчасьце”, Галоўліт выкрасьліў легенду як ідэалягічна нявытрыманую. Цэнзары даслоўна пераклалі тэкст і накіравалі яго са сваім камэнтаром у ЦК.

“Калі Цімур (Тамэрлан) нарадзіўся, сустрэліся Месяц з Сонцам над Памірам, прыляцела птушка і прынесла бацьку радасную вестку: нарадзіўся Саіб І-Кран, вялікі чалавек... Прайшлі гады. Цімур стаў вялікім кіраўніком і пераможцам. Ён перамог шмат краінаў і зьнішчыў цэлыя народы, і чалавечая кроў лілася ракой, а сьлёзы — вялікімі морамі. Ніколі людзі да Цімура ня бачылі такога крыважэрнага разбойніка. Цімур зьбіраў лепшыя творы чалавечай думкі — кнігі — і хаваў іх. Пра адну кнігу, аб чалавечым шчасьці, ён думаў доўга-доўга. Там было напісана, што шчасьце чалавецтва наступіць толькі тады, калі такія, як Цімур, будуць зьнішчаныя. Тады вырашыў Цімур украсьці ў чалавецтва кнігу шчасьця. Адным ударам шаблі расьсек ён скалу, уклаў кнігу, скала зачынілася і схавала яе.

Мінулі стагодзьдзі... Зноў сустрэўся Месяц з Сонцам, але не над Памірам, а над сьнежнымі вяршынямі Каўкаскіх гор, і нарадзіўся новы вялікі чалавек... Новая срэбная птушка вярнула кнігу шчасьця людзям і стала расьпяваць пра новага Саіб І-Крана, які прагнаў памешчыкаў, абвадніў сухую зямлю ў Баршы, стварыў калгасы, будуе школы, вызваляе жанчын...”

Каб ня ўзьніклі сумневы, аўтары легенды зь ліку таджыцкіх прапагандыстаў у канцы растлумачвалі: “Новы Саіб І-Кран быў Сталін”.

Сумневы, аднак, узьніклі. У тлумачэньнях для ЦК цэнзары зрабілі аналіз, пасьля якога сумневу не выклікала ўжо рэ-акцыйнасьць легенды, якую, верагодна, прыдумалі таджыцкія трацкісты.

“Легенда ставіць побач як два Саіб І-Краны тав. Сталіна і разбойніка Цімура, прычым у самой легендзе не адзначана, хто зь іх быў найвялікшы чалавек. Сама думка аб параўнаньні тав. Сталіна хаця і з буйнейшымі асобамі сусьветнай гісторыі (хаця мы зусім не адмаўляем ролю асобы ў гсторыі) зьяўляецца палітычна шкоднай, тым больш, калі падаецца дзецям дашкольнага ўзросту.

Таксама палітычна няправільная думка аб тым, што ў Цімура была кніга аб чалавечым шчасьці, што ён яе ўкраў, а птушка вярнула тав. Сталіну. Гэтыя думкі няправільныя, бо кніга аб чалавечым шчасьці, іначай, навука аб вызваленьні чалавецтва,

не магла існаваць тады, калі яшчэ не было пралетарыяту і гаворкі не магло быць аб дыктатуры пралетарыяту. Сама легенда зводзіць сутнасьць вучэньня гэтай кнігі да “зьнішчэньня людзей, такіх як Цімур”, іначай кажучы, гэта ня што іншае, як рэакцыйная тэорыя рускіх народнікаў аб тым, што грамадзтва можна перабудаваць шляхам тэрору супроць рэакцыйных правіцеляў, адмаўляючы неабходнасьць масавай палітычнай барацьбы.

Адсюль і палітычная шкоднасьць тэзісу аб тым, што названая кніга была знойдзеная і дастаўленая тав. Сталіну і ён на яе падставе пабудаваў чалавечае шчасьце. Вучэньне Маркса — Леніна — Сталіна нічога агульнага ня мае з вучэньнем усякіх народнікаў і да іх падобных, а наадварот, яно вырасла і ўзмацнілася ў барацьбе з гэтымі вучэньнямі. Гэты тэзіс зводзіць ролю тав. Сталіна да вузкай ролі рэвалюцыянэра-практыка, думка яўна трацкісцкая.

Таксама палітычна шкодная думка аб тым, што існуючае вучэньне аб шчасьці народным магло быць выкрадзена ў чалавецтва. Пераводзячы гэты тэзіс на палітычную мову, значыць, могуць быць такія выпадкі, калі якія-небудзь прай-дзісьветы: Гітлер, Мусаліні і іншыя могуць шляхам рэпрэсіяў супраць рабочага класу і камуністычнай партыі зьнішчыць марксісцка-ленінскае вучэньне. Такі тэзіс супярэчыць выказ-ваньню тав. Сталіна на XVII зьезьдзе партыі”.

Трацкісцкая легенда не прайшла. Газэту “Юнгер Ленінец” неўзабаве закрылі. Мэтадалёгія палітаналізу засталася...

### Як Уладзімір Юрэвіч сказіў Уладзіміра Леніна

9 сакавіка 1937 году начальнік Галоўліту Ахрамовіч адрасаваў у палітасьветаддзел ЦК КП(б)Б і Інстытут масавага завочнага навучаньня партактыву ліст, у якім паведамляў, што дыктар Радыёкамітэту Уладзімір Юрэвіч дапусьціў пры перадачы лекцыі на тэму “Сацыялізм і камунізм” шэраг “памылак тэксту”, завізаванага Галоўлітам, якія мяжуюць з памылкамі стылістычнага і палітычнага характару. У выпадку паўтарэньня падобных парушэньняў упаўнаважаны Галоўліту будзе выключаць мікрафон і спыняць перадачу, папярэджваў Ахрамовіч.

Якія ж памылкі дапусьціў Уладзімір Юрэвіч? Кантралёр групы наступнага кантролю пры Галоўліце Радыёкамітэту (цэнзары дзяліліся на тых, хто правяраў тэксты да выхаду ў эфір, і на тых, хто слухаў і кантраляваў жывы эфір, — магнітафонных запісаў тады не было) М. Ерамееў дакладаў:

“5 сакавіка 1937 году ішла лекцыя завочнай партвучобы на тэму “Сацыялізм і камунізм”. Лекцыю ля мікрафону чытаў тав. Юрэвіч, які дадаваў нікому не патрэбныя словы, а іменна:

Па-першае, дзе трэба і дзе ня трэба ўстаўляў слова “таварыш”. Па-другое, што трэба было чытаць, Юрэвіч не чытаў, як, напрыклад,

адзначаную літаратуру. Па-трэцяе, Юрэвіч скажона вымаўляў імя Леніна, замест Владзімір гаварыў Владымір і рабіў націск на апошнім сказе, г.зн. мір, у той час як у лекцыі пісалася проста Ленін, а імя і імя па бацьку ня значылася. Па-чацьвертае, трэба было чытаць “Ленін пісаў”, ”Сталін пісаў”, а Юрэвіч дадаваў слова “так” і атрымлівалася: “Ленін пісаў так”, “Сталін пісаў так”. Па-пятае, да цытатаў Леніна — Сталіна Юрэвіч устаўляў свае словы , напрыклад , там, дзе таварыш Сталін гаворыць аб нашым сялянстве, ён дадаў слова “гэта”. Па-шостае, Юрэвіч дадаваў шэраг непатрэбных уводных словаў, такіх як “ёсьць, так, вось, зразумела, усямерна, зьяўляюцца, умовы” і г.д. Па-сёмае, Юрэвіч спрабаваў зрабіць свае высновы пасьля прачытанай ленінскай цытаты “Аб дзьвюх важнейшых умовах для ажыцьцяўленьня поўнага камунізму”, дзе ён дадаў тлумачэньне: “Вось, таварышы, як Владымір Ільіч сказаў”.

Пасярэдзіне лекцыі цэнзар перапыніў дыктара і прыгразіў, што ў выпадку адступленьняў ад тэксту перадача будзе спыненая. “Канец лекцыі быў прачытаны так, як было напісана ў лек-цыі,”— з пачуцьцём унутранага задавальненьня заканчваецца службовая запіска. Наўскос дакумэнту надпіс: “Паведамлена кіраўніцтву інстытуту для прыняцьця мераў”. Асаблівую важкасьць рэзалюцыі надае дата: “27 сакавіка 1937 году”.

Уладзіміра Юрэвіча ліха абышло, і яшчэ многія дзесяцігодзьдзі яго голас гучаў з радыёдынамікаў. Няйначай, перш арыштавалі тых, каму адрасавалася службовая запіска...

**Мова гарыць... (загад № 33)**

Дату 3 чэрвеня 1937 году дарэмна шукаць у літаратурных энцыкляпэдыях і падручніках гісторыі. Між тым гэта безумоўна гістарычная дата для беларускай мовы, культуры і навукі. У гэты дзень пад грыфам “не падлягае абвяшчэньню” Галоўліт БССР выдаў загад № 33 пад назваю “Спіс літаратуры, якая падлягае канфіскацыі з бібліятэк грамадскага карыстання, навучальных установаў і кнігагандлю”. Загад атрымаўся зьмястоўны —сьпіс шкодных кніжак, выдадзеных у РСФСР, БССР, УССР па-расейску, па-беларуску, па-ўкраінску, а таксама на гэбрайскай, польскай, армянскай, адыгейскай, таджыцкай, абхаскай, башкірскай і яшчэ шасьці іншых мовах заняў 111 старонак.

Сьпісы выдаваліся пад расьпіску ў часовае карыстаньне дырэктарам бібліятэк і кнігарняў. Паколькі такіх установаў падчас ліквідацыі непісьменнасьці распладзілася даволі шмат, для зручнасьці загад быў аформлены і выдадзены кнігай накладам 3000 асобнікаў.

Дырэктары павінны былі пільна перагледзець паліцы, сабраць крамолу, скласьці акты ў трох асобніках і адабраныя кнігі разам з трыма асобнікамі актаў здаць начальнікам акруговых,

гарадзкіх ці раённых аддзелаў Галоўліту. Першы экзэмпляр акту канфіскацыі перасылаўся ў Менск, у Галоўліт, другі ішоў у мясцовы аддзел НКВД, а трэці заставаўся ў райліце.

У бібліятэчных каталёгах і картатэках сканфіскаваную кнігу патрабавалася выкрасьліць тушшу, але пакінуць яе парадкавы нумар і цану. Канфіскацыі падлягалі таксама асобныя нумары часопісаў, дзе былі надрукаваныя арыкулы забароненых аўтараў. Інструкцыя лібэральна ўдакладняла: з гадавых камплектаў часопісы не вырываць.

Апошні, шосты пункт загаду патрабаваў ад цэнзараў няўхільна кіравацца тым, што канфіскацыі падлягаюць толькі выданьні, прадугледжаныя сьпісамі Галоўліту. Але, паколькі пільнасьць — справа творчая, у загадзе тлумачылася, што рабіць з падазронымі выданьнямі, якія, на думку мясцовых органаў Галоўліту, таксама было пажадана канфіскаваць. Такія выданьні падлягалі часовай ізаляцыі, пасьля чаго іх сьпіс і матывы арышту перасылаліся ў Галоўліт, які сваёй уладай уключаў іх у афіцыйныя праскрыпцыйныя сьпісы.

Загаду № 33 было наканаванае доўгае жыцьцё. Ён захоўваў сілу на працягу дзесяцігодзьдзяў, толькі крыху зьмяняючы і ўдакладняючы назвы ды лексыку. Замест тэрміну "канфіскацыя" сталі ўжываць "ачыстка". Напрыклад, у 1954г. была прынятая пастанова ЦК КПБ "Аб ачыстцы бібліятэк, кніжных кіёскаў, кнігарняў і базаў ад састарэлай і палітычна шкоднай літаратуры". Галоўліт СССР рэгулярна выдаваў тамы "Зводнага сьпісу кніг, якія падлягаюць выключэньню зь бібліятэк і кнігагандлёвай сеткі" (у лібэральным 1960-м гэтая "антыкніга" выйшла ў двух тамох). Падобныя выданьні паўтараліся ў рэспубліках, іх дапаўнялі бягучыя загады, выкліканыя чарговаю зьменаю палітычнае каньюнктуры. Так, у студзені 1959г. выйшаў загад аб канфіскацыі твораў удзельнікаў антыпартыйнай групы. Цэнзары зноў і зноў шнырылі па паліцах бібліятэк і кнігарняў. У адным 1961г. яны праверылі 3000 бібліятэк і 456 крамаў і ў 629 бібліятэках і 21 краме знайшлі крамолу. У справаздачы ЦК КПБ цэнзары дакладалі, што дадаткова канфіскавалі 2351 кнігу і часопіс з бібліятэк і яшчэ 111 выданьняў з кнігарань. Толькі ў адной бібліятэцы Вярэйкаўскага сельскага клуба ў Асіповіцкім раёне было знойдзена 11 кніг Малянкова, Булганіна, Кагановіча і Шэпілава. Гэты прыклад выразна ілюструе, што засталося ў вясковых бібліятэках пасьля шматгадовых папярэдніх чыстак...

Загад 33 падрабязна тлумачыў начальнікам акруговых, абласных і раённых літаў, як быць з канфіскаванай літаратурай: "Рабіць зьнішчэньне шляхам пропуску праз рэзальныя машыны друкарань. Макулятуру ў дробна парэзаным выглядзе здаваць ва ўтыль. У райцэнтрах, дзе ў друкарнях няма рэзальных машынаў, прынятую літаратуру спальваць з адзнакай на акце спаленьня".

Альфабэтны сьпіс выдадзеных у Беларусі кніг, якія

прадпісвалася спаліць паводле загаду №33 Галоўліту БССР ад 3 чэрвеня 1937г., займаў дванаццаць старонак і налічваў 421 пазыцыю. Папраўдзе выданьняў і твораў, якія належала спапяліць, было ў некалькі разоў больш. Супраць 53 прозьвішчаў у гэтым сьпісе стаіць адзнака "ўсе кнігі", многія пазыцыі дадаткова пазначаліся літарамі. Як правіла, іх аўтары ўжо раней прайшлі па сьпісах, якія складалі ў роднаснай Галоўліту арганізацыі — НКВД.

У ліку прыгавораных да зьнішчэньня — кнігі Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы, паэма "Тарас на Парнасе", раманы, апавяданьні, п'есы. Ёсьць і кур'ёзы кшталту сталінскіх "Пытаньняў ленінізму" — верагодна, арыштавалі перакладчыка, як, верагодна, і аўтара кнігі зь вясёлым загалоўкам "Паноў трэба зьнішчаць гуртам".

Асаблівая катэгорыя асуджаных на агонь — тэрміналягічныя слоўнікі й даведнікі, граматыкі, лемантары, чытанкі, падручнікі, навучальныя дапаможнікі, дыялектныя зборнікі, мовазнаўчыя працы, створаныя ў эпоху прывіднай беларусізацыі. Палілі мову...

Вогнішчы з кніжак успыхнулі ў Беларусі раней, чым у фашыстоўскай Нямеччыне. Мартыралёг беларускай культуры, якую прадпісвалася зьнішчыць у 1937-м і іншых гадох (падобныя сьпісы рэгулярна абнаўляліся) лепш за ўсялякія падручнікі гісторыі ды камэнтары спэцыялістаў тлумачыць, што сталася зь Беларусьсю.

## ПРЫНЯТУЮ ЛІТАРАТУРУ СПАЛЬВАЦЬ

(Разьдзел "ВЫДАННІ БССР" загаду №33 Галоўліту БССР ад 3 чэрвеня 1937г.)*

1. **Астроўскі Р.** ***УСЕ КНІГІ.***
2. **Аляхновіч Ф.** ***УСЕ КНІГІ.***
3. **Асновы марксісцка-ленінскай педагогікі.**
Хрэстаматыя. Склад. Дарадак і Панкевіч. т.1, выд.1932.
4. **Агурскі.** Рэвалюцыйны рух у Беларусі.
Выд. Гістпарта КП(б)Б. 1925.
5. **А.Ж.** Беларуская сацыял-дэмакратычная партыя, яе характар і заданні. Менск. 1920.
6. **Абдзіраловіч Ігнат.** Адвечным шляхам. Вільня. 1921.
7. **Арол М.** Чаму ж усыхаюць кветачкі польскія на гною беларуска-літоўскім? Ліда. 1921.

* Правапіс арыгіналу.

8. **Арыфметычная тэрміналогія.** Вільня. 1921.
9. **Астроўскі Радаслаў.** Касмаграфія. Вільня.
10. **Азбукін М. і Смоліч А.** Школьная карта Беларусі.Менск. 1925.
11. **Анцаў Міхаіл.** Зайчык-грайчык. Менск. 1930.
12. **Астапенка Змітрок.** Краіне. Вершы.Менск. 1931.
13. ——”—— На ўсход ад сонца. Менск. 1931.
14. **Алёшка.** Суседзі. Менск. 1932.
15. **Атака.** Выд. БДВ. 1934.
16. **Абісінія як яна ёсць.** ДВБ. Менск. 1936.
17. **Александровіч А.** Напор. П’еса. Усе выданні.
18. ——”—— Цені на сонцы.Усе выданні.
19. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Выд. 19. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Менск.
20. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Выд. 20. Менск.
21. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Менск.
22. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 7-ы. Менск. 1926.
23. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Менск. 1927.
24. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Слоўнік хімічнай тэрміналогіі. Менск. 1929.
25. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Тэрміналогія грамадазнаўства. Менск. 1927.
26. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 14. Слоўнік матэматычнай тэрміналогіі. Менск. 1927.
27. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 15. Слоўнік граматычна-лінгвістычнай тэрміналогіі. Менск. 1927.
28. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 17. Слоўнік бухгальтэрскай тэрміналогіі. Менск. 1928.
29. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Менск. 1928.
30. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Менск. 1922.
31. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып.2. Практыка і тэорыя літаратурнага мастацтва. Менск. 1923.
32. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып.3. Геаграфічныя і касмаграфічныя тэрміны і назвы нябесных цел. Менск. 1923.
33. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 5. Геалогія, мінералогія, крышталаграфія. Менск. 1924.
34. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып.4. Батаніка агульная і спецыяльная. Менск. 1924.
35. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып.6. Тэрміналогія логікі і псіхалогіі. Менск. 1923.
36. **Беларуская навуковая тэрміналогія.** Вып. 19. Слоўнік сельскагаспадарчай тэрміналогіі. Менск. 1928, 1929.
37. **Барычэўскі Аўгінь. “**Матчын дар” А. Гаруна. Менск. 1928.
38. **Байкоў Мікола.** На літаратурныя тэмы. Менск. 1929.
39. **——”——** Наша сіла — саветы. Усе выданні. Менск.

40. **Бялевіч К.** Новае жыццё. Менск. 1928.
41. **Байкоў М., Некрашэвіч С., Багдановіч М.** Наша сіла — ніва ды машына.
42. **Бабровіч і Багданскі.** Аб класавай барацьбе ў Заходняй Беларусі ў часы беларускай сялянска-работніцкай грамады. Выд. БАН. 1932.
43. **Багдановіч Максім.** Празаічныя творы. Менск.
44. **Бальшакоў.** Краязнаўчае вывучэнне арганізацыі працы ў калгасах. Менск. 1931.
45. **Бенек. *УСЕ КНІГІ.***
46. **Быхаўскі Б.** Нарыс філасофіі дыялектычнага матэрыялізма. Менск. 1931.
46. **Бульбянік Захар.** Смех і радасць вёскі. Менск. 1929.
47. **Бойка Барыс.** Гаспадарчая характарыстыка севазварота. Менск. 1930.
48. **Байкоў І.** Кіраўніцтва ў калгасах. Менск. 1931.
49. **Бляхер Я.І.** Неарганічная хімія. Менск. 1931.
50. **Беларускі флірт.** Вільня. 1921. 48 асобных картак.
51. **Бурачок Мацей.** (Багушэвіч Ф.) Дудка беларуская. Вільня. 1921.
52. **Бяроза А.** Расійска-польскі баль і Беларускае пахмелле. Пінск. 1921.
53. **Беларускі тэатр.** Вільня. 1924.
54. **Байкоў М. і Гарэцкі М.** Практычны расійска-беларускі слоўнік. Усе выданні.
55. **Бузук П.А.** Асноўныя пытанні мовазнаўства. Менск.
56. **Бузук П.А.** Некаторыя непаразуменні ў спрэчках аб рэформе Беларускага правапіса. Менск. 1926.
57. **Бузук П.А.** Спроба лінгвістычнае геаграфіі. Ч.1. Менск. 1928.
58. **Бузук П.А.** Да характарыстыкі паўночна-беларускіх дыялектаў. М. 1926.
59. **Байкоў М. і Некрашэвіч С.** Беларуска-расійскі слоўнік. Менск. 1927.
60. **Бараноўскі, Ажгірэй В., Залуцкі В.** Барацьбіт. Менск.
61. **Барашка І.Я.** 11 ліпеня. Менск. БДВ. 1930.
62. **Баранавых Сымон. *УСЕ КНІГІ.***
63. **Багун Міхась. *УСЕ КНІГІ.***
64. **Багдановіч А. *УСЕ КНІГІ.***
65. **Бабарэка А. *УСЕ КНІГІ.***
66. **Баліцкі. *УСЕ КНІГІ.***
67. **Баршчэўскі Я.** Начэпнасць. Вільня. 1917.
68. **Баршчэўскі Я.** Чорнакніжнік і змяя, што вылупілася з пятушынага яйца. Вільня. 1917.
69. **Багушэвіч Францішак.** Дудка беларуская. II. Смык беларускі. Менск.
70. **Багушэвіч Францішак.** Дудка беларуская. Вершы. Коўна.

71. **Багушэвіч Францішак.** Дудка беларуская. Коўна.
72. **Бядуля З.** Жыды на Беларусі. Менск. 1918.
73. **Байкоў М.** Прыкметы новай педагогікі. Менск. 1921.
74. **Беларусь.** Нарысы гісторыі, эканомікі, культурнага і рэвалюцыйнага руху. Менск. 1924.
75. **Бэндэ. *УСЕ КНІГІ.***
76. **Воўк-Левановіч В. *УСЕ КНІГІ.***
77. **Вольны А. *УСЕ КНІГІ.***
78. **Валабрынскі А. *УСЕ КНІГІ.***
79. **Варонка Я.** Беларускі рух ад 1917 да 1920 году. Коўна. 1920.
80. **Выпісы з беларускай літаратуры. Ч.II.** Менск. 1923.
81. **Верас Зоська.** Беларуска-польска-расейска-лацінскі батанічны слоўнік. Вільня. 1924.
82. **Вашкевіч Л.** Расійска-беларускі слоўнік дзеля чыгуначных мясцкомаў. Магілёў. 1926.
83. **Вынікі працы інстытута сялян даследчыкаў.** Менск.
84. **Вольфсон і ГАК.** Гістарычны матэрыялізм. Менск. 1931.
85. **Валасевіч.** Самая кароткая гісторыя ВКП(б). Менск.
86. **Валодзька Ф.І.** Карантын раслін і значэнне яго ў справе пад'ёму ўраджайнасці. 1935.
87. **Вынікі перавыбараў сельсоветаў Магілёўшчыны.** 1934.
88. **Гарэцкі М. *УСЕ КНІГІ.***
89. **Гарун А. *УСЕ КНІГІ.***
90. **Геаграфічны атлас для пачатковай школы.** Выд. 1935. Усесаюзн. Картаграфічны трэст.
91. **Галубок Уладыслаў.** Апошняе спатканне. Драма. Вільня.1919.
92. **Галубок Уладыслаў.** Суд. Менск. 1925.
93. **Гукоўскі А.І.** Антанта і Кастрычніцкая рэволюцыя. БДВ. Менск. 1932.
94. **Гурло Алесь.** Барвенак. Вершы. Менск. 1924.
95. **Гурло Алесь.** Межы. Выбраныя вершы. Менск.
96. **Гарэцкая Л.** Родны край. Вільня. Усе выданні.
97. **Гутоўскі Улад. Д.** Сурдут і сярмяга. Вільня. 1922.
98. **Грыневіч А.** Школьны спеўнік. Вільня. 1920.
99. **Грамыка Міхайла.** Пачатковая геаграфія. Менск. 1923.
100. **Грамыка Міхайла.** Плынь. Вершы. Менск.
101. **Грамыка Міхайла.** Каля тэрасы. Менск. 1929.
102. **Гарэцкі М., Дзяржынскі Ул. і Каравай П.** Выпісы з беларускай літаратуры. Масква — Ленінград. 1925.
103. **Гаўрук Юрка.** Вясковыя рыскі. Менск. 1926.
104. **Гістарычна-археалагічны зборнік №1.** Менск. 1927.
105. **Глыбоцкі Тодар. *УСЕ КНІГІ.***
106. **Гарабурда Канстантын.** Сусвет і зямля. Менск. 1929.
107. **Гірчак Е.Ф. Х**вілёвізм. Пераклад з украінскай мовы. БДВ. Менск. 1931.

108. **Гаруновіч.** Супроць нацыянал-дэмакратызма. 1930.

109. **Галенчанка Л.** Размеркаванне прыбыткаў і ўраджаю ў калгасах. Менск. 1931.

110. **Гак і Майзель.** 13 год вызвалення БССР. Менск. 1933.

111. **Ганчарык.** За культуру соі ў БССР. Выд. БАН.

112. **Ганчарык.** Уплыў ультрафіялетавых праменняў на ўтварэнне антоцыяніну ў раслінах. 1932. БАН.

113. **Гарбацэвіч.** Паланізацыя Заходняй Беларусі. 1933.

114. **Глебка П.** Шыпшына. Лірыка. “Узвышша”. Менск. 1927.

115. **Доўнар-Запольскі. *УСЕ КНІГІ.***

116. **Дубоўка У. *УСЕ КНІГІ.***

117. **Дзяржынскі У. *УСЕ КНІГІ.***

118. **Друшчыц В. *УСЕ КНІГІ.***

119. **Даўгаля З. *УСЕ КНІГІ.***

120. **Дарожны С. *УСЕ КНІГІ.***

121. **Дудар А. *УСЕ КНІГІ.***

122. **Дзякаў. *УСЕ КНІГІ.***

123. **Дардак Ю.С. і Ерафеяў Ю.Ф.** Класавая барацьба ў школе. Выд. ДВБ. 1933.

124. **Дзядзька Пранук.** Стася. Вільня. 1922.

125. **Дыяменты беларускага прыгожага пісьменства №1.** Зборнік абраных твораў Дунін-Марцінкевіча, Мацея Бурачка, Ядвігіна Ш. і інш. Кіеў. 1919.

126. **Дысцыплінарныя правілы караў для арміі.** Пераклад з польскага. Лодзь. 1920.

127. **Дуж-Душэўскі К. і Ластоўскі В.** Слоўнік геаметрычна-трыганаметрычных тэрмінаў і сказаў. Коўна. 1927.

128. **Дэкламатар.** Вільня.1921.

129. **Дзяркач А.** Міколава гаспадарка. Менск. 1927.

130. ——”—— Усім па троху... Менск. 1927.

131. **Друшчыц Васіль.** Места Вільні ў першай палове XVI сталецця. Менск.

132. **Друцкі-Падбярозкі Б.** Байкі, гумар, сатыра. Вільня.

133. **Да дню вызвалення Беларусі ад белапалякаў.** Зборнік. Зложылі: Капаевіч П. і Сяўрук М. Выд. “Чырвоная змена”. Менск. 1927.

134. **Драматургія.** Зборнік. Пад рэдакц. Аляксандровіча, Гурскага, Дунца, Я.Коласа і Клімковіча. БАН. Менск. 1934.

135. **Езавітаў К. Становішча беларускай школы ў Літве.** Вільня. 1923.

136. **Жылуновіч (Ц.Гартны)**. ***УСЕ КНІГІ.***

137. **Жукаў і Гарэлікаў.** За правільнае і беражлівае скарыстанне каня. Выд. Белгіз. 1934.

138. **Жніво і дажынкі.** Вільня. 1918.

139. **Жылка Уладзімір.** На ростані. Вільня. 1924.

140. **——”——** Уяўленне. Вершы. Вільня. 1926.

141. **Журба Я.** Заранкі. Вершы. Менск. 1924.

142. **Ждановіч С.А. і Ярашчук А.О.** Характарыстыка сельскай гаспадаркі Беларусі на падставе данных аб чыгуначнай і вадзяной перавозцы. Менск. 1926.

143. **Знаёмы Е.** ***УСЕ КНІГІ.***

144. **Звонак А.** ***УСЕ КНІГІ.***

145. **Зарэцкі М**. ***УСЕ КНІГІ.***

146. **“Знішчым шкоднікаў ільна і канапель”.** Плакат. ДВБ. Менск. 1936.

147. **Зажынкі.** Масква. 1918.

148. **Зборнік сцэнічных твораў.** Сшытак № і 2. Менск. 1918.

149. **Зборнік “Альманах 1”.** Выданне 1935.

150. **Зборнік твораў для дзіцячага тэатра.** Данілка і Алеська. **М.Кудзелька**. У лясным гушчары. **Ф.Аляхновіч. Датрымаў характар. А.Гаркун.** Марцэлька, Сымон і Рак. Менск. 1920.

151. **Заходняя Беларусь.** Зборнік грамадзкае мыслі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняй Беларусі. Кн.1. Вільня. 1923.

152. **Зборнік беларускіх ведамасцей.** № 1,2 і 3. Вільня, 1921.

153. **Зборнік артыкулаў.** Этнаграфія, антрапалогія, псіхалогія, псіхатэхніка і навуковая арганізацыя працы. Менск. 1928.

154. **Запіскі аддзелу гуманітарных навук.** Кніга 2. Працы кафедры этнаграфіі. Том І. Менск. 1928.

155 — 158 — *нечытэльна, тэхнічны брак.*

159. **Запіскі кафедры этнаграфіі.** Т.1. М. 1928. Кніга VI. Праца камісіі гісторыі мастацтва. Т.1. Менск. 1928.

160. **Запіскі Беларускай дзяржаўнай акадэміі сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэволюцыі.** Том VII. Горкі. 1928.

161. **Заблоцкі П.** Асновы сельскай гаспадаркі. Менск. 1929.

162. **Запіскі аддзела гуманітарных навук.** Кн.III. Працы класа гісторыі. Менск. 1928.

163. **——”——** Кн. IV. Праца камісіі гісторыі мастацтва. М. 1928.

164. **Змаганьне за асеннюю сяўбу і зяблівае ворыва.** Зборнік. Менск.

165. **Ісбах А.** Крушэнне. (Пераклад з рускай мовы). ДВБ. Менск. 1932.

166. **Ігнатоўскі У.** ***УСЕ КНІГІ.***

167. **Івушка-Калінушка.** Непаслухмяныя. Менск. 1925.

168. **Інструкцыя да збірання народнага слоўніка тэрміналагічнага матэрыяла ў беларускай мове.** Менск. 1925.

169. **Ініцкі Уладзімір.** Сон Гаўрылы і розныя вершы. Вільня. 1928.

170. **Іваноў.** Сельска-гаспадарчае птушкаводства. Менск. 1933.

171. **Ісаакаў.** Пастаўка збожжа дзяржаве — першачарговая задача. Менск. 1933.

172. **Інфармацыйны бюлецень** № 5-6. БАН. 1932.

173. **——”——** № 7, БАН. 1933.

174. **Каваль Васіль.** ***УСЕ КНІГІ.***

175. **Куніцкі.** ***УСЕ КНІГІ.***

176. **Кляшторны Тодар (Фёдар).** ***УСЕ КНІГІ.***
177. **Кісель.** Чырвоны баец. БВО. 1934. Выд. 2-е.
178. **Кастрычнік на Беларусі.** Зборнік. Скл. Агурскі. Менск. 1927.
179. **Каганец К.** У іншым шчасці няшчасце схована. Вільня. 1919.
180. **Каляда.** Гарадня. 1920.
181. **Карскі Е.** Беларускі народ і яго мова. Менск. 1920.
182. **Кашчына С.** Рэквізіцыя. Ваўкавыск. 1923.
183. **——”——** Адстаяў. Беласток. 1922.
184. **——”——** Дагадаўся. Ваўкавыск. 1922.
185. **Канчар А.** Класавае, нацыянальнае і рэлігійнае змаганне на Беларусі. Вільня. 1921.
186. **Кудзелька І.Ф.** ***УСЕ КНІГІ.***
187. **Каспяровіч А.У.** Беларуска-расійскі слоўнічак. Віцебск. Выд. 1926 г.
188. **——”——** Краязнаўства. Нарысы. Менск. 1929.
189. **——”——** Віцебскі краявы слоўнік. Віцебск. 1927.
190. **——”——** Вывучэнне культурнага стану краю. Менск. 1927.
191. **——”——** Матэрыялы да вывучэння Віцебскай краёвай літаратуры і мастацтва. Менск. 1927.
192. **——”——** Матывы барацьбы ў творчасці Багдановіча. Менск.
193. **——”——** Узоры для літаратурных гурткоў “Маладняку” і гурткоў селькораў. Менск. 1927.
194. **Капаевіч П.Э., Сяўрук М. і Баркоўскі С.** Чырвонасялянская вечарынка. Менск. 1927.
195. **Кучар А.** Вялікая перабудова. БДВ. Менск.
196. **Капаевіч П. і Сяўрук М.** Літаратурная чытанка для вячэрніх школ 1-й ступені. Ч.1-я. Менск. 1932.
197. **Карніенка.** Класавая барацьба на гістарычным фронце Беларусі. Менск. 1932.
198. **Капаевіч Павел.** Супроць капіталістаў і памешчыкаў. Менск. 1928.
199. **Кабакоў і Лур’е.** Старонкі мінулага. Віц. ОСПС. 1928.
200. **Купала Ян.** Том 1-шы. Менск. 1928.
201. **——”——** 1918 — 1928 гг. Творы. Менск. 1930.
202. **Кіслякоў Ян.** Пасёлкі. Менск. 1928.
203. **Крапіўніцкі М.** Па рэвізіі. Вільня. 1928.
204. **——”——** Пашыліся ў дурні. Вільня. 1928.
205. **Клеймборт Л.М.** Маладая Беларусь. Менск. 1928.
206. **Краязнаўства.** Зборнік праграм і інструкцый краязнаўчай працы. Вып. 1. Менск. 1929.
207. **Кудзікаў С.** За масавую і суцэльную калектывізацыю. Менск. 1930.
208. **Кaганоўская.** Ударная брыгада ў дзіцячым садзе. Менск.1933.

209. **Кірыяка А. і Дружына Г.** Ад чаго залежыць ураджай? 1933.
210. **Каранёў В.** 200 пытанняў і адказаў па калгасным будаўніцтве. Менск. 1931.
211. **Кніга.** Брыгадна-лабараторны метад у вузах і тэхнікумах. Выд ДВС. 1932.
212. **“КП(б)Б у рэзалюцыях”.** Выд. Партвыдавецтва. 1934.
213. **Крачкоўскі.** Замок Любельскі. 1935.
214. **Кержанцаў П. і Ляонцьеў Л.** Азбука ленінізма. Вып.1. БДВ. Менск. 1931.
215. **Лёсік Я. *УСЕ КНІГІ.***
216. **Луцкевіч А. *УСЕ КНІГІ.***
217. **Ластоўскі В. *УСЕ КНІГІ.***
218. **Ліхадзіеўскі С. *УСЕ КНІГІ.***
219. **Літаратурны зборнік “Вольнай Беларусі”.** Сшытак першы. Менск. 1917.
220. **Лясны Рыгор.** Гістарычная праўда. Гарадно. 1923.
221. **Лесавік В.** Наша крыўда. Беласток. 1921.
222. **Ластаўка.** Выд. 1924.
223. **Ластоўскі В.** Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік. Коўна. 1924.
224. **Ліпілін І.В.** Як совецкая ўлада будуе новае жыцьцё. 1933.
225. **Лур’е.** Гандлёвы і пазыковы капітал. (Палітэканомія). 1932.
226. **Лясны Зм.** Пра дні мінулыя. Выд. ДБВ.
227. **Луцэвіч Ул. і Савёнак А.** Дашкольны спеўнік. Выд. ДВБ. 1933.
228. **Маракоў В. *УСЕ КНІГІ.***
229. **Мікуліч Б. *УСЕ КНІГІ.***
230. **Міцкевіч М. і Лёсік Я.** Як Мікіта бараніў сваіх. Менск. 1917.
231. **Мыслінскі І.** “Общепонятая” мова. Менск. 1926.
231. **Мазур Ігнат.** Чырвоная Беларусь. Менск. 1928.
233. **Мацырыкін М.С.** Асновы індустрыялізацыі сельскай гаспадаркі БССР. Менск. 1930.
234. **Маракоў.** Права на зброю. Менск.
235. **Мірон К.** Інструкцыя па ўліку лесакультурных работ у леспрамгасах БССР. Менск. 1933.
236. **Матэрыялы па вывучэнню геалогіі і карысных выкапняў Беларусі.** Том. IV. Выд. БАН. 1933.
237. **Матэрыялы па вывучэнню геалогіі, гідралогіі і карысных выкапняў БССР.** Том VII. Выд. БАН. 1933.
238. **Матэрыялы да справаздачы Белкаапсаюза.** Выд. Белкаапсаюза. 1934.
239. **Мятла.** Аб таварыстве беларускай школы.
Выд. БАН. 1932.
240. **Малякоў Л.І.** Веццевы корм. Выд. ДБВ. 1932.
241. **Майзель Ю. і Шапавалаў М.** Кароткі нарыс гісторыі

КП(б)Б. ДВБ. Менск. 1929.

242. **Майзель.** 1905-7 гг. на Беларусі. Менск.

243. **Некрашэвіч І.І.** ***УСЕ КНІГІ.***

244. **“Наша ніва”.** Зборнік. Вільня. 1920.

245. **Навіна Ант.** Жыдоўскае пытанне ў беларускай літаратуры. Вільня. 1921.

246. **——”——** Пуцяводныя ідэі беларускае літаратуры. Вільня. 1921.

247. **Народны прыгавор.** 1921.

248. **Нацыянальнае пытанне і комуністычная партыя.** Менск. 1924.

249. **Некрашэвіч М.І.** Жыццё і праца. Менск. 1925.

250. **Некрашэвіч С.** Лемантар. Менск. Усе выданні.

251. **——”——** Аб пашырэнні акання на чужаземныя словы. Менск. 1926.

252. **——”——** Роднае слова. Менск.

253. **——”——** Расійска-беларускі слоўнік. Менск. 1928.

254. **Наша сіла — саюз.** Менск. 1926.

255. **Некрашэвіч С. і Бузук П.** Праграма для збірання асаблівасцей беларускіх гаворак пераходных да суседніх моваў. Менск. 1927.

256. **Некрашэвіч.** Беларускі нацыянал-фашызм.

257. **Нісневіч С.** Арганізавана правядзем другую большэвіцкую ўборачную кампанію. Менск. 1931.

258. **Новасёлаў М.** Зямля расцвітае. (Пер. з рас. мовы). Менск. 1932.

259. **Остэрлёф Вольдэмар і Шустэр Язэп.** Сусветная гісторыя. Вільня. 1921.

260. **Олікер і Розенблюм.** Нарысы па гісторыі комсомола БССР. Менск. 1928.

261. **Піваварaў З.** ***УСЕ КНІГІ.***

262. **Пушча Я.** ***УСЕ КНІГІ.***

263. **Прышчэпаў Д.** ***УСЕ КНІГІ.***

264. **Пічэта У.** ***УСЕ КНІГІ.***

265. **Палонскі.** 15 чырвонаармейскіх песен. Выд. БВО.

266. **Паўловіч Альберт.** Васількі. П’еса. Вільня. 1919.

267. **Памяці Івана Луцкевіча.** Вільня. 1920.

268. **Парады закладчыкам спажывецкіх таварыстваў.** Вільня. 1920.

269. **Праграмы Беларускае Ніжэйшае Пачатковае Школы.** Менск. 1920.

270. **Праграма Беларускай народнай партыі рэволюцыянераў-соцыялістаў.** Вільня. 1920.

271. **Праграма Беларускай партыі соцыялістаў-рэволюцыянераў.** Праект. 1920.

272. **Праграма для гутарак па гісторыі роднага краю.** Менск. 1921.

273. **Праграма па роднай мове.** Менск. 1921.
274. **Пятровіч С.А. *УСЕ КНІГІ.***
275. **Паўлінка.** Сялянская доля. 1921.
276. **Паўловіч Альберт.** Снапок. Вільня. 1921.
277. **Прэч рукі ад нашай зямлі.** 1921.
278. **Пушкевіч Ю.** Лемантар для ўзрослых. Менск. 1926.
279. **Падгорны А. і Нікулін Я.** Палітграмата. Менск. 1926.
280. **Праца акадэмічнай канферэнцыі па рэформе беларускага правапіса і азбукі.** Менск. 1927.
281. **Паваротны.** Камсамольцы ў калгасе. Выд. 1930.
282. **——”——** Камсамольскія вячоркі. Менск. 1927.
283. **Піотуховіч Міхал.** Францішак Скарына і яго літаратурная дзейнасць. Грамадазнаўства. Менск. 1933.
284. **——”——** Ля вытокаў лірыкі Янкі Купалы. Менск. 1927.
285. **——”——** Паэтычнае светаадчуванне ў творчасці Якуба Коласа. Менск. 1927.
286. **——”——** Нарысы гісторыі Беларусі і літаратуры. Ч.1-я. Менск. 1928.
287. **Працы Горы-Горэцкага навуковага таварыства.** Том 1. Горкі. 1928.
288. **Працы Беларускага Дзяржаўнага Універсітэта ў Менску.** №16. Педагагічны факультэт. Менск. 1928.
289. **Першы год працы БНД Інстытута і рабочы план працы на 1927 — 1928 год.** (Склалі Прышчэпаў, Гарэцкі і Думах). Менск. 1927.
290. **Пратасевіч Іван.** Рабочая кніга па беларускай мове. Сістэматычны курс марфалогіі і элемента сінтаксіса. Менск. 1928.
291. **Праект укладання слоўніка жывой беларускай мовы.** Менск. 1929.
292. **Праваслаўны каляндар на 1929 год.** Менск. 1929.
293. **Прохараў А.А.** Культура цукровых буракоў БССР. Менск. 1930.
294. **Пруслін.** 1917 год у Полацку. Выд. 1934.
295. **Пікус, Жванскі, Баяровіч, Крывадубскі.** Памятка па арганізацыі севазварота ў прамысловасці і свінасоўгасах. Менск. 1932.
296. **Пеўзнер.** Грамадазнаўства. Менск. 1927.
297. **Прымерны план работы.** Выд. Аршанскага Райсовета Асоавіяхіма.
298. **Пралеска Язэп.** Паноў трэба знішчаць гуртам. Выд. ДВБ. 1933.
299. **Петрайціс.** Лемантар. ДВБ. 1931.
300. **Пігулеўскі.** Кніга для чытання пасля лемантара. ДВБ. 1932.
301. **Пастанова Цэнтр. Совета Асоавіахіма па дакладу тав. Кузьнецова.** “Аб ходзе падрыхтоўкі і задачах новага вучэбнага году: 1933”.
302. **“Полымя рэволюцыі”.** Увесь камплект за 1934 год.

303. **Пруднікаў Алесь.** Зямныя зоры. Выд. ДВБ. ЛІМ. 1932.
304. **Рак-Міхайлоўскі С.** ***УСЕ КНІГІ.***
305. **Рак-Сімон.** Гутарка аб беларускай мове. Менск. 1919.
306. **Радзевіч Л.** Пакрыўджаныя. П'еса. Менск.
307. **——”——** Рэволюцыйным шляхам. Менск. 1928.
308. **——”——** Сцэнічныя творы. 1921.
309. **——”——** Беларусь. Вершы. Вільня. 1922.
310. **——”——** Досвіткі. 1922.
311. **Ракіта С.** ***УСЕ КНІГІ.***
312. **Рэўка С.** З-пад Барысава (Ф.Багушэвіч). Смык беларускі. Коўна. 1922.
313. **Равінскі М.** Зборнік песень з нотамі. Менск. 1922.
314. **Роднае слова.** Менск. 1 і 11 ч. Усе выданні.
315. **Русак М.** Народны суд над селянінам, запусціўшым сваю гаспадарку. Менск. 1924.
316. **Рэволюцыя 1905 г.** (Зборнік пад рэд. Ігнатоўскага і Я. Левіна). Менск. 1926.
317. **Рудоміно Г.** Грамадазнаўства. Менск. Усе выданні.
318. **Рудоміно Юры.** Грамадазнаўства. Менск.
319. **Рэкамендацыйны спіс літаратуры да XI гадавіны са дня смерці В.І.Леніна.** Выданне Дзяржбібліятэкі. 1935.
320. **Розенблюм.** ***УСЕ КНІГІ.***
321. **Смоліч А.** ***УСЕ КНІГІ.***
322. **Сташэўскі В.** ***УСЕ КНІГІ.***
323. **Скрыган Я.** ***УСЕ КНІГІ.***
324. **“Совецкае будаўніцтва”**. Журнал № 8-9. Выд. 1926.
325. **Смоліч Аляксандра.** Зорка. Беларуская граматыка. Вільня. Усе выданні.
326. **Сучасны П.С.** Фацэція на 1-ю дзею. Вільня. 1923.
327. **Сцэнічныя творы для дзіцячага тэатра.** Вільня. 1923.
328. **Спекулянты беларускай душой.** 1921.
329. **Станкевіч Янка.** Беларускі правапіс з практыкаваннямі. Вільня. 1921.
330. **——”——** Правапіс чужых слоў. Вільня. 1921.
331. **Стыдна маўчаць і чакаць.** 1921.
332. **Сцэнічныя творы: Ц. Гартны.** Соцыялістка. **М.Кудзелька.** Сон на балоце. **Ф. Аляхновіч. Калісь, лес шумеў.** Менск. 1924.
333. **Сваяк Казімір.** Мая ліра. Вершы. Вільня. 1924.
334. **Суліма.** Здзехоўскі аб беларускай душы. Вільня. 1924.
335. **Самковіч У. і Пратасевіч І.** Родныя шляхі. Менск.
336. **Слоўнік лясных тэрмінаў.** Менск. 1926.
337. **Сцепановіч Хв.** Родная мова ў комплекснай сістэме выкладання ў школе 1-га канцэнтра. Менск. 1928.
338. **Сцэнічныя творы.** Зборнік. Вільня. 1928.
339. **Сержпутоўскі Александр.** Прымхі і забабоны беларускіх паляшукоў. Менск. 1930.
340. **Сталевіч.** Беларускі нацыянал-фашызм. 1930.

341. **Сілін Б. і Захараў.** Як кашалі плесці. БДВ. 1926.
342. **Скрыпнік.** Нацыянальнае пытанне ў праграме комінтэрну. Менск. 1930.
343. **Слоўнік тэрміналогіі агульнае раслінагадоўлі.** Менск.
344. **Соя ў БССР.** Менск. 1933.
345. **Сіневока-Неразік.** Рабочая кніга. 3 год навучання. Ч.1 і 2. ДВБ. 1932.
346. **17 год на варце соцыялізма.** Брашура І.Іванова. Выд. БВО. 1935.
347. **Савецкая дэмакратыя.** Зборнік. Выд. БелАН.
348. **Салагуб.** Лукішкі. Выд. 1932.
349. **Сыцько В.М.** Крытыка трацкісцкай тэорыі імперы-ялізму. Выд. БАН. 1934.
350. **Сталін І.В.** Пытанні ленінізму. На белмове. Пераклад Яна Густыра. Белдзяржвыдавецтва. Менск. 1931.
351. **Таўбін Ю.** ***УСЕ КНІГІ.***
352. **1905 год у Беларусі.** Зборнік пад рэд. Шульмана. Менск. 1925.
353. **Тарас на Парнасе.** Менск. 1917.
354. **Тарашкевіч Б.** Беларуская граматыка для школ. Вільня. Усе выданні.
355. **Тарас Палясоўшчык.** Коўна. 1925.
356. **Тутэйшы.** Што дзяліць, а што не, каб супакой быў на свеце. 1920.
357. **Тэраўскі Ул.** Беларускі спеўнік з нотамі на тры галасы паводле народных мелодый. Менск. 1921.
358. **——”——** Беларускі лірнік. Спеўнік на 4 галасы. Берлін. 1922.
359. **Тупяневіч С. і Заяц П.** За лепшую сельскую гаспадарку і сельска-гаспадарчы гурток. Менск. 1926.
360. **Указанні да праграм няпоўнай сярэдняй і сярэдняй школы.** БДВ. 1934. Рэд. Лышчынскі.
361. **Уліцын.** Суд над трохпалёўкай. 1935. Менск.1926.
362. **——”——** За ўраджай. Менск. 1929.
363. **——”——** Насенне, яго якасць і падрыхтоўка. Менск. 1931.
364. **Уладаў В.** Вытворчыя нарады ў калгасах. Менск. 1931.
365. **Уральскі.** Зніштажэнне супроцьлегласці паміж горадам і вёскай. Выд. ДБВ. 1933.
366. **Фарботка Я.** Беларусь у песнях. Менск. 1920.
367. **Хадыка Ул.** ***УСЕ КНІГІ.***
368. **Хто вінават.** 1921.
369. **Харламповіч П.** Пяцігоддзе дзяржаўнага музея. Менск. 1927.
370. **Халепа.** 14 год Кастрычніцкай рэвалюцыі. 1931.
371. **Хайтун.** Паходжанне і класавая сутнасць вялікадня. Менск. 1933.
372. **Хрэстаматыя рэв. літаратуры Заходняй Беларусі.** Выд.

БАН. 1933. Пад рэд. Мятлы.

373. **Цвікевіч А.І.** ***УСЕ КНІГІ.***

374. **Цвікевіч І.І.** ***УСЕ КНІГІ.***

375. **Цэйтлін М.** Арганізацыя буйнай гаспадаркі ільнянога раёна. Менск. 1931.

376. **Чарот М.** ***УСЕ КНІГІ.***

377. **Чарняўская Л.** Дзяцінныя гульні. Вільня. 1919.

378. **Чарняўшчынка Л.** Родны край. Менск. 1921.

379. **Чаго чакаць беларусам ад Польшчы.** 1921.

380. **Чуйко Г.** Вынікі масавых доследаў з угнаеннямі па БССР. Менск. 1930.

381. **Чарняўскі.** Яўрэйскі рабочы на зары рэв. руху. Менск. 1932.

382. **Чарнушэвіч Н.** Дзіва. Вершы. Менск. 1932.

383. **“Чтец”**. Зборнік Сярожнікава. ГІЗ. 1926.

384. **Шантыр Ф.** Патрэбнасць нацыянальнага жыцця для беларусоў і самаадзначэнне народа. Слуцк. 1918.

385. **Што трэба ведаць кожнаму беларусу.** Зборнік артыкулаў розных аўтараў: Міцкевіча, Лёсіка, Ластоўскага, Багдановіча і інш. 1918.

386. **Ш. Рыгор.** Чаму-ж ты маўчыш, кабета сялянская? Бярэсце. 1921.

387. **Шуляк І.** Вышэй галаву, беларускі селянін. Пінск. 1921.

388. **Шлюбскі Ал. (**Сябра інстытута беларускае культуры.) Паны і сяляне ў першай палове XIX стагоддзя. Менск.

389. **——”——** Бядуля як этнограф. Менск. 1925.

390. **——”——** Квашаніна. Віцебск. 1926.

391. **——”——** Матэрыялы для вывучэння фальклора і віцебскае культуры. Менск. 1925.

392. **Шапавалаў М.** Скарына, яго дні ды друк на Беларусі. Менск. 1925.

393. **Шэўчык і Саломенік.** Граматыка беларускай мовы. (Марфалогія і сінтаксіс).

394. **Шыпіла І.** Што кожны селянін павінен ведаць аб кааперацыі. 1925.

395. **Шпілеўскі.** Беларуская Акадэмія Навук да XV-годдзя. Выд. БАН. 1934.

396. **Школьныя тэксты.** Менск. 1927.

397. **Шчакаціхін Мікола.** Нарысы з гісторыі беларускага мастацтва. Том І. Курганныя старажытнасці Беларусі. Менск. 1928.

398. **Шатэрнік М.** Краёвы слоўнік Чэрвеньшчыны. Менск.

399. **Шапялевіч.** Беларуская мова. Першы і другі год навучання. Менск. 1933.

400. **Шыменас.** Кніга для чытання. 2-гі год навучання. Цэнтральнае выдавецтва СССР. 1931.

401. **—-”—-** Кніга для чытання. 4-ты год навучання. Ч.2.

402. **Шчэрбакоў.** Кастрычніцкая рэвалюцыя на Беларусі.

Белапольская акупацыя. Менск. 1930.

403. **Э.Б.** Што такое простая і што такое мудрэйшая гаворка. Вільня. 1920.

404. **Ядвігін Ш.** Бярозка. Вільня. 1923.

405. **——”——** Чалавек. Хлеб. Баба. Заморскі звер. Пазыка. З маленькім білецікам. Вучоны бык. Што сказаў певень. Падласонкі. Рабы. Дачэсныя. Апавяданні. Менск.

406. **Янчук Н.А.** Нарысы па гісторыі беларускай літаратуры. Менск. 1922.

407. **Ярашчук Е.Л.** Сувязь сялянскай гаспадаркі БССР з рынкам. Менск. 1926.

408. **Якуб Колас у літаратурнай крытыцы.** Менск. 1926.

409. **Янка Купала ў літаратурнай крытыцы.** Менск. 1928.

410. **Якімовіч А. і Гародкіна Е.** Чытанка для 2 класа. ДВБ. Менск. 1936.

**ДАДАТКОВА КАНФІСКУЮЦЦА:**

411. **Шчэрбакоў.** Нарыс гісторыі Беларусі. Ч. 1. Менск. 1936.

412. **——”——** Класавая барацьба і гістарычная навука Беларусі. Менск. 1934.

413. **Кернажыцкі.** Да гісторыі аграрнага руху на Беларусі напярэдадні імперыялістычнай вайны. БАН. Менск. 1932.

414. **——”——** Аграрная рэформа ў Бабруйскім старастве. Менск. 1930.

415. **——”——** Гаспадарка прыгоннікаў на Беларусі. Менск. 1936.

416. **Кастрычнік на Беларусі.** Зборнік. Менск. 1927.

417. **Дудкоў Д.** Сталыпінская рэформа ў Віцебскай губерніі. Менск. 1931.

418. **Зборнік афіцыйных дакументаў у дапамогу масаваму настаўніку.** Склалі Н.Левін і А.Хайфец. ДВБ. 1934.

419. **Некрашэвіч А.** Чытанкі для III і IV кл. Выд. 1933, 1934, 1935, 1936. ДВБ. Менск.

420. **Васіленка.** Хрэстаматыя па беларускай літаратуры для IX-X класа. Менск. ДВБ. 1935.

421. **Бендэ.** Хрэстаматыі па Беларускай літаратуры для V, VI і VII класаў. Выд. ДВБ. Менск.

Паўліна МЯДЗЁЛКА

# ЛІСТЫ З БЭРЛІНА

*З імем Паўліны Мядзёлкі асацыюецца цэлая гістарычная эпоха Беларусі. Яе вобраз нязменна паўстае поруч з Я. Купалам, В. Ластоўскім, К. Буйло, Цёткай, Ц. Гартным ды іншымі. Яна была ўдзельніцай тых падзеяў, што мянялі ходу гісторыі. У яе біяграфіі — веліч і трагізм той эпохі, пошукі і памылкі, лёс народа і асабістая драма.*

*Нарадзілася П.Мядзёлка 12 верасня 1893г.* у в.Будслаў Вілейскага павета Віленскай губерні ў сялянскай сям'і. Дзяцінства прайшло ў Глыбокім. У 1907г. з дапамогі знаёмых цёткі і бацькі ўладкоўваецца на прыватныя курсы ў Рызе. У 1909г. паступае ў прыватную жаночую гімназію ў Вільні. Там пазнаёмілася з Я.Купалам, А.Бурбісам, Цёткай, З.Бядулем, К.Каганцом. У 1912г. паехала ў Пецярбург і здала ўступныя экзамены на Вышэйшыя камерцыйныя курсы. Курсы скончыла ў 1914г. Падчас вучобы брала актыўны ўдзел у вечарах беларускай моладзі на кватэры Б.Эпімах-Шыпілы. Увайшла ў гісторыю тэатра як першая выканаўца ролі Паўлінкі ў аднайменнай п'есе Я.Купалы, прэм'ера якой адбылася ў Пецярбургу ў 1913г. У часе Першай сусветнай вайны П. Мядзёлка пераязджае ў Глыбокае да бацькоў, а затым у Царыцын. Пасля — зноў Пецярбург і праца ў Камітэце дапамогі ахвярам вайны. Колькі месяцаў 1917г. прайшлі ў Кіеве. У кастрычніку 1917г. з дапамогай кн. М. Радзівіл арганізоўвае беларускую школу ў Жорнаўцы Ігуменскага павета. У 1918г. П.Мядзёлка пераязджае ў Мінск, працуе настаўніцай і аднначасова з'яўляецца акторкай Першага таварыства беларускай драмы і камедыі. У 1918г.*

*Дата нараджэння даецца ў адпаведнасці з дублікатам Пасведчання аб нараджэнні, выд. архівам ЗАГС у 1964г. БДАМЛіМ, ф.377, воп.1.

*— настаўніца беларускай школы ў в.Мядзведзічы Слуцкага павета. У 1919г. перабіра-ецца ў Вільню, адкуль атрымоўвае прызначэнне ў Горадню інспектарам беларускіх школаў. У Горадні кіруе Грамадой беларускай моладзі, драматычным гуртком. У ліпені 1919 арыштавана польскімі ўладамі па справе газеты "Родный край". У 1920г. у Менску, кіруе 4-класнай беларускай жаночай гімназіяй. У маі 1920г. разам з мужам Тамашом Грыбам арыштавана польскай дэфензівай. Арышт адбывала на Познаншчыне ў Вронках. Пасля вызвалення месцам жыхарства ёй была прызначана Лодзь. З Лодзі, па падробленых дакументах, выехала ў Вільню. У 1920г. праз Глыбокае ўцякае ў Коўна. З верасня 1921г., па запрашэнні Ц.Гартнага, працуе стыль-рэдактарам у выдавецкім аддзеле пры савецкім пасольстве ў Берліне. У 1922г. звальняецца і пераязджае ў Латвію ў Дзвінск, дзе выкладае ў беларускай гімназіі. Абвінавачваецца латышскімі ўладамі ў "падрыўной дзейнасці". Пасля следства, якое доўжылася год, і апраўдання судом пакідае Латвію і выязджае ў Савецкі Саюз. Працавала навуковым супрацоўнікам Інбелкульта, выкладала ў Горацкай сельгасакадэміі. У 1930г. была арыштавана органамі НКУС па справе "Саюз вызвалення Беларусі" і выслана за межы Беларусі. З восені 1932г. і да 1947г. жыве ў Маскве і працуе выкладчыцай рускай мовы і літаратуры ў школе. Летам 1947г. пераязджае ў Будслаў да маці, настаўнічае ў мясцовай школе, арганізоўвае харавы і драматычны калектыў. Памерла П.Мядзёлка 13 лютага 1974г. Пахавана ў Будславе.*

*Лісты П. Мядзёлкі з Берліна — тэма нашай публікацыі, распавядаюць пра малавядомыя, а то і зусім невядомыя старонкі яе жыцця і грамадскай дзейнасці. Ні ў сваіх успамінах, а тым больш ні ў біяграфіях і анкетах, П. Мядзёлка не згадвае пра сваю прыналежнасць да беларускай партыі сацыялістаў-рэвалюцыянераў (БПС-Р). Старонкі, прысвечаныя Т.Грыбу, стваральніку і кіраўніку партыі эсэраў, сведчаць, што яна "наогул не ўмешвалася ў партыйныя справы мужа", а аб праграме партыі пісала "іх праграма". Але архівы захавалі сведчанні зусім нечаканыя. Першае — гэта заява П. Мядзёлкі ў Камітэт Загранічнай групы БПС-Р аб рэгістрацыі ў членстве і выдачы сяброўскага білета ад 30.XI.21г., напісана ў сувязі з перарэгістрацыяй сяброў партыі, абвешчанай кіраўніцтвам БПС-Р у канцы 1921г. Значыць, П. Мядзёлка і дагэтуль была членам партыі. Але ўсе падзеі апішам у храналагічнай паслядоўнасці.*

*"Увосень 1921 праездам з Мінска затрымаўся на адзін дзень у Каўнасе Цішка Гартны. Ён накіроўваўся ў Берлін па справе выдавецтва беларускіх падручнікаў для школ.*

*Спаткаўшы мяне на вуліцы, ён запрасіў мяне супрацоўнічаць пад яго кіраўніцтвам у якасці стыльрэдактара і карэктара"*,— піша П.Мядзёлка ў сваіх успамінах. Яна згаджаецца. Пра гэта сведчыць і запіс №14 у яе "Працоўным спісе"**; "1921 верасень, залічана супрацоўніцай пры выдавецкім аддзеле Внешторгу СССР у Берліне". Але паміж запрашэннем З. Жылуновіча і пачаткам работы ў якасці стыльрэдактара ў выдавецкай суполцы "Змаганне" адбылася падзея, пра якую П. Мядзёлка змаўчала. Менавіта ў верасні 1921г. у Празе адбылася канферэнцыя беларускіх палітычных партыяў, ініцыянаваная Замежным Бюро ЦК БПС-Р. З Коўна П. Мядзёлка адправілася праз Берлін у Прагу Чэскую на агульнабеларускую палітычную канфе-рэнцыю. Пра гэта сведчыць ліст родным ад 8 кастрычніка 1921г. з Берліна. Са зместу вынікае, што П. Мядзёлка выехала з Коўна ў Прагу 20 верасня. Шлях пралягаў па Балтыйскім моры, праз Германію. "У Берліне затрымаліся на адзін дзень і рушылі далей". Відаць, у гэты самы дзень П. Мядзёлка і была афармлена на працу ў выдавецкае таварыства "Змаганьне". Бо далей чытаем, што "была я там [у Празе] цэлы тыдзень. 1-га [кастрычніка] прыехала ў Берлін". Вядома, што быў на канферэнцыі і Тамаш Грыб. Але пасля Мядзёлка застаецца ў Берліне, а Тамаш Грыб вяртаецца ў Коўна ("Тумка едзе ў К..."). 30 лістапада 1921г. яна перадае праз Т. Грыба сяброўскую складку ў партыйную касу. Мажліва, што Т.Грыб затрымаўся ў Берліне перад ад'ездам у Коўна. У 1922г. ён вернецца ў Прагу, каб застацца там назаўсёды.*

*2 студзеня 1922г. П. Мядзёлка перасылае чарговую сяброўскую складку і просіць дазволу Камітэта загранічнай групы БПС-Р выдаць за яе асабісты кошт паштоўку песні з нотамі "Пад гоман вясёлы" і лозунгам: "Змагайся, як мага, зможаш!". Паштоўка была выдадзеная. Без лозунгу, але з прысвячэннем Тамашу Грыбу. Пройдуць гады, і прысвячэнне будзе ўласнаручна заштрыхавана, а паштоўка ўсё ж захаваецца ў яе асабістым архіве.*

*У студзені 1922г. Паўліна Мядзёлка напіша яшчэ раз з Берліна свайму брату Зыгмусю. Няма ў ім ужо таго захаплення цудамі Еўропы, а больш тугі па Бацькаўшчыне, клопату за блізкіх. Гэты ліст і сёння можа паслужыць карыснай парадай любому настаўніку.*

*Паўліна Мядзёлка пакіне Берлін летам 18 ліпеня 1922г. У яе "Працоўным сьпісе" з'явіцца запіс: "Прызначана выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры ў Беларускай дзяржаўнай гімназіі і на беларускіх курсах у Дзьвінску".*

* П.Мядзёлка. "Сцежкамі жыцця", М., 1974,с.206.

** Зберагаецца ў БДАМЛіМ ф.377, воп.1.

Паўліна Мядзёлка. Коўна, 1921 г. (БДАМЛіМ. Друкуецца ўпершыню.)

***8 кастр. 1921г.***
***Бэрлін***

Баценькі і хлапчукі мае родныя!

Вось аж гдзе я апынулася... у самым сяродку Эўропы. 20-га верасьня з К.[оўна. — **Г.З.**] у Прагу Чэскую. Ехала першы раз морам. Хай яно згарыць! Мора толькі з берагу прыгожа — добра на берагу грэцца на сонейку, бегаць па пясочку, купацца, глядзець на хвалі — тагды цудоўнае мора. У Полондзе [Паланзе. — **Г.З.**] наглядзелася на яго хараство. Але ехаць... бррр!.. Добра яшчэ, што разам ехаў Кастусь* — то па яго інтэрвэнціі абышлося без Латышскай візы. Прышлося ехаць морам 18 гадзін — ну і радасна-ж мы спаткалі зямельку. Я думаю і Калумб ня больш быў рад.

Затрымліваліся ў Кэнігсбергу. Харошы горад — што і казаць, а каб усё апісываць — часу ня хопе. У Бэрліне затрымаліся на адзін дзень і рушылі далей. Вось тут каб і хацела, то трудна апісаць таго магутнага ўражэньня з гэтай падарожы. Такога хараства і ў сьне ня сьніла — гэта дарога праз Дрэздэн, Пешын, а назад ехалі праз Бодэнбах. Праз усю дарогу ехалі ў даліне ракі Эльбы па самым берагу. З абодвух старон высокія горы — скалы. — На самым шчыце скалы то там то сям срэднявечныя замкі. Э! Што там пісаць! Адно толькі — зварачваюся да вас хлопцы. Усе сілы прыкладайце да таго, каб праехаць па Эўропе. Варта пагаладаць, варта... Ну што варта? Усё, абы толькі мець магчымасьць паглядзець на цуды прыроды і — культуры.

Прага дзіўны горад — прыгожы. Музэум, будынкі сярэднявяковыя і новыя. Помнік Гуса робіць сільнейшае ўражаньне. Мы там усклалі вянок на магілы чэскіх герояў. Падчас змаганьня чэхаў за сваю волю — згінула карай сьмерцю праз павешаньне 46 чэхаў-юнакоў. Усе моўчкі памiралі — адзін толькі азваўся: “Pozdrawcie ode mnie moje krasne Иecky”** Другі з іх недачакаўшы ката — сам сакольскім скокам апынуўся на шыбеніцы і зацыгнуў сабе пятлю. Трэці сарваўся з вяроўкі, і яго меліся памілаваць. Ён стаў перад глаўным начальнікам і горда сказаў, “Nie chce milosti”*** — тут-жа і яго павесілі — так паміралі чэхі за сваю бацькаўшчыну. Калі ўсклалі вянок — былі прамовы: ад нас і ад чэхаў — усе плакалі.

Была я там цэлы тыдзень. 1-га прыехала ў Бэрлін!.. (Тумка**** едзе ў К.) Ну і Бэрлін!.. 4 мільёны жыхароў. 30 вёрст у шырыню. Рух цягнікоў, трамваяў, аўтобусаў і др. над галавой, па вуліцы і пад зямлёй... Усё кудысьці ляціць, імкнецца, прэцца — як у пеклі. Ну, але драбніцы пасьля калі-небудзь апішу.

Астаюся тут у Бэрліне і, магчыма, на доўга. Працую пры выдавецтве кніжок. Маю пэнсіі 3.000 мк. у м-ц. На жыцьцё мне пойдзе 1500—2000 мк. — на рэшта буду памаленьку апранацца. Трэба і абуцца як належыць і сукенак пару зрабіць і пальто. Мо гэтакае здарэньне ня скора будзіць трэба скарыстаць. А калі будзе яко здарэньне — падашлю вам, бо почтай нельга.

Вось у кароткіх словах падзеі апошніх дзён майго жыцьця. Калі лісты будуць даходзіць — буду пісаць памагчымасьці часта. Пішэце на такі адрэс:

Niemcy - Deutschland Berlin

П.Мядзёлка (зьлева) з братам Зыгмусем і невядомай.
(БДАМЛіМ. Друкуецца ўпершыню.)

Friedenau. Rönneberg str.2.
bei Müller. Fr. Duscheoskaja Paúlincy

Хутчэй адзавіцеся. Каб я ведала, ці даходзяць пісьмы. Цалую.

Паўліна.

(Беларускі дзяржархіў-музей літаратуры і мастацтва, ф.377, в.1.).

---

* Маецца на ўвазе Кастусь Езавітаў (1893 —1946), беларускі нацыянальны дзяяч. Разам з П. Мядзёлкай браў удзел у 1-й беларускай палітычнай канферэнцыі ў Празе.

** “Прывітанне ад мяне маёй слаўнай Чэхіі” (з чэшскай).

*** “Не жадаю міласці” (з чэшскай).

**** Маецца на ўвазе муж Мядзёлкі Тамаш Грыб.

У Камітэт Загранічнай групы Беларускай Партыі
Соцыял.-Рэвалюцыянэраў.

Згодна атрыманаму паведамленьню аб перарэгістрацыі сяброў партыі* — гэтым прашу мяне зарэгістраваць і выдаць сяброўскі білет. Сябр(оўскую) складку за м-ц сьнежань у ліку 20 мк высылаю праз тав. Грыба.

30.XI.21 г.

Паўліна Мядзёлко.

Berlin-Fridenau
Kaiserallee, 137-I
Pension Jeuta.

(Нацыянальны архіў, ф.459, в.I, спр.3, арк.97.)

---

* Маецца на ўвазе абвешчаная кіраўніцтвам БПС-Р перарэгістрацыя сваіх сяброў у канцы 1921г.

У Камітэт Загран(ічнай) Групы Б.П.С.-Р.

Перасылаючы пры гэтым чарговую складку за м-ц студзень 1922 г. у ліку 20 мк., прашу залічыць, як ахвяру, 200 мк., якія належаць мне, як асабісты доўг, ад тав. Кляўдуша Душэўскага. Калі яму цяпер ня трудна — хай унясе іх у партыйную касу.

Пры гэтым прашу дазволу Камітэта Загранічнай гр(упы) Б.П.С.-Р. выдаць за мой асабісты кошт адкрытку песьні з нотамі “Пад гоман вясёлы”, зьмест якой К-ту вядомы. На гэтай адкрытцы хачу памясьціць наш лёзунг: “Змагайся, як мага, зможаш!” і выдадзена Загр. Гр. Б.П.С.-Р.”, або “выд. Сувязью Бел. пр(ацоўнага) Сял(янства)”, як К-т захоча. Вось на гэта і прашу дазволу, уважаючы, што сваім адумам, ня маю права гэтага рабіць.

Прашу скорага адказу.

З таварышыскім прывітаньнем і са шчырымі Навагоднімі пажаданьнямі.

2.1.22 г. Паўліна Мядзёлко-Грыб.

Бэрлін-Fridenau
Rцnneberg Strasse, 2-II.

(НА, ф.459, в.1, спр.3, арк. 106).

П.Мядзёлка, выкладчыца Дзвінскай гімназіі. Пачатак 1920 гг.
(БДАМЛіМ. Друкуецца ўпершыню.)

***8.1.22***
***Бэрлін***

Мусёк* даражэнькі!

Нарэшці сабралася і табе скрабянуць пяром. Дагэтуль не магла, бо... (але гэта табе на вухо шапчу, каб мама ня чула) бо крышку прыхварнула. Тут у Бэрліне пошасьць інфлюэнціі — ну і мяне на тыдзень збіла з ног, а ўсяму вінаван нямецкі Новы год. Гэты вечар, пад Новы год, сядзела ў хаці, як і на куцьцю, сама адна. Каля гадз. 1/2 12-й пачалося на вуліцы штосьці надзвычайнага — ня выцярпела і вышла на балькон. Баценькі мае! Такога дзіва і ў ва сьне ня бачыла!.. Стрэлы па ўсяму гораду проста аглушаюць — як падчас атакі ў Даўгінаве ў 1915 г. Поўна вуліца дзяцей. На балькомах страшныя дзікія крыкі “Neu Jahr! Neu Jahr!”** З кожнага балькона пушчаюць ракеты, бенгальскія агні, рымскія сьвечкі, чортавы калёсы, перакідываюцца сэрпантінам. Дзеці на вуліцы страляюць і таксама розныя агні штучныя пушчаюць. Адным словам — увесь Бэрлін у стрэлах у агні — як ён не згарэў, дык гэта дзіва! Вось так нямецкі Новы год! Прыходзіць з такім шумам і трэскам — зусім ня так, як наш — ціханька, спакойненька... А за тое, што я яго і не спатыкала зусім, а толькі дзівавалася,

як другія спатыкаюць, — вось ён раззлаваўся і захаладзіў мяне. У дабавак катораясь кішка ў жываце запхнулася нямецкімі бутэрбродамі і прышлося рыцынай праганяць. А ведаеш, за ўвесь час, як я сюды прыехала, я і ня нюхала масла і не каштавала малака або яек. Кормяць тут заместа масла — маргарынам, малако толькі на дзяцінныя картачкі прадаецца, а яек і не дакупіцца.

Ну, хоць раз ты мне напісаў палюдзку — дзякуй, братко! Скажы ты мне — чаму я так кепска сьню цётку Маньку? Што там здарылася? Сёненька трэці раз яе сьніла і вельмі кепска. Ды і мама раз мне дрэнна саснілася. Ці здарова мама?

А цябе то я сьніла, што ты прамяняў загарак на белую булку — вот-жа я злавалася на цябе за гэта! Прачнулася і падумала сабе:— ці не паехаў ён ужо ў той фальварак дзяцей вучыць? Як гэта баліць душа, што мяняеш свой час навукі на кусок хлеба. Праклятыя гэты межы. — Нічагусенькі пераслаць нельга. Кніжак на почце не прынімаюць. Хацела паслаць грошы праз банк у Вільню на імя Краскоўскага*** — не прынімаюць. Каб вы згарэлі! А пасылаць праз аказію — будзе тое самае, што і з зэгаркам, або 700 тк.

Ну, нічога не нарадзіш — трэ‘ вясны чакаць. А вясной мо я вярнуся на Бацькаўшчыну — ліст за лістам атрымліваю з Горадні ад пана Dambrowa**** каб вярталася я ў Горадню — абяцае, што ён будзе апякавацца нада мной і мне нічагусенькі не здарыцца благога. Пабачу, як скончу тут сваю працу, — мо і вярнуся. Тагды цябе вазьму за жэбры, што аж пішчэць ты ў мяне будзеш.

А пакуль што — папрацуй там. Каб лягчэй табе было — успамінай, як я вяла працу ў школе ў Мядзьведзічах. Карыстайся тымі падручнікамі, якія ў мяне дома засталіся. І вось мае рады, здабытыя шляхам практыкі:

Не задурвай дзецям галавы вечным чытаньнем. Чытаньне ў дзень 1 гадз. — найбольш 1 1/2, піс(аньне) — 1 гадз. — апрача гэтага, вядзі з імі гутаркі аб прыродзе, з жыцьця раслін, зьвяроў, ды зямлі, паветра, дожджу, снегу і г.д. — тлумач так, каб ім было зразумела. Чытай ім апавяданьне не даўгія, лёгкія — вучы іх пераказываць тое, што ім прачытаў (толькі не часта, каб ім не абрыдлі гэтыя апавяданьне), расказвай ім казкі, і хай яны табе расказваюць, загадвайце загадкі, рысуйце, напр., ты ім прачытаеш што кароценькага, а яны хай да гэтага нарысуюць якіх малюнак — як могуць (у маіх кніжках знойдзеш узоры рысункаў), прыдумывайце словы на адну якуюсь літэру або на адзін якісь склад. Вучы іх песеняк. І гэта ўсё трэба рабіць уперамешку. Магчыма, што бацькі будуць патрабаваць, каб дзеці не разгібаючы плеч цалюсенькі дзень чыталі і пісалі — ты ім вытлумач, што ні ў аднэй парадачнай школе так ня мучаюць дзяцей — хіба толькі

Паштоўка з песняй-прысвячэннем Тамашу Грыбу, выдадзеная за асабісты кошт П.Мядзёлкі ў Бэрліне ў 1922г. (БДАМЛіМ.)

вучыцялі — олухі і самі мала граматныя, ад гэтага дзеці толькі горш дурнеюць і тупеюць. Трэба ня толькі вучыць чытаць і пісаць, а развіваць дзіцячы розум, каб ён мог і думаць і высказаць тое, што думае.

Памятай адно: кожны дзень трэба самому добра прыгатавацца да лекціі. Улажыць сабе плян — што ты заўтра будзеш з імі рабіць, аб чым гаварыць, што ім прачытаць і г.д. — тагда пройдзе дзень добра, інтэнсыўна, і ты сам будзеш здаволены і дзеці, а як не прыгатуешся сам — то ўсё будзе з рук вылятаць — ты будзеш непатрэбна нэрвавацца і дзеці нудзіцца, і бацькі могуць быць нездаволены. Я ўсё гэта знаю па сваей скуры.

Апрача ўсяго гэтага, працуй над усьведамленьням народа... Нагавары іх выпісаць на супалку газэту — толькі барані Бог, не аляксюкоўска-панскую*****. Можа ўдасца табе

паставіць спэктаклік — хацяб гэту самую Чорт і бабу. Ну, а як-жа будзе з лекцыямі рэлігіі? З катэхізмамі? Ой, бедны-ж ты, бедны!..

***

Ну, што-ж табе больш напісаць?

Дужа добра, што пачаў збіраць каллекціі марак — шкада, што не сабіраў раней, кал(ішнія) грошы, калі яшчэ можна было дастаць і Врагелоўскіх і Дэнікінскіх і Ostan і рознай трасцы — цяпер трудней, бо ўсе гэтыя грошы пашлі на каллекціі. Тут у Нямеччыне ёсць асобыя магазыны для гандлю маркамі — і чым старэйшыя маркі, тым даражэй каштуюць. У каллекціі важно ня толькі маркі розных краёў, але і год іх ходу. Пасылаю табе крыху — калі дойдуць (бо могуць і марак не прапусьціць), напішы, тагды куплю табе іншых. А цяпер раджу вось што зрабіць: напішы Езавітаву (Latwija. Ryga. Nikolaj-str. 20 w.) прыблізна так:” В(ельмі) Пав.(ажаны) п. Ез.(авітаў)! Даруйце, што сваімі справамі занімаю Вам час. Хачу ў Вас папрасіць адрэсу якога-небудзь беларускага хлапчука ў Латвіі, такога, як і я, які б захацеў перапісывацца са мной дзеля абмену пачт. маркамі. Я чуў, што ёсьць і беларускія пачт. маркі, але ня ведаю скуль іх дастаць”.

У яго ёсьць бел. маркі — ён табе прышле. Толькі ня пішы, што я цябе навучыла! Скажы, што адрэс яго вычытаў у бел. газэце. Падпішыся выразна. Можаш дабавіць прывітаньне ад Казюка і бацькоў, калі ён памятуе. Успомні і аб тым, што ты застаўся гэты год без навукі, бо школы пазакрывалі, у чужую пайці ня хочаш, а да Вільні вельмі далёка.

Ну вось і ўсё, пакуль што.

Калі-ж прышлеце фотогр. таты і мамы?

Цалую ўсіх.

Ваша Паўліна.

(БДАМЛіМ, ф.377, в.1).

---

* Ліст напісаны роднаму брату Зыгмусю.

** “Новы Год! Новы Год!” (з нямецкай).

*** Краскоўскі Іван (1880—1955), беларускі палітычны і грамадскі дзяяч. З 1922г. — дырэктар Дзвінскай беларускай гімназіі. З сям‘ёй Краскоўскіх П. Мядзёлка мела цесныя сяброўскія дачыненні.

**** Дамброва (Dambrowa) Юзэф, следчы акруговага суда ў Горадні ў 1919—1920г. Пазнаёміўся з П.Мядзёлкай у ліпені 1919г. падчас яе першага арышту. Спрыяў яе вызваленню з турмы. Пасля жыў у Лодзі. Праз некаторы час зноў вярнуўся ў Горадню, дзе меў прыватную адвакацкую практыку.

***** Маецца на ўвазе газета “Jednoњж” (“Еднасьць”), якую выдаваў П. Аляксюк, стваральнік паланафільскай арганізацыі “Беларуская краёвая сувязь”.

**Прадмова, падрыхтоўка да друку і каментары Ганны ЗАПАРТЫКІ.**

# З РУКАПІСНАЙ СПАДЧЫНЫ ТАМАША ГРЫБА

*Сярод іншых выбітных дзеячаў беларускага вызваленчага руху пачатку XX ст. постаць Тамаша Грыба (1895—1938) шмат у чым адметная. Па палітычных перакананнях як сацыяліст-рэвалюцыянер, выразнік ідэяў сялянскага сацыялізму, ён з самага пачатку выступіў супраць бальшавіцкага рэжыму, супраць руйнавання ім дэмакратычных асноваў грамадства, манапалізацыі палітычнай улады ды ўмацавання таталітарызму. Да апошніх сваіх дзён заставаўся гэты палымяны змагар за беларускую свабоду непахісным незалежнікам, прыхільнікам дэмакратычных каштоўнасцяў. Семнаццаць апошніх гадоў жыцця ён мусіў правесці ў эміграцыі як палітычны выгнаннік. У гэты нялюдскі, шматпакутлівы час не кожны здолеў захаваць вернасць абранаму шляху. Многія з бліжэйшых паплечнікаў Грыба, духоўна ды фізічна знясіленыя, паверыўшы ў шчырасць бальшавіцкіх абяцанняў, у “дараваную” амністыю, павярталіся ў Менск, каб спаткаць тут сваю смерць у сталінскіх вязніцах ды лагерах. Тамаш Грыб — адзін з нямногіх, хто да канца застаўся верны клічу беларускіх эсэраў — “Змагайся, як мага, зможаш!”*

*Атрымаўшы дыплом доктара філасофіі ў Карлавым універ-сітэце ў Празе, Грыб мусіў зарабляць на хлеб не на ўнівер-сітэцкай кафедры, а цяжкай фізічнай працай. Але нягледзячы на неспрыяльныя варункі ён, як і раней, дзейсна працуе на карысць беларускай справы. У пражскай ды віленскай бела-рускай прэсе Грыб актыўна выступае ў абарону нацыянальных ды сацыяльных правоў беларускага народа, філасофскі і гістарычна абгрунтоўваючы ягонае прыроднае права на незалежнасць ды свабоднае існаванне як раўнапраўнага суб‘екта міжнароднага супольніцтва. Аналізуючы палітыку бальшавікоў у дачыненні да Беларусі,*

*ён паказаў сапраўдную сутнасць камуністычнага рэжыму, яго антынародны характар. Стаўшы пасля смерці Мікалая Вяршыніна ў 1934г. загадчыкам Беларускага замежнага архіва ў Празе, Тамаш Грыб аддаў шмат сілаў і энергіі на збор, сістэматызацыю ды захаванне архіўных матэрыялаў па гісторыі і культуры Беларусі. Вялікую ўвагу звяртаў ён на праблемы беларускага студэнцтва ў эмі-грацыі, намагаючыся аб'яднаць яго на агульнанацыянальным грунце. Цвёрда трымаючыся прынцыпаў г.зв. "крытычнага" сацыялізму, галоўны ідэолаг беларускіх эсэраў, ставячы агуль-нанацыянальныя інтарэсы вышэй за партыйныя і асабістыя, не раз выяўляў добрую волю ў пошуках паразумення з прад-стаўнікамі іншых палітычных плыняў дзеля стварэння адзінага беларускага фронту патрыятычных сілаў у змаганні за неза-лежнасць бацькаўшчыны. Ён добра разумеў, што толькі паяд-наная беларуская дэмакратыя здольная супрацьстаяць каму-ністычнай тыраніі.*

*Смерць напаткала Тамаша Грыба ў дарозе, не дазволіўшы яму здзейсніць усе свае задумы і планы. У жалобнай прамове на ягоную смерць блізкі сябра нябожчыка, адзін з патрыярхаў расейскай дэмакратыі Віктар Чарноў, сказаў наступныя словы: "Тамаш... умеў да канца перацярпець усе насьледкі прынятае ім лініі паступоўваньня, умеў жыцьцёвы келіх, пасланы мачахай-гісторыяй, піць да дна. І ён належыць да ліку тых, якія збаўлены. А сколькі мы бачым ня збаўленых, але загінуўшых, якія скунуліся з галавою ў жыцьцёвай прозе дробных хітрыкаў, "страстей и страстишек", у каньюнктурызьме, у гэшэфт-махер-сцьве і хцівасьці. Ад гэтага ўсяго ён душу сваю збавіў, — але цела загубіў... І калі Тамаш Грыб пакінуў нам шматзначучы палітычны тэстамэнт, то побач зь ім ён пакінуў і другі — чыста людзкі. Дык даражэце-ж гэтым тэстамэнтам, і няхай ён будзе зернем, якое дасьць у сэрцах нашых жывыя ўсходы".*

*Друкаваныя тут архіўныя матэрыялы з рукапіснай спадчыны Тамаша Грыба захоўваюцца ў асабістых зборах Васіля Русака і Кастуся Езавітава Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь (ф. 458 і 459).*

*Шматпланавыя па форме, гэтыя матэрыялы прасякнутыя галоўнай думкай — занепакоенасцю лёсам Беларусі і беларускага адраджэння. Аўтар падрабязна разглядаў і аналізаваў тагачасны стан беларускае справы, стаўленне расейскай дэмакратыі да беларускага пытання, вызначаў і абгрунтоўваў тыя задачы, якія стаяць перад беларускімі дзеячамі на бліжэйшую перспектыву, гаворачы аб праблемах беларускага студэнцтва, падкрэсліваў авангардную ролю моладзі ў беларускім вызваленчым руху. Узнятыя праблемы, думаецца, не страцілі сваёй актуальнасці і на сённяшні дзень.*

## У ВІЛЕНСКІ АКРУЖНЫ КАМІТЭТ БПС-Р

Дарагія таварышы!

Вам, напэўна, ведама, што ў Праскі ўнівэрсытэт ёсьць ужо 50 стыпендыяў для студэнтаў-беларусаў. Зь іх вольных 37. Ёсьць 20 стыпендыяў у Украінскую сельска-гаспадарчую Акадэмію. Такім чынам, у гэтым годзе ў Прагу можна паслаць 57 асобаў студэнтаў-беларусаў. Значная частка прыпадае на Заходнюю Беларусь. От-жа, надта было б важна, каб Школьная Рада* паслала такіх студэнтаў, якія б узапраўды, пасьля атрыманьня вышэйшае асьветы маглі быць карыснымі грамадзянамі роднага краю і актыўнымі змагарамі за народную волю. Не так даўно ў Празе стаўся вельмі непрыемны выпадак — група студэнтаў-беларусаў, у тым ліку Рагач ды інш., адмовіліся ад беларускай стыпендыі і перайшлі ў лік “грамадзян РСФСР”. Гэта быў скандальны выпадак. Трэ‘ гэта мець на ўвазе пры складаньні сьпісаў на гэты год. Бо нам няма зусім сэнсу сваімі ўласнымі рукамі пладзіць беларускіх рэнэгатаў. Годзе ўжо, і так зашмат у нас іх ёсьць. Са складаньнем спісаў трэба прысьпяшацца, каб не спазьніцца.

А як справа стаіць з гуртком студэнтаў-беларусаў у Віленскім унівэрсытэце? Няўжо такі зусім безнадзейна — адны казлы ды бараны? Трэба працаваць сярод моладзі ды студэнцтва. Не з палітыкі трэба пачынаць, а з высьвятленьня культурна-эканамічнай праблемы адраджэньня Беларусі. Трэба ў іх сьвядомасьці прабудзіць актуальнасьць, гатоўнасьць непасрэдна самім працаваць над справай адраджэньня бацькаўшчыны. А, добра асьвядоміўшы сабе культурна-эканамічныя падваліны беларускага культурна-вызваленчага адраджэньня, дзяржаўна-незалежніцкага руху — сама сабой яны будуць самі ўжо займацца палітыкай. Якая іх будзе палітыка? Дакладна ўявіўшы сабе справу адраджэньня Беларусі, гэта палітыка можа быць толькі адна — культурна-эканамічнае адраджэньне працоўных сялянскіх грамадаў. Іншага стану няма, на які б мог абаперціся беларускі адраджэнскі рух.

У працілеглым выпадку — гэта ня будзе нацыянальная беларуская палітыка, а шляхецка-абшарніцка-польская, або дробнамяшчанская маскоўская.

Ітак — праца сярод моладзі, гэта ёсьць асноўны лёзунг сучаснасьці. Моладзь — будучыня Беларусі!

Вам цікава ведаць, што робіцца ў Менску? Там ідзе ў

---

*Маецца на ўвазе Цэнтральная беларуская школьная рада — выканаўчы орган Таварыства беларускай школы паводле статуту 1921г. **(Заўвага У.Л.)**

вышэй пададзеным напрамку шырокая праца. Палута Бадунова, якая магчыма ў хуткім часе прыедзе заграніцу — знаходзіцца цяпер у Менску ды вядзе працу сярод студэнцтва, трымаючыся таго погляду, што студэнцтва беспартыйнае вядзе навуковае высьвятленьне праблемы культурна-эканамічнага адраджэньня Беларусі. Гэта само па сабе ня вынікае з таго, што сярод студэнтаў ёсьць шмат нашых сьвядомых таварышаў. Але ў пачатку ня трэба трымаць толькі партыйнасьцю, хай сьвядома кожны прыходзе да партыйнай працы, добра выпрацаваўшы ў гуртках свой навуковы, сацыяльна-эканамічны ды культурны сьветапогляд. З свайго боку, мы прыкладзем усе высілкі, каб дабыць належныя сродкі на пасылку вам адпаведнай літаратуры па ўсіх катэгорыях.

У канцы нашага ліста яшчэ адно лічым зазначыць. Як да нас сягаюць весткі, што ў Краі, на чужыне беларуская інтэлегенцыя ўсё больш ды больш абмяшчаньваецца, аслабела іх вера ў перамогу ў беларускую рэвалюцыю. Гэта зьявішча ёсьць надта сумнае, але неабходна проста глядзець праўдзе ў вочы — гэта ёсьць. А між тым для пэсімізму зусім няма ніякіх аб‘ектыўных абставінаў. Гэта зьявішча хутчэй за ўсё чыста суб‘ектыўнага характару, магчыма, на грунце зморы, недаяданьняў ў турмах і г.д. Таму яно ня носіць у сабе фатальнасьці, а ўсё кажа за тое, што хутка, як нешта хваравітае, пройдзе. Аднак — мы таварышы, кожны па асобку й усёй грамадой, мусім даць прыклад нашай рэвалюцыйнай трываласьці, упартасьці ды працаздольнасьці. Максімум напружанасьці сілаў, максімум праяўленьня ініцыятывы й самастойнасьці.

З таварышыскім прывітаньнем, Тамаш Грыб.
За Бюро ЦК БПС-Р (1922г.)

(Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь, ф.459, в.1. спр.3, арк.113—114).

## ВЫСТУПЛЕНЬНЕ ТАМАША ГРЫБА ПА ДАКЛАДУ ВІКТАРА ЧАРНОВА*

Вельмі перапрашаю, што затрымаю вашу ўвагу на адным пытаньні, якое дакладчык чамусьці не закрануў, мусіць, забыўся ці што, ня ведаю. Гэта яго справа. Бачыце

*Чарноў Віктар (1873—1952), вядомы расейскі палітык, грамадскі дзяяч, адзін з лідэраў расейскіх эсэраў, міністр земляробства ў Часовым урадзе, старшыня Ўсерасейскага Ўстаноўчага сходу. **(Заўвага У.Л.)**

Тамаш Грыб. Прага, 1930-я гг.
(Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.)

грамадзяне, прачытаўшы ў “Голосе Родины” аб тым, што адбудзецца даклад старшыні — як гэта сказана ва ўваходным білеце — “Усерасійскага Установўчага Сходу В. М. Чарнова на тэму: “Сучаснае становішча Расіі й пазыцыя партыі сацыялрэвалюцыянэраў”, што пасьля даклада адбудзецца дыскусія, што запрашаюцца прадстаўнікі рускіх дэмакратычных групаў, беларускіх, украінскіх ды інш. нацыянальных арганізацыяў. От жа, маючы на ўвазе гэта, я адважыўся ўзяць слова, каб перад дакладчыкам і аўдыторыяй паставіць вось гэткае пытаньне.

Дакладчык нам даў падрабязны й пры гэтым вельмі ўдалы гісторыка-філёзофскі аналіз падзеяў рэвалюцыі на ўсходзе Эўропы, устанавіў пэўныя паралелі з падзеямі Вялікай францускай рэвалюцыяй. Але ўпусьціў надта важны момант, упусьціў адзін вялікі гістарычнай вагі фактар — справу прыгнечаных нацыяў. Калі француская рэвалюцыя ня ведала нацыянальнай справы, дык Вялікая рэвалюцыя на ўсходзе

Эўропы паставіла гэтае пытаньне рубам і якое вымагае яснага ды дакладнага развязаньня, як у плашчыне тэарытычнай, так і ў плашчыне практычнай.

Як ня сумна, але неабходна адзначыць, што рэвалюцыя толькі паставіла на парадак дзённы гэтае пытаньне, але далёка яшчэ ня вырашыла. Дзіўна, як-жа дакладчык, кажучы пра сучаснае становішча Расеі, аніводным словам не закрануў гэтай набалелай справы. Я надта ўважліва прыслухоўваўся да словаў дакладчыка, хацеў пачуць што-небудзь у гэтай справе, а ну ж ды скажы нарэшце новае слова ў разьвязаньні нацыянальнай праблемы прадстаўнік расейскай працоўнай дэмакратыі, гэтае трэцьцяй сілы. На вялікі жаль, сказана анічога ня было.

Дык няўжо ў сучасным становішчы Расеі з пункту гледжаньня расейскай працоўнай дэмакратыі існуюць толькі клясавыя супярэчнасьці ды зусім няма супярэчнасьцяў нацыянальных? Няўжо й зараз, як у старыя часы, ад пламеннай Калхіды да саплівых Карпат, — гэта ўсё адзіная Расея? Няўжо ў сялянаў цьвярскіх ды яраслаўскіх, з аднаго боку, і сялянаў беларускіх, украінскіх, сялян прыбалтыйскіх ды Каўказа зусім такія аднолькавыя мэты й заданьні, аднолькавая псыхалёгія?

Ня трэба губляць з поля зроку, што волю рэвалюцыі вырашаюць ня толькі класавыя ўзаемаадносіны, ня толькі фактары эканамічныя, але й культурна-псыхолёгічныя, у дадзеным выпадку, фактар нацыянальны. У гэтым ёсьць значнае разыходжаньне Вялікай францускай рэвалюцыі ад рэвалюцыі на ўсходзе Эўропы. Вось чаму было б надта пажаданым, каб дакладчык даў ясны ды цьвёрды адказ — як думае вырашыць нацыянальную праблему расейская працоўная дэмакратыя, уласна тая партыя, прадстаўніком якой ён тутака выступае.

(Датуецца восеньню 1922 г.)

(НА РБ, ф.459, в.І, спр.3, арк.124—125.)

ТАМАШ ГРЫБ

## ВЯЛІКАРУСКАЯ ДЭМАКРАТЫЯ І ЯЕ АДНОШАНЬНЕ ДА НАЦЫЯНАЛЬНАГА ПЫТАНЬНЯ

### I

У “Russische republikanische Tageszeitung” — “Дни”, што выходзе ў Бэрліне пад рэдакцыяй д-ра М.М.Тэр-Пагасяна, у

нумары 796 за 23 чэрвеня 1925 года, на бачынцы трэцяй даслоўна чытаемо:

БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ

“Усе партыйныя канфэрэнцыі ды нарады нязьменна выносяць рэзалюцыі аб паглыбленьні працы па беларусізацыі ў Беларусі, — піша “Правда” (18 чэрвеня 1925 года), — але тымчасам сярод самых беларускіх камуністаў адношаньне да гэных рэзалюцый плявацельнае. З боку радавога апарату гэтыя партыйныя рэзалюцыі спатыкаюць “пасыўны адпор”. Дзіўна неяк адносіцца і жыхарства: наклад газэт на беларускай мове падае”. У Менску абывацель скардзіцца: “Зьлітуйцеся! Гвалтоўна навязваюць нам беларускую мову. Тэй мовы, у якой друкуюцца адпаведныя рэзалюцыі аб беларускай літаратуры, самі беларусы не разумеюць. На вёсцы сяляне не бяруць беларускіх газэт і кніг; яны іх не разумеюць”. І гэта ня толькі абывацельскія гутаркі “Узапраўды, — прызнаецца “Правда”, — на Беларусі, дзе ні кінь, — свая гаворка: полацкая, магілёўская, мазырская, слуцкая і г.д. І нават больш таго: што ні раён, то свая гаворка. Беларуская мова мейсцамі русыфікавалася, мейсцамі паланізавалася, мейсцамі аблітовілася. Адзінай паўсюдна ўжыванай народнай беларускай мовы не існуе. І нават літаратурная мова толькі цяпер выпра-цоўваецца”. Тым ня менш, “Правда” патрабуе, каб рэзалюцыі абавязкова спаўняліся. І зрабіць гэта, па яе думцы, вельмі проста: “трэба ў школах увесьці навучаньне ў той мове, якой пакуль што няма, але якая яшчэ толькі выпрацоўваецца”. Газэта радзіць пры гэтым ня зьвяртаць увагі на незадаволеньне жыхарства: “Абывацель на то ўжо і абывацель, каб жыць і скардзіцца”.

Гэтая кароткая зацемка “Дней” з`яўляецца вельмі характэрнай, яна характарызуе ня толькі тую палітыку ў разьвязаньні нацыянальнага пытаньня на ўсходзе Эўропы, якая праводзіцца газэтай “Правда”, але і тую, якая праводзіцца газэтай “Дні”. Аднолькава характэрна, як для бальшавіцкага камісарадзяржаўя, гэтак і для рэспубліканскай расейскай дэмакратыі. Як на дзіва — у гэтым пытаньні яны маюць “адзіны фронт”. Іх злучае, крэпка зьвязвае ідэя рускай вялікадзяржаўнасьці, што нямінуча цягне за сабой падняволяньне іншых нацыяў: беларускай, украінскай, грузінскай. Узапраўды аб тым кажа зацемка газэты “Дні”?

Сьцьвярджаемо: 1) Беларускія народныя грамады вымагаюць “паглыбленьня беларусізацыі ў Беларусі”. Гэта “нязьменна” выяўляецца ў нізавых партыйных канфэрэнцыях ды нарадах; 2) сярод беларускіх камуністаў “наверсе” адносіны да гэных рэзалюцый “зьнізу” — “плявацельныя”; 3) радавы апарат дамаганьням зьнізу робіць “пасыўны адпор”;

4) супраць беларусізацыі “абывацель” актыўна пратэстуе; 5) “Правда”, а за ёй і “Дні” даводзяць, што беларускай мовы “ня існуе”; 6) яны робяць з гэтага лёгічны выснован, што раз няма беларускай мовы, то ня можа быць і беларускай школы, з чаго вынікае, што ня можа быць ніякай “беларусізацыі”; 7) “Правда” прыводзіць доказы, што беларускай народнай мовы ня існуе, радзіць усё-ж такі ня лічыцца з “абывацелямі”, а прыслухоўвацца да рэзалюцый “зьнізу” і ўводзіць у школах навучаньне на беларускай мове, якой, па яе думцы, ня існуе, але якая “цяпер выпрацоўваецца”; само сабой, пакуль яшчэ беларуская мова ня выпрацавана, то ў істотнасьці навучаньне павінна адбывацца ў мове рускай, бо-ж ня можа адбывацца навучаньне ў мове, якой ня існуе, а якая толькі яшчэ “выпрацоўваецца”. А калі яна “выпрацуецца”, то гэтага ніхто ня ведае. Як бачымо, падыход да пытаньня “паглыбленьня белару-сізацыі” ў газэтаў “Правда” і “Дни” ёсьць розны, але выснован адзіны і той самы: цяпер беларуская школа існаваць ня можа, бо няма такой выпрацаванай беларускай мовы. Розьніца палягае толькі ў тым, што рэспубліканска-дэмакратычныя “Дні” адкрыта гэта кажуць, а камуністычна-бальшавіцкая “Правда” па-іезуіцку хітрыць, прыкрываецца крыклівым словам “беларусізацыя”, фактычны зьмест якога ёсьць “русіфікацыя”. Бо што азначае “беларусізацыя”, за якую быццам так стаіць “Правда”, калі тая-ж самая “Правда” аж са скуры лезе, аж пацее ад натугі, прыводзячы доказы, што аніякай беларускай мовы няма? У гэтым і ёсьць фальш, мана і ашуканства расейскіх камуністаў-бальшавікоў, але разам з тым і іх трусьлівасьць і слабасьць. Яны ня могуць проста і адкрыта сказаць, што ўласна яны думаюць, ня маюць адвагі, бо гэта б азначалаісьці супраць беларускіх грамад, якія адкрыта і катэга-рычна вымагаюць уцелаішчэньня сваіх “прыродных правоў”. Дзеля гэтага яны пускаюцца на розныя хітрыкі, прыдумляюць розныя тактычныя ходы, “лавіруюць” — абы толькі ашукаць прыгнечаны імі ды падняволены народ, абы яшчэ пратрымацца ў руля дзяржаўнай улады. Але ўсё мае свае межы за якія, як ні хітры — ўсёроўна ня пераскочыш, або, як гэта кажа наша прыказка: “Хоць як ты там ня круціся, калі прыцісьне, дык здасіся”. Пад ціскам усё ўзрастаючай народнай стыхіі, якая штораз прымае ўсё больш выразныя рысы сваёй нацыянальна-самаістай індывідуальнасьці, расейскія камуністы-бальшавікі, а разам зь імі і іх парабкі — беларускія камуністы-бальшавікі — змушаны шукаць усё новыя і новыя спосабы, каб заўладаць стыхіяй, трымаць у няволі свайго камісарска-дыктатарскага рэжыму. Але да апошняга часу ім гэта ўдавалася. Ашуканствам і крывёю трымалі яны народ у пакоры. Адным з многіх спосабаў

ашуканства ёсьць “беларусізацыя”, якая цяпер праводзіцца. І знаходзяцца наіўныя людзі, якія шчыра ў гэта вераць, яны вераць у шчырасьць расейскіх камуністаў-бальшавікоў, вераць, што “беларусізацыя” ўзапраўды праводзіцца. Што-ж, няхай вераць у гэта, калі ніякія доказы ў цяпершчыне іх ня пераконваюць, тым з большай шчырасьцю яны неўзабаўным часе разчаруюцца. Канфлікт паміж “вярхамі” і “нізамі” ў Радавай Беларусі існуе — мы гэта сьцьвердзілі. Гэты канфлікт будзе ўзрастаць, будзе паглыбляцца. Настане час адкрытага змаганьня. Аднак няхай ня думаюць “Дни”, што сваім адкрытым выступленьнем супраць “беларусізацыі”, а разам з тым наогул супраць беларускай школы, супраць беларускай мовы, супраць беларускай нацыі прыдбаюць сабе прыхільнікаў сярод беларускіх народных грамад. Не, гэта ёсьць выключаная магчымасьць. “Мы ўжо ня тыя!..“ Беларускі народ, паўстаўшы супраць тыранства расейскіх камуністычна-бальшавіцкіх камісараў за ўцелаішчаньне сваіх прыродных правоў на волю ды незалежнасьць, пэўна-ж, не пажадае над сабой апекі расейскай рэспубліканскай “дэмакратыі”. Гэта больш чым ясна. Мо` прыдбае сымпатыі “абываценя”? Хто гэта: мешчанства, мо` камісары? Дык няўжо магутны наступ беларускай вызвольнай рэвалюцыі могуць спыніць гэныя “мёртвыя душы”? Ніколі! “Абывацель”, з`яўляючыся дробнай кропляй у беларускім народным моры, ніякага ўплыву на беларускае народнае жыцьцё ня меў і ня будзе мець уплыву на развіцьцё надыходзячых вялікай вагі гістарычных падзеяў на Беларусі. Таму імкненьне газэты “Дни” натравіць зрусыфікаванае мяшчанства, старарэжымнае чыноўніцтва ды ўсялякую “истинно русскую и православную братию” на беларускі вызвольна-адраджэнскі рух, пасеяць ненавісьць і зьняверу сярод беларускіх народных грамад да беларускага культурнага, палітычнага і сацыяльнага вызваленьня роўна ні да чаго не прывядзе. Беларускі народ у сваім рэвалюцыйна-вызвольным змаганьні пойдзе сваім уласным шляхам. Гэта безумоўна. А шлях гэты — поўная эмансыпацыя Беларусі ад вялікадзяржаўна-імпэрыялістычнай, рэакцыйнай Масквы. Газэта “Правда”, а за ёй і “Дни” ўводзяць адзін з галоўных аргумэнтаў супраць беларускай мовы: ні больш-ні-менш як існаваньне розных гаворак. Гэта-ж падумаць толькі: “што ні раён, то гаворка”, “што ні вёска, то гаворка”! А дзеля гэтага: “адзінай паўсюль ужыванай народнай беларускай мовы ня існуе”. Коратка, ясна і зразумела: беларускай мовы ня існуе, бо гэтага жадае расейская камуністычная бальшавіцкая газэта “Правда” і расейская рэспубліканска-дэмакратычная

---

* Карскі Я. Беларускі народ і яго мова. Менск, 1920 г.

газэта “Дни”. Ім так хочацца, яны сваё жаданьне прыймаюць за рэальнасьць, падымаюць страшэнны гоман, імкнуцца пераканаць іншых. Аднак ня дужа пераканаўчыя іх аргумэнты. З пэўнай лапідарнасьцю сьцьвярджаючы, што на Беларусі кожная вёска мае сваю гаворку і робячы з гэтага выснавак, што ня існуе беларуская мова, ужо этым самым і “Правда” і “Дни” за ёю выяўляюць поўнае сваё няведаньне філёлёгіі наогул і славянскай у прыватнасьці; аб беларускай мове яны зусім нічога ня ведаюць. Бо вось што піша, напрыклад, адзін з найбольш аўтарытэтных знаўцаў славянскай філёлёгіі прафэсар, акадэмік Я.Карскі, падрабязна разглядаючы асаблівасьці беларускай мовы: “Калі разглядаць усе разам асаблівасьці беларускай мовы, як аднэй ей уласцівыя, і як агульных з паўднёва-вялікарускімі і ўкраінскімі гаворкамі, то яна акажацца зусім асобным арыгінальным арганізмам, каторы ўтварыўся гістарычна вельмі даўно. Цяпер беларуская мова нават мае некалькі гаворак, але ўсе яны зьвязаны паміж сабою асноўнымі агульнымі рысамі”*. Гэтага мала? Дык яшчэ дзьве цытаты:” Цяперашняя беларуская мова злажылася паступова, гістарычна; з мовы тых даўнейшых славянскіх плямёнаў, каторыя пераважна ў эпоху літоўскага пэрыяду беларускай гісторыі ляглі ў аснову беларускай народнасьці. На сколькі можна судзіць з паведам-леньня нашай пачатковай летапісі, гэтыя пляменьні былі: драгавічы, радзімічы і часткаю крывічы”*.

І далей: “Народная беларуская мова жыве і дагэтуль. У пачатку XIX стагодьдзя рабіліся захады надаць ёй літаратурную апрацоўку, але гэта было зроблена толькі на канцы XIX і ў пачатку XX стагодьдзя”**. Гэтак кажа прэдстаўнік навукі праф.-акадэмік Я.Карскі. Паўстае запытаньне: “Чым розьняцца тагды разважаньні аб беларускай мове часопісі “Правда” і “Дни” ад таго “мудрага” панамара, які ў гэткі вось спосаб хацеў вытлумачыць паяўленьне ў царкве мышэй: быў цьвік, затым была паніхіда... вот і паявіліся мышы. Што ёсьць супольнае паміж цьвяком, паніхідай і мышамі — гэта відаць аднаму толькі панамару ведама. Калі “Правда” і “Дни” інтэлектуальна стаяць вышэй за “мудрага” панамара, то, відавочна, яны маюць на ўвазе сваіх чытачоў, калі друкуюць гэткія недарэчнасьці аб неіснаваньні беларускай мовы, што каб маглі чытаць вераб‘і, а прачытаўшы пэўна-ж бы зразумелі аб чым ідзе справа, то са сьмеху разчырыкалі б ад усёй шчырасьці свайго вераб‘інага сэрца — гэтак выглядаюць

---

* Тамжа, С. 7—8. **(Гэтая ды іншыя заўвагі і спасылкі ў гэтым артыкуле зроблены аўтарам.)**

** Карскі Я. Беларускі народ і яго мова... С. 9.

сьмешнымі ў сваім прымітывізме іх сур‘ёзныя разважаньні ды цьверджаньні.

Тым больш мае сьмяяцца беларус, які нятолькі непасрэдна адчувае, але і ўсьведамляе сваю беларускую нацыянальную самаістасьць, любіць сваю родную мову. Няхай што хочуць плявузгаюць нашы ворагі, наш адказ ім дужа просты: мы любім сваю беларускую мову, бо яна ёсьць наша, родная, ёсьць наша матчына мова; у гэтай мове гаворыць дванаццацімільённы беларускі народ.

II

У студзені месяцы 1925 года ў Празе ўзьнікла Таварыства студэнтаў маларосаў і беларусаў “Единство Русской Культуры”. Управа Таварыства абвясьціла сваю “Дэклярацыю”, у якой “апавяшчае”: “Вялікія няшчасьці, выпаўшыя на долю ўсяго рускага народа павялічаюцца тэй розьніцай, якая сеіцца паміж трымя яго галінамі з мэтай выкапаць роў, які б аддзяляў маларосаў і беларусаў ад вялікарусаў. “Мы, маларосы і беларусы, ня зракаемся нашых народных асаблівасьцяў, якія мы ведаем і любім зь дзяцінства; не зракаемся мовы роднай краіны, песьняў свайго народа, мы цэнім яго звычкі і ўвесь бытавы склад жыцьця... Аднак мы ня забываемся, што ўсе мы — украінцы, кубанцы, галічане, беларусы, усе — без розьніцы палітычных пераканаьньняў, у той самы час і рускія на раўне зь вялікарусамі, як баварцы і саксонцы — немцы, нараўне з прусакамі, правансальцы і гасконцы — французы нараўне з брэтонцамі, тасканцы і сыцылійцы — італьянцы нараўне з ламбардцамі... Для нас ясна, што Вялікая Расея ня тое-ж самае, што Вялікаросія. Пад будаваньнем агульнай бацькаўшчыны рускіх маларосы і беларусы працавалі ня менш вялікарусаў”. Далей ідзе пералічэньне фактаў з гісторыі, як беларусы ды ўкраінцы старанна працавалі над збудаваньнем “агульнай бацькаўшчыны рускіх": “Кіеў даў Русі агульнае імя, усходняе праваслаўе і сьвядомасьць рускага адзінства. Ня толькі самаахвоць далучылася Украіна да Масквы, але таксама кіеўская ды віленская асьвета ў XVII стагодзьдзі ў асобах цэлага шэрагу навучных установаў Паўднёва-Заходняй Русі дапамаглі разьвіцьцю ды збудаваньню агульнай рускай культуры і дзяржаўнасьці”. Гэтак: “Кіеўская Духоўная Акадэмія была першай навуковай установай, выхаваўшая цэлы шэраг вучоных маларосаў — Мялеція Сматрыцкага, Сімеона Полацкага, Дзьмітрыя Растоўскага, Феафана Пракаповіча ды інш., пад непасрэдным уплывам якіх ствараліся культурныя вартасьці Расеі... Стаўрапійскі Інстытут у Львове, створаны ў 1551г.

самаахвярным абаронцам рускага імя ды рускай культуры кн. Канстантынам Вастрожскім, з‘яўляецца аж да цяпершчыны асяродкам рускай культуры ў Галіччыне”. Але таксама мала: “Пецярбурскі пэрыяд рускай гісторыі налічае шмат іменьняў аўднёварускіх і заходнерускіх выдатных дзеячоў у ва ўсіх кірунках”. Гэтак: “У агульнарускай літаратуры яскрава блішчаць іменьні Гогаля, Дастаеўскага, Караленка, карыстаюцца пашанай іменьні Багдановіча, Мардоўцава, Грэбенкі, Данілеўскага, у рускай навуцы слаўны іменьні Бадзянскага, Потэбні, Кавалеўскіх, Карскага ды шмат інш., шэраг вялікіх компазітараў пачынаецца з Глінкі, ды агульнарускага мастацтва на сваім разьвіцьці далі Баравікоўскага, Лявіцкага, Мартоса і па праву ганарацца Рэпіным. Сама агульнаруская літаратурная мова не з'яўляецца, як дзе-хто цьвердзіць, чыста вялікарускай, яна абавязана сваім узьнікам не аднаму “нарэчыю”, а створана зусільлем культурных дзеячоў з розных дыялектычных вобласьцяў, з розных эпох гістарычнага жыцьця. Рускую праваслаўную веру казакі на Ўкраіне баранілі яшчэ ў XVII стагодзьдзі. За дабрабыт усей Расеі кроўю і жыцьцём ахвяроўвалі і ўкраінцы, і кубанцы, і беларусы, усей душой адчуваючы, што змагаемся не за чужую справу, а за свой бацькоўскі дом”. Прывёўшы гэтыя агульнавядомыя гістарычныя факты працы беларусаў ды ўкраінцаў пад стварэньнем ды ўзбагачэньнем рускай культуры, дэкляранты з сумам разводзяць рукамі: “Зусім нязразумела, — кажуць яны, — дзеля гэтага імкненьня часьці маларосаў ды беларусаў зрачыся свайго спрадвечнага найменьня рускіх толькі таму, што яно належыць і вялікарусам; здрадзіць веры праваслаўнай таму, што на чале агульнарускай царквы стаіць Маскоўскі патрыярхат; адвярнуцца ад пладоў зь вялікаросамі культурных зусільляў папярэдніх пакаленьняў, каб пад новым імем, ідучы за новым навучаньнем, будаваць новы гмах культуры амаль што ня з пачатку. Будучае ня можа быць адарвана ад мінулага, і калі гісторыя кожнага народу ня ёсьць свабодная ад недахватаў, то лёгка зразумець, што памылкі, зробленыя ў мінуўшчыне, нельга справіць зрачэньнем гэтай мінуўшчыны”. Што праўда — то ня грэх: будучае ня толькі нельга адарваць ад мінулага, але як і будучае і сучаснае залежыць на гэтым мінулым. Natura non saltum tacit, — мы гэта добра ведаем, прырода ня робіць скокаў, але ўсё пастутова разьвіваецца ў прыродзе — усё рухаецца, — мы таксама і гэта добра ведаем. Доказам таго, што мінулае мае свой уплыў на сучаснае ёсьць ну хоць-бы “Дэклярацыя” вось гэта. Уплыў мінуўшчыны тут відавочны і нават вельмі нядаўняй мінуўшчыны — усяго некалькі гадоў. Другім паказам, які

Фракцыя беларускіх эсэраў на Першай Усебеларускай палітычнай нарадзе ў Празе. Верасень 1921г. Сядзяць злева направа: С.Баран, М.Шыла, Т.Грыб, Я.Мамонька, 5(?), В.Маслоўская-Матэйчук. Стаяць: 1(?), 2(?), В.Русак, Л.Заяц, 5(?), 6(?), Жабінскі. (БДАМЛіМ.)

сьведчыць аб разрыве з гэтым паняцьцем мінуўшчыны, зьяўляецца ўвесь сучасны беларускі ды ўкраінскі рэвалюцыйна-вызвольны рух. Але і ён мае свае карэньні ў гістарычнай мінуўшчыне. Мае сваю гісторыю, сваю традыцыю. Калі грамадзянам з “Единства русской культуры” гэта ня зразумела, калі ў іх галовы ня можа ўмясьціцца гэта, то нічога ня парадзіш — яны проста ня здатны думаць, ды толькі. Яны калі і прызнаюцца, што ім “ня зразумелы імкненьні часьці маларосаў і беларусаў”, нічога ня разумеюць у справе, а хапае адвагі, дэлікатна кажучы, плявузгаць розную дурніцу. Яны пішуць у сваёй “Дэклярацыі”: “Штучна ўзбуджанае паміж рускімі пляменьнямі ўзаемнае “отчуждение”, яно скіравала ў бок руйнаваньня ўсяго, што чым спаяны быў рускі народ у цэлым — агульнага найменьня, агульнай веры, агульнай літаратурнай мовы, усіх пладоў доўгага супольнага жыцьця, пагражае паставіць у нямінучую небясьпеку чужацкага засільля ня толькі Расею, але перад усім свае Ўкраіну, Кубань, Беларусь, Галіччыну, што ўжо пачынаюць разумець дзе-якія незалежнікі. У поўным перакананьні, што адкіданьне рускага адзінства тлумачыцца толькі блудам у шмат каго з маларосаў і беларусаў, які павінен зьмяніцца сьвядомасьцю нямінучага

цеснага і самаахвотнага супрацоўніцтва ўсіх галін рускага народа. (“Мы заклікаем усіх украінцаў, кубанцаў, галічан і беларусаў, якія не заглушылі ў сваей душы пачуцьця кроўнай і культурнай рускай сувязі, да дружнай працы, дапамагаючай на будучыню жывому, свабоднаму і суцэльнаму ў сваёй шматграннасьці адзінству рускай культуры. Тагды поўнасьцю ўцелаісьціцца думка Гогаля, што асаблівасьці характараў рускіх пляменьняў павінны дапамагаць толькі таму, каб рускі народ у яго цэлым склаў “нешта дасканальнейшае ў людзкасьці”. На гэтым і спыняецца іх “Дэклярацыя”. Вот-жа, калі ў іх спытацца, чаго яны, уласна, хочуць, то адказ можа быць толькі адзін: яны і калі добра ня ведаюць, чаго яны хочуць, яны проста ня разумеюць таго, што самі плявузгаюць. Бо ці ня можна, напрыклад, сэр‘ёзна гутарыць аб тым, што нехта штучна ўзбуджае “отчуждение” паміж вялі-карусамі, беларусамі ды ўкраінцамі — гэта-ж курам на сьмех такія цьверджаньні! Няўжо-ж можна ў сэр‘ёз браць і такія іх цьверджаньні, што нацыянальна-вызвольны рух беларусаў ды ўкраінцаў ёсьць з‘явішча штучнае, нейкімі “злачынцамі” выкліканае, а не арганічнае, выкліканае самым ходам падзеяў гістарычнага разьвіцьця. Гэткую дурніцу могуць казаць толькі тыя людзі, якія або зусім ня ведаюць, што такое гісторыя, або сьвядома плявузгаюць недарэчнасьці, разьлічваючы на культурную адсталасьць, цемнату ды няпісьменнасьць народных масаў. Гісторыя штучна ня робіцца. Гісторыя — гэта ёсьць глыбокі працэс унутранага разьвіцьця, які адбываецца ў гушчы народных грамад.

Міма сьвядомага ўчасьця народа — няма гісторыі. Гісторыя пачынаецца там, дзе ўзнікае сьвядомая творчасьць народа. Хто стварае гісторыю: “злачынцы”, “прайдзісьветы”, “гэроі” ці сьвядомая творчасьць арганізаваных народных грамад? Толькі сьвядома арганізаваная творчасьць народа стварае гісторыю, але стварае... ня так, як хтосьці ўздумае, захоча, а выключна ў згодзе з законамі разьвіцьця істнуючага ў цэлай прыродзе. Гістарычнае разьвіцьцё людзкасьці ў сваім поступе ідзе ў кірунку законнай неабходнасьці. Гэта законная неабходнасьць істнуе і ў беларускім рэволюцыйна-вызвольным, культурным, палітычным і сацыяльным, дзяржаўна-незалежніцкім руху. Дзеля гэтага ён ня ёсьць штучны, ён ня можа быць штучны, а з'яўляецца глыбока арганічнай неабходнасьцю роста і разьвіцьця беларускай нацыянальнай індывідуальнасьці. Беларускі народ адчуў сваю самаістасьць, усьвядоміў сваю нацыянальную індывідуальнасьць і распачаў ствараць свае ўласныя духоўныя ды матэрыяльныя вартасьці, імкнецца вызваліцца з кайданоў чужацкай няволі, якія вялікай перашкодай ляжаць

на шляху яго наступа, стварае сваю гісторыю, сваю рэволюцыйна-вызвольную традыцыю.

І вось, перад кожным беларусам, у якога ня заглохла пачуцьцё моральнай адпаведнасьці перад сваім народам, паўстае запытаньне: з народам, праз народ і дзеля народа — у імя волі ды незалежнасьці, ці з чужынцамі проці народа — у імя гнёту і падняволеньня? Адказ мусіць быць ясны і цьвёрды: так-бо гэтак, tertium usu datus.

Які ж адказ даюць на гэта запытаньне беларусы з таварыства “Единство русской культуры”? Ды яны ніякага адказу на гэта запытаньне не даюць, што зусім зразумела, — яны проста яшчэ не ўсьвядомілі хто яны, што яны і куды ляжыць шлях іх жыцьцёвай падарожжы. З аднаго боку, яны кажуць, што яны любяць дзяцінства і ня зракаюцца “мовы роднай краіны, песьняў свайго народа”, цэняць “звычкі, увесь бытавы склад жыцьця” беларускага народу, а з другога боку, яны — “у той самы час і рускія нараўне зь вялікаросамі”. Дык хто-ж яны, якой нацыянальнасьці: беларусы ці расейцы? А яны і самі гэтага ня ведаюць. Хутчэй за ўсё, ні тая ні гэта — ні беларусы, ні расейцы, а так вось нешта нейкае — нявыяўленыя рэнэгаты, вось хто яны. Мо гэта ня прыемна, але гэта ёсьць так. Ня хочыцца быць рэнэгатам — трэба выразна і адкрыта выявіць сваё нацыянальна-беларускае аблічча, вось наша ім рада сяброўская. Калі ўзапраўды яны любяць беларускую мову, песьні, звычкі і ўвесь склад жыцьця народа, то мусяць гэту сваю любоў давесьці да пачуцьця самаахвярнай працы ў кірунку разьвіцьця, удасканаленьня і ўсебаковага ўзбагачэньня беларускай культуры. Быць беларусамі і ў той самы час расейцамі — гэта ёсьць nonsens. Узапраўды, што разумець пад гэтым: нехта грамадзянін N. на пытаньне, якой ён нацыі, адказвае: у той самы час я і рускі нараўне зь вялікарусам. Беларус — гэта нацыянальная прыналежнасьць, а пры чым тут рускі. З часаў старога царскага самадзяржаўя словам “рускі”, ці-то “расейскі”, звычайна адзначалі дзяржаўную прыналежнасьць, бо тагды была Расея і гэта слова мела пэўны сэнс. Але цяпер, пасьля таго, як самадзяржаўная царысцкая Расея, гэна турма народаў Усходняй Эўропы разбурана, і калі на яе руінах у рэволюцыйным бураломе паўсталі да свайго вольнага самаазначэньня векамі прыгнечаныя народы, а ў тым ліку і беларускі народ, зусім бязглузда беларусу лічыць сябе рускім.

---

*Месячнік “Студенческие годы” выходзе ў Празе, выдае яго: “Аб`ядnаньне Рускіх Эміграцыйных арганізацый” (ОРЭО). У гэтым месячніку прымаюць учасьце выдатныя рускія вучоныя і пісьменьнікі, у тым ліку праф. С.Завадскі, П.Б.Струве, І.У.Лапо, А.А.Кізеветтер ды інш.

Ёсьць ведама, словам “рускі”, ці-то “расейскі”, вялікаросы называлі і цяпер усё яшчэ называюць сваю нацыянальную прыналежнасьць. Але гэта па недаразуменьню толькі. Гэтай нацыі ня істнуе. Ёсьць вялікаросы (і ўзапраўды нацыянальнасьць іх вялікаросы), а “рускі”, ці-то “расейскі”, яны ўжываюць як гістарычны псэўданім, падкрэсьліваючы гэтым сваю любоў да былой царысцкай Расеі. Ну, але нарэшце гэта іх справа: няхай называюцца як сабе хочуць, нам ад гэтага ні студзёна ні горача. Мы — беларусы, і нам узапраўды нацыянальны назоў толькі беларусы... А тыя, хто хоча прычапіць сабе гэны чужы хвосьцік “рускі”, то гэтым самым дэманстрацыйна падкрэсьлівае сваю любоў і адданасьць старарэжымным царысцкім парадкам гнёту і падняволеньня. Пэўна ж, ня здарма з такім натхненьнем услаўляюць яны ў сваёй “Дэкларацыі” гэтак званы “пецярбургскі пэрыяд рускай гісторыі”, які даў магчымасьць некалькім беларусам ды ўкраінцам зрачыся сваей роднай мовы, песьняў, звыкаў, зрачыся сваей нацыяналь-насьці, перастаць быць беларусамі ды ўкраінцамі, пайсьці ў духоўную няволю пануючай нацыі — вялікарoскай, забыўшы пра цярпеньні і мукі свайго народу, пра яго нядолю і цемнату, і толькі тагды яны занялі ганаровыя мейсцы ў рускай культуры. Дык што, яны ўзноў хочуць вярнуць гэты пэрыяд рускай гісторыі?

Падробны адказ на гэта запытаньне дае Сяргей Завадскі ў артыкуле “Наш общерусский вопросъ”, які зьмешчаны ў месячніку “Студенческие годы” № 2(19) за красавік 1925 года*. Ён піша: “Вядома, нельга пярэчыць таму, што старая Расея, Расея пецярбурскага пэрыяду ў асобе свайго ўраду прыбягала да шэрагу спосабаў, якія былі для маларосаў і беларусаў прыгнятаючымі. Але няўжо-ж усе спосабы ўрадаваньня Пецярбурга былі на шкоду маларосам і беларусам? Няўжо ня былі прыгнечаны тым жа ўрадам і вялікаросы?” Аднак “Старое адышло ў гістарычную мінуўшчыну, ужо 28 лютага 1917г., і таварыства “Единство русской культуры” заклікае ня да старых парадкаў, а толькі да старага адзінства ды прытым на “новых асновах вольнага і раўнапраўнага супра-цоўніцтва”. На чым было заснавана “старое адзінства” — мы гэта ведаем: то было адзінства стогна ад болі і мук нясказаных. У гэтым можна пагадзіцца з С.Завадскім, то пад час пецярбурскага пэрыяду рускай гісторыі цярпеў гнёт самадзяржаўнага рэжыму ня толькі беларускі народ ды ўкраінскі, але і вялікароскі. Але ў той час як беларускі народ ды ўкраінскі цярпелі трайны гнёт: палітычны, соцыяльны і нацыянальны, вялікароскі народ цярпеў толькі двайны гнёт: палітычны і соцыяльны; вялікароскі народ мог вучыцца ў школах на сваей роднай мове, мог

чытаць кнігі, часопісі, меў даволі багатыя бібліятэкі, мог ствараць свае нацыянальныя культурныя вартасьці. А беларускаму народу ды ўкраінскаму ўсё гэта было забаронена. Беларуская мова прасьледавалася, забаранялася друкаваць кнігі ў беларускай мове, часопісі, каляндары. Беларускі народ гвалтоўна быў пазбаўлены права мець школу ў сваей роднай мове, быў пазбаўлены магчымасьці разьвіваць сваю нацыянальную культуру. Таму ён і адстаў, таму ён такі цёмны, забіты і прыгнечаны. Гэта прызнае і С.Завадскі: “Перасьледаваньне народнай гутаркі, гэтага жывога запаса, зкуль чарпае любая літаратурная мова, заўсёды злачынна. А маларуская і беларуская гутарка, гэтаму нельга пярэчыць, была больш ці менш прыціснута шэрагам засадаў зь Пецярбурга”. Цяпер ужо гэтаму “нельга пярэчыць”... А што ж да гэтуль вы рабілі, а дзе ж да гэтуль вы былі?! Ці мо‘ ня прыймаці ўчасьця ў той гнюснасьці, якую сёньнейка з свайго “прекрасного далёка” кляйміця словам “злачынства”? О, безумоўна, па старой рускай традыцыі “наши за граніцай” — усіх адценьняў рускія рэакцыянеры, апынуўшыеся ў Эўропе, заўсёды любяць паліберальнічаць, каб не занадта ўжо выглядаць адсталымі азіятамі: “яны зь вялікім апэтытам, замест маскоўскіх “щей”, даядаюць учарашнюю эўрапэйска-ліберальную пахлёбку. Сёрбая гэну астыўшую пахлёбку і С.Завадскі. І ён хоча быць модным. Ён да таго нават разышоўся, што пачаў гутарыць у рэакцыйна-манархічным месячніку аб “новых асновах вольнага супрацоўніцтва” народаў. Ведама, гэта ёсьць толькі фраза, і больш нічога. Бо што гэта мае конкрэтна азначаць? Ці істнуючая С.С.С.Р. ня з'яўляецца такой-жа самай фразай? Гэтак-жа таксама “на паперы” нішто іншае як, “вольнае і раўнапраўнае супрацоўніцтва народаў”. Відавочна, С.Завадскі з гэтым не пагаджаецца, то што ён прапануе іншае, лепшае, больш дасканальнае? У якой форме ўяўляе сябе гэна супрацоўніцтва беларусаў, украінцаў і вялікаросаў? Ён гэта вось так формулюе: “Заданьні ўсіх маларосаў і беларусаў можна азначыць проста. Яны вось гэткія: духоўная блізкасьць усіх галін рускага народа, самастойнае разьвіцьцё кожнае зь іх, але з безумоўным варункам супрацоўніцтва дзеля далейшага ўзбагачэньня агульнарускай культуры, рэальнае адношаньне да сваей мінуўшчыны, якое б не дазваляла з-за цянявых бакоў учарашняга дня адмовіцца ад таго, што ў ім было сьветлага і вялікага; яснае разуменьне таго, што руская разрозьненасьць ідзе не на карысьць толькі яўным ворагам і “мнимым” сябрам Расеі ды славянства”. Адным словам, неабходна адзінства рускай культуры, як асновы дзеля адзінства Вялікай Расеі. І тую самую думку выказала на старонках часопісі “Дни”

Е.Кускова. На нядаўняй дыскусыі па нацыянальнаму пытаньню, арганізаванай у Празе рускім рэспубліканска-дэмакратычным аб‘яднаньнем, на якой дакладчыкам выступаў Павал Мілюкоў, прыняўшыя ў ёй удзел беларусы, украінцы, грузіны і армяне, цьвёрда і ясна зазначылі, што ўсе тыя народы, ад імя якіх прамоўцы выступаюць, імкнуцца да поўнай дзяржаўнай незалеж-насьці, і з Расеяй хочуць жыць у добрых суседзкіх адносінах, і толькі. П.Мілюкоў у сваёй апошняй прамове з сумам сконстатаваў факт істнаваньня такога настрою, а Е.Кускова ў часопісі “Дни”, падаўшы справаздачу аб гэтай дыскусіі па нацыянальнаму пытаньню, напісала, пацешаючы сябе: што-ж, няхай сабе імкнуцца цяпер да сваей дзяржаўнай незалежнасьці і самастойнасьці, але ўсё-ж такі агульнай мовай пад час дыскусыі была руская, дык ці-ж ня ёсьць гэта асновай і г.д. Думка, як бачым, ня новая. Але як магчыма гэна “адзінства”, калі, як і сам С.Завадскі гэта сьцьвярджае, цяпер яго няма. “Мы ня адчуваем ні спайкі агульнай культурнай працы, ні спайкі адзінага паходжаньня”, — піша ён у сваім артыкуле. І гэта ў той час, “як уся мешаніна народаў ня перашкодзіла сучасным італьянцам усьвядоміць сябе адзіным народам і шанаваць сваю агульную бацькаўшчыну”. Так, у італьянцаў, як і ў немцаў ды ў французаў, ёсьць пачуцьцё адзінства культурнай працы, пачуцьцё адзінства паходжаньня, адзінства бацькаўшчыны. Гэта пачуцьцё імі ўсьведамляла і стала велізарнай дэнамічнай сілай на шляху іх гістарычнага наступу. Ну, але што рабіць, калі ў беларусаў ды ўкраінцаў няма гэнага пачуцьця “адзінства” зь вялікаросамі, няма пачуцьця адзінства бацькаўшчыны, а наадварот, ёсьць пачуцьцё раз‘яднаньня? Няма рады — “насильно мил не будешь”. Беларусы любяць сваю родную маці Беларусь, наш родны край, і наша бацькаўшчына ёсьць Беларусь. Таксама і ўкраінцы любяць сваю бацькаўшчыну Ўкраіну, грузіны — сваю Грузію, армяне — сваю Арменію. А ці любяць вялікаросы сваю бацькаўшчыну Вялікаросію? Ды хто іх ведае; яны любяць быўшую Расейскую Імпэрыю, у якой вялікаросы былі пануючай нацыяй — гэта вядома. А вось ці любяць яны сваю родную бацькаўшчыну Вялікаросію — гэта ня ведама. То ці ня лепей было б, каб і вялікаросы перад усім палюбілі сваю бацькаўшчыну... каб урэшце нацыянальна самаагранічыліся, навучыліся самі парадкаваць сваім уласным жыцьцём, кіраваць сваёй доляй, а разам з тым, каб навучыліся паважаць як свае ўласныя правы, прыроднае права на жыцьцё ды

*У рукапісным арыгінале адсутнічае заканчэнне. **(У.Л.)**
(НА РБ, ф 458, в.1, спр. 50, арк. 78—100).

вольнае разьвіцьцё, гэтак і права сваіх блізкіх і далёкіх суседзяў. О, тады і магчыма гутарка аб вольнасьці і раўнапраўным супрацоўніцтве народаў. А пакуль гэтага няма, пакуль вялікаросы жывуць лятуценьнямі аб вялікай пануючай нацыі, імкнуцца ўзноў падняволіць іншыя народы, стаць іх прыгнятацелямі ды паразытамі, датуль ніякай гутаркі аб згодзе быць ня можа, тым больш ня можа быць гутаркі аб нейкім там адзінстве, якога ніколі ня было і няма цяпер. І проста дзіўна неяк, бо зусім нялёгічна С.Завадскі разважае: з аднаго боку, ён сьцьвярджае, што ў беларусаў ды ўкраінцаў зь вялікаросамі няма пачуцьця адзінства, а ёсьць “многа нянавісьці і мала любасьці”, з другога боку, імкнецца ўсімі спосабамі давесьці, што беларусы, украінцы ды вялікаросы ёсьць толькі родныя галіны аднаго дрэва — ёсьць рускія. Але раз няма пачуцьця адзінства, то няма ўжо і адзінства, гэта-ж ясна. Асновай усялякага адзінства можа быць толькі пачуцьцё гэнага адзінства. Чалавек мае рукі, ногі, галаву ды іншыя часьці свайго цела, але разам з тым ён непасрэдна адчувае сваё адзінства, як біо-псыхолёгічнае бытнасьці, ён адчувае суцэльнасьць свайго арганізму, сваей індывідуальнасьці. Толькі паралітыкі гэнага ня адчуваюць. Калі ў чалавека спаралізавана частка арганізму, то ён яе ня адчувае. І як бы паралітыку ня даводзілі, што спаралізаваная рука ці то нага, гэта ёсьць яго ўласная часьць цела, ён хаця мо‘ гэта і сам ведае, але ня адчувае, ня валодае ёй. Знача ў аснове адзінства арганізму ляжыць псыхолёгічнае пачуцьцё гэтага адзінства. С.Завадскі гэна ведае і сам сьцьвярджае, што гэнага псыхолёгічнага адзінства ў “рускім” арганізьме няма. Гэным самым ён сьцьвярджае, што рускі арганізм — есьць хворы, разьбіты палярушам. Чым-жа ён думае лячыць яго? Мае нейкія лекі? Ды так, ён вось нібы тая вясковая павятуха паўтарае ўсё адно і тое ж самае: адзінства, адзінства, адзінства рускай культуры, адзінства... Але на чым заснавана гэта адзінства? ...*

## ТЭЗІСЫ АБ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНЫМ АБ‘ЯДНАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА СТУДЭНЦТВА Ў ПРАЗЕ

1. Неабходна прызнаць як істнуючы факт ды ясна ўсьвядоміць, што беларускі вызвольны рух у цяпершчыне перажывае востры і глыбокі ўнутраны крызіс. Мы з‘яўляемся сьведкамі вялікай раз‘еднанасьці беларускай інтэлегенцыі, напружанай варожасьці між сябе паасобных беларускіх арганізацыяў, партыяў, гурткоў, поўнай неарганізаванасьці беларускага народу. Беларуская нацыя, як арганізаваны, самасьвядомы жывы калектыў самасьвядомых адзінак, у

змаганьні за зьвяртаньне сябе волі ды незалежнасьці знаходзіцца ў стане заняпаду.

2. Беларуская вызвольная рэвалюцыя 1917 — 22 г., выставіўшая покліч дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, узброенай сілай чужынцаў была жорстка задушана. Урады вялікадзяржаўнай-імпэрыялістычнай Масквы і Варшавы, Рыскай дамовай разарваўшы Беларусь на часьці, зьнівэчылі права беларускага народу на вольнае самаазначэньне, разьбілі еднасьць і суцэльнасьць беларускага народу, зьніштожылі беларускія вызвольныя культурныя, сацы-яльна-эканамічныя ды палітычныяя цэнтры ў краі. Забраны край стогне ў капцюрах чужацкай няволі і самадзейнасьці, пазбаўлены прыродных правоў чалавека і грамадзяніна.

3. Асноўныя прычыны крызіса беларускага вызвольнага руху ў цяпершчыне ёсьць дзьве: унутраная і вонкавая. У чым яны выяў-ляюцца? Унутраная: нізкая ступень культурна-нацыянальнай і нацыянальнай сьвядомасьці беларускай інтэлегенцыі, угадаванай пераважна на культуры рускай або польскай. Таму культурна і псыхолёгічна беларуская інтэлегенцыя ў сваёй большасьці з‘яў-ляецца чужой для беларускага народу, які ў працягу стагодзьдзяў захаваў сваю мову, звыкі, сваю самаістую нацыянальную індывідуальнасьць. У тае часткі беларускай нацыянальнасьвядомай інтэлегенцыі, якая шчыра хоча працаваць на карысць вызваленьня сваей бацькаўшчыны Беларусі, даецца заўважыць адсутнасьць гістарычнай пэрспэктывы вызвольнага змаганьня, адсутнасьць супольнага культурна-вызвольнага ідэалу, адсутнасьць веры ў творчыя сілы беларускага народу, што выяўляецца, напрыклад, у шуканьні розных “вонкавых арыентацый”, а не імкненьне да культурнай, социяльна-эканамічнай ды палітычнай арганізацыі адзінай самастойнай беларускай вызвольнай сілы — беларускага народу, які ў сваей большасьці складваецца з працоўнага сялянства ды работнікаў. Вонкавая прычына: бязьмежнае панаваньне чужацкай дыктатарскай улады, якая трымаецца супраць волі беларускага народу выключна на грубай фізічнай сіле штыха і кулямёта. Гэтая ўлада сваёй аморальнасьцю развращчае псыхіку беларускага народа, рознымі нягоднымі спосабамі ствapae рэнэгацтва, здрадніцтва беларускай нацыі, руйнуе культурныя і гаспадарскія вартасьці Беларусі.

4. Беларуская эміграцыя, слабая ў сваей колькасьці, адарваная ад роднай глебы, парваўшая жывую зьвязь з народам, з прычыны сваей унутранай дэзаарганізацыі ды ўзаемнай самагубнай грызьні, ня мае ў сябе гэтулькі маральнай сілы, каб перамагчы інэрцыю ўзаемных “непаразуменьняў”, выйсьці з становішча “бязпрын-цыпнай

прымітыўнасьці” ды ўзапраўды стаць моральным цэнтрам беларускага вызвольнага руху. Беларуская эміграцыя ў тым становішчы, у якім цяпер знаходзіцца, самым ходам гістарычнага разьвіцьця засуджана на жалюгоднае выміраньне ды самалік-відацыю. Патрэбна гэроічнае напружаньне волі ўсіх і кожнага, каб ясна ўсьвядоміць істнуючае ненармальнае становішча і пастарацца выйсьці з моральнага кутка на шырокі прастор карыснай для беларускага вызвольнага руху працы.

5. Беларускае студэнцтва ў Празе, на якое ўскладзена гэтулькі надзеяў, аж да гэтай пары не апраўдвала сябе. Складанае ў большасьці з уцекачоў з Заходняй Беларусі, а не з палітычных эмігрантаў, як гэта, напрыклад, украінскае, грузінскае, рускае, пераважна моладзь зь гімназіальнай лаўкі, ня маючай акрэсьленага сьветапогляду, дзеля чаго падпадаючае пад розныя ўплывы і хутка зьмяняючае свае настроі ды “перакананьні”, непасрэдна адчуваючы агульнабеларускі вызвольны крызіс, падалося стыхійнаму настрою атомізацыі і распаўшыся на некалькі між сябе варожых гурткоў, выяўляе цяпер сабой надзіву годны вобраз апатыі, разчараванасьці, мярцьвечыны.

6. А ў гэты час розныя варожыя беларускаму вызвольнаму руху арганізацыі, як напрыклад, “Общество белоруссов и мало-россов — Единство русской культуры”, “Союз граждан СССР” ды інш., актыўна праяўляюць сваю дзеяльнасьць, карыстаючыся зь беларускай дэзарганізаванасьці, перацягваюць да сябе паасобных сяброў, сеючы разам з тым зьняверу ў актыўнасьць беларускай вызвольнай справы і ствараецца псыхолёгія “ідэйнага” рэнэгацтва...

7. Што з гэтага вынікае? Калі заставіць і надалей усё так, як ёсьць, то зь істнуючай невялікай грамады беларускага студэнцтва ў Празе застанецца ўсяго толькі некалькі чалавек, якія ўзапраўды будуць карыснымі працаўнікамі на ніве беларускага вызваленьня, астатнія ўсе або перайдуць на бок ворагаў, або застануцца пасыўнымі “ныцікамі”. Між тым, у беларускім вызвольным руху адчуваецца востры недахоп у актыўнай інтэлегенцыі. Дзеля ўдачнага разьвіцьця беларускай вызвольнай справы патрэбны беларускія педагогі, дахтары, інжэнэры, праўнікі, каморнікі, абходнікі, аграномы, лесаводы і г. д. Беларускаму народна-вызвольнаму руху патрэбна сьвядомая, адданая беларускай ідэі інтэлегенцыя. Трэба не адпіхваць, а прыцягваць да беларускай справы актыўныя інтэлегентныя сілы.

8. Як магчыма гэта зрабіць пры істнуючай розьніцы

паглядаў, пераканаланьняў, палітычнага credo? Неабходна шукаць пунктаў зыходжаньня. Трэ‘ мець на ўвазе асноўны закон людзкога разьвіцьця, які цьвердзіць, што людзкое грамадзянства ў сваім разьвіцьці ідзе ня толькі шляхам дыфэрэнцыяцыі (раз‘еднаньня), але і шляхам інтэграцыі (аб‘яднаньня). Неабходна ўсьведамляць ня толькі тое, што людзей раз‘ядноўвае, але і тое, што аб‘ядноўвае.

9. Што нас раз‘ядноўвае? Нас раз‘ядноўвае розьніца палітычных паглядаў, разуменьне спосабу змаганьня за вызваленьне бацькаўшчыны, нас раз‘ядноўвае форма арганізацыі ўлады ў будучай незалежнай беларускай дзяржаве, нас раз‘ядноўвае і соцыяльнае пытаньне: вырашэньне зямельнай справы на Беларусі ды інш. Аднак, калі добра ўдумацца і разабрацца ва ўсіх гэных нашых разыходжаньнях, што так востра нас раз‘ядноўваюць, то ўсе яны пабудаваны на няведаньні соцыяльнай структуры беларускай нацыі. Беларуская нацыя ёсьць нацыя працоўная, нацыя сялян, работнікаў і працоўнай інтэлегенцыі. Беларуская нацыя ня мае сваей буржуазіі. А таму асноўны беларускі вызвольны ідэал ёсьць працоўны ідэал. Хто-ж можа быць проці гэтага? Хіба-ж гэта не з‘яўляецца ідэалам кожнага беларускага студэнта ў Празе?

10. Цяпер, што нас аб‘ядноўвае? Ня гледзячы на ўсе нашы супярэчнасьці ды разыходжаньні, мы ўсё-ж такі не перастаём быць беларусамі, сынамі падняволенага беларускага народу. Найперш нас аб‘ядноўвае абавязак наш маральны перад сваім народам. Мы маемо магчымасьць атрымаць вышэйшую адукацыю. Сотні тысячаў нашых братоў і сясьцёр — няпісьменны. Яны жывуць у цемры і нудзе. Наш абавязак — нясьці ім сьвет веды, указаць шлях да лепшага жыцьця, арганізаваць іх на змаганьне за волю да незалежнасьці. Нас аб‘ядноўвае родная мова, любоў да роднай краіны, нас аб‘ядноўвае супольная доля.

11. Аднаго чаго ў нас няма: супольнай волі. Яе павінны мы вытворыць, засартаваць.

12. Ітак, грунт для супольнай працы ёсьць. Перад усім мы павінны стварыць супольны культурны ідэал. Гэта адразу ня робіцца. Дзеля гэтага патрэбен даўгі час упартай працы. Мы павінны ствараць беларускія культурныя вартасьці. Але да гэтага неабходна зараз-жа прыступіць. Годзе займацца рознымі дурніцамі.

13. Як канкрэтны высновак з усяго сказанага, я прапаную беларускаму студэнцтву ў Празе аб‘яднацца на супольным культурна-навуковым грунце, прапаную залажыць культурна-навуковае таварыства імя Скарыны. Сёлета якраз прыпадаюць 400-ыя ўгодкі з часу надрукаваньня першай беларускай кніжкі. Арганізуймо належна сьвяткаваньня ўгодкаў вялікага беларускага друкара Францішка Скарыны. З‘яднаемося ля янога слаўнага поклічу: працаваць на карысьць люду паспалітага.

14. Аб уцелаішчэньні гэтага — была-б толькі ахвота —

клапаціцца ня трэба. Хай будзе на першы пачатак ініцыятыўная група. Даручыць ёй дагаварыцца з паасобнымі гурткамі, а пасьля склікаць агульны сход, на якім прыняць статут і распачаць новае жыццё.

Травень, 1925 года.

(НА РБ, ф. 458, в. 2, спр. 15, арк. 1 — 7.)

**Прадмова, падрыхтоўка публікацыі і заўвагі Уладзімера ЛЯХОЎСКАГА.**

Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ

# ЯК МЕСІЯНІСЦКІ МІФ НАСАДЖАЎСЯ Ў БЕЛАРУСІ

“Заўважаючы, што беларуская народнасць з’яўляецца неадлучнаю часткаю расейскай нацыі і што па-за саюзам з іншымі расейскімі плямёнамі не можа мець самастойнай будучыні — гістарычнай і палітычнай, адзіным для яе шляхам з’яўляецца злучэнне з іншымі расейскімі плямёнамі для супольнай працы над атрыманнем грамадзянскай вольнасці”.

*З рэзалюцыі “Белорусского общества”. 1911г.*

"Міф нічога не хавае і нічога не афішуе, ён толькі дэфармуе; міф не ёсць ані хлуснёю, ані шчырым прызнаннем, ён толькі скажэнне".

*Р.Барт*

Палітолаг Ф.Хаек трапна адзначыў, што пакуль сацыялізм застаецца тэорыяй, ён інтэрнацыяналістычны. Але калі толькі яго пачынаюць ажыццяўляць на практыцы ці то ў Расеі, ці то ў Германіі, ён становіцца ашалела нацыяналістычным.

З Ф.Хаекам не ва ўсім можна згадзіцца. У Германіі нацыянал-сацыялізм быў адразу нацыяналістычным. Сацыял-дэмакратычныя ўрады ў краіне перад нацызмам сацыялізму не будавалі і не абвяшчалі ягонай пабудовы сваёю мэтаю.

Бальшавіцкі месіянізм стаў толькі новай экстрапаляцыяй расейскае месіяністычнае ідэі. Гэта праявілася не адразу. У гістарычнай навуцы і адукацыі Савецкага Саюзу гэта выявілася з напісаных улетку 1934г., а надрукаваных у “Правде” ў студзені 1936г. “Замечаний тов. Сталина, Жданова и Кирова по поводу конспектов учебника “История СССР” и учебника “Новой истории”. А да таго?

Да таго існавала класічная схема Маркса, Энгельса і Леніна ў нацыянальна-каланіяльным пытанні. Паводле гэтай схемы расейскія цары захопніцкімі войнамі ператваралі сваю краіну ў “турму народаў”. Схема была развітая ў шэрагу артыкулаў “марксіста, але гісторыка” (паводле трапнай характарыстыкі М.Гелера) М.Пакроўскага, напісаных у 1907—1910гг. і выдадзеных асобна ў 1923г. пад назовам “Дипломатия и войны царской России в XIX столетии”.

Выказванняў Маркса, Энгельса, Леніна наконт захопаў тэрыторый Рэчы Паспалітай, г.зн. беларускіх, летувіскіх і ўкраінскіх земляў, наконт задушэння нацыянальна-вызвольных паўстанняў 1794, 1830—1831, 1863гг., наконт

нацыянальна-вызвольнага харак-тару ўдзелу часткі беларускага і летувіскага жыхарства на баку Напалеона ў 1812г., дастаткова. Але гэтых выказванняў як агню баяліся беларускія марксісцка-ленінскія гісторыкі 40—80-х гг. Яны ніколі не прыводзілі гэтых цытатаў, паколькі апошнія ўшчэнт разбуралі іхную схему ўзаемадачыненняў царскай Расеі й Беларусі "ў святле ўказанняў" расейскіх манархісцка-клерыкальных і савецкіх гісторыкаў.

Сталін, скінуўшы са свайго шляху супрацiўнікаў, канкурэнтаў, выкарыстаўшы адных сваіх саюзнікаў, а потым адкінуўшы іх, узяўшы ў гэтых былых саюзнікаў, а потым ворагаў, іхныя ж "трацкісцкія" і "бухарынскія" ідэі, пачаў выкарыстоўваць гісторыю для ідэалагічнага выхавання ў сваім кірунку. Вялікі Правадыр лічыў, што шырокія колы народу можна выхаваць не на адцягненых догмах і паняццях, а на канкрэтных гістарычных фактах, на дзейнасці канкрэтных гістарычных асобаў. Толькі такія гістарычныя веды можна было зрабіць жывымі. Ідэалогія, для якой выкарыстаныя адабраныя, працэджаныя, здэфармаваныя гістарычныя факты, становіцца зразумелаю, дасягальнаю. Яна запамінаецца і ўваходзіць у гістарычную памяць народу.

Сталін адмовіўся ад ранейшай ленінска-трацкісцкай ідэі сусветнае рэвалюцыі пад лозунгамі інтэрнацыяналізму, калі пабачыў, што ў СССР не хопіць фінансаў, каб яе падтрымаць і развязаць пад выглядам яе падтрымкі новую сусветную вайну. Былы асабісты сакратар Сталіна і адначасова сакратар ЦК ВКП(б) Б.Г.Бажанаў, які перабег за мяжу, сведчыў у 1928г. у сваім аглядзе "Большевики и грядущая война", што ў 1927г. Палітбюро ЦК ВКП(б) было вымушана прыняць да ведама аналітычны даклад фінансавых экспертаў, у якім савецкую краіну на трэцім месяцы такой вайны напаткала б фінансавая катастрофа. Фінансавай нежыц-цяздольнасцю савецкага рэжыму можна растлумачыць тую ваенную стрыманасць, якую Сталін прадэманстраваў (разам з ідэалагічнай агрэсіўнасцю) у наступныя некалькі гадоў.

Менавіта тады Сталін заклікаў да рыўка наперад у эканоміцы. Пры гэтым Сталін ганіў царскі імперыялізм не за заваявальныя войны з суседзямі, а за ягоную ваенную слабасць: "История старой России состояла, между прочим, в том, что ее непрерывно били за отсталость. Били монгольские ханы. Били турецкие беки. Били шведские феодалы. Били польско-литовские паны. Били англо-французские капиталисты. Били японские бароны. Били все за отсталость. За отсталость военную, за отсталость культурную, за отсталость государственную, за отсталость промышленную, за отсталость сельскохозяйственную... Вот

почему нельзя больше отставать".

Надалей Сталін ніколі не ўспамінаў, што Расею калісьці хтосьці біў, бо гэта не адпавядала новай ягонай палітычнай лініі. Ён падхапіў у Бухарына ідэю немагчымасці адначасова правесці сусветную рэвалюцыю паўсюдна і неабходнасці будаваць сацыялізм пакуль толькі ў адзінай краіне. Дзеля гэтага спатрэбілася выцягнуць наверх датуль прыхаваную старую імперскую ідэю Масквы — Трэцяга Рыма, якую ад часу да часу выкарыстоўвалі бальшавікі, скажам, падчас вайны 1920г. з Польшчаю.

Тут перад Сталінам і ягоным бліжэйшым асяроддзем паўстала галаваломная праблема, як з ужыцця выключыць вобраз Расеі як "турмы народаў", а самое заваяванне чужых этнасаў паказаць як прадыктаванае справядлівымі дзяржаўнымі інтарэсамі Расеі, якія нібыта супадалі з нацыянальнымі інтарэсамі гэтых этнасаў. Хітрыя ідэолагі, якія эксплуатавалі сваю выратавальную дыялектыку пры кожнай нагодзе, тут безнадзейна спасавалі. Гэтыя ідэолагі прызвычаіліся фармуляваць паводле цытатаў заснавальнікаў марксізму-ленінізму. А тут не знойдзеш такіх цытатаў ані ў заснавальнікаў, бо тыя сцвярджалі зусім адваротнае, ані нават у самога Сталіна.

Сумленне марксісцкіх дыялектыкаў таксама дыялектычнае. Яны знайшлі выйсце. Замест марксіста Пакроўскага перавыдаць манархіста Ключэўскага, каб даказаць правамернасць царскае каланіяльнае палітыкі. Гісторыкаў скораных этнасаў прымушалі пісаць гісторыю сваіх нацыяў, даказваючы прагрэсіўнасць заваёвы іхных народаў расейскімі царамі. Так была перапісаная гісторыя ўсіх нерасейскіх народаў, у аснову антыгістарычнае канцэпцыі якой былі пакладзеныя наступныя моманты:

1. Усе нерасейскія народы (у тым ліку беларускі) прыядноўваліся да Расейскай імперыі нібыта самі, добраахвотна.

2. Усе нацыянальна-вызвольныя рухі, якія гэтаму супрацьдзейнічалі, былі або рэакцыйнымі, або, як у выпадку тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай, выключна шляхоцкімі.

3. Уключэнне гэтых этнасаў у склад Расейскай імперыі было гістарычна прагрэсіўным для іх.

Атрымлівалася, нібыта ўсе "братнія народы СССР" увайшлі ў свой час у склад Расейскага царства і Расейскай імперыі добраахвотна, без супраціву, без ахвяраў і стратаў, выключна з сардэчнае згоды.

Такая саладжавая карціна, якую савецкія (у тым ліку і беларускія) гісторыкі малявалі паслужлівым пэндзлем, хутчэй прыпадабнялася да шчадрынскай "Истории города Глупова", чым да рэальнай мінуўшчыны.

І гэта трэба было б памятаць тым беларусам — найперш настаўнікам і выкладчыкам гісторыі, — якія маюць на вачах такія шоры, што сталі нявольнікамі русацэнтрычнай ідэі, страціўшы адчу-ванне рэальнасці. Менавіта такія асобы прапануюць вучыцца на прыкладзе “Гісторыі дзяржавы Расейскай” Карамзіна і нават увесці яе ў школьныя праграмы. Да гэтага заклікаў, напрыклад, настаўнік адной з глыбоцкіх школаў на старонках “Настаўніцкай газеты”.

Другі прыклад. У газеце “Вечерний Минск” за 7 красавіка 1992г. дацэнт Э.Ліпецкі прапанаваў па-старому разглядаць гісторыю Беларусі з пункту погляду гісторыі Расеі, як яе неад’емнай часткі. Адсюль у яго і Сувораў — “наш” гістарычны персанаж, і ягоныя перамогі — “нашыя”, хоць, як вядома, ён душыў у Беларусі паўстанне 1794г. пад кіраўніцтвам Т.Касцюшкі, за што яму былі з царскай ласкі перададзеныя ў прыгон беларускія сяляне на Кобрыншчыне.

Якраз такія настаўнікі і выкладчыкі, выгадаваныя толькі на імперскай гістарыяграфіі, адвучаюць вучняў і студэнатў ад беларускай гісторыі і прымушаюць іх ведаць нават дробныя выпадкі з іншай гісторыі, на іншай тэрыторыі. Навучэнцаў змушаюць запамінаць імёны маскоўскіх вялікіх князёў, удзельнікаў палацавых пераваротаў у чужых сталіцах, дробязі ваенных паходаў чужых ваяводаў і генералаў, сялянскіх і казацкіх паўстанняў на вялікай адлегласці ад Беларусі. Пры гэтым вучням і студэнтам адмаўляюць у падобных ведах сваёй роднай мінуўшчыны. Той, хто канчае сярэднюю школу ці ВНУ Беларусі, не ведае імёнаў сваіх вялікіх князёў, не ведае акалічнасцяў барацьбы прэтэндэнтаў на вялікакняскі сталец у Вялікім Княстве Літоўскім і Рускім, імёнаў Давыда Гарадзенскага, Канстанціна Астрожскага, Лева Сапегі, Рыгора Хадкевіча ды іншых.

Каб ведалі навучэнцы і адных, і другіх персанажаў — і беларускай, і гісторыі іншых народаў, — не было б бяды. Але калі іх пакідаюць у поўнай няведзе сваёй гісторыі — гэта не проста недагляд. Гэта асэнсаваная палітыка прымусовай духоўнай асіміляцыі.

Мала таго, варта толькі выступіць супраць такога ненармальнага становішча, дык знаходзяцца ягоныя абаронцы. Вось прыклад. Гісторык Анатоль Грыцкевіч выступіў з прапановаю падтрымаць канцэпцыю нацыянальнай гісторыі Беларусі. Неўзабаве ў газеце друкуецца адказ з глумлівым загалоўкам: “История — не гетерочка для политиков”. Аўтар гэтага адказу — кандыдат гістарычных навук В.Сураеў, сябра думы Славянскага Сабора “Белая Русь”.

Аўтар артыкула з какецтвам піша: “...некоторые сомнения все же точат мою заскорузлую от консерватизма душу” ў час

чытання артыкула А.Грыцкевіча. В.Сураеў, мусіць, спадзяецца, што яго кінуцца пераконваць у адваротным. Можа, хто і знойдзецца такі. Але гэта будзе чалавек з ліку тых, хто не здолее ўбачыць сапраўднай закарэласці думак В.Сураева, накшталт сцверджання аб існаванні міфічнага “маларускага” народа, чыя гісторыя, як і гісторыя іншых “народаў-братоў” — беларускага і вялікарускага, паводле В.Сураева, “настолько переплелась, что делить ее на свою и чужую [...], значит резать по живому”. Зразумела, калі засвойваць гісторыю ўкраінцаў і беларусаў паводле наскрозь дагматычных савецкіх або царскіх падручнікаў, дык не ўбачыш у ёй нічога асобнага ад вялікарускай гісторыі, бо першая падаецца вылучна з пункту погляду другой.

Да гісторыкаў тыпу В.Сураева блізкія тыя гісторыкі, якія хочуць бачыць у навучальных курсах ВНУ і школ, апроч гісторыі Беларусі, “историю отечества”. Менавіта такую прапанову вылучылі ўдзельнікі семінару, ладжанага ў канцы 1991г. на базе Інстытута павышэння кваліфікацыі выкладчыкаў гуманітарных дысцыплін пры Беларускім універсітэце Міністэрствам адукацыі і навукі Беларусі.

Прачытаўшы гэта, я спачатку аслупянеў. Каб у школе самастойнай дзяржавы, апроч яе нацыянальнай гісторыі, прапа-ноўвалі асобны курс “гісторыі Бацькаўшчыны”? Гэта значыць, не Беларусі, а іншай краіны, якую ўдзельнікі семінару, нават іхная бальшыня лічыць сваёй Бацькаўшчынай? Значыцца, прыхільнікі гэтай прапановы Беларусь бацькаўшчынаю не лічаць, не прызнаюць? Што гэта, як не каланізатарская маральная шкала, якая ўзнікла з коснай духоўнай адукацыі, з паслушэнства голасу закарэлай інерцыі ўнутры чалавека? А ў беларускай часткі выкладчыкаў, якія прысутнічалі на семінары, гэта сведчанне іхнага адмаўлення ад прыналежнасці да беларускага этнасу. Падобная прапанова магла вынікнуць толькі з апрыёрнага прызнання безумоўнай няроўнасці Расеі і нейкай там Беларусі.

На маю думку, такія прапановы з боку выкладчыкаў ВНУ адлюстроўваюць імкненне пакінуць у Беларусі даўнюю русацэнтрычную структуру гістарычнай адукацыі ў інтарэсах “зліцця нацыяў” — хрушчоўска-брэжнеўскага лозунга старых дзён. Гэта прапануецца ў інтарэсах кансервацыі агульнай ідэалагічнай прасторы на тэрыторыі былой імперыі, каб ускласці і на новыя пакаленні жыхароў Беларусі ярмо другаснасці, упусціць у вакно тую ідэю, якую з вялікай цяжкасцю прыходзіцца выштурхоўваць за дзверы.

Пашырэнне гэтай ідэі, згодна поглядам сучаснага пецярбург-скага гісторыка Яўгена Анісімава, ужо ў XVII ст.прадугледжвалася сістэмай захадаў, накіраваных на

сціранне гістарычнай памяці этнасаў, якія траплялі пад уладу Расейскай імперыі. Русіфі-катарскую палітычную дактрыну царызму часткова выклала Кацярына II у 1764г. у дачыненні да заходніх, у тым ліку беларускіх частак сваёй імперыі, яшчэ за дзесятак гадоў да першага падзелу Рэчы Паспалітай. У лісце да генерал-пракурора князя А.Вяземскага (з характэрнаю пазнакаю: “Трэба [дакумент] знішчыць") яна пісала:

“Малая Расея, Ліфляндыя і Фінляндыя ёсць правінцыі, якія правяцца канфірмаванымі [пацверджанымі найвышэйшым наказам. — **В.Г.**] прывілеямі, парушаць іх адмаўленнем усіх разам вельмі непрыстойна было б, але ж і назваць іх іншаземнымі і абыходзіцца з імі на такой аснове ёсць больш чым памылка, а можна сказаць з пэўнасцю — і глупства. Гэтыя правінцыі, як і **Смаленскую** [падкрэслена мною. — **В.Г.**], належыць найлягчэйшым спосабам прывесці да таго, каб яны абруселі і пакінулі б глядзець як ваўкі да лесу”. Шляхі ажыццяўлення гэтага імператрыца бачыла ва ўмелай адміністрацыйнай палітыцы: “Да таго прыступ вельмі лёгкі, калі разумныя людзі выбраныя будуць у тых правінцыях”.

Нават праз стагоддзе пасля далучэння Смаленшчыны да Расеі Кацярына II добра разумела, што гэта не вялікаруская, а беларуская “правінцыя”, гэта добра разумелі падчас першага Усерасейскага перапісу насельніцтва 1897г. (пра што добра піша аўтар артыкула “Смоленская губерния” ў Энцыклапедычным слоўніку выдавецтва Ф.Бракгаўз — І.Ефрон, але што добра было вытручана з свядомасці сучасных беларусаў). Бо ў Беларусі хапіла тых “разумных людзей” у кіраўніцтве, якіх згадвала Кацярына II і якія за два стагоддзі правялі ў жыццё прапанаваныя ёю планы.

Вярнуся да прапановы чытаць у ВНУ асобна гісторыю Беларусі і гісторыю Бацькаўшчыны. Уявіў сабе на хвіліну, як бы я, працуючы ў Пецярбургу, набраўся б нахабства і прапанаваў бы, апроч гісторыі Расеі, вывучаць школьнікам і студэнтам гісторыю Беларусі пад назваю “Гісторыя Айчыны”. Ці не палічылі б расейскія калегі аўтара такой прапазіцыі душэўна хворым, а самую прапазіцыю абразаю для сябе? А беларускія гісторыкі — ім нічога, пракаўтнулі гэтую абразу.

Калі нехта ў адной краіне лічыць сваёй Бацькаўшчынай іншую зямлю, хай сабе лічыць. Гэта ягоная асабістая справа. Але калі ён прапануе вывучаць у Беларусі гісторыю іншай краіны як гісторыю Айчыны, то можна дзівіцца такім, мякка кажучы, дзіўным паводзінам (калі гэта толькі не правакацыя, каб паглядзець, як на яе адрэагуе грамадскасць Беларусі).

Чаму я надаю такое значэнне згаданай прапанове? Таму, што, на мой пункт погляду, ёсць этнічнае паняцце “беларускага

народу” — беларусаў паводле паходжання. Але калі Беларусь становіцца самастойнаю дзяржаваю, то ў паняцце народу дзяржавы Беларусь уваходзяць прадстаўнікі ўсіх этнасаў, што насяляюць Беларусь. І для іх Беларусь — адзіная айчына, адзіная бацькаўшчына. І менавіта яе, гісторыю, як мне здаецца, трэба ведаць грамадзяніну Рэспублікі Беларусь. Прапанова ўдзельнікаў семінару выкладчыкаў разы-ходзіцца з гэтай заканамернай патрэбай.

Не магу сабе ўявіць жаўнера незалежнай Беларусі, які не будзе ведаць, якую айчыну, якую бацькаўшчыну яму трэба бараніць, калі ён вывучаў іншую “историю Отечества” — СССР, ці СНГ, ці што яшчэ? Або як грамадзянка Беларусі — матка або настаўніца — выхоўвае дзяцей на традыцыях абагульненага “Отечества”. Гэта што: “беларускія кураняты — кыш зноў да маскоўскай хаты”?

Яшчэ адзін прыклад дзівацкіх паводзінаў, калі можна так іх назваць. Менскі настаўнік М.Сянькевіч выказвае прэтэнзіі да “Канцэпцыі гістарычнай адукацыі ў сярэдняй школе Беларусі”, якую склала група гісторыкаў на чале з доктарам гістарычных навук М.Бічом. За што? А за тое, што ў канцэпцыі “няма месца для гістарычнай адукацыі ў нацыянальнай школе рускім і ўкраінцам, палякам і яўрэям, літоўцам і латышам, татарам і ўсім тым, [...] каго беларуская дзяржава [...] павінна бараніць ад дэнацыяналізацыі, максімальна набліжаючыся да таго, як гэта робяць, напрыклад, у Швецыі. Тут вельмі клапоцяцца аб тым, каб кожнае дзіця вучылася **роднай мове** [падкрэслена мною — **В.Г.**], каб у яго было пачуццё сваёй нацыі і сваёй сям’і. Калі ў школу трапіў хлопчык, які размаўляе на якой-небудзь экзатычнай мове, яму будуць шукаць настаўніка і вучыць яго аднаго”.

Я не зразумеў, якое дачыненне мае прыведзены М.Сянькевічам прыклад Швецыі да тэмы. Згодна прыкладу, там навучаюць дзяцей не **гісторыі** этнасу, да якога тыя належыць, а ягонай **мове**.

Гэта ж істотная розніца — забеспячэнне навучання мове і гісторыі. Намер М.Сянькевіча добры. Але ці да выканання ён у Беларусі, дзе найбольш занядбаная беларуская гісторыя, калі ў болей развітых і матэрыяльна, і, не баюся сказаць, і духоўна Швецыі і Нямеччыне ён наўрад ці выконваецца?

Я не з’яўляюся прыхільнікам канцэпцыі М.Біча. Ёсць за што яе крытыкаваць, што я і зрабіў у свой час у артыкулах у “Настаўніцкай газеце” і “Літаратуры і мастацтве”. Але аднаго ў канцэпцыі не адбярэш — жадання адвесці ў нашай адукацыі для занядбанай гісторыі Беларусі і яе этнасаў (без ніякай дыскрымінацыі іншых, чым беларусы, этнасаў) тое месца, якое ёй належыць па праву.

М.Сянькевіч жа пад вонкава дэмакратычнымі заклікамі, па сутнасці, адмаўляе гэтую станоўчую тэндэнцыю канцэпцыі М.Біча. Ён прапануе стварыць падручнікі, дзе б вывучэнне пэўнага перыяду гісторыі ажыццяўлялася б у рамках аднаго падручніка. Скажам, для беларускай школы — гісторыя Беларусі, гісторыя народаў Беларусі і ўсеагульная гісторыя, для расейскай школы — гісторыя **Расеі** [падкрэслена мною. — **В.Г.**], гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя, для польскай школы — гісторыя **Польшчы** [падкрэслена мною. — **В.Г.**], гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя. І г.д.

М.Сянькевіч лічыць, што гэткім чынам у падручніку гісторыі кожнага класа будзе гісторыя адпаведнага **этнасу**, гісторыя Беларусі і ўсеагульная гісторыя.

Але каму ж невядома, што між гісторыяй **дзяржавы** і гісторыяй **этнасу** існуе розніца? Падручнікі гісторыі Расеі (у нас на іхнай вокладцы надрукавана “История СССР”) і гісторыя Польшчы — гэта падручнікі не гісторыі **этнасаў**, а гісторыі іхных **дзяржаваў**, як правіла, з падкрэсленымі вялікадзяржаўніцкімі тэндэнцыямі.

Зазірніце нават не ў падручнік, а ў выданне “Nasza Ojczyzna. Szkolny atlas historyczny” (4-е выд., Варшава, 1988). Вы ўбачыце там карты Рэчы Паспалітай з памылковым надпісам “Rzeczpospolita Polska” на абсягах беларускіх і літоўскіх тэрыторыяў на картах з XVII ст., а таксама характэрную карту “Змены межаў Польшчы на прасторы гісторыі”. Там нашыя землі, насуперак фактам, уведзеныя ў межы Польшчы. Пра падручнікі і карты з гісторыі СССР я ўжо не кажу. Яны добра вядомыя тым, што беларускія землі там належаць Расеі.

Што з гэтага вынікае? А тое, што згодна прапанове М.Сянькевіча ў расейскіх школах, якіх у Беларусі пераважная бальшыня, зноў будуць вывучаць гісторыю не расейскага этнасу, тым больш не ягонай часткі ў Беларусі, а гісторыю вялікай Расейскай дзяржавы, адзінай і непадзельнай. Гэта ў той час, калі ў нас суцэльна навокал выкладаецца расейская гісторыя, у якой не застаецца месца для гісторыі іншых этнасаў.

У польскай жа школе будзе выкладацца не гісторыя польскага этнасу — тым больш не гісторыя палякаў у Беларусі (якая б выкрыла ілюзорнасць уяўлення аб нібыта масавай міграцыі палякаў у Беларусь), а гісторыя Польскай дзяржавы, якая толькі ў 1920—1939гг. валодала часткаю Беларусі і да астатняй часткі Беларусі мела ўскоснае дачыненне.

Асобы, выхаваныя на гісторыі суседніх дзяржаваў [не этнасаў — **В.Г.**], што выкладалася апошнія дзесяцігоддзі ў Польшчы, а ў Расеі — ужо стагоддзі, хутчэй за ўсё і будуць

складаць новыя падручнікі для расейскіх і польскіх школаў. А дзе ўзяць іншых? Нават калі б яны і зыходзілі з лепшых намераў, мімаволі яны апынуліся б у палоне вышэйзгаданых тэндэнцыяў.

Надта цікава прасачыць, як М.Сянькевіч паволі вызваляецца ад ідэі забяспечыць падручнікамі гісторыі сваіх народаў прадстаўнікоў іншых, чым расейцы і палякі, этнасаў. І гэтым ён хоча “бараніць нацыянальныя інтарэсы прадстаўнікоў іншых нацыяў у Рэспубліцы Беларусь”, а па сутнасці прадстаўнікоў толькі двух этнасаў?

Як тут не прыгадаць дэкларацыю Ўсебеларускага Славянскага Сабору, у якой гаворыцца аб імкненні Сабору “противодей-ствовать любым попыткам дискредитировать славянскую духовную, этническую, **государственную** [падкрэслена мною. — **В.Г.**] общность, вызвать вражду между славянскими народами, вовлечь их в политические блоки, чуждые коренным интересам славянского сообщества”.

Пры гэтым нехта сам бярэ на сябе права прадстаўляць як “коренные интересы славянского сообщества” інтарэсы ўладаў таго этнасу, якія ўвесь час дыскрымінавалі беларускі этнас. Атрымліваецца, згодна прапанове М.Сянькевіча, што крый Божа паддаваць сумневу такую славянскую агульнасць, выкладаючы гісторыю Беларусі. Хай лепей будзе прапагандавацца тэза з казкі Оруэла: “Усе жывёлы роўныя, але некаторыя жывёлы раўнейшыя за ўсіх”.

Зусім не да прыняцця мною прапанова М.Сянькевіча скараціць у адукацыі выкладанне ўсеагульнай гісторыі, каб даць болей часу іншым раздзелам гісторыі. Незразумела, прычым тут памянёныя М.Сянькевічам “пазіцыі агульначалавечых каштоўнасцяў і здаровага сэнсу”. Бо менавіта агульначалавечыя каштоўнасці і здаровы сэнс падказваюць ні ў якім разе не адмаўляцца ад адпаведнага ў адукацыі месца агульнай гісторыі. Славутыя папярэднікі сучасных адраджэнцаў В.Ластоўскі, А. і І.Луцкевічы, Б.Тарашкевіч, А.Смоліч, А.Уласаў ды іншыя дасягнулі шмат чаго менавіта таму, што яны былі выхаваныя ў добрым веданні ўсеагульнай гісторыі ды іншых сапраўдных, а не ўяўных агульначалавечых каштоўнасцяў. За семдзесят апошніх год мы так скарацілі выкладанне ўсеагульнай гісторыі, што страцілі ў адукацыі менавіта агульначалавечыя каштоўнасці — міжземнаморскага і ў тым ліку антычнага свету, свету Блізкага і Далёкага Усходу, каштоўнасці заходняй цывілізацыі з яе прынцыпамі свабоды асобы. Гісторыю ў адукацыі звялі да русацэнтрычнай яе мадэлі. У гэтай мадэлі сёння, напрыклад, сцвярджаецца, што Расея (з Беларуссю як яе дадаткам) была б самай шчаслівай, магутнай і цывілізаванай, калі б не татара-

мангольскае ярмо, Іван Жахлівы, Пётр Вялікі, нямецкае засілле, прыгнёт самаўладства, змовы масонаў і гэбраяў, пераварот бальшавікоў, перабудова, дэмакратыя (патрэбнае падкрэсліваецца ў залежнасці ад сімпатыяў). Словам, вінаваты ва ўсіх бедах хтосьці іншы, а не мы самі.

І гэта ў той час, калі іншыя этнасы зусім іначай мяркуюць пра свой лёс. Напрыклад, у японцаў існуе добрае правіла: “Прычынаю няшчасця лічы самога сябе”.

Расейскія імператары ды імперскія ідэолагі — Уваравы, Пабеданосцавы і іншыя — былі дылетантамі. Іх перасягнулі Сталін і сталіністы, іхныя спадкаемцы пры Хрушчове, Брэжневе, Гарбачове, якія заўсёды былі вялікарускімі ідэолагамі ў сваёй нацыянальнай палітыцы. Розніца між царскай і савецкай Расеяй палягае на тым, што цары ды іхныя міністры ў замежнай і ўнутранай палітыцы былі шчырымі. Яны называлі рэчы сваімі імёнамі. А бальшавіцкія лідэры маскавалі сваю імперыялістычную сутнасць інтэрна-цыяналістычнай фразеалогіяй. Класічны прыклад. Паводле словаў Б.Кармаля, савецкая армія вяла ў Афганістане не каланіяльную вайну, а выконвала “інтэрнацыянальны абавязак”. Або, яшчэ болей цынічна, аказвала афганцам “брацкую дапамогу”, насампраўдзе практыкуючы там варварскае чалавекагубства.

Мала таго. Сваіх герояў у беларускага этнасу адбіралі, а чужых накідалі. Словам, тое, што дазволена і нават прызначана “старэйшаму брату” (апяваць князёў Ігара, Аляксандра Неўскага, Дзмітрыя Данскога, палкаводцаў Суворава, Кутузава, флатаводцаў Ушакова, Нахімава), не дазволена “малодшаму брату” (успамінаць Вітаўта Вялікага, Канстанціна Астрожскага ды іншых). Затое Чапаеву ў Горадні помнік ставіць можна, хоць ён да гэтага горада ніякага дачынення не меў. Дзякуй Богу, што актыўнаму праціўніку адраджэння беларускай дзяржаўнасці Мяснікову не паспелі ўзвесці помнік. Але ж хацелі яго ставіць у Менску!

Сёння ідэя Трэцяга Рыму стала архаічным рэліктам. Але шмат чаго з гэтай ідэі застаецца ў побыце. Так, напрыклад, пра што маглі і могуць прачытаць беларусы ў русіфікатарскіх падручніках ці аднатомніку “История БССР”?

З аднаго боку, у гэтых выданнях апяваецца класавая барацьба як галоўны матор шляху чалавецтва ад горшых умоваў жыцця да лепшых. З другога боку, прапагандуецца русацэнтрычны месіянізм. У святле апошняга Беларусь — і як бліжэйшы сусед, і як славянскі сусед, і як сусед з падобным да Расеі імем — стала выпрабавальным палігонам, эксперыментальнай лабараторыяй для ажыццяўлення ідэі рускага месіянства.

Гісторыя Беларусі разглядаецца ў такіх кніжках толькі з

аднаго гледзішча — гледзішча гісторыі Расеі, параўноўваецца толькі з гісторыяй Расеі, а не з гісторыяй краін, што праходзілі падобны да Беларусі шлях гістарычнага развіцця.

Міф надта спрошчана падае мінуўшчыну. У ім для спрашчэння прысутнічае мадэрнізацыя гістарычных падзеяў, амаль абавязковае штучнае атаясамленне падзеяў даўніны з сучаснасцю: напрыклад, Івана Жахлівага і ягонага апрычнага тэрору са Сталінам і 37-м годам, Пятра І і ягоных рэформаў з Ленінам і ягонай рэвалюцыяй, Айчыннай вайны 1812г. з Айчыннай вайной 1941—1945гг., планамернага адыходу расейскай арміі за Маскву ў 1812г. і незапланаванага адступлення Чырвонай Арміі да Масквы ў 1941г., руху партызанаў з ліку войска ў 1812г. і зусім іншага партызанскага руху ў 1941—1944гг., паўстанняў сялян у Нямеччыне ў 1525г. і сялянскіх войнаў у Расеі ў XVII—XVIII ст., рэвалюцыяў 1789—1794гг. і 1917г. у розных краінах, Парыжскай Камуны 1871г. і стварэння саветаў у Расеі ў 1905 і 1917гг. і г.д.

Усё простае і даходлівае заўсёды знаходзіць прыхільнікаў. Але “иная простота хуже воровства”. Добрая тая прастата, якая выцякае з разнастайнасці фактаў, але не з іхнага відавочнага спрашчэння.

Чаму ж такі жывучы міф? Паспрабуем звярнуцца да Ф.Хаека, які пісаў: “Лёгка зразумець (і гэта неаднойчы пацвярджалася досведам), што ў дысцыплінах, якія непасрэдна займаюцца чалавечым грамадствам, а таму наўпрост закранаюць палітычныя погляды, — напрыклад, у галіне гісторыі, эканомікі ці права, — таталітарны лад не можа дапусціць бескарыслівага імкнення да ісціны, і адзінай задачай гуманітарных навук становіцца пацвер-джанне афіцыйных поглядаў. Сапраўды, **гэтыя дысцыпліны** ва ўсіх таталітарных краінах пераўтварыліся ў **фабрыкі афіцыйных міфаў** [падкрэслена мною. — **В.Г.**], з дапамогаю якіх уладары кіруюць розумамі ды імкненнямі сваіх падданых. Нічога дзіўнага няма ў тым, што ў гэтых галінах ніхто не робіць выгляду, што знаходзіцца ў пошуках ісціны, а што публікаваць і якія дактрыны выкладаць — вырашаюць непасрэдна ўлады”.

Вось чаму такі жывучы гістарычны міф.

Яго перадавалі ў надта спрошчаным выглядзе — у падручніках, папулярных кніжках і артыкулах, мастацкіх творах, праз радыё, у тэлеперадачах. Гэтым замацоўвалі ў чалавечай памяці.

“Нацыяналістычныя ды імперыялістычныя прыхільнасці сустракаюцца значна часцей, чым здаецца”,— пісаў Ф.Хаек у сваім “Шляху да рабства”. Ён спасылаецца на гісторыка Э.Галеві, які сведчыў, што сацыяліст Бэрнард Шоў заяўляў падчас імперыялістычнай вайны англічан супраць бураў:

“...Светам валодаюць натуральна вялікія і моцныя дзяржавы, малым жа лепей не вылазіць са сваіх межаў, інакш іх расцісьнуць...”.

Згодна меркаванню французскага культуролага Раляна Барта, сярод некалькіх рытарычных фігураў міфу існуе “пазбаўленне гісторыі”. Гэта значыць, што міф пазбаўляе **прадмет**, пра які ён апавядае, усялякай гістарычнасці: “Гісторыя ў міфе выпарваецца [...]. Зразумела, ад чаго дапамагае пазбавіцца гэтая ўдалая рытарычная фігура: ад дэтэрмінізму і ад свабоды. Нішто не вытвараецца, нішто не абіраецца. Застаецца толькі валодаць гэтымі новенькімі рэчамі, у якіх няма найменшага следу іхнага паходжання ці адбору. Гэтае цудоўнае выпарэнне ёсць адна з формаў канцэпту [...] “безадказнасці чалавека”.

Р.Барт піша: “Міф жывучы яшчэ таму, што ён знішчае складанасць чалавечых учынкаў, надае ім прастату сутнасцяў і элімінуе ўсялякую дыялектыку, перапыняе ўсялякія спробы пранікнуць па той бок непасрэднага назіранага, ён стварае свет без супярэчнасцяў, таму што ў ім няма глыбіні, і размяшчае яго перад нашым зрокам ва ўсёй ягонай відавочнасці, ціхамірнай яснасці, здаецца, што рэчы азначаюць нешта самі па сабе”.

Навуковец падкрэслівае, што міф пераважна карыстаецца беднымі, няпоўнымі вобразамі.

Адсюль робіцца выснова: “Міф ёсць найбольш выніковым сродкам утрымання існага парадку, найбольш пэўным сродкам дысцыплінавання масаў”.

Так, сапраўды. Калі масы беларускага жыхарства праз сродкі масавай інфармацыі прывучылі да ідэі непарушнай сувязі беларусаў з Расеяй і абавязковасці класавай барацьбы за гэтую непарушнасць, імі можна кіраваць у былым кірунку і працягваць паспяхова адвучваць ад сваёй мовы, сваёй гісторыі, сваёй культуры і ўвогуле ад усяго свайго.

Міфы ў гісторыі былі створаныя бальшавіцкімі ідэолагамі.

А што такое ідэалогія ўвогуле? На гэтае пытанне трэба адказаць, бо нам увесь час дзяўблі, што гэта “сукупнасць ідэяў і поглядаў, якія адлюстроўваюць у тэарэтычнай сістэматызаванай форме дачыненні людзей да навакольнай рэчаіснасці і адзін да аднаго ды якія служаць замацоўванню і развіццю гэтых дачыненняў”.

Але існуе іншае, супрацьлеглае гэтаму меркаванне, што ідэалогія — гэта фальшывая, ілюзорная, перакручаная свядомасць, якая адарваная ад аб’ектыўных заканамернасцяў і на справе абслугоўвае эгаістычныя інтарэсы асобных сацыяльных груп, якія, як правіла, іграюць рэакцыйную ролю ў грамадска-палітычным працэсе.

Паводле меркавання філосафаў А. і Д.Пахмелкіных, ідэалагізацыя навукі — сведчанне яе стагнацыі, лёкайскага перараджэння, яскравая праява антыдэмакратычнай арганізацыі палітычнай улады. Навука і ідэалогія — адносна самастойныя, прынцыпова не зводныя адно да аднаго ўзроўні грамадскай свядомасці.

Для навукоўца найвышэйшай каштоўнасцю ёсць ісціна, для ідэолага — карпаратыўныя інтарэсы, якія той адстойвае. Сапраўдная навука ўсё паддае сумненню, паслядоўная ідэалогія паддае сумненню ўсё, што супярэчыць яе зыходным пастулатам. Галоўная для навукі супярэчлівасць — між сапраўдным і фальшывым — у ідэалагічнай плоскасці трансфармуецца ў супярэчлівасць між “карысным” і “шкодным”, “сваім” і “чужым”. Навука пераконвае фактамі і доказамі, звернутымі да розуму. Ідэалогія ж уздзейнічае на свядомасць людзей, апелюючы да аўтарытэту (“партыя ўказала”), карпаратыўнай маралі, урэшце, да сілы і страху (“хто не з намі, той супраць нас”, “калі вораг не здаецца, яго знішчаюць”).

Вось чаму А. і Д.Пахмёлкіны лічаць бессэнсоўным гаварыць пра навуковасць якой-небудзь ідэалогіі ці ненавуковасць іншай. Кожная ідэалогія абапіраецца на навуку, але толькі ў той ступені, у якой навуковыя веды не супярэчаць яе асноўным ідэалагічным каштоўнасцям.

Кожная ідэалогія ў сілу сваёй прыроды мае “прыроджаныя заганы”. Да іх ліку адносяцца аднабаковасць і абмежаванасць, “комплексы непаўнавартасці” і “экспансіянізм”, схільнасць да дагматызацыі й перараджэння.

Філосафы лічаць, што ў ідэалагізаванай свядомасці ўзнікаюць ненатуральныя паняцці кшталту “пралетарскага гуманізму”, “рэвалюцыйнай законнасці”, “сацыялістычнага рэалізму”, “планава-рынкавай эканомікі”. У гэтых словазлучэннях асноўную сэнсавую нагрузку нясуць прыметнікі, якія фіксуюць непаўнату, абрэзанасць азначаных з іхнай дапамогай назоўнікаў, а то і пераход апошніх у сваю процілегласць. Ідэалагічны падыход утылізуе, “выпроствае” працэс пазнання, вырывае і абсалютызуе асобныя бакі грамадскіх супярэчнасцяў.

Ідэалогія не можа прымірыцца з сваёй натуральнай абмежаванасцю ды імкнецца закамуфляваць яе. Для гэтага яна апранаецца ў тогу навукі. Пэўная ідэалогія абвяшчаецца адзінаю навуковаю. Адначасова адбываецца масаваная ідэалагізацыя навукова-даследніцкай дзейнасці. Імкненне пераадолець практычную абмежаванасць вядзе да экспансіі ідэалогіі ў чужародныя ёй сферы грамадскага жыцця, да спробы ўсталяваць сваю ўладу над усімі формамі дзейнасці людзей.

Схільнасць ідэалогіі дагматызавацца і перараджацца непасрэдна звязаная з яе абмежаванасцю і празмернымі

прэтэнзіямі. Ідэалогіі ўвесь час бракуе канкрэтных аргументаў, таму яна шукае апору ў веры. А менавіта вера, некрытычнае ўспрыманне ідэяў стварае фундамент дагматызму. Яна прадукуе бюракратычныя інстытуты і ўстановы, пакліканыя яе культываваць і распаўсюджваць. Але, сфармаваўшыся, гэтыя ўтварэнні набываюць уласныя інтарэсы, часам нават супрацьлеглыя інтарэсам тых сацыяльных групаў і пластоў, чыю ідэалогію яны павінны вызначаць.

Вось так ідэя беларусізацыі ў СССР пад уплывам таталітарных бюракратычных уладаў перайшла ў русіфікацыю, а прыязнае стаўленне да гэбраяў — у дзяржаўны нібыта неафіцыйны антысемітызм пад вонкавым выглядам антысіянізму і антыізраэлізму.

У выніку ідэалогія пераўтвараецца, выраджаецца, адрываецца ад сваіх сацыяльна-класавых каранёў і поўнасцю падпарадкоўваецца інтарэсам бюракратыі. “Экспансіяністкія схільнасці”, якія нікім не стрымліваюцца, пераўтвараюць ідэалогію у адзін з самых грубых палітычных інструментаў. Камуністычная ж ідэалогія служыць інструментам замацавання і асвячэння таталітарнага рэжыму.

*г.Санкт-Пецярбург.*

# РУПЯЧЫСЯ ПРА БЕЛАРУСКУЮ ДЗЯРЖАЎНАСЦЬ

*Аляксандр Цвікевіч належыць да таго пакалення беларускай інтэлігенцыі пачатку стагоддзя, высілкамі якога адбудоўвалася нашая дзяржаўнасць, Беларускі Дом, як выразна выслоўліваліся яго маладыя дойліды.*

*Да нацыянальнага ўсведамлення, працы на беларускай грамадска-культурнай ніве браты Цвікевічы, старэйшы Іван і малодшы Аляксандр, прыйшлі не з-за студэнцкага стала. Сын фельчара з Берасця (бацька служыў на чыгунцы), Аляксандр Цвікевіч пасля заканчэння юрыдычнага факультэта Санкт-Пецярбургскага ўніверсітэта працаваў прысяжным павераным у Пружанах, пазней у Берасці, аж пакуль віхор Першай сусветнай вайны не выкінуў яго з сотнямі тысячаў суродзічаў у Расію. Там у Туле, потым у Маскве далучыўся да грамадскай працы ў Камітэце помачы ахвярам вайны. Як удзельнік уцякацкіх з‘ездаў у снежні 1917г. быў абраны дэпутатам на Ўсебеларускі кангрэс у Менску. У парадку дня работы Кангрэсу быў пазначаны даклад А.Цвікевіча па ўцякацкім пытанні... Паводле ўспамінаў старога грамадоўца, з той першай Беларускай рэвалюцыйнай грамады пецярбуржца Язэпа Сушынскага, Цвікевіч на Кангрэсе голас падаваў, але гаварыць па-беларуску яшчэ не ўмеў. Праз чатыры гады выйдзе актуальная на той час кніга А.Цвікевіча, у якой гісторык-эканаміст, аналітык на добрай навуковай беларускай мове, з эканамічнымі, гістарычнымі, этнаграфічнымі аргументамі ў руках пакажа сутнасць і беспадстаўнасць прэтэнзіі польскіх шавіністычных сілаў на беларускія землі. Але гэта было на пачатку 20-х, калі Беларусь у Рызе хаўрусна дзялілі двое моцных суседзяў. Станаўленне А.Цвікевіча як палітыка і публіцыста пачалося раней, калі паўставала да жыцця Беларуская Народная Рэспубліка. Вясной 1918г. Рада Рэспублікі накіроўвае яго ў складзе ўрадавай дэлегацыі на Ўкраіну. Разам з Сымонам Рак-Міхайлоўскім і прафесарам Доўнар-Запольскім Цвікевіч вядзе перамовы з урадам Украінскай Народнай Рэспублікі, бярэ ўдзел у арганізацыі ў Кіеве Беларускай гандлёвай палаты, выступае ў друку з прапагандай ідэі беларускай дзяржаўнасці, рэальнай абаронай суверэнітэту Беларусі. З бласлаўлення аўтарытэтнага беларусазнаўцы М.В.Доўнар-Запольскага, які тады жыў у Кіе-*

Аляксандр Цвікевіч. Пачатак 1920гг.

*ве, выдае на рускай мове “Нарыс узнікнення Беларускай Народнай Рэспублікі”, фактычна фіксуе як гісторык першыя крокі адбудовы беларускай дзяржаўнасці. Праз год, вясной 1919г., А.Цвікевіч узначальвае Надзвычайную дыпламатычную місію БНР у Берлін дзеля азнаямлення палітычных колаў Заходняй Еўропы з беларускім пытаннем, каб дабіцца міжна-роднага юрыдычнага прызнання маладой беларускай рэс-публікі. Да мемарандуму “Асновы дзяржаўнасці Беларусі”, напісанага Доўнар-Запольскім, гістарычнага трактата, які адыграў своеасаблівую ролю дыпламатычнага пашпарта ў руках прадстаўнікоў Беларускай Рэспублікі, А.Цвікевіч дадаў экстранна выдадзены ім у Берліне палітычны нарыс “Беларусь”. Да строгай навуковай аргументацыі прафесара Доўнар-Запольскага на карысць абгрунтавання ідэі беларускай дзяржаўнасці малады гісторык і палітык Цвікевіч дадае філасофскія абагульненні і заканчвае свой твор, поўны веры ў разняволеныя творчыя сілы свайго народу, з жарсцю: “Мы перакананы, што наканавання гісторыі не пазбегнуць і абуджаная Беларусь не здасць сваіх пазіцыяў. Багаты слаўным культурным мінулым, поўны маладых творчых сілаў, якія ён да гэтага часу адно часткамі аддаваў Маскве і Варшаве, палаючы энтузіязмам і верай у правату сваёй справы — беларускі*

народ у блізкім часе дасць славянству і ўсяму свету яскравыя доказы свайго ўваскрэшання і прынясе на пышны алтар людской цывілізацыі плён свайго нацыянальнага генія, лепшыя кветкі свайго разняволенага духу.”

Далейшы лёс А.Цвікевіча на бліжэйшыя пяць гадоў быў цесна звязаны з лёсам беларускай дзяржаўнасці, барацьбой за яе дома і ў свеце.

На снежаньскай сесіі Рады Рэспублікі ў 1919г. перамагаюць антыпольску настроеныя сілы. Ім удаецца сфармаваць эсэраўскі ўрад В.Ластоўскага, сяброў якога польская ўлада адразу паспяшалася арыштаваць. Неарыштаваныя ўрадаўцы і частка вызваленых з турмы перабіраюцца ў Літву, з урадам якой заключаецца палітычная дамова аб узаемападтрымцы. З пачатку 1920г. А.Цвікевіч — сябра ўрада БНР: Ластоўскі, выклікаўшы яго з Берліна, прызначае міністрам замежных справаў, улічваючы адукаванасць, інтэлект і пэўныя дыпла-матычныя навыкі трыццацігадовага палітыка. Пазней Ластоўскі прызнаецца, што ўсё дакументальнае забеспячэнне дыпла-матычных акцыяў урада БНР — ноты пратэсту супраць Рыжскага польска-савецкага пагаднення коштам Беларусі, мемарандум БНР да канферэнцыі дзяржаваў у Генуі, апеляцыя да сусветнай грамадскасці ў справе палітычнага становішча беларускага народа, прызнанне яго дзяржаўна-палітычных правоў ды шмат іншага складалася, рыхтавалася А. Цвікевічам. Дзейсны быў удзел А.Цвікевіча ў верасні 1921г. і ў рабоце Першай агульнабеларускай нацыянальна-палітычнай канфе-рэнцыі ў Празе. Гэта ў сэрцы Чэха-Славаччыны, Празе, падчас абмеркавання стратэгіі і тактыкі беларускага вызваленчага руху прадстаўнікамі ўсіх, дзе жылі беларусы, краёў, А.Цвікевіч у сваім выступленні ўсклікне: “Наша ідэя (ідэя палітычнага вызвалення беларускага народа) — святая!”. Дзеля яе ажыццяўлення А.Цвікевіч застаўся па лістапад 1925г. у Коўне і нямала зрабіў як даследчык і публіцыст. У выдаваным там інжынерам-архітэктарам, беларускім грамадска-палітычным дзеячам К.Дуж-Душэўскім часопісе “Беларускі сьцяг” А.Цвікевіч публікуе цэлую серыю артыкулаў, гістарычна-філасофскіх эсэ, прысвечаных адраджэнскаму руху, нацыянальнай ідэі як ідэалу і яе практычнаму ўвасабленню ў жыццё: “Да пытаньня аб незалежнасьці Беларусі”, “Не-залежнасьць — як праграма сёнешняга дня”, “Чатыры гады” (апошні напісаны да чацвёртых угодкаў акту 25 сакавіка 1918г.). Усе яны вызначаюцца высокім узроўнем тэарэтычнай думкі, філасофскай рэфлексіі, доказнасці вылучаных палажэнняў. Да ад‘езду ў Савецкую Беларусь А.Цвікевіч у Рызе і Вільні

*паспеў надрукаваць яшчэ два вялікія эсэ, у якіх разглядаў маральна-этычныя аспекты вызваленчага руху і літаратурна-філасофскі сэнс, наданы жыццю грамадства нацыянальнай ідэяй. У "Беларускім сьцягу" было апублікавана і першае даследаванне А. Цвікевіча, прысвечанае гісторыі грамадскай думкі на Беларусі ў сярэдзіне XIX ст., пад назовам "Погляд П. Бессонава на беларускую справу". Гэта быў першы подступ да знакамітай кнігі А. Цвікевіча, напісанай ім па звароце ў Менск, — "Западно-руссизм", якая, як і ўсе працы таленавітага беларускага гісторыка і палітыка, не страціла актуальнасці па сёння.*

*Якраз цяпер, калі па злой іроніі лёсу разбураюцца рыштаванні на доме беларускай дзяржаўнасці, карысна і ўсцешна ўсведамляць, што некалі на іх уздымаліся натуры высакародныя, людзі інтэлектуальныя, для якіх найвялікшым сацыяльным ідэалам народа была яго нацыянальная свабода. Чэсць іх памяці!*

**Арсень ЛІС.**

# ЧАТЫРЫ ГАДЫ

# 1918 — 25.III.1922

Чатыры гады — у палітычным жыцьці Беларусі тэрмін не малы. Калі прыняць пад увагу, што наша бацькаўшчына прыняла актыўны ўдзел у палітычным змаганьні за сваё істнаваньня толькі з моманту падзеньня старога расійскага ладу, г. зн. з 1917г., дык акажацца, што час, прайшоўшый ад даты выданьня акту аб незалежнасьці Беларусі, абнімае сабой амаль увесь пэрыод істнаваньня яе як асобнай нацыянальна дзержаўнай адзінкі. За гэты пэрыод павінны былі-б выявіцца аснаўныя тэндэнцыі нашага палітычнага жыцьця, павінны былі-б зазначыцца галоўнейшыя прынцыпы руху, як явішча дзержаўна-вызвольчага, на аснове якіх прынцыпаў мы маглі б рабіць пэўныя прагнозы на будучыну. І запраўды: за мінулыя чатыры гады гэткія тэндэнцыі і праявы можна зусім акрэсьляна зазначыць. Акрэсьляньне іх з'яўляецца нам пякуча патрэбным як з пункту гледжаньня гісторыі руху, так і ў зьвязку з інтэрасамі бягучай палітычнай працы.

Каб правільна падыйсьці да цікавячай нас тэмы, спынімся ў першы чарод на гісторыі акту 25 сакавіка, яго агульным характары і значэньні. Успомнім, як гэта было.

На Ўсебеларускім Зьезьдзе думка аб незалежнасьці Беларусі ня мела сусьпеху: агульна лунала па ўсіх сходах і камісыях толькі формула "фэдаратыўнай Расіі", пры чым Беларусь мысьлілася як частка яе. Прынцып фэдарацыі мала

каму быў ведам, але спрэчацца з ім, значыла наражацца на непрыемнасьці. Нязнайства фэдэратыўнай сыстэмы было нагэтулькі вялікае, што прапазыцыя назваць Беларусь рэспублікай, хоць бы і ў складзе Расійскай фэдарацыі, выклікала сярод дэпутатаў абураньня, супярэчкі і варожыя адносіны. Трэба адзначыць, што супраць гэтае прапазыцыі найбольш былі настрояны прадстаўнікі валасных земстваў, вёскі і наагул селянскія дэпутаты, палітычна мала сьвядомыя і знайходзіўшыяся пад уплывам расійскіх с.-эраў. Што датычэ прэдстаўнікоў ад войска, дык яны, як больш маладыя, сьвядомыя і рэвалюцыйныя, супроць формулы “Беларуская Рэспубліка” нічога ня мелі, а некаторыя групы сярод іх зусім ясна вычувалі думку аб дзержаўнай незалежнасьці Беларусі. Усё-ж большасьць гэтага кроку баялася, баялася, каб падобным крокам не пашкодзіць “адзінаму фронту расійскай рэвалюцыі”.

Дзеля гэтага трэба было ўжыць назвычайных высілкаў, каб пагадзіць усе групы і апрацаваць супрыймый для ўсіх кампраміс. Падобны кампраміс знайшлі ў формуле “ўстанаўленьня рэспубліканскага ладу на беларускай зямлі”. Хоць у гэтай формуле ў зьвязку з далейшымі пастановамі і была ўжыта думка аб Беларускай Рэспубліцы, але сваім найменьням гэтае паняцьця не было названа, і таму яго прынялі.

Разкрыць скобкі “рэспубліканскага ладу” і паставіць пункт над ” і ” прыйшлося ўжо Выканаўчаму Камітэту Зьезду. За два тыдні да дня незалежнасьці, а ласьне, 9 сакавіка 1918г., была, як ведама, выдана Другая Ўстаўная Грамата, у якой была абвешчана “Беларуская Народная Рэспубліка”. Дзеля таго, што зьвязь з фэдаратыўнай Расіяй гэтым актам захоўвалася, яго трэба разглядаць толькі як сваей адмены комэнтарый да пастановы зьезду, як лёгічнае зацьверджаньне констытуцыі, якую зьезд даў у агульных і нясьмелых контурах. Так ласьне разумелі гэты закон прадстаўнікі земства і гарадоў, а таксама прадстаўнікі нацыанальных меншасьцяў. Усе яны ўходзілі ў склад Выканаўчага Камітэту і пасьля акту 9 сакавіка ўвайшлі ў склад новаўтворанай Рады Рэспублікі. У стасунку да цэнтральнай улады Часовага Ўраду, як наагул да дэмакратычнай Расіі, гэтым групам трэба было захаваць у сваей палітычнай дзейнасьці на Беларусі аблічча “законнасьці”. Запраўды, акт 9 сакавіка ў пэўным разуменьні гэтага слова зьяўляўся “законным”. Ён зьяўляўся працягам нацыанальнага самаазначаньня Беларусі, галоўнай праявай якой быў і Ўсебеларускі Зьезд, самаазначаньня, якое дазвалялася ў рамках Расійскай фэдарацыі. Толькі да гэтага рубу, па іх думцы, мог сягаць беларускі вызвольчы рух.

Вышэйшай установай, поўным гаспадаром “усяе Расіі” было “Всероссійское Учредительное Собраніе” як спадкаберца ўлады расійскіх манархаў. Прадстаўнікі земстваў і гарадоў, як і нацыанальныя меншасьці, верныя няпісанаму с.-р‘скаму закону аб прэрогатывах “Учредительного Собранія”, не маглі і думаць, каб выступіць супроць гэтых прэрогатыў. Дзеля гэтага Ўсебеларускі Зьезд разглядаўся як праява арганізацыі месцовых сіл, асабліва патрэбная ў зьвязку з пагрозай захвату Беларусі немцамі і хітаньня пад націскам камуністычнай партыі самога цэнтру.

Пасьля таго, як матрос Жэлезьняк разагнаў Учред. Сабраньне і пасьля таго, як у Бярэсьцю была падпісана 3 сакавіка нямецка-бальшавіцкая ўмова, стымул “законнасьці” палітычных актаў паасобных краёў, у тым ліку Беларусі, павінен быў адпасьці: вярхоўнага гаспадара больш не было, а фактычная ўлада перайшла да партыі, што лічылася толькі з сілай і абвесьціла “законнасьць” грамадзкай вайны. Другая Ўстаўная Грамата, дзеля гэтага, магла-б парваць зьвяз Беларускай Народнай Рэспублікі з расійскай дзержавай. Аднак яна гэтага не зрабіла. Адпаведныя словы ўперша прагучэлі ў акце аб незалежнасьці 25 сакавіка.

Акт 25 сакавіка застае нас акурат у гэты момант — развалу праўна-юрыдычнай сыстэмы расійскай улады, у час панаваньня партыі, прызнаўшай правы народаў быўшай Расіі на сама-азначаньне — “усутыч да аддзяленьня”. Натуральна было-б чакаць, што закон 25 сакавіка перш за ўсё зробіць ссылку на гэтыя факты і гэтым самым зробіць спробу якбы апраўдаць свае паяўленьне. Аднак ніводнага слова аб гэтым мы не знайходзім: чытаем толькі аб тым, што “расійскі царызм, душыўшый Беларусь і ўкінуўшый яе ў пажар вайны скінут”, і аб тым, што “чужы для Беларусі Ўрад, на аснове старых дзержаўных зьвязей, падпісаў Берасьцейскі трактат, забіваючый на сьмерць беларускі народ”. Пасьля гэтых сказаў, маючых агітацыйны і гістарычны характар, Грамата абвешчае аб “разрыве дзержаўных зьвязей Беларусі з Расіяй”.

Гэткім чынам мы бачым толькі ссылку на адбыўшыйся факт і на практычную патрэбу бараніць Беларусь ад падзелу. “Права” на незалежнасьць разумеецца само сабой, а абвешчаньня незалежнасьці — разглядаецца як пытаньня часу, як фактычная магчымасьць, якой карыстаюцца як толькі яна паўстае.

Дзеля таго, што акт 25 сакавіка не шукае для сябе апраўданьня, што ён сваім зьместам зацьверджае правечнае права народаў Беларусі на волю — акт гэты зьяўляецца актам рэвалюцыйным. Будучы сьвядом нацыанальнай асобнасьці беларускага народу, якая асобнасьць больш за ўсё іншае

дае права будаваць уласную дзержаву, адчуваючы ў той самы час патрэбу змагацца супроць падзелу Беларусі, які праводзіў бальшавіцкі ўрад, — Рада Рэспублікі абвесьціла разрыў з Расіяй.

Рэвалюцыйны характар акту 25 сакавіка павялічаецца ў значнай меры таму, што ён быў выдан органам, як звыкла гаворыць "неправамочным" гэта рабіць. Разам з закідам у "незаконнасьці", прэдстаўнікі земска-гарадзкой групы, ласьне, зьверталі ўвагу ўсіх радных, што калі аб незалежнасьці Беларусі і можна было-б гаварыць, дык толькі ў Беларускім Установучым Сойме ці ў другім адпаведным прэдстаўнічым органе беларускага народу.

Аргумант у пэўных варунках не пазбаўляны слушнасьці, але ў істоце рэчы нічога ня зьменяючый. Запраўды, ні Ўсебеларускі Зьезд, ні Рада Беларускай Народнай Рэспублікі (першага складу) не маглі лічыцца правільна абранымі прэдстаўнічымі органамі Беларусі. Але ў час абвешчаньня незалежнасьці, Рада Рэспублікі была **адзінным** прэдстаўнічым органам беларускага народу: усе іншыя арганізацыі на падобную ролю не прэтэндавалі і, у параўнаньню з Радай, прэтэндаваць не маглі. Яна была фактычна галавой беларускага руху, установай, што складалася са ўсіх нацыянальна сьвядомых галін беларускага грамадзянства. Гэтая ўстанова ўзяла сьвядома на сябе адпаведальнасьць за гістарычны крок. Падкрэсьляемо, што маласьць лікам людзей пайшоўшых на гэтулькі надзвычайнай вагі акт, толькі павялічае рэволюцыйнасьць самога акту.

Як і заўсёды, запраўды рэволюцыйны крок не клапаціцьця аб фактычным суадношэньні сіл, але выкідае лёзунг, за які ваюе да сьмерці. Лёзунг, ці гіне пад навалай контррэволюцыйных варожых сіл, ці сьвяткуе сваю перамогу. Перамога бывае найбольш бліскучай тады, калі за лёзунгам у першыя часіны яго нарадзін стаіць невялічкая група людзей. Чым большая мэта і чым меншая магчымасьць яе асягненьня — тым большы эфэкт гэтага асягненьня.

Усё сказанае ў поўнай меры датыча акту 25 сакавіка. Сучасьнікі памятаюць, як малая лікам, і як вялікая верай і духам была частка Рады, што выносіла рэзалюцыі аб незалежнасьці. Цяжар падыймаўся на плечы аграмадны, страшэнны. Сіл было мала, край маўчаў і мадзеў. Усё жыцьцё Беларусі было скалечана, яна была падзеляна фронтамі: заходная частка была заціснута нямецкай акупацыяй, а на ўсходзе панаваў хаос і безладзьдзе.

Як і кожды рэвалюцыйны акт, закон 25 сакавіка быў адданы на суд жыцьця.

Першы, хто выступіў супроць абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, былі дэлегаты земстваў і гарадоў і прэдстаўнікі жыдоўскага грамадзянства. Рожнасьць дзержаўна-палітычнай ідэалёгіі, гэтай часткі Рады Рэспублікі ў параўнаньні з ідэалёгіяй беларускіх нацыянальных партый выяўлялася шмат раней: яшчэ ў часе скліканьня Ўсебеларускага кангрэсу. 25 сакавіка не-прымірымасьць іх пазыцый выявілася нагэтулькі яскрава, што памяненная група (за выключэньнем дэлегатаў партыі Поалей-Ціон) выйшла са складу Рады Рэспублікі. Паміж абодвымі лагерамі пачалася адкрытая барадзьба.

Як было заўважана вышэй, галоўным аргумантам у барадзьбе з боку земцаў і прэдстаўнікоў гарадоў было абвінавачаньня Рады ў “незаконнасьці” яе кроку. Хоць Учредительного Собранія ужо не было, постуляты эс-эраўскай расійскай праграмы аднак жылі ў умох. Па іх думцы, дэкрэтаваньня разагнаным Учредительнымъ Собраніемъ расійскай фэдаратыўнай рэспублікі захоўвало сваё значэньне; ніхто ня меў права йсьці супроць гэтай пастановы. Апроч таго, гэтая група ўжывала і другіх аргумантаў: яна казала, што абвешчаньне незалежнасьці пасварыць Беларусь і беларускі рух з Расіяй, што яно зробіць расійскую рэволюцыйную дэмократыю ворагам самога беларускага пытаньня, што падобны крок ёсьць удар у сьпіну рэвалюцыі, што гэта ёсьць зло ня меншае, чым бальшавізм. Яны пужалі беларускае грамадзянства неўнікнёным эконамічным занепадам Беларусі, калі яна адмовіцца ад сваіх зьвязей з Расіяй, што сэпаратыя ад Расіі неўнікнёна прывядзе Беларусь у абоймы палякаў і немцаў, што народ беларускі ня толькі не пагодзіцца з гэтай пастановай, але пракляне і г.д. Не сароміліся адкрыта гаварыць, што рашэньне абвесьціць незалежнасьць Беларусі падсказана польскімі панамі ці нямецкімі генераламі, што наагул справа беларускай незалежнасьці ёсьць вынік чужаземнай варожай інтрыгі і т. п.

Актуальнай праграмай гэтай групы было — захаваньня зьвязі з фэдаратыўнай дэмакратычнай Расіяй і супольная барацьба супроць бальшавікоў. Шмат хто з прэдстаўнікоў земств, гарадоў і нацыянальных меншасьцяў не вызнавалі асобнасьці і самаістасьці беларускага народу, як нацыянальнага цэлага, не вызнавалі беларускай мовы і культуры і на гэтай аснове не гадзіліся нават з думкай аб дзержаўнай незалежнасьці Беларусі. Большасьць з іх належала да партыі расійскіх с.-р., якая лічыла, што расійская фэдарацыя павінна зьдзейсьніцца не ад перыфэрыі да цэнтра, а ўпрост з цэнтра.

Барацьба Рады Рэспублікі з памяненымі групамі была

вельмі цяжкая. Расійскія с.-р. у той час мелі за сабой большасьць сярэдняй інтэлігенцыі на Беларусі і амаль манапольна панавалі ў вёсцы, дзякуючы г. зв. “керенскім” выбарам і значным матэр`альным засабам. Барацьба была тым цяжэйшая, што супроць Рады йшлі палякі, якія заўсёды вялі прапаганду польскасьці і ўхіляліся ад супрацоўніцтва з беларусамі. Можна сьмела сказаць, што на старане групы Рады, праголасіўшы незалежнасьць Беларусі, стаяла толькі адна сіла — сіла правай ідэі.

І што-ж мы бачым? Мы бачым, што праз пару гадоў (у 1920 г. гэта ўжо зусім ясна зазначылася) ідэалёгія земска-гарадзкой групы, ці, інакш сказаць, беларуска-расійская фэдаралістычная ідэалёгія, была разшматана. Партыя с.-р. аказалася задаўлянай, надзеі на дэмакратычную расійскую фэдарацыю былі ўтрачаны. Большасьць дзеячоў пры камуністычным ладзе на Беларусі перайшла на нелегальнае становішча і пачала вызнаваць лёзунгі беларускай незалежнасьці.

Дзеячы быўшай земска-гарадзкой групы імкнуцца тлумачыць сваю згоду з праграмай незалежнасьці Беларусі чыста-тактоўнымі мяркаваньнямі. Як прыклад яны даводзяць, што лёзунг незалежнасьці Беларусі вызнаецца імі таму, што гэта дае ім магчымасьць з найбольшым сусьпехам вясьці барацьбу з камуністычнай партыяй; што гэтая плятформа робіць іх менш уязьвімымі пры польскай акупацыі. Вызнаньне незалежнасьці, як бы афарбовуе іх у абаронную барву. Есьць і другое, больш прынцыповае тлумачэньня гэтага зруху. Вызнаньне незалежнасьці Беларусі прыймаецца як этап на шляху будучай фэдарацыі. Пры гэтым незалежнасьць вызнаецца якбы варункова — мы вызнаем незалежнасьць Беларусі, але заразам наўзмечаем, што вольная і незалежная Беларусь неўнікнёна прыйдзе (павінна прыйсьці) да фэдарацыі са ўсей Расіяй.

Аб‘ектыўна кажучы, падобныя спробы апраўдаць зьмену паглядаў менш за ўсё значуць у нашым пытаньні. Падобныя спробы — гэта прывычка струся хаваць сваю галаву ў пясок і думаць, што ўсяго цела не відаць.

Што да будучай фэдарацыі вольных народаў Усходу Эўропы, дык гэтая магчымасьць заўсёды стаяла і будзе стаяць як актыўнае пытаньне іх усіх, у тым ліку і Беларусі. Для нас няважна, што будзе рабіць незалежная Беларусь; нам важна, каб незалежная Беларусь была створана і была прызнана. А ў гісторыі барацьбы за гэтую незалежнасьць для нас мае вагу сам факт, што ідэя незалежнасьці перамагла, што яна аказалася больш жыцьцёвай, больш рэальнай. Што яна больш за ўсё адпаведае гістарычным, палітычным,

нацыянальным і ўсялякім іншым варункам, у якіх жыве Беларусь. З якіх бы то ні было мяркаваньняў — прынцыповых ці тактычных, — але БЕЛАРУСКА-РАСІЙСКАЯ ФЭДАРАЛІСТЫЧНАЯ ІДЭАЛЁГІЯ КАПІТУЛЯВАЛА ПРАД ІДЭАЛЁГІЯЙ НЕЗАЛЕЖНІЦКАЙ.

Калі перамога ідэі незалежнасьці Беларусі над праграмай фэдарацыі з Расіяй стала не зусім яшчэ ачавістай,—была зробляна другая па чародзе спроба адмовіцца ад яе, звальчыць яе. На гэты раз плян барацьбы з актам 25 сакавіка быў апрацаваны не рукамі чужых, а рукамі сваіх-жа. Ня ўсьціг пятух прапеяць тры разы — як слабыя духам адмовіліся ад служэньня ідэалам незалежнасьці. Мы гаворым аб вядомых спробах утварэньня “Рады Найвышэйшай” і іх імкненьняў пайсьці на згоду з Польшчай. На гэты раз замест праграмы беларуска-расійскай фэдарацыі была высунута праграма **беларуска-польскага еднаньня**. Тая група, што паднялася супроць акту аб незалежнасьці Беларусі вызнавала тыя-ж самыя погляды на беларускую незалежнасьць, што і група земска-гарадзкая, толькі вочы яе былі скіраваны ў другі бок. Яны казалі: незалежнасьць Беларусі — адна мана. Беларусь ня можа быць незалежнай — у яе німа для таго ніякіх засабаў. Незалежнасьць Беларусі — гэта шкодны міраж, гэта забаўка для неразумных дзяцей. Трэба быць рэальнымі палітыкамі, трэба будаваць тое, што забудаваць магчыма. Трэба еднацца з Польшчай.

Чаму трэба было Беларусі еднацца з Польшчай, а не з Расіяй, гэта адэпты рэальнай палітыкі імкнуліся даказаць з найбольшай глыбінёй і пераконаньнем. Польшча — старана заходнай культуры, праваднік эўрапэйскай цывілізацыі на Усходзе. Нам прыстала йсьці толькі з культурным Захадам. Польшча толерантна ставіцца да беларускага нацыянальнага адраджэньня, яна нават зацікаўлена ў ім; доказам таго служаць польска-беларускія адносіны ў прошласьці і об‘ектыўны аналіз сучаснасьці. Польшча заўсёды будзе падтрымліваць беларускі рух, бо адраджоная Беларусь — лепшая абарона яе самой ад “навалы са Усходу”. Процілежнасьці польскай і беларускай культуры не ў параўнаньню большыя, чым процілежнасьці беларуска-расійскія, што спрыяе разьвіцьцю беларускай культуры і забеспячае яе ад староньніх уплываў.

Аргуманты былі вельмі сур‘ёзныя, і на аснове гэтых аргумантаў вера ў Польшчу была цьвёрдая.

Што да форм еднаньня, дык група найвышэйшых рэалістаў пайшла далей расійскіх фэдаралістаў: максімум магчымасьцяў для Беларусі яна ўбачыла ў аўтаноміі Беларусі ў складзе адзінай і непадзельнай Рэчы Паспалітай.

Зразумела, што фэдарацыя гэтых двох дзержаўных адзінак, аб чым за год перад тым пісалі амаль усе польскія часопісі, была-б для іх больш пажадана. Але прыймаючы пад увагу нічым ня скрытую іронію ў стасунку да падобнай фэдарацыі, якую пачалі праяўляць быўшыя яе, у польскім абозе абаронцы і прыймаючы пад увагу “рэальныя суадносіны сіл” абедзьвех старон, прыйшлося згадзіцца на культурна-нацыянальную аўтаномію. “Лепш сініца ў рукі, чым журавель ў небе”,— вось які лёзунг быў выкінуты два гады таму назад.

Мы бачым цяпер, якая “сініца ў рукі” дасталася гэтай рэальнай палітыцы. Мора сьлёз: нявінных ахвяр; аграбаваныя каапэратывы, разгромленыя школы і прытулкі: “Kulka w ieb” — за чытаньне беларускіх газэт, бацькі са зьбітымі тварамі і дзеці са скалечанымі душамі — вось што дала Польшча аўтаномнай Беларусі. Крык народу, якога душаць на сьмерць, заглушыў галасы нідаўных адэптаў, абурыў іх сумленьня і прымусіў іх адрачыся і ад сваей веры і ад сваей праграмы. Програма **беларуска-польскага еднаньня ходам жыцьця была разьбіта ў шчэнт**. Крушэньне яе было ва многа раз бліскучэй, чым крушэньне беларуска-расійскай фэдаралістычнай праграмы. У выніку гэтага чароднага крушэньня з падвойнай сілай засьвяціліся заветы акту 25 сакавіка аб незалежнасьці Беларусі. Толькі ў іх быў знайдзен выхад, толькі яны падавалі надзеі.

Ня ў суд і ня дзеля асуджэньня каго-б то ні было ўспамінаем мы аб гэтым сумным і трагічным моманце беларускага жыцьця, а адзіна ў інтэрасах агульнай для ўсіх і дарагой усім праўды. Нам важна акрэсьліць правільна шлях беларускага адраджэньня і толькі з гэтай мэтай мы адзначаем этапы і вехі, якімі ён ішоў і якімі павінен ісьці. Тое, што пераж ыта, асабліва тая спроба беларуска-польскага еднаньня, якая была зроблена, — павінна была быць, павінна была быць зробленай. Польшча надзвычай важны фактар у гісторыі Беларусі, каб спробу ўсталеньня адносін да яе можна было абмінуць.

З другога боку — мы сьвядома пакідаем без адказу пытаньня — **чаму** ўсё так сталася. Чаму ідэі беларуска-расійскай фэдарацыі і ідэя беларуска-польскага еднаньня капітулявалі прад ідэяй незалежнасьці Беларусі. Падкрэсьляем, што мы сьвядома пакідаем без адказу гэтае вельмі важнае пытаньне. Яму мы лічым патрэбным пасьвяціць спэцыяльны артыкул.

Сёньня, 25 сакавіка 1922г., прад намі ляжыць яшчэ адна нераскрытая страніца. Загаловак яе: “Савецкая Беларусь”. Гісторыю стварэньня гэтае храміны мы добра ведаем. Створана яна чужымі, не беларускімі рукамі, і таму на ей

ляжыць спэцыфічная печаць штучнасьці, няшчырасьці і фарызэйства. Прымірыць яе са ўсім папярэднім беларускім рухам, думаць, што ёй заканчаюцца імкненьня нашага рэнэсансу — па меншай меры наіўнасьць.

Створана яна не беларускімі рукамі і менш за ўсё служыць інтэрасам беларускага народу. У аснове сваей невыразная храміна "Савецкай Беларусі" сьпіраецца на той самы грунт, на якім стаяла земска-гарадзкая група. У аснове яе ляжыць усё таяж беларуска-расійская фэдарацыя, якая станавіла мэту ўсіх расійска-эс-эраўскіх груп на Беларусі. Па істоце рэчы пераканацца ў выгаднасьці і патрэбнасьці гэткай "фэдарацыі", гаданай раней абвешчаньня незалежнасьці, можа толькі адна старана — беларуская. Праціўнай старане выгаднасьць і патрэбнасьць "фэдарацыі" ясна была наперад, калі дэкрэт аб Савецкай Беларусі быў па дарозе з Масквы да Менска. І мы пэўны, што Беларусь у гэтай выгаднасьці і патрэбнасьці **ўжо** перэканалася.

Пакідаючы ў старане далейшыя развражаньні аб сучаснай істоце гэтае храміны, мы хочам зазначыць у стасунку да яе толькі два палажэньня. Першае, што жывіцельны акт 25 сакавіка зьявіўся адным з галоўнейшых фактараў зьяўленьня на сьвет гэтае храміны, і другое, што гэтая храміна раней ці пазьней, але ўступіць свае мейсца жывому жыцьцю. Абрываючы ў прагнозе сваім гэтую невыразную страніцу — мы ўглядаем на чароднай страніцы кнігі Беларусі ўсё тыя-ж агнявыя словы: "Беларусь абвешчаецца дзержавай вольнай і ні ад каго незалежнай". На пачатку пятага году з дня абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, нашая Бацькаўшчына апынулася ў зусім аднальковых варунках. Як і тагды, яна не мае ўласнай улады на роднай зямлі, як і тагды на яе абшарах пануе жах акупанцкага ладу і стогне народ ад чужацкага зьдзеку. Рожніца толькі ў тым, што немцаў зьмянілі палякі, часовых камісараў — камісары камуністычныя, Брэст-Літоўск замяніла Рыга. На пачатку пятага году барацьбы за незалежнасьць мы можам паставіць сабе пытаньня — як быць далей? Ці ня трэба пераглядзець да сяго моманту нерэалізаваны акт 25 сакавіка, ці ня выпаліць з душы сваей яго заветы, ці ня апусьціць сьцяг беларускай волі?

На гэтае пытаньня мы адказываем са ўсёй цьвёрдасьцю, на якую здольны сыны Беларусі — не, ніколі! Праўда, дзякуючы акту 25 сакавіка Беларусь не стала незалежнай дзержавай. Але гэта ня зменшае надзвычайнай, гістарычнай вартасьці гэтага акту, як галоўнейшага закону беларускага вызвольчага руху, усяго беларускага адраджэньня. **Ён не стаў законам, праведзеным у жыцьцё, але стаў законам**

**беларускага жыцьця**. Калі ён ня быў да сяго часу рэалізаваным у аб'ектыўных формах, дык суб'ектыўна ён апанаваў масы і жыве ў народнай сьвядомасьці як імпэратыў, што пазбаўлян толькі зьнешняга, фізычнага прымусу. Ён стаў лёзунгам, каля каторага аб'едналіся ўсе сьвядомыя сілы беларускага народу, пад якім ідзе змаганьне на ўсім беларускім абшары. Ён дыстыплінаваў і прыдаў сталую форму ўсяму вызвольчаму руху, што ў сваю чаргу ўплывае на эканомію сіл і стройнасьць арганізацыі.

Шлях, які быў адкрыт у жыцьці Беларусі 25 сакавіка 1918 году, ёсьць адзіны шлях, які магчым. Чатыры гады, што прайшлі з таго моманту, былі сьведкамі шуканьня новых шляхоў, і сьведкамі таго, як спробы гэтыя канчаліся неўнікнёнай катастрофай. **Мінулыя чатыры гады з ачавістай яснасьцю сьцвердзілі грунтоўны пастулят беларускага руху: барацьба за адраджэньне Беларусі ёсьць барацьба за яе незалежнасьць.** Мы стаім, ласьне, на гэтым шляху. Становішча наша цяжкое, — німа аб чым гаварыць, — але яно ў шмат разоў лягчэйшае за тоя, што было чатыры гады таму назад. За час барацьбы мы змацнелі на сілах, мы шмат чаму навучыліся і лепш адрожнім благое ад добрага, менш паддамося ільлюзіям. Край наш хоць і падзеляны і акупаваны, але народ наш ужо ня той. Мы ведаем, што сьвядомасьць мас узрасла надзвычайна і што былога мадзеньня ўжо німа. Шырокімі хвалямі ўздымаецца на Беларусі энэргія селянскай грамады — адзінай сілы, з якой не страшна будучына. Мы йдзем за ей.

Вызнаючы поўнасьцю загад, дадзеный у акце 25 сакавіка, мы маем сьмеласьць цяпер, пасьля чатырохгадовых горкіх спроб, унесьці да яго толькі адну папраўку: не адмаўляючыся ад дапамогі любячых волю народаў, што прызываліся дапамагчы нам у нашай барацьбе за незалежнасьць, — мы ўсё-ж такі перш за ўсё апіраем свае надзеі на ўласныя сілы.

**А. Галынец.**

**Ад Рэдакцыі.** Аб нацыянальна-палітычнай сьвядомасьці ўчасьнікоў Усебеларускага Зьезду істнуюць іншыя погляды, чым высказаныя на пачатку гэтай стацьці аўтарам; дзеля высьвятленьня чаго Рэдакцыей будуць памешчаны ў чародных нумэрох “Б. С.” адносныя артыкулы.

# ФУТБОЛ ПАД БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫМ СЦЯГАМ

Футбол — самая папулярная спартовая гульня ў свеце, мова якой зразумелая на ўсіх кантынентах. Разам з тым, футбол — гэта той дзейны чыннік, што абуджае ў людзях пачуццё нацыянальнай годнасці, гонар за сваю радзіму. Сённяшні прэзідэнт Францыі Ж. Шырак, дарэчы, гарачы футбольны заўзятар, ці то з жартам, ці то ўсур'ёз сказаў, што ў ягонай краіне засталося бадай адзінае месца, дзе яшчэ можна пабачыць сапраўдны французскі патрыятызм: на стадыёне падчас футбольнай гульні. На футбольным полі нярэдка перамагае не толькі моцная, мабільная і тэхнічная каманда, але і тая, што найбольш згуртавана адзіным камандным духам, апантаная адзінай ідэяй. Таму шмат прыкладаў у гісторыі сусветнага футбола. Узгадаем год 1954-ты — пяты чэмпіянат свету ў Швейцарыі. Менавіта дзякуючы сваёй згуртаванасці і самаадданасці ў жаданні дабіцца перамогі на карысць сваёй радзімы нямецкія футбалісты сенсацыйна перамагаюць у фінале "залатую" венгерскую зборную Пушкаша і Грошыча, што на працягу пяці гадоў не мела ніводнай паразы. А на плячах венграў ляжаў цяжар адказнасці не толькі перад сваёй бацькаўшчынай, але і перад сваім "бацькам", камуністычным дыктатарам Ракашы. Звернемся ў 1986 г. — сусветны чэмпіянат у Мексіцы. Успомнім яго герояў — аргентынцаў, якія, выходзячы на чарговую гульню, натхнёна спявалі нацыянальны гімн сваёй краіны, пры гэтым далонь правай рукі прыкладвалі да сэрца, як бы даючы ўрачыстую прысягу сваёй радзіме. І аргентынская футбольная дружына, на чале з Дыегам Марадонам, перамагла ўсіх сваіх спаборнікаў і ў другі раз стала першай у свеце.

Чамусьці ніколі не прыходзілася чуць і бачыць як спявалі былыя савецкія спартоўцы: "Союз нерушимый республик свободных..."

У Беларусі ў час бальшавіцкага панавання, футбольны стадыён заставаўся ледзь не адзіным месцам, дзе беларуская грамада стыхійна, не заўсёды свядома магла выяўляць свае патрыятычныя пачуцці, падтрымліваючы сваю родную каманду. Таму сёння зусім натуральна бачыць падчас гульняў нацыянальнай зборнай і клубаў у міжнародных матчах, як стадыён "Дынама" патанае ў бел-чырвона-белым моры сцягоў. Калі мы звернемся ў далёкае і блізкае айчыннага футбола, то

Першы склад футбольнай дружыны “Пагоня” з г. Кліўленда. 1952г.

ўбачым, што беларуская нацыянальная сімволіка, беларускі патрыятызм у гісторыі гэтай гульні на Беларусі маюць даўнія шматгадовыя традыцыі.

Футбол на Беларусь прыходзіць напярэдадні Першай сусветнай вайны, г.зн. трохі пазней за суседзяў (Украіна, Польшча, Расея, краіны Балтыі). Сюды гэтая гульня была завезеная ангельскімі маракамі. Так, паводле ўспамінаў аднаго з піянераў футбола на Гомельшчыне Усевалада Кубліцкага першая футбольная вучнёўская каманда ў Гомелі была ўтвораная летам 1910г. А праз год ужо сярод 6 камандаў тут адбыўся першы чэмпінат горада[1]. Першы афіцыйны футбольны матч у Менску быў згуляны 29 чэрвеня 1913г. На Кашырскім пляцы (тэрыторыя сучаснага станкабудаўнічага завода імя С. М. Кірава) каманда менскіх гімназістаў “Алімп” перамагла з “сухім” лікам 3:0 гэбрайскую “Макабі”, складзеную з гандляроў і прамысловых служачых[2]. Прыкладна ў гэты ж час ствараюцца першыя футбольныя дружыны і ў іншых гарадах: Магілёве, Барысаве, Баранавічах, Горадні, Берасці ды інш. Працэс далейшага развіцця футбола на Беларусі, а ў перспектыве — стварэнне ў краі футбольнай лігі ці асацыяцыі, перапыніла Першая сусветная вайна.

Пасля абвешчання Беларускай Народнай Рэспублікі, нягледзячы на цяжкае становішча і няспынную акупацыю краіны, пытанні развіцця спорту, у тым ліку і футбола, не

Футбольная дружына “Беларусь” з Нью-Ёрка, 1954г.
Стаяць злева направа: Аўг.Александровіч (фундатар і мэнеджэр каманды), В.Станкевіч, Ан-ль.Александровіч, М.Александровіч, А.Лысюк, П.Алексы, М.Каваленка, Г.Навіцкі, Я.Шапялюк, М.Дзяркач, М.Ігнат (капітан), М.Зыгель, В.Паланевіч, М.Шэхтэрман, Б.Іванчук.

заставаліся па-за ўвагай беларускага руху. Першыя футбольныя дружыны пад эгідай беларускіх нацыянальных арганізацыяў пачынаюць утварацца з 1920г. У чэрвені гэтага года ва ўмовах польскай акупацыі пры Часовым беларускім нацыянальным камітэце ў Менску з мэтай пашырэння і развіцця спорту і фізічнай культуры сярод беларускага жыхарства арганізуецца спартовы аддзел. Дзеля падрыхтоўкі спартовых інструктараў ладзяцца “Спартова-гімнастычныя курсы”, адначасова ствараецца “Першая беларуская футбольная каманда” (ПБФК). У склад беларускай футбольнай дружыны ўвайшлі як вядомыя футбалісты, адгуляўшыя за розныя менскія каманды не адзін дзесятак сустрэч, так і зусім пачынаючыя аматары гульні ў скураны мяч. Сталым месцам для сваіх трэніровак ПБФК абрала Конны пляц каля Камароўкі (зараз гэта тэрыторыя 1-га тралейбуснага дэпо на скрыжаванні вуліцаў Варвашэні і Чырвонай). Мясцоваму абывацелю было нязвыкла бачыць, як дарослыя хлопцы займаюцца “дзіцячымі забавамі”. “Вунь, дзівіцеся,— рагатала адна кабета, назіраючы за футбалістамі, — адзін дык з вусамі, а за мячыкам лётае...” Але нішто не магло спыніць гарачых прыхільнікаў “брытанскай” гульні.

І вось настаў час першых матчаў. Яшчэ на пачатку лета сябрамі польскага вайсковага гуртка 4-й арміі, што знаходзілася тады ў Менску, у былым Губернскім садзе была ўладкаваная спартовая пляцоўка для гульні ў футбол. На запрашэнне палякаў тут 18.6.1920г. адбыўся футбольны таварыскі матч паміж ПБФК і зборнай 4-й арміі. З лікам 4:1 перамаглі больш вопытныя, спрактыкаваныя польскія футбалісты, у складзе якіх гулялі некалькі лепшых спартоўцаў Варшавы[3]. Нягледзячы на паразу, беларуская дружына паказала неблагі футбол. Сярод беларусаў вызначаліся Яўхім Слабуха, Яўхім Каравецкі, Выгоцкі, Лапідус, браты Свечнікавы. На працягу апошняй дэкады чэрвеня каманды згулялі паміж сабой яшчэ некалькі матчаў. 27.6.1920г. у сустрэчы паміж зборнымі Менска і Вільні, складзенымі пераважна з польскіх вайскоўцаў, за менскую каманду гуляў капітан ПБФК Яўхім Слабуха[4].

Фактычна адначасова са стварэннем “Першай беларускай футбольнай каманды” ў Менску сіламі Грамады беларускай моладзі ў Горадні планавалася арганізаваць дзве беларускія футбольныя дружыны. Першая, у якую ўвайшлі лепшыя футбалісты, апранутая ў форму колераў бел-чырвона-белага нацыянальнага сцяга, павінна была прэзентаваць Беларусь у матчах з мясцовымі польскімі камандамі. Другая каманда, апранутая ў зялёныя кашулі і чорныя трусы, з‘яўлялася бы спарынг-партнёрам і бліжэйшым рэзервам асноўных футбалістаў. 17.5.1920г., звяртаючыся ў Менск да Часовага беларускага нацыянальнага камітэта з хадайніцтвам аб грашовай дапамозе на патрэбы арганізацыі футбольных дружынаў, кіраўніцтва спартовай секцыі Грамады пісала наступнае: “Старадаўняя Грэцыя мела рацыю, калі ставіла ў замову выкшталчэньне юнацтва і стварэньня зь яго сапраўднага грамадзянства фізычнае развіцьцё цела ў чарзе з выкшталчэньнем духу. Калі прагледзіць гісторыю народаў — дык можна, безумоўна, згадзіцца зь вядомым афарызмам: “У здаровым целе — здаровы дух”. Прымаючы ўсё гэта пад увагу, спартыўная сэкцыя Грамады Беларускай Моладзі ў Горадні ўважае, што цяпер, у час агульнаграмадскага раскладу нашага юнацтва, неадменна трэба падтрымаць яго фізычныя сілы, вырваць яго з хаосу разгульнага жыцьця, шкоднага як для здароўя, так і для прыхільнасьцей яго душы, і даць яму разумнае і карыснае спыненьне вольнага часу..."[5] На жаль, менскі БНК з-за адсутнасці грошай не здолеў падтрымаць добрую і карысную ініцыятыву маладых горадзенцаў.

У яшчэ нясkладзены летапіс гісторыі айчыннага футбола павінна быць упісана старонка, што распавядала б пра

Кліўлендская "Пагоня" — чэмпіён акруговага спаборніцтва штата Агаё ў сезоне 1955/56 г. Стаяць, злева направа: А.Лукьянчык, А.Міраеўскі, В.Лукашэвіч (капітан), Ул.Літвінка, А.Пракаповіч, Ю.Шыміцкі, Я.Яраховіч, Р.Мікуліч. Сядзяць: Хв.Пагуда (мэнеджэр), В.Валюкевіч, М.Мітраховіч, Д.Мэцкер, Т.Шыкалюк, В.Кергарт.

футбольныя каманды, створаныя беларускімі вайскоўцамі першых нацыя-нальных збройных аддзелаў. На жаль, інфармацыі аб гэтым няшмат. Вядомы, напрыклад, факт, які сведчыць пра папулярнасць гульні ў скураны мяч сярод жаўнераў 1-га батальёна Беларускай вайсковай камісіі, які дыслакаваўся з восені 1920г. да вясны 1921г. у Лодзі. З-за адсутнасці іншых крыніцаў мы не можам дадаць нічога да сказанага. А вось пра футбольную каманду беларускіх вайскоўцаў у Літве мы ведаем больш. У рукапіснай газеце "Сьветазар" Беларускага асобнага батальёна, што з 1919г. уваходзіў у склад збройных сілаў Літоўскай Рэспублікі, чытаем кароткую нататку ад 15.10.1920: "10 кастрычніка гэтага года футбольная каманда Беларускага асобнага батальёну "Уніон" першы раз выступіла на футбольным матчы і вяла гульню зь літоўскай камандай аўтамабільнага батальёну ў горадзе Коўне на Вітаўта гары. Каманда "Уніон" яшчэ мала трэніравана, бо вынік такі: "5" на "0" у карысць каманды аўтабатальёну"[6].

Па заканчэнні Першай сусветнай вайны разам з мірным жыццём адраджаецца і спорт. 20—30-я гг. — час трыумфальнага шэсця футбола па краінах Еўропы, Лацінскай

Капітан беларускай нацыянальнай дружыны А.Зыгмантовіч (№ 6) у барацьбе за мяч з нападаючым зб. Галандыі П.Клювэртам.

Амерыкі ды іншых кантынентаў. Узнаўляецца міжнароднае футбольнае жыццё: праводзяцца футбольныя спаборніцтвы на алімпіядах, а з 1930г. рэгулярна (кожныя 4 гады) ладзяцца сусветныя чэмпіянаты; таксама арганізуюцца розныя рэгіянальныя турніры для нацыянальных зборных. Маладыя, поўныя амбіцыяў, футбольныя дружыны настворaных дзяржаваў — Чэха-Славаччыны, Польшчы, Венгрыі, Латвіі, Літвы, Эстоніі — як паўнапраўныя ўдзельнікі гэтых турніраў, робяць першыя крокі на сусветнай арэне. У той жа час нашыя спартоўцы знаходзіліся на задворках спартовай Еўропы і астатняга свету, бо Беларусь не мела ўласнай дзяржаўнасці.

Калі пра футбольнае жыццё ў міжваеннай Савецкай Беларусі яшчэ можна прачытаць у тых нямногіх кніжках, газетных ды часопісных публікацыях, прысвечаных гэтай тэме, то пра гісторыю развіцця футбола ў Заходняй Беларусі, што ў 1921—1939гг. знаходзілася пад уладай Польшчы, інфармацыі фактычна ніякай.

Згодна са створаным камуністычнымі ідэолагамі міфам бела-рускае жыхарства Заходняй Беларусі толькі тое і рабіла, што змагалася супраць польскіх паноў ды марыла пра час, калі іх неўзабаве далучаць да краіны Саветаў. З гэтага вынікала, што аб нейкім там развіцці фізічнай культуры і спорту не магло быць на-ват гаворкі. Факты сведчаць адваротнае.

Беларуская “тарсіда” падчас футбольнага матча адборачнага турніра чэмпіяната Еўропы ў 5-й групе паміж нацыянальнымі зборнымі Беларусі і Галандыі (1:0). Менск, 8 чэрвеня 1995г.

Нягледзячы на моцны сацыяльны ды нацыянальны ўціск тутэйшага беларускага насельніцтва, спорт у “крэсах” быў не менш папулярны, чым у БССР. Што тычыцца футбола, то гэтая гульня перажывала ў той час у Польшчы сапраўдны бум. Пасля прыняцця Польскага фут-больнага хаўрусу ў 1923г. у ФІФА польскія футбалісты рэгулярна ўдзельнічалі ў міжнародных спаборніцтвах. Найлепшыя дасягненні нацыянальнай зборнай прыпадаюць на 30-я гг. У 1930г. яна — пераможца Кубка Сярэдняй Еўропы (Кубак Гёрэ), а ў 1936г. дасягнула найлепшага выніку ў сваіх выступленнях на алімпіядах у міжваенны перыяд — на Берлінскай алімпіядзе заняла 4-е месца.

З сярэдзіны 20-х гг. у Заходняй Беларусі пачынаюць ладзіцца чэмпіянаты ваяводстваў, гарадоў, праводзяцца розныя кубкавыя турніры. Лепшыя беластоцкія ды віленскія каманды гулялі ў першым дывізіёне чэмпіянату Польшчы. Не былі абыякавымі да фізічнай культуры і спорту навучэнцы заходнебеларускіх нацыянальных гімназіяў. Сярод іх вельмі папулярнымі былі гімнастыка, лёгкая атлетыка, футбол, шырыўся скаўцкі рух. У пачатку 30-х гг. пры Беларускім інстытуце гаспадаркі і культуры (БІГіК) існаваў спартовы аддзел, які спрыяў развіццю фізічнай культуры ў краі. У лютым 1933г. у Баранавічах, месцы, слаўным сваімі даўнімі

спартовымі традыцыямі (яшчэ ў 1913г. у Баранавічах пры тэхнічнай вучэльні чыгуначнікаў была створана футбольная вучнёўская каманда), пры мясцовым гуртку БІГіК зарганізаваная секцыя “Спартовец”, і ў тую ж вясну ствараецца футбольная каманда. Яшчэ 19.2.1933 старшыня гуртка Базыль Плаўсік звярнуўся з лістом да кс. В. Гадлеўскага, тагачаснага старшыні Цэнтральнага ўрада БІГіК: “Маем гонар гэтым прасіць, каб нам вытлумачылі, што датычыцца беларускага “Спартоўца”, які ўжо ў нас зарганізаваўся. Беларускі “Спартовец” маецца заказаць сабе касьцюмы для беларускай футбольнай каманды і спартовыя касьцюмы паходныя. Наступныя маюцца быць гэтакія... зялёныя штаны ці іншага колеру, кашуля накшталт беларускага бел-чырвона-белага нацыянальнага сьцягу. А касьцюмы беларускага спартоўца маюцца быць гэтакія: штаны колеру вайсковага клёшам, фрэнч з гальштукам... сумкі спартовыя, кацялкі... бярэт і значок Беларускага інстытута гаспадаркі і культуры”[7]. Іншых звестак пра дзейнасць баранавіцкага “Спартоўца”, на жаль, не ўдалося выявіць у архіўных сховішчах. Літаральна праз год з прычыны ўнутранага палітычнага разладу баранавіцкі гурток БІГіК самаліквідаваўся.

Развіццё і папулярызацыя футбола сярод беларускай эміграцыі далёкага замежжа ў пасляваенны час — яшчэ адна малавядомая старонка ў гісторыі айчыннага спорту. А менавіта эмігранты былі першымі беларускімі спартоўцамі, якія прэзентавалі наш спорт за межамі роднай Беларусі, у краінах Старога і Новага Свету. Паваенная хваля беларускай эміграцыі пераважна складалася з моладзі, былых рэпатрыянтаў, вывезеных у час вайны ў Нямеччыну ў якасці прымусовай працоўнай сілы і не пажадаўшых вярнуцца ў СССР, а таксама дзеці палітычных праціўнікаў савецкага рэжыму. У беларускіх гімназіях, арганізаваных нацыянальнымі дзеячамі ў лагерах для перамяшчэнцаў Ды-Пі моладзь атрымала сапраўднае патрыятычнае выхаванне, пабудаванае на ідэалах дэмакратыі і свабоды. Менавіта беларускія гімназіі сталі цэнтрамі спартовага жыцця для маладых эмігрантаў з Беларусі. Так пры беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Міхельсдорфе намаганнямі настаўніка фізічнага выхавання Івана Мухі і вучнёўскай моладзі быў закладзены спартовы гурток з гімнастычнай залай, дарожкамі для лёгкаатлетычных заняткаў ды футбольнай пляцоўкай. Неўзабаве з вучняў гімназіі зарганізавалася футбольная каманда “Штурм”, якая старанна і вельмі сур`ёзна рыхтавалася да сваіх першых матчаў.

19 красавіка 1948г. на спартовых урачыстасцях, прысвечаных трэцяму выпуску матурыстаў, адбылася прэм‘ера “Штурма”. Беларускія футбалісты літаральна

разграмілі нямецкую дружыну, складзеную з вучняў гімназіі м.Каму з лікам 6:0[8]. Праз месяц, 23.5.1948, ужо ў Каму наша дружына згуляла матч з больш сталай паводле ўзросту гэбрайскай камандай “Макабі”. У прысутнасці больш як 2 тысячаў гледачоў беларускія футбалісты перамаглі 1:0. Нямецкія заўзятары футбола, якія назіралі за сустрэчай, раз-пораз дэманстравалі захапленне майстэрскімі дзеяннямі нашых хлопцаў, а па заканчэнні гульні гурбою выбеглі на поле і пачалі абдымаць беларусаў, ледзь не насіць іх на руках. Пад гучныя воплескі мясцовай грамады, заўзятараў нашыя футбалісты пакінулі спартовую пляцоўку. Закранутае самалюбства “Макабі” прагнула рэваншу. Матч-рэванш адбыўся праз тыдзень, 30.5.1948, ужо ў “родных” сценах беларускіх спартоўцаў, у Міхельсдорфе, у прысутнасці каля тысячы гледачоў. Гэбрайскія футбалісты прыехалі з моцнай групай падтрымкі, якая ледзь змясцілася на дзесяці машынах-таксоўках. Паўторная гульня праходзіла больш напружана. У першым тайме, на 8-й хвіліне, беларусы адкрылі лік, а потым вялі — 2:1. Але “Макабі” яшчэ да перапынку зноў узнавіла раўнавагу — 2:2. У другой палове сустрэчы нашым футбалістам пры значнай тэрытарыяльнай перавазе ўдалося забіць пераможны гол. У канцы матча стомленая фізічна гэбрайская каманда выратаваць гульню ўжо не здолела. У выніку — 3:2 на карысць беларусаў. Пасля свістка аб заканчэнні сустрэчы беларускія дзяўчаты, вучаніцы мясцовай гімназіі, паднеслі букет кветак герою матча Хведару Перагуду. “Гэрой! Гэрой наша моладзь!— пісала пад уражаннем перамогі газета беларускіх эмігрантаў “Бацькаўшчына”, — разьвівайце ўсе свае таленты, каб у будучыні рэпрэзэнтаваць нашу Рэспубліку ў сьвеце”[9]. На працягу 1948—1949гг. беларускія футбалісты правялі каля двух дзесяткаў пераможных сустрэчаў з іншанацыянальнымі камандамі Ніжняй Баварыі і Верхняга Фальца[10].

Трапіўшы ў 1950г. у Злучаныя Штаты Амерыкі, былыя футбалісты “Штурма” не пакінулі любімую гульню, а зарганізавалі на новым месцы некалькі беларускіх футбольных дружынаў. 24 снежня 1950г. у Кліўлендзе маладымі беларусамі-эмігрантамі ствараецца філія Згуртавання беларускай моладзі ў Амерыцы (ЗБМА). Закладваецца пры новай арганізацыі беларускі спартовы клуб. Сярод спартовых гурткоў па валейболу, лёгкай атлетыцы, пінг-понгу, шахматах пры клубе з 1951г. дзейнічае футбольная дружына “Пагоня”. У гэты ж год “Пагоня” была дапушчана на акруговыя спаборніцтвы штата Агаё. Ужо ў першым сезоне беларускія футбалісты, апранутыя ў бел-чырвона-белыя колеры, перайгралі мясцовую амерыканскую каманду “Амэрыкан

Скру” ды звялі 2 гульні ўнічыю з дружынамі горада Лорэйн і кліўлендскай “Бартунік”[11]. На працягу 50-х гадоў футбалісты “Пагоні” стала ўдзельнічалі ў гэтым турніры. З часам, дзякуючы ўпартым трэніроўкам, беларуская футбольная дружына набывала з кожным турнірам, з кожнай сустрэчай усё лепшую згулянасць ды ўзгодненасць у камандных дзеяннях, узрасла і індывідуальная якасць гульні кожнага футбаліста. На добрым узроўні было арганізацыйнае забеспячэнне каманды. У “Пагоні” быў свой мэнэджэр, гаспадарнік ды скарбнік. Нарэшце прыйшлі і першыя буйныя поспехі. У сезоне 1955/56г. беларусы перамаглі каманды “Мадзьяр”, “Латвія”, украінскія дружыны “Львы” і “Ўкраіна”, нямецкія “Мэнсфілд” і “Саксонія”, згулялі ўнічыю з польскай “Палоніяй” і толькі раз прайгралі “Львам”. Беларуская “Пагоня” стала чэмпіёнам акругі штата Агаё[12]. У наступным сезоне 1956/57гг. беларускія футбалісты ў аб‘яднанай камандзе з харватамі перамаглі ў зацятай барацьбе на кубак свайго штата. На памяць аб гэтай перамозе харвацкія сябры падаравалі беларусам камплект спартовай уніформы, з вышытай на фуфайках назвай “Пагоня”[13].

Беларуская футбольная дружына не абмяжоўвалася спаборніцтвамі толькі ў штаце Агаё. Па запрашэнню ўкраінскай дыяспары ў Чыкага і дзякуючы дапамозе тамашніх беларускіх арганізацыяў кліўлендская беларуская футбольная каманда ў траўні 1958г. зрабіла вандроўку ў гэты горад, дзе трымала сапраўдны экзамен перад моцнай украінскай дружынай “Крылля”. Сустрэча адбылася 30 траўня. Яшчэ за 7 хвілінаў да канца сустрэчы брамы абодвух спаборнікаў заставаліся не пакоранымі. Нечакана для ўкраінцаў, беларусы на працягу апошніх хвілінаў тройчы прымусілі ўкраінскага брамніка вымаць з сеткі мяч. Кожны гол беларуская дружына адзначала гучным клічам: “Жыве!”. На памяць аб сустрэчы ўкраінскія спартоўцы падаравалі футбалістам “Пагоні” свой нацыянальны жоўта-блакітны сцяжок з аўто-графамі[14].

У ліпені 1954г. пры Беларускім спартовым клубе, зарганізаваным І. Мухам пры дапамозе сяброў мясцовай філіі ЗБМА, паўстала новая футбольная дружына “Беларусь”, якая на працягу многіх гадоў паспяхова выступала ў міжнацыянальнай нью-ёркскай Мэтраполітан-Лізе, не раз перамагаючы партугальскія, італьянскія, расейскія ды інш. каманды[15].

У другім цэнтры беларускай эміграцыі ў Амерыцы — Саўт Рывэры пры Беларускім спартовым аб‘яднанні (утворана 30.4.1952) у пачатку 50-х гадоў была створана яшчэ адна футбольная каманда “Нёман”, якая з розным поспехам удзельнічала ў рэгіянальных турнірах[16].

Бадай, ніводнае буйное культурнае ці арганізацыйнае мерапрыемства беларускай эміграцыі Амерыкі — з‘езды Беларуска-Амерыканскага задзіночання (БАЗА), Беларускага студэнцкага таварыства ў Амерыцы (БСТА), ЗБМА ды іншыя не праходзілі без паказальных выступленняў беларускіх футбольных дружынаў. Важным дасягненнем беларускіх спартоўцаў у Амерыцы трэба лічыць і арганізацыю штогадовых спартовых сустрэчаў беларускай моладзі — сапраўдных алімпіядаў для беларускіх дзяўчат і хлопцаў. Па традыцыі ў сярэдзіне лета беларуская моладзь з‘язджалася ў адпачынкавае селішча Бэлэр-”Менск” каля Саўт Рывэра, дзе ўдзельнічала ў спартовых спаборніцтвах па лёгкай атлетыцы, пінг-понгу, валейболу, футболу. На сустрэчах кожны раз выбіралася беларуская “Міс спорту”[17]. Першая такая сустрэча адбылася 4—5 ліпеня 1959г. Адкрыў яе мэр Саўт Рывэра, беларус па паходжанню, Уолтэр (Уладзімер) Шак. З галосніка ўрачыста прагучалі амерыканскі і беларускі нацыянальныя гімны, а над стадыёнам узвіліся амерыканскі і бел-чырвона-белы сцягі. Спецыяльна для футбалістаў кіраўніцтва БАЗА заснавала для гэтага спаборніцтва пераходную вазу. Ва ўпартай барацьбе з саўтрывэрскім “Нёманам” ды нью-ёркскай “Беларуссю” перамагла кліўлендская “Пагоня”. Увечары 5 ліпеня на ўрачыстай вечарыне, прысвечанай закрыццю спартовых гульняў, старшыня Галоўнай управы БАЗА сп. Кастусь Мярляк перадаў пераходны ганаровы прыз капітану “Пагоні” Віктару Лукашэвічу[18].

З пачатку стварэння першых беларускіх футбольных дружынаў, беларускія заўзятары гэтай гульні марылі аб тым часе, калі Беларусь набудзе сваю незалежнасць і яе нацыянальная зборная з гонарам будзе прэзентаваць нашу краіну на футбольных арэнах свету. Гэты час настаў. Наша з"борная, створаная ў 1992г., стала, нарэшце, паўнапраўнай удзельніцай міжнародных спаборніцтваў. Ёсць у яе ўжо і першыя перамогі. Сярод іх найбольш памятная і дарагая перамога над адным з грандаў сусветнага футбола — зборнай Галандыі ў Менску ў чэрвені 1995г. (1:0). Гэтая перамога была асвечаная тысячамі нацыянальных сцягоў. У бел-чырвона-белым моры сіратліва вісеў на флагштоку новы дзяржаўны сімвал рэспублікі — “трохі падпраўлены” былы сцяг ужо неіснуючай БССР. На пасляматчавай прэс-канферэнцыі на пытанне галандскіх журналістаў, чаму беларускія футбольныя заўзятары прынеслі на стадыён нацыянальныя сцягі і праігнаравалі новую дзяржаўную сімволіку, настаўнік беларускай дружыны не знайшоў нічога лепшага, як адказаць: “Справа не ў сцягу.” “Дык за што ж вы тады змагаліся?”—

неўразумела паціскалі плячыма замежныя рэпарцёры. А звонку яшчэ доўга даносіўся нязменны кліч беларускіх патрыётаў: “Беларусь! Жыве Беларусь!“

**Уладзімер ЛЯХОЎСКІ.**

---

[1] Болдырев Д.М., Костров А.И. Футбол Белоруссии. Мн., 1990. С.5—6.

[2] Шибеко З.В., Шибеко С.Ф. Минск. Страницы жизни дореволюционного города. Мн., 1990. С.200.

[3] “Беларусь”, 1920. 19 чэрвеня. N 130 (186).

[4] “Беларусь”, 1920. 27 чэрвеня. N 136 (192).

[5] Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь (далей НА РБ), ф.604, воп.1, спр.11, арк.36—38 адв.

[6] НА РБ, ф.62, воп.1, спр.16, арк.31 адв.

[7] НА РБ, ф.880, воп.1, спр.12, арк.191.

[8] Максімюк Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы ў Заходняй Нямеччыне. 1945—1950. Нью-Ёрк — Беласток, 1994. С. 97.

[9] “Бацькаўшчына”, 1948. 13 чэрвеня. N 20 (24).

[10] Максімюк Ян. Беларуская гімназія імя Янкі Купалы... С. 90.

[11] “Бацькаўшчына”, 1952. 4 траўня. N 18.

[12] Там жа. 1956. 28 кастрычніка. N 44 (326).

[13] Там жа. 1957. 13 жніўня. N 35—36 (369—370).

[14] Там жа. 1958. 22 чэрвеня. N 23 (409).

[15] Там жа. 1954. 14 лістапада. N 42 (224).

[16] Кіпель В. Беларусы ў ЗША. Мн., 1993. С. 208.

[17] Там жа. С. 256.

[18] “Бацькаўшчына”, 1959. 2 жніўня. N 30 (466).

Альбрыхт Станіслаў
РАДЗІВІЛ

# ДЫЯРЫЮШ АБ ПАДЗЕЯХ У ПОЛЬШЧЫ

12 траўня

Літоўскі пісар Сапега, высланы як пасол да Масквы, пасьля звароту зьявіўся ў Варшаве. Вынятыя косьці бласлаўлёнага Ўладзіслава былі пасьля агляду легатам і іншымі духоўнымі зноў пахаваныя ў касьцёле бэрнардынаў Сьв. Францішка[1]; я таксама там быў...

15 траўня

Пасьля абеду пісар прыватна прадставіў мне ход зьдзейсь-ненага пасольства ў Маскву, скардзячыся на свайго калегу, камянецкага кашталяна. Той, будучы трохі абмежаваным, свае недахопы кампенсаваў сабе гордасьцю і дабіваўся ў Масквы, каб ва ўзаемных дачыненьнях мець прыярытэт перад ліцьвінамі. Пісар шмат чаго мусіў прыкрываць сваёй стрыманасьцю перад чужаземцамі. Непрыязнае расстаньне адбылося пасьля ўручэньня маскоўскім князем камянецкаму кашталяну дамоваў, той іх затрымаў, але пазьней — па-іншаму не бывае — аддаў сакратару пасольства, мсьціслаўскаму стольніку Вяжэвічу[2]; потым, ахоплены пэўным неспакоем, дабіваўся доступу да дамоваў, быццам бы толькі для прачытаньня. Чалавеку паверылі, і далі яму дамовы ва ўласныя рукі. Атрымаўшы іх, зварот на словах і на справе ён аддаў забыцьцю. Ад гэтага паменела згоды і ўзьніклі спрэчкі: іх суцішылі, зрабіўшы скрынку, усярэдзіне якой і зьмясьцілі дамовы, наклаўшы для пэўнасьці тры пячаці. Цяпер узьнікла іншае сумненьне, хто мае быць ахоўнікам ключоў, а хто — скрынкі. Скрыняю

---

Пачатак у № 6, 1995г., №№ 1, 2, 1996г.

Ліцьвіны рыцарскага стану.

завалодаў кашталян, пакідаючы ключы ліцьвінам, быццам новым ключом ці сілай немагчыма было яе адчыніць. Уступілі да часу яго волі. Здавалася, што ўжо нішто ня ўзрушыць спакою паміж імі. Аднак праз некалькі дзён пасьля ад‘езду нашых паслоў з княскай сталіцы прыбыў ганец, даносячы аб страце дакуманту Жалкеўскага, і князь, смуткуючы з-за адпраўленьня паслоў (бо забараняў ім канчатковы ад‘езд), шпарка паслаў за імі, каб, стварыўшы перашкоды, здолець іх затрымаць. Сьцяміўшы гэта, нашыя паслы яшчэ шпарчэй пасьпяшаліся ў дарогу. Кашталян, беручы пад увагу, што ў дарозе іх могуць затрымаць перашкоды, пакінуўшы пісара, выправіўся конна кружнымі дарогамі. Не так учыніў пісар: цешачыся бясьпекай пры сваёй шматлікай сьвіце, памкнуўся вальней, і зьехаліся разам перад Смаленскам. Прыбыўшы туды, пісар пачаў сьмела дабівацца звароту скрыні; вынікам шпаркага ад‘езду кашталяна, які ня вымавіў “Да пабачэньня”, справа была вырашаная, дакладней, перапала каралю дзеля вырашэньня на наступным сойме.

Пісар расказаў са сьмехам пра цырымоніі і банкеты ў

Магнаты. З мал. Яна Матэйкі.

вялікага князя. На стале не было срэбных талерак, падавалі толькі напоўненыя ежай чашы, зь якіх заставалася адно даставаць кавалкі рукамі. Сто стольнікаў у атрыманых у якасьці дэпазытаў з княскага скарбу залацістых апратках падавалі стравы. У канцы князь накладваў усім рукамі вельмі кіслыя сьлівы, якія, падыходзячы і адыходзячы, зьядалі з пакорна схіленай галавой. Ніякіх камэдыяў, ніякіх стрэлаў з гарматаў. У маўчаньні, пасьля спажываньня пачастункаў і ўручэньня дамоваў кашталяну самім князем, адправілі паслоў. Мне здалося слушным запісаць тое, пра што я даведаўся ад пісара.

16 траўня

Кароль прыслаў мне ліст, у якім наказваў, каб на апошні дзень гэтага месяца я выслаў інструкцыі ў Смаленск. Тамтэйшаму жаўнеру ня выплацілі жалаваньне, якога чакалі, і з гэтага 31 траўня маюць адбыцца вайсковыя зьезды. Кароль, баючыся, каб неаплачаны жаўнер не стварыў забароненыя канфэдэрацыі і, сам сабе рабуючы каралеўскія маёнткі, ня вылічыў такім чынам заслужанага належнага, накіраваў пасла, каб той абяцаньнямі суцішыў хваляваньні розумаў. Адразу спаткаўся зь літоўскім рэфэрэндарам і заняўся каралеўскімі загадамі. Клопаты караля аказаліся дарэчы, бо гвалтоўныя ўчынкі жаўнераў былі адтэрмінаваныя.

Праца ў гародзе. Дрэварыт XVI ст.

19 траўня

Зь Літвы да караля прыбылі паслы Наваградзкага і Мсьціслаўскага ваяводзтваў. У гэты дзень з прычыны выпадковага пажару амаль увесь Ловіч быў ператвораны ў попел...

23 траўня

Гэтыя паслы двух ваяводзтваў мелі аўдыенцыю. Гаварылі пра зьмены ва ўхваленых падатках каралю і дакаралі маршалка Асалінскага за мінулы сойм. Той, прысутнічаючы пры гэтым, адмаўляў крыўдную думку словамі і часткова пацьвярджаў прызнаньне сум, часткова адмятаў мэту дэлегацыі. Кароль іх ласкава дакараў і супакойваў. Я ў сябе ў доме частаваў каронната падкаморага зь літоўскім пісарам і загасіў узьніклую спрэчку, абарачаючы яе ў дружбу.

24 траўня

Па выразнаму даручэньню караля я выдаў літоўскім паслам падрыхтаваны на пісьме адказ...

26 траўня

Прыбыў да караля пасол брандэнбурскага курфюрста і

Антоні Мёлер. Будаўніцтва сьвятыні (фрагмэнт).

чакаў у ягонай прыватнай аўдыенцыі. Аднак я быў першы на ёй прыняты і прадставіў каралю шмат непрыемных справаў, у прыватнасьці, што ўсе пасады раздаюцца таемна, мінаючы яго, што ўсе вакансіі дзеляцца на загад толькі аднаго падкаморага і т.п., якія, відаць, непакояць усіх. Застаў караля з аблічам спакайнейшым, чым звычайна, адпусьціў мяне ветліва і нават пагадзіўся, каб я не кіраваўся да Прусаў, абяцаючы, што адтуль ня будзе ніякай крыўды[3]. Доўга затрымаўшы караля аўдыенцыяй, я скончыў дзень зялёнасьвятковай вячэрняй...

## Месяц чэрвень

19-га месяца (чэрвеня)

Я прыбыў да Коўна, дадзенага мне староства, — не без мамоны — за каралеўскія службы, ветліва прывітаны падданымі і мяшчанамі[4]. Захапіўся відовішчам сьцёку рэк. Пінскае староства, суседняе зь іншымі маёнткамі, я ўсё ж пакінуў сабе, Ковенскае ж саступіў смаленскаму кашталяну, які, запэўніўшы мяне ва ўдзячнасьці, пасьля яго атрыманьня пачаў выкручвацца і нават адбрыквацца. Вось так, праяўленая некалі ветлівасьць звычайна псуе дружбу, і тое, што перад тым было атрымана, зьмякчае спрэчкі ўзаемнай зычлівасьцю, атрыманае ж альбо з нашэптваньня зайздросьнікаў, альбо з пагарды дару, альбо з празьмерна ўзрастаючай амбіцыі цягне за сабой забыцьцё ўдзячнасьці і зьвяз душаў, які хутчэй

Маладзіца і мужчына мяшчанскага стану з Прусаў. Малюнак Ю.Косака.

павінна ўмацоўваць, але, наадварот, ператварае ў непрыязнасьць. Вось так увачавідкі назіраецца відовішча няўдзячнасьці, а падманны выгляд людзей распазнаецца здаровым вокам розуму.

## Месяц ліпень

### 19 ліпеня

Гэтага месяца, 19 ліпеня, мой калега, літоўскі падкаморы Сапега, слабы здароўем, праляжаўшы ў ложку некалькі месяцаў, памёр ва ўласным Гальшанскім замку[5]. Вакансіі разышліся: Ашмяны аддалі тамтэйшаму падсудку Вільчаку[6]. Камянец Літоўскі[7] — Радзівілу, сыну віленскага ваяводы, літоўскаму падкамораму, Трышкі[8] — каралеўскаму двараніну Важынскаму, Цельшы[9] — парнаўскаму кашталяну Дэнгофу, Белавежа[10] — іншаму Дэнгофу, Васілішкі[11] — Панятоўскаму, Гомель[12] — ваяводу менскаму Слушку былі саступленыя. Віленскі ваявода незадаволена ўспрыняў тое, што ў яго адабралі Гомель, якім яго часта ўпікаў кароль, але завершанай

Павал Сапега, падканцлеры ВКЛ, 1624 г. Копія XVIII (?) ст.

справе ён супрацьпаставіў цярплівае ўздыханьне.

Кароль сьцягваў на гэтую вайну казакоў. Зь сядзібаў у Запарожжы было выведзена 1500, прызначаючы галоўным Воўка[13], чалавека ўзорнага, стараннага і суровага. Даручылі яму правесьці іх празь Літву да Юрбарка[14]. У гэтым жа месцы іх чакалі 15 чаўноў, прыстасаваных дзеля выкарыстаньня на моры (па-польску яны завуцца чайкі), збудаваных на каралеўскі кошт. Усю Літву ахапіў жах перад казакамі, але яны прасоўваліся, нягледзячы на спадзяваньні ды іхныя схільнасьці з загаданай стрыманасьцю, ціхія, не дапускаючыя рабункаў пры якім-небудзь выпрошваньні дані, дамагаючыся толькі чагосьці зь ежы і напою. З Горадні[15] выйшлі падзеленыя вершнікі, хаваючыся ў лясох, кіраваліся да жаданага порту сваіх чаўноў, пешыя, разьмешчаныя ў чоўне, ракою Хранонам[16], днём і ноччу ў нястомным руху; яны ўяўлялі сабой прыемнае відовішча, кіруючыся праз Коўна, дзе я тады быў. Частаваў я старых гарэлкай і мёдам, весела іх затрымліваючы не безь іх ахвоты, але ж замахваліся на далейшы марш, таго ж дня, атрымаўшы адзін і другі збан мёду, а таксама падсілкаваныя мяшчанамі ежай і напоем, яны бяз шкоды адпіхнуліся ад берага з добрымі пажаданьнямі тых, якім, пакрыўшы недысцыплінаванасьць строгім парадкам, нічога

Жаўнер выбранецкай пяхоты. Фрагмэнт фрэскі ў замку ў Падгорцах.

ліхога пры маршы не ўчынілі.

Я 15-га гэтага месяца ў Вялене на Жмудзі паклаў першы камень пад мур будучага касьцёлу ў прысутнасьці жмудзкага суфрагана, які гадамі набліжаўся да Мафусаіла[17]. На наступны дзень я пасьпяшаўся да Коўна, зь якім разьвітаўся ў апошні дзень месяца, распачынаючы падарожжа да Вільні...

## Месяц верасень

Вестка пра мір (са швэдамі. — **У.С.**) разышлася па каралеўстве, дазволіла трохі адпачыць зьбяднелым сялянам, а жаўнераў, якія заставаліся пад апекай Марса на чужым харчы, пазбавіла надзеі на найпрасьцейшае пракармленьне. Не было недахопу ў агідзе з боку цэсара, як і караля Францыі, кожны зь якіх імкнуўся — не без дабаўленьня мамоны як шпоры — як найшпарчэй скіраваць гатовыя сілы на ўзаемную шкоду. Шмат жаўнераў, звольненых ад прысягі, пасьля выплаты ім жалаваньня, былі адпраўленыя, іншым было загадана вяртацца вялікім кругам на Падольле, частка пры



Гусарскі шалом.

адсутнасьці веры ў дамовы была выкарыстаная ў якасьці назіральнікаў за тым, ці ня будзе цяганіны зь перадачай Эльблонга і Пілавы.

Кароль прызначыў сойм на 21 лістапада, дзень Ахвяраваньня Багародзіцы[18], каб самому Богу ахвяраваць належны вотум удзячнасьці і даверыць усю Рэч Паспалітую апякунцы Марыі. Лісты, апячатаныя насуперак законам перамір'я пячацьцю, былі разасланыя па паветах у Вялікім Княстве Літоўскім, не прамаўчалі таксама для памяці прадпісанага шасьцітыднёвага доўжаньня сойму. Кароль вярнуўся ў Торунь, дзе трохі забавіўшыся, пасьля адпраўленьня маскоўскага пасла[19], які прыбыў скардзіцца на брак міру на межах, выслаў уперад прыдворную сьвіту да Варшавы і пасьпяшаўся да Плоньска, каб дагадзіць сабе паляваньнем; выслухаўшы татарскага пасла, які прыбыў і мовіў ня вельмі красамоўным чынам, заняўся паляваньнем на палёх.

Затое ў Інфлянтах віленскі ваявода, ня хочучы чуць пра мір, узброенай сілай захапіў амаль усё Вэндэнскае ваяводзтва[20], і нават шмат інфлянцаў, якія трымаліся дагэтуль боку праціўніка, ня ведаючы пра заключаны мір, і, варожачы аб трываласьці цяперашняга посьпеху, здаліся Польшчы і Літве. Тым часам каралеўскі ліст наказаў віленскаму ваяводу ўстрымацца ад далейшых крокаў у заваёвах, вярнуць занятыя мясцовасьці, сабранага найвышэйшым коштам жаўнера распусьціць і захоўваць заключаны трывалы мір. Любоў да міру і паслушэнства памазаньніку спынілі ходу ваенных посьпехаў; хоць многія супраціўляліся, але ўсё сталася

Ян Казімер (гравюра Клемэнта дэ Ёнге).

паводле жаданьня пана, жаўнер быў па адным звольнены, мясцовасьці, ледзьве занятыя, былі пакінутыя ворагам, а сам ваявода, раззброены, падаўся дадому.

Я, выехаўшы зь Пінска, 9 лютага месяца ў прысутнасьці валынскага кашталяна, князя Чартарыйскага, паклаў на зямлю вуглавы камень пад мураваны касьцёл Найсьвяцейшай Тройцы. Але, паколькі мулярскі майстар пакутаваў на няздатнасьць, я паклікаў з Астрог архітэктара таварыства Ісуса па імю Бэнэдыкт Мольлі[21], прысланага з Рыма з мэтай узьвядзеньня ў рымскім стылі Астроскага калегіюму і сьвятыні. Той па прыбыцьці зганіў брак грунту і разьмяшчэньне, таму трэба было ўсё выкапаць нанова яшчэ раз.

12 верасьня

Выняты камень быў аддадзены зямлі разам са срэбным надпісам маёй рукой на найбольшую пацеху душы, якую Бог выбраў, каб за шматлікія дабрадзействы ахвяравала яго імю

Стэфан Пац, літоўскі падканцлеры.

аўтар. Так жа пры ласкавасьці надвор‘я і нябёсаў, што спадарожнічала працы, амаль усе падмуркі выкапалі напрыканцы месяца лістапада. Месяц гэты аказаўся гасьцінны, напаўняючы Олыку частымі гасьцямі.

## Месяц кастрычнік

Кароль у сярэдзіне месяца, прагнучы правесьці час на судох дзеля Прусаў, прыбыў у Варшаву, але адсутнасьць сэнатараў абумовіла адтэрміноўку судоў да схілу гэтага ж месяца. У Прусах гетманскія суды каралі нядбайнасьць жаўнераў; адны былі прыгавораныя да страты гонару, другія былі прымушаныя да вяртаньня скарбу атрыманых грошай, многія прызваныя на службу на Падольлі за ўласны кошт. Урэшце, некалькі тысячаў жаўнераў былі пакінутыя пад заклад, рэшта была звольненая.

Перасьледуючы вокам зайца, зь сьляпым імпэтам я стукнуўся нагой аб пень і, разьбіўшы калена, адзінаццаць тыдняў зносіў боль з трывалым цярпеньнем. Выплаціў цану

Вясковая папрадуха. Дрэварыт пачатку XVII ст.

двух турэцкіх коней, прыведзеных армянамі, і, парадкуючы падчас міру ваенны рыштунак, амаль цэлы месяц жывіў свае захапленьні паляваньнем і чытаньнем. 30-га гэтага месяца меўся адбыцца ў Луцку соймік, які папярэднічаў сойму, а я з пэўных прычынаў сам сабе адгаварыў прысутнічаць на ім, таму валынскаму кашталяну, які праяжджаў праз Олыку, паслужыў парадай, які, удзячна гэта прымаючы, стаў на чале зьезду і сярод згоды давёў соймік да шчасьлівага канца, астатнім прыкладаючы руку ў апошні дзень месяца да пасольскай інструкцыі.

У Нямеччыне зараза закранула войска як цэсара, так і караля Францыі; страцілі шмат жаўнерскіх душаў. Кажуць, што ў лягеры караля Вугоршчыны ня стала 15 000, французаў загінула 8000, польскі каралевіч Казімер, які там прысутнічаў, ня ўнік заразы, страціўшы некалькіх са сваёй сьвіты[22].

## Месяц лістапад

### 26 лістапада

Між мною і літоўскім падскарбім завязалася спрэчка на пісьме. Таму крыўда, якая ўрэзалася ў памяць, падштурхнула нас абодвух адмовіцца ад дружбы, што было дастойна ганьбы ў вачах двух Ахатаў[23]. Так, пасьля выкладу справы зручна было стрымаць нежаданьне ці блізьнячыя сэрцы зноў зьяднаць сьціслым зьвязам і яшчэ большай сілай любові і аднавіць адкінутую прыхільнасьць з больш гарачым вынікам, чым раней

В.Хомдзія. Капальня солі ў Вялічцы. Фрагмэнт. 1645 г.

(перш чым было прыпынена інтэрмэдыяй разлукі).

У сэнаце каронны канцлер даваў справаздачу з прускай камісіі. Кароль і сэнат выказалі камісарам удзячнасьць, ня так, аднак, учынілі паслы. Тыя, пры супраціве ліцьвінаў, якія легкадумна адклалі дачу згоды на зацьверджаньне дамоваў без абвешчаньня якога-небудзь звароту з воклічамі, выкліканымі толькі ўкленчваньнем, у маўчаньні вярнуліся да сваіх сходаў, прысьвячаючы рэшту дня ўзаемным нарадам.

27 лістапада

Літоўскі пісар Сапега асірацелую ў ягоным доме пячаць Вялікага Княства Літоўскага, пакінутую ягоным дзядзькам, згадваючы заслугі апошняга, на вачох у публікі аддаў у каралеўскія рукі[24]. Кароль зычыў спачыну ценям падканцлера, калісьці высакароднага грамадзяніна, а я выступіў з пахвальнай урачыстай прамовай у пасьмяротны гонар. Ён заслужыў бы большае годнасьці, калі б пустату свайго розуму

Цыпрыян Каміль Норвід. Музыка непатрэбны.

пакрапіў дажджом большага красамоўства. Пісар зазнаў двайное пачуцьцё болю, калі зразумеў, што ўцякаючая ад яго роду годнасьць саноўніка ня будзе больш вернутая. Хто ж можа прадбачыць перашкоду нясталасьці сьвету? Усе пасады, а менавіта Віленскае ваяводзтва, гетманства, маршалкоўства па сканчэньні ледзь двух гадоў пакінулі пакаленьне Сапегаў і Пегаса В(ялікага) Кн(яства) Літоўскага[25], хаця і добра кілзанага лейцамі двух нашчадкаў на працягу 50 гадоў[26], не магло гэтае пакаленьне даўжэй утрымаць, а нават Пегас, як бы прыбраўшы трохі пёраў, з атрыманай уладай украўся ў блізкія дачыненьні з Пацамі і, пакінушы тых дзякуючы перавазе падскарбія, які меў бесперашкодны доступ да караля, пры ягонай згодзе перанёсься да Пацаў. Штодзённа вочы бачаць падобныя зьмены на найвышэйшых прыступках і будуць бачыць, пакуль людзкі зрок не зачыніцца, калі прыйдзе ўсеагульная пагібель... Тым часам доўжыліся народжаныя нязгодай спрэчкі паслоў; ліцьвіны пагражалі зрывам у некалькіх пунктах швэдзкіх дамоваў, калі ў сувязі са знаходжаньнем швэдаў у суседніх Інфлянтах палякі запэўняць Жмудзь і Літву ў згодных дзеяньнях на аказаньне дапамогі паводле гэтага мантуанскага “бяда няшчаснай Крэмоне як вельмі блізкай”[27]. У прыватнасьці, былі прапанаваныя тры пункты: каб, або Польшча адмовілася ад чаргаваньня ў Інфлянтах[28], або адмяніла княскую пошліну для літоўскіх суднаў[29], або згадзілася на сумеснае карыстаньне Літвой каралеўскіх маёнткаў у Прусах як набытых з аказанай ёю дапамогай. Толькі вечар спыніў узаемнае фэхтаваньне

Строй польскай маладзіцы. 1-я пал. XVII ст.

думкамі. Бо наступны дзень быў прысьвечаны справаздачы аб пасольстве ў Маскву, паслы ж, г. зн. камянецкі кашталян, ужо раней пры-значаны Кіеўскім, і яго калега, літоўскі пісар Сапега, былі пасва-рыліся (з прычыны згаданай ужо справы схопленага кашталянам дыплёму прысягі вялікага князя); трэба было іх найперш памірыць, перад тым як стануць уподлеч, злучаныя павіннасьцю дачы публічнай рэляцыі; таму каронны канцлер і я ў старанным разборы справы прыгаварылі да выгнаньня маскоўскую абразу, аднаўляючы прыватны польска-літоўскі саюз з узаемнымі абдымкамі і шчырай падачай адзін аднаму правых рук...

30 лістапада

Пасьля афармленьня вынікаў было аддадзена распараджэньне, каб усе сабраліся ў каралеўскім палацы дзеля наданьня канцлерства, бо, здаецца, гэтая ўрачыстасьць сабрала ня болей асобаў у касьцёле, чым у сэнатарскай хаце. Пад кіраўніцтвам караля надворны каронны маршалак,

Вільня. Касьцёл сьвсьв. Піліпа ды Якуба на Лукішках.

сказаўшы паводле звычаю прамову, якая ўзносіла пасаду саноўніка пад неба, ад імя караля аб‘явіў падканцлера Замойскага міністрам большай пячаці. Замойскі, працяг-ваючы рукі, наблізіўся да каралеўскіх рук, каб забраць дар, абняў ногі караля ў доказ удзячнасьці, вярнуўшыся ж на месца, са звыклым красамоўствам, прынёс найвышэйшыя падзякі Богу і каралю. Зноў набліжаючыся да караля, аддаў у яго рукі меншую пячаць, не прамарудзіўшы з цыры-маніяльным пацалункам, і такімі словамі засьведчыў удзячнасьць за ўзнагароду: “Добра пазычаць пану на ліхву”. Цяпер усім стала бачная ўзаемная радасьць караля і ўшанаванага грамадзяніна. Вось так канец месяца прынёс пачатак канцлерскай пасады.

## Месяц сьнежань

Як папярэдні месяц прыаздобіў карону Польшчы новым саноўнікам, так першы дзень гэтага месяца, жадаючы, каб Літва была вольная ад зайздрасьцяў, ушанаваў літоўскага падскарбія Паца падобным уручэньнем меншай пячаці. Бо той, прыціснуты цяжарам скарбніцы і прадбачачы вялікі ўрон на здароўі, беручы пад увагу хутчэй сумленьне, чым даходы,

Палянэз (мастак І.П.Норблін).

хацеў зрачыся годнасьці падскарбія і ўзяць на сябе меншы цяжар. Справа рабілася тым жа самым спосабам, што і ў папярэдні дзень. Потым усіх папрасілі адысьці, нікога больш не затрымліваючы, апроч сэнатараў, вялікага сакратара, трох рэфэрэндараў, кароннага надворнага падскарбія, абодвух падкаморых, літоўскага пісара, і пачалася таемная нарада па справе каралеўскага шлюбу. Я прадбачліва затурбаваўся адпраўленьнем набажэнства да Сьвятога Духа, каб д'ябальскі дух мог вышмыгнуць зь некаторых розумаў. Некалькімі днямі раней прыбыў камянецкі біскуп, запэўніваючы некаторых у той думцы, быццам прынёс з сабою зьмену папярэдняй думкі на лепшую, аднак не дапусьціў адвесьці сябе ад пякельнай упартасьці; я чуў, як прымас гаварыў пра гэта заміж уздыханьняў...

2 сьнежня

Забава ў карчме.

Таксама ў гэты дзень па маёй прамове была нададзеная каралём пасада літоўскага падскарбія Мікалаю Трызьне, да гэтага літоўскаму кухмістру. Пры гэтым кароль (зьвяртаючыся) да мяне (прамовіў, паважаючы поўную фігуру падскарбія): “Трэба папярэдзіць падскарбія, каб даў зрабіць сабе моцнае сэнатарскае крэсла, каб не прагнулася пад цяжарам бруха, а ён не ўдарыўся пузам аб зямлю на сьмех іншым зь ягонага няшчасьця”...

8 сьнежня

Пасьля адпраўленьня набажэнства ўсе рушылі ў сэнат і былі справядліва ўраўняныя падаткі. Кароль, спадзеючыся на ўдзячнасьць за такое вялікае дабрадзейства міру, засьведчанае Рэчы Паспалітай, радасны выйшаў з сэнату пасьля аб‘яўленьня там сваіх жаданьняў. Аб інфлянцкім леньне, каб пакуль, як і раней, гэтая правінцыя заставалася злучанай з Каронай, каб там жа некалькі староставаў падлягала леннаму цяжару, каб у Польшчы Кампінас, Казунь[30] і суседнія мясцовасьці, на Літве Горадня з прылегласьцямі аднадушна былі прызнаныя як узнагарода каралю, а таксама, каб з публічнага скарбу быў выплачаны каралеўскі доўг, які дасягае 700 000 злотых. Розныя сэнатары ў досыць доўгіх прамовах

Лукаш Апалінскі, старшы вялікі каралеўскі маршалак. Каля 1640 г.

падтрымлівалі справу, даказваючы зычлівасьць і прыцягваючы да сябе прыхільны павеў будучай ласкі. Але, паколькі паслы ў інструкцыях ад шляхты нічога пэўнага не прывезьлі, а кароль на прыватнай нарадзе перадаў гэта сойму без папярэджаньня найважнейшых асобаў з усяго стану каралеўства, якія і гэта перш засвоілі і прыстасавалі вуха паслоў шляхоцкага стану да слуханьняя, усё ж прынялі гэта маўчаньнем...

## 12 сьнежня

Я ўсеўся за сталом літоўскага падканцлера, а вечарам гэтага дня, выехаўшы з Варшавы, абраў на начлег Волю[31]. У самы дзень майго выезду казак Суліма, прывезены як палонны з чатырма іншымі (пятаму падаравалі свабоду) да Варшавы, за дзёрзкасьць быў пакараны абезгалоўліваньнем[32]. А гэта з наступнае прычыны: 600 казакоў, упісаных у каралеўскі рэестар, пад атаманам, як яго называюць,

прызначаным каронным гетманам, служаць збройна Каралеўству за плату са скарбу, які выплачвае ім штогод акрэсьленую суму. Цяпер, у часе найжорсткіх войнаў, яны ўзрасьлі да гэткай вялікай колькасьці за кошт тых, якія, пакінуўшы плугі, шукалі ў калчанох сродкаў да жыцьця і, спакушаныя смакам рызыкі без працы, морам, на сваіх суднах, прычынялі неспакой турку, нечаканымі нападамі аваподваючы вёскамі, мястэчкамі, местамі і рабуючы іх. Туркі скардзіліся, і Асман, а ў папярэдні год цяперашні султан[33], рушыўшыся з цэсарскага трону і, рыхтуючы помсту Марса за рабункі, задумаў уступіць з войскам у польскія межы. Гетман Канецпольскі, каб зьнішчыць зарава раздражненьняў, выбраў найвыгаднае месца на востраве на рацэ Барысфен[34], бегам рэчышча якой звыклі праплываць судны казакоў на турэцкую шкоду, і збудаваў на ёй знакамітую фартэцыю Кудак, умацаваўшы яе засадай, званай драгунскай, у колькасьці некалькіх сотняў, і прыдаў ёй кіраўніка Марыяна, старога жаўнера[35], каб, пільна сьцерагучы, перашкаджаў казакам у

праезьдзе. Той уласна ня толькі бараніў доступу казакам да ракі па-за дазволенымі межамі, але і наказаў ім устрымацца ад паляваньня і рыбалоўства, а парушаючых указаньне караў накладаньнем жалезных пярсьцёнкаў на ногі ды каркі. Лёхі ўжо закрылі ў сабе дваццаць, і можна было прадбачыць, што ў будучым прыбавіцца іх болей. Марыян забараніў таксама жаўнерам прадаваць казакам порах, а, падазраючы начны гандаль, замкнуў яго ў падземным калідоры. Казакі, нецярпліва зносячыя прыкрасьці і не прывучаныя да эвангельскага цярпеньня перашкодаў са спакоем, абралі военачальнікам Суліму і, заўважыўшы, што жаўнеры нясуць варту, паглыбіўшыся ў сон, у паўночнай цішыні па прыстаўленых драбінах узышлі на вал і да самай фартэцыі. Дапраўды, зьяўленьне гасьцей абудзіла стражнікаў, але позна, перш чым схапіліся за зброю і вынесьлі з-пад зямлі схаваны порах, ужо фартэцыя знаходзілася ва ўладзе казакоў. Зьвязанага Марыяна паставілі як мішэнь і на ягоным голым целе многімі кулямі практыкаваліся ў трапнасьці прыцэльваньня, іншых пасеклі або катавалі. Казакі ўяўлялі сабе, што ўчынак гэты ня будзе адпомшчаны, бо караля затрымлівае працяглая вайна і вялікая адлегласьць, а гетману перашкаджае патрэба ў людзях для аблогі местаў, забраных у швэдаў, у сувязі з чым прыйшоў час (калі яшчэ іх частка была прызваная да Прусаў на дапамогу), калі яны маглі свабодна давесьці да канца свой намер. Аднак пасьля абвешчаньня міру, атрымаўшы зьвестку аб звароце каралеўскага войска і, даведаўшыся, што гетман хоча іх пакараць, пачалі шкадаваць аб сваім учынку. А каб нямногія невінаватыя не наклікалі кары на ўсіх бяз розьніцы, самі сябе прызначылі выканаўцамі кары за гэтае злачынства. Аблеглі Суліму і прыхільнікаў здрады, шматразова атакуючы валы; пасьля страты 1000 людзей уварваліся да іх сховішча, зьвязалі завадатара і іншых і яго разам з пяцьцю таварышамі, закутых у кайданы, выслалі на бліжэйшы сойм. Тыя, дапытаныя пад катаваньнямі, пад прымусам прызналіся, што ня ведалі пра дэкрэт Рэчы Паспалітае; меркавалі, што гэта немцы са звыклай для іх нахабнасьцю акружылі фартэцыю ўмацаваньнямі, што, адраіўшы для сябе працяглы судовы працэс, хацелі тут жа помсьціць за прыватныя крыўды і што зграшылі толькі памылкова, будучы далёкімі ад веданьня пастановы. Тлумачэньні не былі прынятыя, і іх асудзілі на сьмерць для прыкладу, каб адпудзіць іншых ад дзёрзкасьці. Сам кароль прагнуў знайсьці спосаб вызваленьня іх ад пакараньня сьмерцю, але зьмякчэньне рашэньня не здалося слушным, бо любой староньняй чалавечнасьцю немагчыма ўстрымаць казацкае асяродзьдзе ад свавольства.

Караля схіляла да паблажлівасьці іх нядаўняя служба ў Прусах, бо чаўны, якія зваліся чайкамі, сабраныя ў ваколіцы Пулавы, дзякуючы сваёй спрытнасьці, ноччу, як толькі займалася на дзень, паказалі прыбыўшых вачам швэдаў. Тыя найперш зьдзівіліся, потым прывіталі стрэламі з гарматаў ядрамі, але бяз выніку, бо перашкодай стала адлегласьць, урэшце выслалі вадою пасла, каб высьветліць, кім зьяўляюцца, паводле чыйго даручэньня, чаго б шукалі ў гэтым месцы. Адправілі яго з адказам, што зьяўляюцца запароскімі казакамі, што прыбылі сюды на загад караля, каб пашырыць сюды каралеўскую ўладу. І адразу, кружачы па марской затоцы, схапілі швэдзкі карабель, поўны ўзбраеньня, харчу і напояў, сеючы жах. Пазьней, пасьля прадаўжэньня перамір‘я, мусілі вярнуць карабель, аднак выелі тое, што далося зьесьці, будучы па прыродзе сваёй ненаеднымі. Сапраўды, гэта падобна на цуд, што ў маленькім чоўне, атачоным вязкамі трысьнягу, так процістаяць марской буры, што хвалі іх рэдка перамагаюць. Дзёрзкасьць гарантуе ім бясьпеку, значыцца, альбо пры паўночна-ўсходнім ветры, які ўзносіць усьпененыя хвалі да зорак, калі здаецца, што разаб‘ецца човен, згоднасьцю з рухам мора, і зьмешчанымі па абодва бакі трысьняговымі загародамі засьцерагаюцца ад udaраў вады, альбо ў штыль, які ўкрывае мора мігценьнем хваляў, звыклі плысьці пры дапамозе вёслаў. Пілава бачыла, як падчас буры чайкі (чаўны) толькі рассыпаліся і пры моцных адважных намаганьнях усе выбавіліся зь небясьпекі, каб зноў, сабраўшыся ў аддзелы, у пярэднім радзе стаць у ваколіцах порту.

Праяўленая каралеўскім сэрцам ласка аказалася няздольнай вызваліць казакоў з апасеньня, каб непакаранае злачынства не адчыніла дзьверы яшчэ большым правіннасьцям. У прысутнасьці татарскага пасла Суліма перайшоў у каталіцызм, і катаўскі меч аддзяліў ягоную галаву ад цела, якое потым, чвартаванае, уяўляла сабой у чатырох кутох места непрыемнае відовішча. Суліма меў залаты малюнак папежа Паўла V[36], падараваны ім яму за асаблівую марскую бітву, у якой, захапіўшы трохрадовы турэцкі карабель, ахвяраваў папежу ў Рыме 300 палонных. Цяпер прасіў гэты напамінак пра доблесьць далучыць да яго цела ў зямлі. Іншыя, ня выракшыся схізмы, загінулі той самай сьмерцю. Суліму спадарожнічала спагада, што гэта яму, якога няпрыяцель хрысьціянства гэтулькі разоў, ваюючы зь ім, у бітвах ня мог забіць, адсечаная была рукой ката поўная славы галава і адкінутае цела. Так той, што яго, гэтулькі разоў у Азіі падстаўляў карак, вораг ня мог забіць, па прад-вызначэньню Марса, які дапамагаў яму, выстаўленаму на небясьпеку, цяпер у Варшаве, са зьвязанымі моцнымі рукамі, мусіў выцягнуць шыю подламу катаўскаму слугу, быццам дэманструючы гэтым зьменлівасьць фартуны ў новай, ды праўдзівай, легендзе.

## Год Панскі, 1636

### Месяц люты

2 лютага

У тыя ж дні эйшыскі стараста Крыцкі[37] запрасіў на запозьнены банкет у кампаніі мяшчанак, якіх выбраў спасярод найзнатных, але яны былі брыдкія, з доўгімі насамі, рабыя, зморшчаныя і хударлявыя. Дзьве прыйшлі напры-канцы з апушчанымі долу вачыма, гладкія і з прытворствам. А паколькі зіма прабірала суровым марозам, трэба было разагравацца танцамі, але нутро аказалася больш схільным да распусты, якая хутчэй выклікала любоўную чульлівасьць, чым схіляла да весялосьці на банкеце. Каб узняць спакойны настрой банкета, гаспадар быў вымушаны ажывіць нас танцамі (пагаджаючыся з роспускам доўгіх валасоў). Стол быў старанна застаўлены талеркамі, поўнымі вытанчанымі ласункамі, іграла музыка.

Адзеўшы маскі на твары, адзначалі мы посны дзень Бахуса два разы запар у прысутнасьці караля, вандруючы аж да другой гадзіны па паўночы. У трэці і апошні дзень посту я запрасіў да сябе французскага пасла і шмат іншых паноў з жонкамі, каб разам завяршыць пост. Кароль прыватна даваў

волю сваім схільнасьцям...

17 лютага

На сьвітаньні я выехаў з Караляўца, сьпяшаючыся ня толькі дзеля таго, каб у Коўне належным чынам і шчыра ўшанаваць караля, але таксама дзеля таго, што на падставе соймавай пастановы быў прызначаны тэрмін работы камісіі па карэктуры законаў у Вільні на дзень 1 сакавіка. Але я меркаваў, што трэба пасьпяшацца, часткова, каб аддаць належнае майму абавязку кіраўніка гэтай камісіі, часткова, каб у час адсутнасьці караля і маёй людзкая зайздрасьць ня выклікала затрымкі ў працы гэтай камісіі. Я лічыўся з тым, што мог бы пачаць яе працу, а потым вярнуцца ў Коўна і прыняць там караля як свайго госьця. Бо кароль сам пры разьвітаньні прадпісаў мне свой прыезд каля 6 сакавіка.

Аднак я выехаў у моцны мароз, які аднаго дня, менавіта 22-га гэтага месяца, сярод віхуры так мучыў мяне і маю службу, што не было нікога, хто б прыехаў да Коўна, не адмарозіўшы твар ці іншыя часткі цела. У гэты дзень я спаткаў літоўскага падскарбія, які ехаў на мяжу Літвы аж да Юрбарка, дзе меў намер чакаць караля і там паводле звычаю пільнаваць справы літоўскага скарбу. Сьпяшаліся таксама літоўскія падканцлеры і жмудзкі і смаленскі кашталяны, каб асабіста прывітаць ад імя Літвы пана, які прыбывае, і ахвяраваць яму свае паслугі...

Аднак кароль скараціў сваё знаходжаньне ў Караляўцы, не паехаў, як намерваўся, да Пілавы, але, згадзіўшыся ў пытаньні пра каралеўскую пошліну, якую разам зь мяшчанамі ўстанавілі ў памеры 400 000 зл., 23-га гэтага месяца кароль пакінуў Каралявец, утрыманы на пастоях коштам прускага князя. У дарозе каралю данесьлі аб сьмерці наваградзкага кашталяна Копця. А вакансіі (кароль) падзяліў з уласьцівай яму шчодрасьцю наступным чынам: кашталянію аддаў Рудаміну, навагрудзкаму харунжаму. Озу і Пералом — літоўскаму падскарбію, Борцю Мадалінскаму, мсьціслаўскаму войскаму[38]...

27 лютага

Я паехаў шпарка да Вільні, прагна чакаючы дня 1 сакавіка, каб, захапіўшыся камісіяй па карэктуры законаў, не занядбаць прыезду ў Коўна караля і ўнікнуць папроку з боку дваранаў у скупасьці.

28 лютага

Раніцой я ўскочыў у Вільню. Выслаў ганца да віленскага

біскупа да ягонай рэзыдэнцыі ў Верках, запрашаючы яго ў Вільню на наступны дзень, каб, падрыхтаваўшы розумы дэпутатаў да карэктуры, у дзень 1 сакавіка дапамог мне ад‘ехаць у лепшай аўры, што таксама мне ўдалося...

**Месяц сакавік**

7 сакавіка

А восьмай гадзіне настаў уласна пачатак карэктуры, за чатырма сталамі, састаўленымі разам у прамакутнік, накрытымі сукном, каб закрыць голае дрэва. Гэтыя сэнатары былі прызначаныя найперш у пастанове каралём і запісаныя потым ва ўнівэрсалах[39]: біскупы, віленскі і жмудзкі, мсьціслаўскі ваявода, я, літоўскі падканцлеры, літоўскі падскарбі, і духоўны літоўскі рэфэрэндары. З кожнага ваяводзтва і павету было абрана па адным на гэтую функцыю, вось іхныя імёны: зь Віленскага прыслалі Зяновіча, земскага віленскага судзьдзю; з Ашмянскага быў Воўчак, ашмянскі староста; зь Лідзкага Лімант, лідзкі войскі; зь Вількамірскага Сумарок, земскі вількамірскі судзьдзя; з Браслаўскага Тур, земскі браслаўскі падсудак; з Троцкага Нарбут, земскі троцкі пісар; з Горадзенскага Кірдзей, горадзенскі падстолі; з Ковенскага Шукшта, падкаморы гэтага павету; з Упіцкага таксама тамтэйшы падкаморы Белазор; са Жмудзі толькі Грушэўскі, земскі судзьдзя; са Самаленскага Войшка; са Старадубскага Цяльшэўскі, навагрудзкі северскі падстолі; з Полацкага Падбіпята, зь нядаўняга часу там жа земскі пісар; з Навагрудзкага Абрынскі, земскі навагрудзкі судзьдзя; са Слонімскага Трызна, вількамірскі староста; з Ваўкавыскага Аленскі, судзьдзя той жа зямлі; зь Віцебскага Старасельскі, тамтэйшы земскі судзьдзя; з Аршанскага Падбярэскі, які прыбыў таксама як дэпутат на трыбунал; зь Берасьцейскага Сапега, літоўскі харунжы; зь Пінскага Праташэвіч, з Мсьціслаўскага Копаць; зь Менскага Немста, падсудак гэтага павету; з Мазырскага Вольскі; з Рэчыцкага Юдыцкі, маршалак гэтай зямлі[40].

Розум падказаў мне перадаць таксама нашчадкам імёны сэнатараў: віленскі біскуп Война, жмудзкі Тышкевіч, мсьціслаўскі ваявода Кішка, я, які гэта піша, падканцлеры Пац, падскарбі Трызна, рэфэрэндары, брат падскарбія Трызны. Ужо ў гэтым парадку заселі паводле літоўскіх статутаў за сталамі ў роўнай колькасьці асобаў. Папрасіўшы Божае помачы кароткай прамовай, я распачаў нараду. І найперш трэба было вырашыць справу ўпіцкіх выбараў, дзе на ацэнку законаў абралі двух Белазораў[41]. Пастанавілі пакінуць падкаморага,

а як асыстэнта без рашаючага голасу выдзеліць яму яго брата. Мы пагадзіліся на формулу прысягі, але выкананьне яе было адкладзена з прычыны хваробы віленскага біскупа і адсутнасьці некалькіх іншых асобаў. Пасьля такога заканчэньня сэсіі мы, сэнатары, падаліся да караля, а іншыя калегі з карэктуры разышліся.

Лідзкі пасол судзьдзя Кунцэвіч[42] прапанаваў каралю пісьмо шляхоцкага сойміку свайго павету з жаданьнем высьвятленьня ад імя ўсёй Літвы, дзеля чаго ў пастановах мінулага сойму Літву абмінулі пры маскоўскай камісіі. Кароль яго зганіў у пададзеным мною адказе, заявіўшы, што адна лідзкая зямля ня можа сабе ўзурпаваць гонару ўсёй Літвы; у тым, што былі прапушчаныя літоўскія камісары, вінаватыя вашыя паслы, якія занядбалі гэтае ўпісаньне; на будучыню яны не павінны прыпісваць уласную віну некаму іншаму. За гэтую ж кару трэба быць удзячным і каралю.

Прыватна, бязь сьведкаў, уручалі дары каралю віленскія мяшчане, а іхны войт сказаў прамову, узносячы ў пахвалах усеагульны мір, умацаваны стараньнямі караля, мір, які гэтулькі гадоў быў на выгнаньні і быў нарэшце вернуты на радасьць усім, хто яго альбо ніколі яшчэ ня бачыў, альбо, забыўшыся, цяпер пазіраў на яго, як ён напаўняе радасьцю зямлю і неба. Віленскія мяшчане самаахвярна клапаціліся таксама і пра спакой караля, просячы аб захаваньні непарушнымі іх прывілеяў. Прасілі не дарэмна, бо кароль казаў засьведчыць ім праз мяне надзею на сваю ласку...

13 сакавіка

Мы закончылі першы разьдзел статуту карэктуры законаў. Хавалі смаленскую ваяводзіну, схізматычку, Абрагамовічаву[43]; з пункту погляду ветлівасьці трэба было, каб мы ўсе бралі ўдзел у гэтым пахаваньні, аднак каталіцкая дбайнасьць наказала нам павярнуць ад парогу царквы.

14 сакавіка

У згодзе скончылі мы другі разьдзел Літоўскага статуту. Увечары кароль вярнуўся ў Вільню.

15 сакавіка

Канфэдэрацыю дысыдэнтаў у трэцім разьдзеле статуту, якая гарантуе ім бясьпеку, адклалі да дыскусіі на трэці дзень. У гэты ж дзень адбылася таемная нарада, ці прадаставіць жалезны ліст (сальву) Зяновічу, які за свой паядынак у

Варшаве з Сапегам дэкрэтам маршалкоўскага суда быў асуджаны на інфамію[44]...

16 сакавіка

Пальмавая нядзеля страціла пальму цьвярозасьці ў літоўскага рэфэрэндара сярод весялосьці і мноства келіхаў; бо ў пост гасьцям былі паказаныя маскі Бакха, а ўцеха гасьціла пры разьліваньні смачнага панонскага віна[45]...

28 сакавіка

Затрымала нас каралеўскае відовішча, вось ад гадзіны трэцяй да шостай папаўдні тры мядзьведзі змагаліся ў замку з сабакам, падахвочваючы нас да сьмеху, а для зубоў зьвяроў робячы прадмет, годны шарпаньня. З дапамогаю жалеза два мядзьведзі загінулі, трэцяга захавала ў той дзень незвычайная зацятасьць...

**Месяц красавік**

20 красавіка

Я наладзіў вясельле слугі Завішы са служэбніцай маёй жонкі; быў у мяне ўвесь двор. Селі мы за стол рана, пасьля чытаньня казаньня італьянскім капуцынам па імю Магні[46], на якое нас запрасіў на замак каралевіч Казімер. Прапаведнік так моцна жэстыкуляваў, што больш увагі зьвярталі на ягоныя рухі, чым на казаньне. Я, як госьць, узняў гэтулькі келіхаў, менш зь віном, больш зь півам, ледзь дакрануўшыся да ежы, што як ніколі засьмеціў сабе галаву, мне цяжка было выказацца няскладнай мовай. Я ледзьве мог гаварыць. Усе проста пазбыліся цьвярозасьці і ветліва адзін з адным спрачаліся, узьнімаючы вялікія келіхі. Увечары, калі добрая думка выпарылася з галавы, я ўжо цьвяроза закончыў вячэру. Быў на тым вясельлі таксама віленскі ваявода і браў удзел у пачастунку з братэрскім афэктам.

21 красавіка

Увесь гэты дзень я правёў на танцах між новых гасьцей, ужо ўнікаючы піцьця. Аднак былі і такія, што зноў аддаваліся пьянству...

27 красавіка

Пасьля сьвятое імшы[47] я меў кароткую разьвітальную

аўдыенцыю ў караля, хочучы месяц травень прысьвяціць лячэньню і прыватным справам. Кароль таксама вырашыў аддацца раскошам вандроўкі па палёх і паляваньням, мяняючы розныя мясцовасьці паводле свайго ўпадабаньня. У гэты дзень адзначалі праваслаўны Вялікдзень, запозьнены ў дачыненьні да нашага (каталіцкага).

28 красавіка

У справе жмудзкага старасты Валовіча, чалавека сталага веку і знакамітага заслугамі, падалося нас некалькі з просьбай да каралевіча Казімера, каб меў ласку Кобрыньскую эканомію[48], якая ўжо доўгі час заставалася ў руках старасты, пакінуць у яго ўладаньні (ухвалай сойму яна была пажыцьцёва аддадзеная каралевічу) і каб адклікаў пасланых ім такіх суровых рэвізораў, а сівой галаве дазволіў спакойна памерці. Каралевіч неахвотна нас прыняў і адправіў з пагардлівым адказам; мы пасьмейваліся з гэтага ягонага пасьпешлівага суда. Потым, у адпаведнасьці са звычайным цырыманіялам, мы зьявіліся ў караля, дзе ўзьнікла спрэчка пра большае права на Курляндыю паміж ураднікамі Кароны і Літвы. Абмяняўшыся лістамі, з захаваньнем права абодвух народаў, было ўстаноўлена, што ў гэты дзень літоўскія рэфэрэндары і пісары маюць укладваць сэнтэнцыі дэкрэту без прыкладваньня пячаці зь літоўскай Пагоняй. Аднак вечарам (толькі з пунктам, абяцаным у лісьце і, як меркавалі, дабаў-леным каронным падканцлерам, згадзіліся з абодвух бакоў) я параіў яго не падпісваць, што было прынята непрыхільна з боку падканцлера; з гэтага я мусіў правесьці ноч не найлепшым чынам...

## Месяц травень

2 траўня

...Тады ў Коўне здарыўся варты жалю выпадак. У той час там праходзілі старосьцінскія суды. Прыбылі на іх двое родных братоў Івіцкіх, шляхта з Ковенскага павету[49]. Толькі падпілі мёду, паміж імі выбухнула спрэчка за прыслугу. Малодшы, выходзячы з хаты, пхнуў ззаду праз акно брата, уганяючы яму ўсё жалеза ў плечы. Паранены, праткнуты шабляй, упрошваў брата, каб не выцягваў клінка. Забойца ж, ці то не пачуў яго, ці то яшчэ ахоплены гневам, ня выслухаў просьбы паміраючага, выцягнуў жалеза зь ягонага цела, а той адразу ўпаў без жыцьця, выпусьціўшы толькі апошні енк болю. Забойцу адразу схапілі, але горад, абмеркаваўшы справу, за

раскаяньне і на парукі паблажліва выпусьціў яго, аддаючы пад трыбунальскі суд. То быў рэдкі прыклад лагоднасьці, ня варты перайманьня. Бацька, аплакваючы потым страту аднаго сына, з бацькоўскае любові прасіў пакінуць жывым другога...

9 траўня

Мой гайдук, чалавек прыстойных звычаяў, запарушыўшы некалькі галаву гарэлкай, схапіў на Нёмане лодку, хочучы хутчэй за іншых перабрацца на другі бок. Кіруючы ня досыць спрытна, выкінуўся зь яе і даў паглынуць сябе хвалям.

10 траўня

...Пад канец месяца смаленскі ваявода перасьцерагаў мяне ў лісьце аб канцэнтрацыі маскоўскіх войскаў; пра гэта самае ён даручаў таксама данесьці і каралю з боязі перад гэтак часта спазнаванай нявернасьцю няпрыяцеля, які, прадоўжыўшы мір са швэдамі і татарамі і скарыстаўшы раззлаванасьць узбунтаваных запароскіх казакоў пад кіраўніцтвам здрадніка Тараса[50], мог бы задумаць вяртаньне Смаленска. Навіны гэтыя не былі прыемныя; яны дазвалялі толькі пакаштаваць доўга чаканага міру. Потым мы чакалі пацьверджаньня. Але кароль пастанавіў выслаць да Масквы двух менш значных паслоў, аднаго паляка Аборскага, а другога ліцьвіна Куноўскага[51]; яны мелі пакласьці канец спрэчцы пра неўладкаваныя межы, абазнацца ў становішчы ў Маскоўскім княстве і пра ягоныя намеры данесьці каралю. У апошні дзень месяца яны былі азнаёмленыя праз падканцлерых з адпаведнай інструкцыяй, бо мяне тады ў Вільні не было.

**Месяц чэрвень**

У першыя дні месяца я даведаўся зь ліста караля пры пасярэдніцтве рыскага старасты Сапегі[52] пра беспадстаўную трывогу аб маскоўскім войску; я цешыўся мірам.

3 чэрвеня

У Вільні распачала працу камісія, скліканая дзеля ўрэгуляваньня леташняга бунту, скіраванага супраць тамтэйшай сынагогі і жыдоўскіх дамоў. Віленскі ваявода аказаўся няўмольным для мяшчанаў, а падканцлеры таксама ня быў для іх ласкавы; павялічыўшы штраф за нанесеныя шкоды, ён узмацніў апеку над жыдамі. Мяшчане (абапі-

раючыся на даўнія законы), апелявалі да самога караля, што ледзьве з неахвотай было прынята. Мяне таксама віленскія мяшчане заклікалі не без заклінаньняў з боку духавенства. Але, хоць я меў у Коўне як госьця родную сястру, нясьвіскую ігуменьню, што мяне ўстрымала ад адʻезду, аднак пераважылі публічныя просьбы, бо 17-га гэтага месяца зноў мусіла распачаць сваю працу камісія, а кароль ужо 8-га бяз звыклых цырымоніяў вярнуўся ў Вільню...

15 чэрвеня

Не зьвяртаючы ўвагі на сьпёку, што лілася зь неба, ня літуючы коней, замучыўшы слабы пол, і духоўны, і сьвецкі, я прыехаў у Вільню ці не апоўначы. Найперш праводзіў манашак і толькі потым падаўся дадому. Не натрапіў ні на кога цьвярозага, бо колькі праходзіла па вуліцах, гэтулькі спаткаў я вясёлых і падпітых разбойнікаў.

16 чэрвеня

Зьявіўшыся перад каралём, я адразу, без затрымкі і адпачынку, узяўся за наладжваньне згоды паміж мяшчанамі ды жыдамі. Кароль, прымаючы рашэньне аб згодзе, сваёй павагай схіляўся на бок жыдоў; я хацеў прывесьці гэтую дамову ў выкананьне.

17 чэрвеня

Я быў заняты наведваньнем многіх асобаў. Зьявіўся я таксама ў новага папескага легата Філянардзі, уладальніка доўгага носа...

22 чэрвеня

Судзілі перад каралём аднаго дэпутата да трыбуналу, абвінавачанага ў згвалтаваньні паненкі. Маршалак дамагаўся кары; адданьне належнага трыбунальскай пасадзе (падсуднага) і павага да яе ўлагодзілі справу...

25 чэрвеня

Віленскі ваявода ў прысутнасьці караля звольніў ад сваёй апекі пляменьніка Багуслава Радзівіла, якому скончылася 17 гадоў; найперш ён атрымаў нашую братэрскую згодную думку. Увечары з аказіі згоды мяшчанаў з жыдамі сышліся ў маім доме госьці; да позьняе ночы заставаліся ў мяне

паяднальнікі на вясёлым пачастунку.

26 чэрвеня

Кароль, пакляўшыся адпомсьціць мядзьведзям, палюючы на працягу двух дзён, забіў іх сем, вызваляючы такім чынам сялянаў ад неспакою перад гэтым зверам...

**Месяц ліпень**

3 ліпеня

Была скліканая таемная нарада, бо гетман Канецпольскі паведаміў лістом каралю пра бунт татарскага хана супраць туркаў; гетман ня ўтойваў, што татары хочуць уцячы пад апеку караля. Пастанавілі дзейнічаць асьцярожна: няхай кароль хутчэй за ўсё прыкідваецца, што прымае падданства гэтых варвараў, а казакоў пасылае ім на падмогу, са згоды гетмана, але так, быццам кароль пра гэта нічога ня ведаў.

5 ліпеня

У касьцёле Сьвятога Яна адбылася прамоцыя каралеўскага прапаведніка з Таварыства Ісуса, Сарбеўскага, на доктара тэалёгіі[53]. У касьцёле прысутнічаў кароль, нунцы і ўсе, абавязкам якіх было суправаджаць двор. Музыка, падзеленая на чатыры хоры, соладка гучала па ўсім касьцёле. Кароль ахвяраваў доктару пярсьцёнак з сапфірам, які адзеў яму на палец рэгент Гембіцкі. Сам жа дактарант зьдзівіў аўдыторыю пекнай прамовай на рэдка сустраканай, гэтак выкшталцонай лаціне. Мяркую, што нічога больш нельга было б патрабаваць, бо ў ёй праявілася яго найвышэйшая амбіцыя дагаджэньня ўсім, каб у прысутнасьці ўсяго двара і гэтулькіх сабраных асобаў гэтая цырымонія атрымалася найшыкоўнейшая. Потым кароль наведаў калегію, (дзе) разам з каралеўнай яны захапляліся прыгажосьцю саду і былі пачаставаныя келіхам віна...

19 ліпеня

...У гэты час трыбунальскія судзьдзі прыгаварылі да пакараньня сьмерцю праз адсячэньне галавы братазабойцу Быкоўскага (бо ў часе сну ён забіў брата жалезным абушком, асуджаючы яго (такім чынам) на вечны сон).

Я, згодна з пастановай 1635 года[54], дзеля таго каб дагадзіць айцам Таварыства Ісуса, пацьвердзіў у трыбунале

пінскую фундацыю.

20 ліпеня

У сваім маёнтку ў Чарнаўчыцах[55] памёр мой стрыечны брат, віленскі кашталян Радзівіл; пакінуў тры дачушкі і жонку з роду Зяновічаў.

**Месяц жнівень**

14 жніўня

У гэты дзень адбылося перанясеньне астанкаў Сьвятога Казімера[56] у капліцу, узьведзеную зь італьянскага мармуру, дзякуючы шчодрасьці караля Жыгімонта III і завершанай цяперашнім каралём Уладзіславам. Ход гэтай урачыстасьці быў такі. Напярэдадні пасярод касьцёлу быў пастаўлены катафалк. Перад вячэрняй канонікі на сваіх плячох вынесьлі астанкі з гаштольдаўскай капліцы[57] (мы, каронныя літоўскія ўраднікі, таксама ім дапамагалі) і зьмясьцілі іх на катафалку; музыка, якая дагэтуль маўчала, у часе ўрачыстасьці пекна падыгрывала. Потым была адпраўленая звычайная вячэрня. Труну Сьвятога Казімера прыаздобіла з сваёй набожнасьці каралеўна, укрываючы яе саванам, тканым залатымі кветкамі; не бракавала там дарагіх камянёў і пярсьцёнкаў.

Раніцой каралеўна разам з дваром была на сьпяванай імшы і на пекным казаньні. Каля гадзіны трэцяй апоўдні кароль, ня могучы хадзіць з прычыны падагры, загадаў насіць сябе на крэсьле сваім шляхоцкім дваранам, якія мяняліся з прычыны цяжару.

Перш чым распачалася працэсія, каралеўскі прапаведнік з Таварыства Ісуса Сарбеўскі, аздоблены доктарскай мантыяй, вымавіў з амбону казаньне на лацінскай мове, уключыўшы ў яе панегірык, адпавядаючы сьвятасьці Казімера, такі пекны, што ніхто з дваранаў не адважыўся б на гэта, а многія казалі, што яго выкшталцонай лацінскай мове ня трэба было нават аздобы доктарскай мантыяй, бо і без яе можна было б яе прыпісаць доктару, і не рабілі гэта толькі зь ветлівасьці. Калі працэсія пачала рух, неба, зацягнутае цёмнымі хмарамі, пагражала дажджом на радасьць герэтыкам і схізматыкам, а мы маліліся, каб яно накшталт балдахіну прыкрыла і хавала нас сваім ценем ад скavару сьпякотнага дня. Гэтак і сталася, многія меркавалі, што адбылося гэта проста цудоўным чынам. Ва ўрачыстасьцях узяло ўдзел шмат іншаверцаў, і тлумачылі яны гэта тым, што аказваюць гонар не сьвятому, а астанкам літоўскага князя...

## Месяц верасень

9 верасьня

Дабіўшыся ў караля новай разьвітальнай аўдыенцыі, а гадзіне другой апоўдні, бо і кароль зьбіраўся да Горадні, літоўскі рэфэрэндары Трызна наладзіў банкет для літоўскіх сэнатараў. Я адмовіўся, спасылаючыся на каралеўскія справы. Так ахвотна на гэтым банкеце лілося ў горлы віно, што неўзабаве добра падпітыя зьявіліся ў караля. Тым часам надышлі лісты ад паслоў, выпраўленых у Маскву[58], і таму адразу была скліканая таемная нарада. Толькі маршалак Апалінскі і я засталіся вартавымі ўстрыманьня, астатнім напой зрабіў целы непаслухмянымі. Узьніклі сумненьні ў гэтай нарадзе. Віленскі ваявода, як заўсёды гаваркі, хацеў аказацца яшчэ больш гаваркім, бо адчуваў, што яго абразіў каронны падканцлеры, адабраўшы голас у маскоўскіх справах. Бо дагэтуль толькі літоўскія саноўнікі давалі адказы і ўносілі прапановы ў гэтых справах. Ваявода пачаў бессаромна нападаць на падканцлера. А перад гэтым смаленскі ваявода ў сваім выступе даў аказію віленскаму ваяводу на ўзвышэньне (як звычайна бывае з самых нязначных прычынаў і робіцца дрэнным тлумачальнікам нават лагоднасьці). Віленскі ваявода ўжо хацеў узарвацца адказам смаленскаму, але маршалак не дапусьціў зрыву далейшых выступаў. У гэты час падышоў віленскі біскуп, таксама нападпітку, і пачаў скардзіцца на дзёрзкасьць палякаў і ўціск літоўскіх правоў, выходзячы за межы прапазыцыі.

Пасьля выступаў сэнатараў кароль выказаўся сам і, усхапіўшыся, сказаў сябе несьці сваім дваранам. Віленскі ваявода стараўся затрымаць караля і прасіў маршалка аб прадастаўленьні яму абяцанага голасу. Але маршалак, абураны праяўленьнем браку павагі да караля, адклаў выступ ваяводы да іншага часу і, спасылаючыся на адыход караля, абвесьціў, што цяпер тут ня месца для гэтых справаў. У гэтым прычына нязгоды. Кароль і мы былі перакананыя, што, калі б далі слова ваяводу, дайшло б да яшчэ большай нянавісьці да смаленскага ваяводы; вось чаму кароль, пайшоўшы на хітрасьць, палічыў за лепшае зьнікнуць. Уся фурыя гневу ваяводы скіравалася цяпер на маршалка: “Будучы сойм разьбярэцца, ці можна пазбаўляць права голасу віленскага ваяводу. Ужо палякі глумяцца над намі, ліцьвінамі, у самой Літве і нават хочуць нас заняволіць; Радзівіл нічога ня мае да Апалінскага, але ваявода хоча разабрацца з маршалкам, захоўваючы непарушнай дружбу. Няхай сарвецца сойм, і

нават не раз, але няхай будзе ўшанаваная сэнатарская годнасьць, мы ня можам страціць вольнасьці. Літва ніколі не падпарадкуецца дэспатычнай уладзе". Ваявода голасна выкрыкваў па дарозе да касьцёлу, на што маршалак, ужо адказаўшы, ухіляўся ад размовы маўчаньнем. Сын ваяводы, літоўскі падканцлеры, з запалам сваёй юначай крыві, будучы падмацаваным яшчэ агнём Цэрэры[59], не шкадаваў языка і крычаў да караля, аб'яўляючы вайну палякам, што літоўскі народ ня можа ўжо далей зносіць гэтае пагарды, выказанай яму гэтулькі разоў. Надыдзе час, калі не празь дзьверы, але і праз вокны мы будзем іх выкідваць. І выказваў яшчэ іншыя рэчы, што цьвярозыя, паводзячы плячыма, зь цяжкасьцю зносілі. Толькі калі ўсе ўвайшлі ў касьцёл, скончыліся гэтыя крыкі адносна каралеўскае годнасьці...

---

[1] Бл. Ладыслаў з Гяльнёва, памёр у 1505, бэрнардын, прапаведнік і вершатворац, дзейнічаў таксама на тэрыторыі Варшавы, прызнаны яе патронам.

[2] Пётр Вяжэвіч.

[3] Гаворка пра мірныя перамовы са Швэцыяй.

[4] У Польшчы ў XVII ст. увайшло ў звычай, што магнаты, абдораныя даходнымі пасадамі, аддзячвалі каралю грашыма або іншымі дарамі.

[5] Гальшаны, места на паўднёвы ўсход ад Вільні, у Віленскім ваяводзтве.

[6] Ян Анзэльм Вільчак.

[7] Камянец Літоўскі, места над Лясной у Берасьцейскім ваяводзтве, на паўночны ўсход ад Берасьця.

[8] Трышкі, цяпер Трышкяй, места над Вырвіце каля Шавеляў (цяпер Шаўляй) на Жмудзі. Войцех Важынскі.

[9] Цельшы, цяпер Цяльшай, места на Жмудзі.

[10] Белавежа, места ў Берасьцейскім ваяводзтве, на поўнач ад Берасьця. Белавескае лясьніцтва атрымаў Ян Дэнгоф.

[11] Васілішкі, места над Цечай або Думай каля Ліды, у Віленскім ваяводзтве. Напэўна, Ежы Панятоўскі (Юры Панятоўскі)?

[12] Гомель, места над Сожам у Менскім ваяводзтве.

[13] Канстанцін Воўк, казацкі палкоўнік.

[14] Юрбарк, цяпер Юрбаркас, места над Нёманам, у Жмудзкім княстве.

[15] Горадня над Нёманам, у Троцкім ваяводзтве.

[16] Нёман.

[17] Напэўна, жмудзкім суфраганам быў Ян Вышамірскі... Мафусаіл,

патрыярх, сын Яноха з пакаленьня Сіфа, паводле Бібліі пражыў 969 гадоў.

[18] Надзвычайны сойм у Варшаве (21.XI—9.XII.1635) меў доўжыцца толькі два тыдні, звычайны доўжыўся, як правіла, шэсьць.

[19] Целяпнёў.

[20] Вэндэн, або Кесь, зараз Цэсіс у Латвіі, над р. Гаўяй.

[21] Астрог, места над Гарыньню ў Валынскім ваяводзтве. Бэнэдыкт Мольлі, ордэнскі архітэктар, прыбыў з Рыма ў 1624 г., збудаваў езуіцкія касьцёл і калегію, працаваў таксама на Варшаўскім замку.

[22] Ян Казімер ваяваў тады як цэсарскі палкоўнік на француска-нямецкім пагранiччы.

[23] Ахат, прыяцель Энея.

[24] Павал Стэфан Сапега, літоўскі падканцлеры, памёр летам 1635г.

[25] У 1633г. памёр Леў Сапега, віленскі ваявода і вялікі літоўскі гетман, а ў 1635г. — Ян Станіслаў Сапега, вялікі літоўскі маршалак. Алюзія да Пагоні, гербу Літвы.

[26] Аўтар тут гаворыць пра Лева і Паўла Стэфана Сапегаў, апускае Яна Станіслава, як кранутага памутненьнем розуму.

[27] Публі Вэргілі Мара. Буколіка (эклёга) IX, в. 28.

[28] З 1569г. Інфлянты былі супольнай уласнасьцю Кароны і Літвы.

[29] Гаворка пра марскую пошліну, якую зьбіраў прускі князь у Кляйпэдзе.

[30] Кампінас, вёска на захад ад Варшавы ў Сахачаўскім павеце, Раўскім ваяводзтве; Казунь, места на паўночны захад ад Варшавы, у Закрачымскім павеце, Мазавецкім ваяводзтве.

[31] Верагодна, цяперашняя частка Варшавы Воля.

[32] Іван Суліма, казацкі гетман, вядомы па шматлікіх паходах супраць татараў. За бунт быў злоўлены і пакараны сьмерцю ў 1635г. у Варшаве. Пры заступніцтве Тамаша Замойскага быў выпушчаны Павал Міхневіч Паўлюк, будучы кіраўнік бунту казакоў у 1637 годзе.

[33] Асман II (1618—1622) і Амурат IV (1623—1640).

[34] Дняпро.

[35] Жан дэ Марыён, першы камэндант Кудака.

[36] Папеж Павал V (1605—1621).

[37] Адам Крыцкі.

[38] Оза, пазьней Ачакаў, горад на беразе Дняпроўскага лiману, на паўночны ўсход ад Адэсы, цяпер — раённы цэнтар Мікалаеўскай вобласьці Украіны. Пералом, вёска над Нёманам, 25 км ад Горадні, Гожа, места над Нёманам, на поўнач ад Горадні, у Троцкім ваяводзтве. Борці, каралеўскі маёнтак у Лідзкім павеце, Віленскае ваяводзтва, Якуб Кароль Мадалінскі, мсьціслаўскі войскі.

[39] Гл. пастанову каранацыйнага сойму 1633г. Карэктура законаў у Вялікім Княстве Літоўскім.

[40] Ян Ежы (Юры) Зяновіч, Ян Анзэльм Вільчак, Мікалай Лімант, Раман Сумарок. Верагодна, Еранім Тур. Ян Даўгяла Нарбут. Уладзіслаў Кірдзей. Крыштап Шукшта. Габрыэль Белазор. Ежы (Юры) Гружэўскі (Грушэўскі). Крыштап Цяльшэўскі. Ян Падбіпята. Андрэй Абрынскі. Мікалай Трызна. Крыштап Аленскі. Самуэль Старасельскі. Мікалай Сапега. Самуэль Немста. Грыгоры Юдыцкі. Не ўдалося ўстанавіць імёнаў Падберскага

(Падбярэскага), Праташэвіча, Копця ды Вольскага.

[41] Габрыэль Белазор, упіцкі падкаморы. Крыштап Белазор, упіцкі маршалак.

[42] Якуб Тодар Кунцэвіч.

[43] Ганна Дарота з Валовічаў, жонка Яна Абрамовіча, або Абрагамовіча, смаленскага ваяводы, які памёр у 1602г.

[44] Ежы (Юры) Зяновіч, опсаўскі стараста, і Тамаш Сапега, наваградзкі ваяводзіч, учынілі між сабою паядынак 21.IV.1632.

[45] Панонія, край на правым беразе Дуная, займае частку Вугоршчыны і Аўстрыі; тут гаворка пра вугорскае віно.

[46] Максымілян Магні (1585—1661), капуцын з касьцельным імем Валерыян; аўтар палемічных тэалягічных твораў, прэфэкт Апостальскае Місіі ў Польшчы, цэсарскі дыплямат.

[47] Гэта была нядзеля.

[48] Кобрынь, места над Мухаўцом, у Берасьцейскім ваяводзтве, на ўсход ад Берасьця.

[49] Івіцкія гербу Папрыца, альбо Кучаба. Нясецкі, Банецкі і Урускі ня ведаюць гэтых братоў.

[50] Федаровіч Тарас, казацкі атаман, вядомы з войнаў з гетманам Станіславам Канецпольскім у 1630 пад Пераяславам (“ноч Тарасова” I.6.1630).

[51] Януш Аборскі і Ян Куноўскі.

[52] Андрэй Станіслаў Сапега.

[53] Мацей Казімер Сарбеўскі (1595—1640), езуіт, паэт, прыдворны прапаведнік Уладзіслава IV у 1635—1640, увянчаны лаўрам паэтаў у Рыме ў 1623г. папежам Урбанам VIII.

[54] Volumina legum, т.III. С.871. Пінская Калегія Таварыства Ісуса.

[55] Чарнаўчыцы, места на поўнач ад Берасьця, у Берасьцейскім ваяводзтве, маёнтак нясьвіскіх Радзівілаў.

[56] Сьвяты Казімер (1458—1484), другі сын Казімера Ягелончыка і Эльжбеты Ракушанкі, кананізаваны ў 1602 годзе.

[57] Гаштольдаўскую капліцу ў віленскай катэдры ўфундаваў Альбрыхт Гаштольд (памёр у 1539), віленскі ваявода і вялікі літоўскі канцлер.

[58] Паслы ў Маскву: Януш Аборскі ды Ян Куноўскі.

[59] Цэрэра, рымскае боства вэгетацыі, якое атаясамлівалася з грэцкай Дэмэтрай, багіня збожжа, пасеваў і ворнай зямлі; тут алюзія да віна.

**Пераклад і публікацыя**
**Уладзімера СЬВЯЖЫНСКАГА.**

Аўтар выказвае падзяку прафэсару **Уладзімеру Сакалоўскаму** за прадастаўленьне крыніцы для гэтай публікацыі.

Стэфанія АНДРУСІЎ

# СТРАХ ПЕРАД МОВАЮ ЯК ПСЫХАКОМПЛЕКС СУЧАСНАГА ЎКРАІНЦА

Страх — сталы спадарожнік чалавека ад нараджэння й да сьмерці. Падстава да страху залежыць ад нашага самапачуцьця ў сьвеце, пэўнасьці ці няпэўнасьці ў сабе, псыхалягічнай абароненасьці нашае (калектыўнай ці індывідуальнай) самасьці ды собасьці, даверу ці недаверу да сьвету, людзей ды акалічнасьцяў — карацей, ад стану й функцыянаваньня экзыстэнцыйных структураў асобы, якія, пераважна прыкрытыя вышэйшымі ўзроўнямі — сацыяльнага характару ды сацыяльных роляў, — у экстрэмальных, памежных становішчах раптоўна агольваюцца і выяўляюць чалавеку й сьвету касьцяк, асновы быцьця.

Псыхалягічная сытуацыя страху, афэкт страху — гэта псыхафізыялягічны стан, што выяўляецца як нутраное напружаньне, здранцьвеньне цела й душы, паралюш мускулаў ды волі, трымценьне, “мурашкі”, інтэнсыўнае потавылучэньне, сьцісьнены подых, страта мовы — зьняменьне, а таксама мажлівае маторнае суправаджэньне: інстынктыўнае прыкрываньне аблічча рукамі, намаганьне ўцячы і да т.п.

Псыхічны й фізычны малюнак стану страху, ягоная дэталізацыя ды інтэнсіўнасьць залежаць ад тыпу страху, сярод якіх найгалоўныя — тры: страх рэальны, страх экзыстэн-цыйны і страх нэўратычны. Хваравітым, псыхапатычным тыпам страху ёсьць, безумоўна, толькі трэці, хоць і першыя два ў пэўных акалічнасьцях могуць перарастаць у хваравіты. Стрыжнем тыпалягічнай структуры страху зьяўляецца экзыстэнцыйны страх. Зрэшты, ён зьяўляецца “будаўнічым матар’ялам” для ўсіх іншых відаў страху; нармалёва ён выяўляецца як інстынкт самазахаваньня, гатовасьць да самаабароны ў рэальным тыпе страху, як рэакцыя на рэальную небясьпеку з рэальным аб’ектам, а пры псыха-траўмах і фіксацыі на іх — нэўратычны страх — разнастайныя фобіі, нэўрозы ды псыхакомплексы.

Сытуацыю страху спараджае ўжо сама экзыстэнцыя

чалавека ў сьвеце, ягонае раздваеньне: чалавек належыць да прыроды і не належыць, бо ёсьць адзінаю часткай прыроды, якая ўсьведамляе жах свайго існаваньня, непазьбежнасьць уласнае сьмерці. Людзкая сьвядомасьць зрабіла чалавека самотным у сьвеце, а самота спарадзіла страх існаваньня й страх сьмерці. Гэты страх філёзафы-экзыстэнцыялісты называюць трывогай, нудой, тугою, клопатам. Экзыстэн-цыйны страх неаддзельны ад чалавека, безь яго асоба была б асуджана на расьліннае, пазалюдзкае гібеньне. Імкненьне да страху, неабходнасьць страху, нават перад самім сабой — ажно да дэструктыўнага характару, як напрыклад: вось яміна — чаму б у яе ня скочыць? — мае экзыстэнцыйны сэнс. Страх, трывога, туга, нуда спараджаюць пачуцьцё ўласнае немачы, нікчэмнасьці, прыгнечанасьць, наступны этап — чыннасьць, пратэст супроць іх, шырокі выбар варыянтаў працідзеі, паводзінаў. Лічыцца, што гісторыя чалавека ў сьвеце, а значыць і ягонага страху пачалася з моманту яго першага выбару — зрываць ці не зрываць забаронены плод, выбіраць ці не выбіраць свабоду. Чалавек выбраў свабоду і быў выгнаны з раю, дзе за яго выбіраў Бог. Ён зрабіўся вольны, самотны і... ахоплены страхам.

Ёсьць розныя ўзроставыя пэрыяды экзыстэнцыйнага страху: страх нараджэньня (сьцісьнены подых, асьфіксія, сьмерць-нараджэньне) — правобраз усіх наступных страхаў; страх у раньнім дзяцінстве — боязь страціць аб’ект любові; страх пакладаньня крыху пазьней, але таксама ў дзіцячым веку; страх перад бацькоўскім аўтарытэтам у падлеткавым узросьце, што ў дарослым аформіцца як страх сумленьня, кантраляваны ўласным Супэр-Я; страх існаваньня (як страх самоты, сьмерці і да т.п.).

У структуры людзкае псыхікі, што складаецца зь Я (сьвядомасьць) — Яно (несьвядомае) — Супэр-Я (надсьвядомае), менавіта інстанцыя Я зьяўляецца прадуцэнтам страху, але тыпы страху залежаць ад стасункаў Я зь іншымі паверхамі структуры чалавечай асобы: страх рэальны — ад стасункаў з вонкавым сьветам, страх сумленьня — стасункаў Я й Супэр-Я, страх нэўратычны — ад стасункаў Я зь Яно, індывідуальным несьвядомым, а экзыстэнцыйны — ад стасункаў Я з архетыповымі пластамі калектыўнага несьвядомага.

Украінскія комплексы, сярод якіх найбольш красамоўным, яскравым ёсьць страх перад роднаю мовай, фармаваліся доўга й на розных узроўнях псыхікі. Найперш гэта страх нараджэньня, якое ніяк ня можа скончыцца, — пера-тварэньня этнасу ў нацыю, страх перад неабходнасьцю нараджэньня, палахлівае нежаданьне нарадзіцца, намаганьне застацца ў матчыным (этнічным) улоньні — штосьці накшталт

алегарычнай постаці Дна ў капэле Мэдычы ў Флярэнцыі Мікелянджэлё: творца выбівае яе з каменнае брылы, а яна нібыта хоча застацца каменем. Гэта выяўляецца ў моўнай “шапялявасьці” шматлікіх украінскіх моўнікаў розных адукацыйных узроўняў. Мусіць, аніхто з моўнікаў, пры-кладам, на тэлеэкране (найпрыступная ілюстрацыя), ня мае такога нутранога канфлікту з моваю, як украінскі, што вонкава выліваецца ў непрыхаваны афэкт страху. І гэта — ад вядомых штатных супрацоўнікаў дзяржаўнага тэлебачаньня да выпадковага мінака на вуліцы, “злоўленага” для інтэрвію.

Страх украінца перад уласнаю мовай фармаваўся шматгадовым страхам быць украінцам, найістотнейшай і найкрамольнейшай прыкметай якога лічылася злачынная й шкодная мова — настолькі, што яе трэ’ было забараняць яўна загадамі ці няяўна праграмамі яе зьнішчэньня, асабліва ў XX ст., якое і ў сусьветным маштабе было стагодзьдзем генэраваньня, пашырэньня й прышчапленьня страху. Гэтае стагодзьдзе спарадзіла два царствы страху — гітлераўскую Нямеччыну й Савецкі Саюз. Хіба што Нямеччына сеяла страх пераважна па-за ўласнымі межамі, а Савецкі Саюз культываваў яго й на ўласных абшарах. Найвялікшая канцэнтрацыя страху была на тэрыторыях з найбольшай патэнцыяй сэпаратызму. Усім вядомы лёс Украіны ў XX ст.: атручаная страхам, зьнішчаная страхам — “страшная” зямля. І татальнае зьняменьне — страта мовы — ад страху. І сапраўды:

| | |
|---|---|
| Неначе люди подуріли, | Няйначай людзі падурэлі, |
| Німі на панщину ідуть | На паншчыну нямыя йдуць |
| І діточок своіх ведуть!.. | І дзетачак сваіх вядуць!.. |

Таксама нямых.

Гэтае генэраваньне страху, кіраваньне людзьмі з дапамогаю страху, маніпуляваньне сьвядомасьцю праз страх, а ў моўнай палітыцы — дзяржаўная ўстаноўка на паступовае зьнішчэньне ўкраінскае мовы, кантроль за ейнай структурай, лексычным складам (сьпісы забароненых “нацыяналістычных” словаў, слоўнікі й правапісы, скіраваныя на русыфікацыю) — ператварылі рэальны страх у нэўратычны — у нэўрозы страху, комплексы страху ўкраінца перад сваёй мовай.

Усё гэта адбывалася на тле камунізацыі мовы наагул, у тым ліку нават “человеческой” — расейскай. Аніякі рэжым не бярог так сваёй манаполіі на слова, як камуністычны. І ніякаму не ўдалося ў такой ступені авалодаць мовай ды прыстасаваць яе да сваёй мэты. А мэта — падпарадкаваньне чалавека ня

толькі фізычнае, але й псыхічнае з дапамогаю страху й мовы: ейнай уніфікацыі, абмежаваньня лексычнага запасу, скасаваньня “залішніх”, “шкодных” словаў (ня будзе пратэсту, выбуху, калі ня будзе словаў, якімі яны афармля-юцца-думаюцца, бо няможна думаць пра штосьць, што ня мае найменьня), перавага вайсковай ды ваеннай лексыкі (“бой” за ўраджай, посьпех, мір, выхаваньне моладзі ў духу, за прагрэс і г.д.), выпустошваньне сэнсу, спрашчэньне ўсіх моўных формаў і працэсу маўленьня да магічных замоваў, іх рытуальнае паўтарэньне, што дзейнічала як масавы гіпноз.

Апроч таго, такая моўная палітыка была й важным спосабам дэпэрсаналізацыі, дэіндывідуалізацыі сьвядомасьці, выхаваньня гомасавэтыкуса. Толькі чалавеку ўласьціва ўсьведамляць існаваньне ўласнага “Я” ў сьвеце, а савецкі валапюк (навамова, драўляная мова і да т.п.) замінае йснаваньню гэтага “Я”, паслабляе ці ліквідуе яго, і пры гэтым навязвае замест яго “Мы”, што замацоўвае ў мове абмежаваньне ролі індывідуальнага ў пазамоўнай чыннасьці на карысьць калектыўнага, зьяднанага ідэалёгіяй і падпарадкаванага ёй. “Мы” як зьяднаная станоўчымі вартасьцямі супольнасьць процістаўляецца адмоўна афарбаванай супольнасьці “Яны” (капіталісты, рэакцыйныя сілы й да т.п.). Апазыцыя Мы/Яны, што па-маніхейску дзяліла сьвет на дабро (усё “наша”) і ліха (усё “нянаша”), расколвала яго й прасторава на дыхтамію Тут/Там, што таксама бязьмежна звужала сьвет мовы. Малаўжыванае “Я” значыла, што настолькі ж малаўжываным было ў тэкстах навамовы “Ты” — г.зн. дыялёг сам па сабе. “Мы” было зацішкам, утульным жытлом для абяздоленых, дэпэрса-налізаваных людзей, і чым цяплейшай была атмасфэра ў сьценах “Мы”, тым больш нянавіснымі выглядалі “Яны”. А таму як “Яны” былі ня толькі за акіянам, але й сярод “Нас”, то кожны мусіў баяцца любой датычнасьці да “Іх”. Гэты рэальны страх (кожны мог быць зарыштаваны за гэта й расстраляны) дзякуючы саёй татальнасьці й незваротнасьці хутка ператварыўся ў нэўратычны, таксычны страх. Гэты ўсеагульны бясконцы антыкарнавал, квазікарнавал — жыцьцё навыварат, дзе ўсе грамадзяне былі ўдзельнікамі, усе маглі быць адначасна судзьдзямі й падсуднымі, ахвярамі й катамі, увесь час мяняцца месцамі й перамяшчацца пры гэтым зьверху ўніз ды зьнізу ўверх, зьмяняць адзеньне й ролі, дзе ўсе нормы звычайнага жыцьця былі адмененыя (любоў бацькоў да дзяцей і дзяцей да бацькоў, да роднага), дзе панавалі фамільярныя стасункі (парткамы разьбіралі падзеі прыватнага жыцьця), карнавальныя блюзьнерствы (супроць Бога, Царквы, радзімы), паліваньне брудам, высьмейваньне аўтарытэтаў (ворагаў

народу, капіталістаў), карнавальнае самазванства (бацька народаў, СССР — апора міру, пралетарскія ды сялянскія — сын беднага селяніна — біяграфіі ў індывідуальным маштабе), пляц, дзе народны “хор” заўжды гатовы радасна маршаваць, крычаць “ура”, паслухмяна сьмяяцца, дэманструючы формулу “жить стало веселей”, — слугаваў не праектыўнай разрадцы, зьліквідаваньню псыхічнай напружанасьці, а наадварот — ейнаму нагрувашчваньню, стварэньню атмасфэры масавага псыхозу й гістэрыі страху. І гэта, замацаванае, падпарадкаванае шокавай сілаю ў несьвядомым, на ўсіх паверхах псыхічнай структуры, застанецца там надоўга. Лягчэй зьмяніць уладу, ніж псыхалёгію гомаса-вэтыкуса ды яе вэрбальнае выяўленьне, як і страх гомаса-вэтыкуса перад мовай. Гэты страх (не сказаць залішняга, каб не падслухалі й не данесьлі) ва ўкраінцаў быў падвойны, бо страшна было размаўляць менавіта ўкраінскай — буржуазна-нацыяналістычнай моваю, што было раўназначна да прыналежнасьці да “Яны”, а значыць страху страціць зацішак “Мы”. Менавіта ўсё ўкраінскае ў шматгадовым камуністычным квазікарнавале заўжды высьмейвалася, разьвенчвалася, заўсёды знаходзілася ўнізе (праўда, згодна з законамі жанру, тое-сёе з палітычных меркаваньняў уздымалася ўверх, увенчвалася, напрыклад, вышыванка ў Постышава ці Хрушчова, дні ўкраінскай культуры ў Маскве і да т.п.), добра сплянаваныя карнавальныя блюзьнерствы былі скіраваныя супраць гісторыі, Царквы, традыцыяў, культуры, мовы — усяго, што было зьнітавана з нацыянальнай самасьвядомасьцю. Самазванства й пераапрананьне ва ўкраінскім карнавальным варыянце — гэта перадусім пераапрананьне ўкраінскай гісторыі ў расейскія шаты (поўнае прысабечваньне гісторыі Кіеўскай Русі), ператварэньне ўкраінскіх культурных дзеячоў у расейскіх, а тое, што не паддавалася пераапрананьню-пераніцоўцы, — у блазенскія каўпакі ці брудныя адзежыны здрадніцтва. І пакораны ўкраінскі “хор”, прарэджаны судовымі працэсамі, адстрэламі, голадам, высяленьнямі, суправаджаў гэтую дзею на пляцах украінскімі скокамі ў народных строях (нават у чарно-быльскім траўні), але зносіўся ў пераважнай масе ўжо на “общепонятном”. Дый расейская ва ўкраінскіх вуснах ня ёсьць зусім расейскаю, хіба няправільнай, карнавальна пераапранутаю моваю.

Украінец, як Эдып, забіў свайго бацьку — сваю самасьць, мову, і вяртаецца яна да яго хіба ў песьні за сталом ці, як у героя навэлы Ю.Шчарбака, у перадсьмяротным трызьненьні. Але забіў ён і дар мовы. Новай, прыбранаю, замест забітай у сабе роднаю моваю ўкраінцы яшчэ могуць зносіцца між

сабой, выяўляць сваю агрэсію, але ня могуць тварыць (сьведчаньне таму, напрыклад, расейскамоўныя фільмы кінастудыі імя Даўжэнкі). І роднаю таксама: паміж ягонай сьвядомасьцю й архетыповымі, творчымі пластамі стаіць Эдыпаў комплекс — пачуцьцё віны, нянавісьць да сябе, што звонку выяўляецца як нянавісьць да мовы, страх перад мовай ды іншыя дэструктыўныя пачуцьці, якія псыхолягі называюць сындромам раскладаньня. Даўнія комплексы малавартасьці, выкліканыя зьняцэненьнем, разьвенчаньнем усяго ўкраінскага на працягу доўгага часу, адсутнасьцю ў аўтарытэтных інстанцыяў любові да нас і бракам любові да сябе ў нас саміх, памножаныя на сыстэматычную антыўкраінскую прапаганду ва Ўкраіне, на правалы нашай дзяржавы ў палітыцы й асабліва эканоміцы; татальнае зьбядненьне, інфляцыя нашых карнавальных грошай, што абавязкова суправаджаецца й інфляцыяй нашага патрыятызму, расчараваньнем і разгубленасьцю, перашкаджаюць узьняць прэстыж украінскае мовы, зьліквідаваць страх перад мовай ва ўкраінскай дзяр-жаве. Нават цяпер у незалежнай Украіне наша мова залежная: залежная ад далейшага прышчэплiваньня расейскай, ад нашага страху перад ёй і за яе.

Страх перад роднаю мовай маюць ня толькі тыя ўкраінцы, што адракліся ад яе, забіўшы ў сабе, але й тыя, хто зьберог яе ў сваіх сем’ях, у штодзённай вэрбальнай практыцы. Украінцы й надалей баяцца за сваю мову, баяцца таго, што фарсавана навязаная расейская паглыне яе — гэтак маці баіцца за сваё хворае дзіця, параджаючы сваёй любоўю й страхам комплексы і ў сябе, і ў дзіцяці.

Сьмерць мовы ў сьвядомасьці адной катэгорыі ўкраінцаў ці сталая пагроза яе сьмерці ў іншай парадзілі ў іх сындром безбацькоўства, сіроцтва і... сіроцкую мову: сірата гаворыць ціха, занадта ціха, сірата пачцівы й прыстойны, мае сьціплыя патрэбы, прэтэндуе на надта малую плошчу (у кутку, каля дзьвярэй), пакутуе праз пачуцьцё свае залішнасьці, другаснасьці ды безабароннасьці ў сьвеце, а сіроты-ўкраінцы — яшчэ і з праблемы ідэнтыфікацыі з прычыны недакладнага імя-саманазову: русы — русічы-маларосы — хахлы — рутэнцы — русіны — украінцы?

Гісторыя ўкраінскае мовы ў XX (і ня толькі) стагодзьдзі — гэта бесьперапынная барацьба нацыянальнай эліты за тое, каб ня даць памерці мове — так змагаюцца ў рэанімацыі за жыцьцё цяжкахворага: ляжаць, не хадзіць, не паліць, есьці працертыя поліўкі й кашы. Ня ўсе здатныя на ахвярныя зносіны зь цяжкахворым — уцякаюць на сьвежае паветра, да сонца, сьмеху і... чужой мовы. Адсюль вялікі разрыў паміж элітарнай украінскай мовай, стылістычна выпрацаванай, але

занадта прычасанай, дыстыляванай, штучна вытанчанай, і мовай звычайных моўнікаў. А мова, якая не ахоплівае ўсяе нацыі, так ці гэтак становіцца недамоваю.

Страх за мову, адказнасьць за яе парадзілі асаблівы ахвярна-мэсіянскі комплекс у “правільных” моўнікаў ды празьмерную сур’ёзнасьць, асаблівую цнатлівасьць нашае мовы — цнатлівасьць паджылай паненкі, да якой “ніхто не заляцаўся, не жартаваў”. У галаве сучаснага ўкраінскага моўніка — сьвядомага й дасьведчанага — мусіць стала працаваць моўны сэлектар, АТК — суворы кантроль за слушнасьцю маўленьня, культурай маўленьня — мажлівымі русізмамі, калькамі і да т.п., што прапісаліся ў нашай мове праз сталае бамбаваньне ейнага цела ін’екцыямі расейшчыны.

Але пры гэтым страчваецца адвольнасьць, непасрэднасьць маўленьня; рацыянальны роздум над кожным словам таксама параджае страх перад моваю. Размаўляць па-ўкраінску замест радасьці маўленьня, задаволенасьці ад мовы часта зводзіцца да абавязку перад мовай, псыхалягічнага дыскамфорту й незадаволеньня сабою ды... моваю. Украінская мова ў антыўкраінскім моўным сьвеце асобных украінскіх гарадоў хочаш-ня хочаш набывае прыкмету дэманстратыўнага й нават правакатыўнага маўленьня і выклікае страх перад помстаю моўнікаў-адступнікаў (як у дрэсіявальнікаў у клетцы льва?) ці гатовасьць пакутаваць за мову й страх самотнасьці ў мове. Цярплівая, упартая, дэманстратыўная ўкраінамоўнасьць галічан па-за Галіччынай (тут яна цалкам арганічная, хоць таксама абцяжарана сваімі, галіцкімі, страхамі перад мовай) амаль ператварылася ў нашу другую (ці першую?) прафэсію, місію. А моўнае місіянства — таксама зьява пазамоўная — гістэрычная ад прыроды ці блізкая да гэтага.

У стабільным, прыродным украінамоўным асяродку страх перад моваю выяўляецца і як страх перад граматыкай, грахом памылкі. Правапіс наш недасканалы, груваскі, часта нелягічны, вывучыць яго нялёгка, але, прынамсі пунктуацыю ды артаграфію, можна. Тымчасам татальная непісьменнасьць шматлікіх, нават высокаадукаваных, украінскіх моўнікаў дае падставы дапускаць, што, верагодна, найбольш баяцца тыя, што выкладаюць яе ў школах, асабліва пачатковых (сярэдніх таксама), бо інтэнсыўнасьць гэтага страху паказвае на яго дзіцячае паходжаньне.

Вядома, у сытуацыі вострай судзіннай нядатнасьці нашае мовы празь зьмяншэньне плыняў “крыві” моўнікаў, што ажыўляюць ейную цэнтральную нэрвавую сыстэму, неабходна радыкальнае лекаваньне: дзяржаўная абарона мовы (як гэта робяць іншыя краіны з зусім добрым станам сваіх

нацыянальных моваў, прыкладам, Францыя), негаласьлівы, спакойны, але пасьлядоўны ўвод Закону пра мовы, хаця б слабога, але Закону, пад апекай якогасьці канкрэтнага дзяржаўнага органу. У такіх інстытуцыях, як тэлебачаньне, што, апроч усяго іншага зьяўляецца ўсеўкраінскаю школай маўленьня, варта было б увесьці нейкія моўныя інстанцыі, якія б мусілі калі ня быць "сітам" пры адборы супрацоўнікаў, дык, прынамсі, навучыць іх слушнаму ўкраінскаму вымаўленьню перад тым, як тыя зьявяцца на экране. Патроху гэта ўжо робіцца: і на УТ зьявіліся новыя дыктары з добрым вымаўленьнем, прыроднымі моўнымі паводзінамі, і ICTV, у гэтым пляне сапраўдная "зорка тэлебачаньня Ўкраіны", стала дэманструе беззаганнае ўкраінскае маўленьне, і "Вікна" ўвялі сумна-іранічную манэру накладаць украінскі пераклад на неўкраінскія тэксты сваіх рэспандэнтаў (праўда, іншы раз гэта падвойная іронія: украінскі тэкст мае гэткую ж самую расейскую фанэтыку). Але гэта ўсё выняткі. Украінскае тэлебачаньне працягвае жыць запалохана-правільным, пачціва-нудным сіроткам, дзьвюхмоўным ад прыроды, бо ў маўленьні шмат якіх тэлеманаў дамінуе стала псыхалягічна прысутная расейская: яны думаюць па-расейску, з натугай перакладаючы на зьнявечаную ўкраінскую, вымаўляюць расейскія словы па-расейску і ўшчыльняюць пры гэтым да мінімуму фізычную ды псыхалягічную прастору млявай, спустошанай украінскай. Натуральна, гэткі ж і зьмест. Думаю, невыпадкова новыя ўкраінскія тэлепраграмы, новыя канцэптуальна, падбіраюць сабе назовы, за якімі, без сумневу, стаяць, усьвядомленыя ці не, намеры пераадоленьня, пашырэньня гэтае моўна-разумовай прасторы: "Вікна" ("Вокны"), "Нова мова".

Кантроль, Закон, зазвычай, не паляпшаюць адразу й масава стасункі ўкраінскага моўніка з мовай, мажліва, на нейкі час і пагаршаюць, выклікаючы супраціў пэўным момантам прымусу, што мае ў сабе ўсялякі закон; відавочна, што яшчэ больш павялічваецца страх перад мовай, за якім, як было ўжо сказана, стаіць або нянавісьць да сябе й свае мовы — Эдыпаў комплекс, або страх за мову, пачуцьцё абавязку й віны, патрэба кары й пакутаў — гіпэртрафаванае Супэр-Я, пэўная форма калектыўнага мазахізму.

Яшчэ неабходныя мове й новыя канцэпцыі ў яе выкладаньні, новыя, мажліва, нават дзёрзкія, правакатыўныя мэтодыкі. Дагэтуль цэнтральным у працэсе навучаньня мове, фармаваньня ўзаемінаў украінца з сваёй моваю быў аргумант із сфэры Супэр-Я, які ў структуры чалавечае псыхікі ёсьць рэпрэзэнтантам усіх маральных нормаў ды абмежаваньняў, прыхільнікам самаўдасканаленьня, носьбітам традыцыі,

сумленьня, абавязку: родная мова — гэта найдаражэйшы скарб у жыцьці чалавека, сьвятыня. Гэта так. Але, з аднаго боку, Супэр-Я дзіцяці або падлетка толькі пачынае фармавацца, дый тое паводле вобразу й падабенства Бацькі, а значыць, верагодна, і ў дзіцяці будзе тая ж непаўнавартая псыхіка: або недааформленае праз наяўнасьць Эдыпавага комплексу Супэр-Я бацькі, які адрокся ад роднае мовы, або гіпэртрафаванае Супэр-Я бацькі-патрыёта. А гэта ў абодвух выпадках падвышэньне страху перад моваю. Зь іншага боку, нават без уплыву бацькоўскай інстанцыі (напрыклад, калі дзіця атаясамлівае сябе з Супэр-Я ня бацькі, а настаўніка) гэты аргумант выклікае страх перад мовай: скарб шануюць, але хаваюць далёка ад вачэй, ад штодзённага жыцьця; зь сьвятыняй таксама не жывуць — на яе моляцца, яе баяцца. А з мовай і ў мове трэба жыць, бавіцца зь ёй, хітраваць зь ёй, мецць ад яе задавальненьне, кідацца, як у глыбокую раку, плысьці й цешыцца вадой-моваю або мяць, як гліну, і тварыць ёй і зь ёй свой сьвет, як першабог Ганчар ляпіў сьвет, людзей ды іхныя лёсы. Сьвет у слове й праз слова: напачатку было Слова, і Слова было Бог... Сьвет, космас ствараўся словам праз называньне рэчаў, існага. У кожным слове, як у міце, закладзены касмаганічны сэнс, касма-ганічная сіла, тое, што Шаўчэнка называў “Боскім кадзілам”, “кадзілам праўды”. Гэтыя касмаганічныя, архетыповыя пласты слова, мовы зьяўляюцца ейнай крывёй, жыватворнымі касмалягічнымі водамі, ейным ядром, жытлом Бога ў ёй, самасьцю. Ахопленаму страхам перад мовай прыступныя хіба вонкавыя поведна-прадметна-лёгіка-камунікатыўныя пласты мовы, моўная маска; псыхакомплекс, перадусім Эдыпаў, што будуецца на нянавісьці да сябе як да ўкраінца і нянавісьці да свае мовы, страху перад ёй, цалкам закрывае яму прыступ да жывых, архетыпова-міталягічных, касмаганічных плыняў роднае мовы — таго, што мову робіць моваю, а маўленьне — радасьцю быцьця — быцьця ў мове й быцьця ў сьвеце.

**Пераклад Сяргея СМАТРЫЧЭНКІ.**

Дзьмітро ДАНЦОЎ

# КУЛЬТУРА РАСПАДУ *

Ніколі праблема Расеі не была такой актуальнай, такой жахліва актуальнай, як цяпер. Для ўсіх народаў Заходняй Эўропы, — як для тых, што жывуць па-за межамі расейскай дзяржавы, гэтак і для тых, што маюць няшчасьце належаць да яе, гэтая праблема існавала й раней і нават прымала часам вострыя формы (як за часы першага Мікалая), але ўсё ж гэта была хутчэй небясьпека in futuro[1], чымся вонкавая; хутчэй цікавая шарада для пустадомкаў, “тэарэтыкаў”, чымся балючае пытаньне дня. У момант вострых палітычных канфліктаў разьвязваць гэтую шараду даводзілася на баявішчах або за зялёнымі сталамі венскіх, парыскіх ды бэрлінскіх дыпля-матычных канфэрэнцыяў. Але ж сутнасьць праблемы з таго не зьмянілася: “Расея” была паймом адвеку чужым для заходнеэўрапейскага сьвету — сваімі ідэямі, сваёй культураю, сваімі інстытуцыямі “Ўсход” і “Захад” не былі тады словамі бязь зьместу. Іх падзяляў вялікі, узьведзены на працягу стагодзьдзяў, здавалася, непраломны мур. Па адным баку быў няпэўны, хоць, можа, і цікавы сьвет хаосу, іншы бок уяўляўся ў сваіх скончаных формах вяршыняй усяго, што дала сьвету чалавечая думка й праца, усьведамленьне свайго гістарычнага пасланьніцтва. Асьвечаная бляскам вялікіх гістарычных традыцыяў, замкнёная ў сваім унівэрсалізьме, што ня ведае сабе роўных ад заняпаду Рыму, гордая за тую прывабнасьць, што зыходзіла ад самога ейнага ймя — “Эўропа”, — як сонеч-нае праменьне, да найдалейшых закуткаў чужых кантынэнтаў. Для яе, для гэтай Эўропы, увесь сьвет і ўсе ягоныя землі быў адной плянэтнай сыстэмай, а цэнтрам сыстэмы, яе сонцам — Эўропа.

З пачаткам XX ст. гэты вобраз пачаў больш адпавядаць жаданьням тых, хто бачыў яго як рэальны стан рэчаў. Туманныя, часта па-дзіцячы наіўныя меркаваньні першых славянафілаў пра “загніласьць захаду” ды “рэгенаваны” ўплыў расейскай культуры, якія й цяпер падаюцца чымсьці бясконца сьмешным — былі, аднак, зьвестунамі калясальнай вагі гістарычнага факту. Гэтыя ідэі сьведчылі, што Расея ня хоча ўжо даць зацягнуць сябе ў эўрапейскую плянэтную сыстэму, што зь першаснага хаосу на ўсходзе Эўропы гатовыя былі выкрышталізавацца свае цэнтры

---

* Дмитро Донцов. Культура розкладу. Паводле публікацыі ў часопісе “Українськи проблеми”, 1995, № 1.

новых, яшчэ нязнаных сыстэмаў, якія ня толькі рэклямавалі для сябе поўную раўнавартасьць зь іншымі, але й спрабавалі паказаць атракцыйную сілу далёка па-за межамі расейскага сьвету. Гэтая атракцыйная сіла, што яшчэ 20 гадоў таму была досыць дасьціпнай выдумкай пары мэгаляманаў, — робіцца ў нашыя дні страшэннай рэальнасьцю. Паводле Талстога ды Горкага, па 1905-м, а асабліва па сакавіцкіх днёх 1917 году нібы нейкі цень упаў на Эўропу — гэтую, калісь такую ўпэўненую ў сабе, залітую бляскам свае непараўнанае цывілізацыі Эўропу. Гэты цень быў ценем Расеі. Яго відаць было адусюль. Уплывы, што йшлі з калісьці так пагарджанага Ўсходу, адгукаліся паўсюль. Выяўляліся яны ў зьдзіўленьні перад геройскімі постацямі расейскіх тэрарыстаў, перад рабскімі героямі рабскіх часоў. Іншы раз у захапленьні сантымантальна-сацыяльным эвангелізмам Талстога, які сваім старазапаветным патасам падаваўся такім арыгінальным, такім адрозным ад кабарэтна-парлямантарскай цывілізацыі Захаду; то зноў у зачытваньні творамі Арцыбашава (“Санін”), гэтай — як яе геніяльна ахрысьціў Бржазоўскі — “філязофіяй спэрматаісізму”; то зноў у нястрымных ухвалах для безаглядна-бандыцкіх мэтодаў царскае дыпляматыі, у зьдзіўленьні перад выбрыкамі расейскіх магнатаў у Onchy або Verey, або перад іх дэманічнымі таварышкамі (a la гр. Тарнаўская) — сталымі пэрсанажамі сусьветнае “chronique scandaleuse”[2]; то зноў у паталягічным раскашаваньні ў няздарна хамаватым, квазіхарэаграфічным мастацтве Няжынскага, нарэшце — last, but not least[3] — у захапленьні кучмамі, каптурамі і... густамі афіцэраў акупацый-нага войска...

Праўда, у гэтым хаосе ўражаньняў, паняцьцяў ды пачуцьцяў, што зьнянацку хлынулі на Эўропу, не было сыстэмы, прапорцыі, а галоўнае стылю. Розныя элемэнты расейскай культуры часта не падыходзілі адзін да аднаго, як маскоўскія “гандлёвыя рады” — велізарны, наскрозь мадэр-новы будынак — да “Васілія Блажэннага”, што стаіць поруч, — гэтага нясмачнага выпладня бізантыйска-манастырска-маскоўскага стылю. Але гэта ўласна і надавала расейскім уплывам рысу арыгінальнасьці, нейкую прывабнасьць, што дражніць нэрвы. Расеяй зацікавіліся, як цікавяцца сэнэгальцамі заінтрыгаваныя чытачкі элегантна-парнаграфічнай “Vie Parisienne”[4]. Унармаваную ды ўраўнаважаную ў сваім жыцьці Эўропу вабіла гэтая “шурпатасьць”, гэты хаос, гэтая невы-разнасьць, гэтае бязмэтавае хістаньне паміж скрайнасьцямі, што так характарызуе расейскую “душу”, ёй імпанавала сіла, якая ня здолела яшчэ стварыць анічога пэўнага, нічога аформленага, але над якою, як над перадсусьветным хаосам, кружыў Боскі Дух, хаваючы ў сваёй стваральнай правіцы безьліч магчымасьцяў і безьліч формаў. Усё, што было правілам тут, у Эўропе, — праца, абавязак, маральная адказнасьць, —

было там выняткам; усё, што было выняткам тут, — асновай там, у той дзіўнай краіне, дзе народ, што налічвае 80% непісьменных, стварыў сусьветную дзяржаву, дзе найра-дыкальныя тэорыі мірна суіснавалі з барбарскай рэальнасьцю, дзе п’яныя манахі панавалі ў царскіх палатах, дзе цар быў папам, а папа царом, — там, у той краіне неабмежаваных магчымасьцяў і немагчымых абмежаваньняў усялякай свабоды.

Усё гэта вабіла знуджаны, адвеку сьціснуты ў азначаных межах мозак культурнага эўрапейца, як няпэўныя ўспаміны ягонай уласнай далёкай маладосьці. У страшэннай маскоўскай какафоніі адчуваў ён зь першага ўражаньня нейкія напаўзабытыя, але знаёмыя таны. У расейскай літаратуры адшукаў ён даўкі гумар Санча Пансы й халопскую парнаграфію “Дэкамэрону”, у гасьціннасьці маскалёў — вульгарызацыю Люкула; у іхнай вонкавай шчырасьці й нутраной брутальнасьці — рэмінісцэнцыі першых стагодзьдзяў хрысьціянства й Калігулы; у гістэрычна-аскетычных казанях яснапалянскага “мудраца” — зьнішчальныя прамовы Саванаролы; у Распуціне — каралеўскіх блазнаў Шэксьпіра; у расейскім кульце Агулу і ў расейскім паломніцтве — водгук крыжовых паходаў, у расейскім сэктанцтве — рэлігійныя рухі найцямнейшае пары Сярэднявечча; у рэвалюцыйным тэроры — эпоху Мак’явэлі й Раваляка. Эпоха даўно забытая, ахутаная легендамі і паэзіяй мінуўшчыны, здавалася, аднаўлялася ў новай, вялікай культуры Ўсходу, дзе ўздымалі голаў сілы супярэчлівыя й неакрэсьленыя, але, здавалася, родныя тым, з барацьбы якіх на руінах Рыму паўстала калісь уся сучасная цывілізацыя Эўропы...

Гэтае спалучэньне розных, супярэчных сабе элемэнтаў расейскай культуры і ўтварыла той кшталт маскоўшчыны, які са зьдзіўленьнем даводзіцца нам назіраць. На жаль — і сярод нас саміх! Гэтае “москвобесие”, якое яшчэ да вайны мела сваіх адэптаў, пачало хаваць свае сапраўдныя мэты і погляды, і цяпер зьвязваюцца ў нас з размаітымі “арыентацыямі”, з палітычнымі пытаньнямі дня. Вобразу нацыянальнага гонару, трактаваньня нас як парыяў, пра што ўжо казалі ня так даўно нашыя амбасадары ў парляманце (зьлітуйся Божа — як!), агульнае незадаволеньне, насаджаныя надзеі, — усё гэта стварыла надта ж спрыяльную глебу для зьявы, пра якую гаворка.

Пры гэтым у нас адыгрывалі яшчэ сваю ролю звычайная наша некрытычнасьць і прымітыўнасьць у думаньні. Як магло быць іначай. Тая ж Расея, між тым, была — або стала — “дэмакратычнай краінаю”! Расея была краінай, дзе жылося найбольш імпульсіўна, дзе паўставалі й разьвязваліся “вялікія” праблемы, куды зносіліся “вялікія клічы”! Пра “дэмакратызм” Расеі пісалі Кастамараў і Мардовец, перад рэвалюцыяй адкрыліся такія аўтарытэты, як Mackensy Walles або Seton Watson[5]. Тая акалічнасьць, што ў Расеі не было такога яскравага падзелу

супольнасьці на клясы й станы, як на Захадзе, што ў ёй ажно да апошніх часоў не было панаваньня аднае палітычнае клясы — надавала цэнтральнай (царскай) уладзе нейкі дэмакратычны характар, — як сіле, што стаіць quasi па-над клясамі і незалежна ад іх. Роўнасьць рабоў перад іхным супольным дэспатам і панам сыходзіла за раўнапраўнасьць вольных гараджанаў — і легенда пра “дэмакратычную Расею” фармальна рабіла спусташэньне сярод масаў, што думалі вульгарна. Потым да таго далучылася новая легенда — пра Расею, як носьбітку палітычнага й грамадзкага поступу. Імпульсіўная гульня сілаў у барбарскай, неўнармаванай супольнасьці, прыродны выбух незадаволеньня ў краі, які кіруецца дэспатычна, лічыліся за праявы велізарнай духовай энэргіі; сутаргі зламанага дэспатычнай хваробай арганізму — за адзнаку ягонай адпорнасьці й вялікай жыцьцёвае сілы. На Захадзе зь ягоным усталяваным ладам кожная праца для ягонай перабудовы мусіла прыстасоўвацца (як, напрыклад, у Маркса) да зялезных правоў грамадзкага развою, што дыктавалі нават ейны характар і тактыку. У Расеі гэтыя правы не абавязвалі, бадай, для сацыяльных рэфарматараў, якімі там пачынаюць быць ад гімназічнае лаўкі. Там мроілася пра раптоўны скачок з царства пугі ў царства сацыялізму, там двойчы два магло быць (ня так, як на “гнілым Захадзе”) не чатыры, а тры, а іншы раз і пяць, нават дзесяць!

Азартнай псыхіцы заходняга славяніна, што ня звыкла шукаць паратунку толькі ва ўласных сілах і дысцыпліне (гэтым займаюцца “пэданты” — немцы!), Расея ўяўлялася краінай мрояў, а можа й зямлёй абяцанаю... Дзікасьць і некультур-насьць там цягнулі, як магнэс зялеза, да сябе дзікія й некуль-турныя элемэнты тут...

Як мы мусім ставіцца да гэтае зьявы?

Сусьветная вайна й расейская рэвалюцыя, што паставілі нас сам-насам ня з царствам, а толькі з расейскім народам, вымагаюць неадкладнага адказу на гэтае пытаньне. Я ня думаю тут падаць дэталёвы досьлед на тэму “расейская культура”. Рамкі часопіснага артыкулу завузкія, а тэма заглыбокая, каб яе можна было тут вычарпаць. Хачу даць хіба колькі намінкаў, колькі скандэнсаваных меркаваньняў, якія чытач можа сам сабе разгарнуць і якія склаліся ў мяне па доўгім роздуме з таго надзвычай цікавага сацыялягічнага факту, які найда-кладней можна азначыць нямецкім словам das Russenthum[6].

Што ж такое гэтае Russenthum? Дзе шукаць аб’ектыўныя прычыны, што стварылі яго? Як ацаніць ягоную сацыяльна-культурную вартасьць?

Бязьмежная прастора зямлі, ахопленая дзяржавай, невычэрпнасьць ейных прыродных багацьцяў і людзкага матар’ялу — вось першы (геаграфічны) чыньнік, уплыў якога быў вырашальным у стварэньні расейскай культуры. Абмежаванасьць

і бяспраўе супольных станаў і клясаў — ейны другі (палітычны), а той культ Агулу (субстанцыі), што як змора душыць кожную праяву чалавечага “я” (суб’екта) у Расеі, — трэці (сацыяльны). З гэтых трох прычынаў бярэ свой пачатак уся размаітая гама найдзіўных настрояў, перакананьняў, поглядаў і адхіленьняў гуртовае псыхікі маскаля, якая гэтак уражвае эўрапейца і застаецца пры гэтым для яго досыць дзіўнай, незразумелай музыкай, якая й дагэтуль робіць з маскаля нейкага этнічнага Геракліта-Цёмнага, зразумець якога нікому не наканавана.

Абмежаванасьць асобы й культ Агулу ня ёсьць нешта адмыслова маскоўскае. Яны агульныя з усімі патрыярхальнымі, першаснымі групамі. Становішча індывіда ў гэтых групах мае характар нездыфэрэнцаванасьці. Індывід рашчыняецца ў масе, ён не адасоблены ад яе ані сацыяльна, ані духова. Асоба страчвае тут сваю асабістую псыхіку, якая замененая гуртовай псыхікай. Але ў Эўропе няможна, здаецца, назіраць гэтага факту ў такім клясычным варыянце, як уласна ў Расеі. Вартасьць асобы ацэньваецца там не паводле яе самой, а толькі паводле значнасьці яе для Агулу. Старажытны Рым стварыў паняцьце civis Romanus[7], які ў зьмененых формах існуе й дагэтуль на Захадзе; Расея стварыла тэрмін “русский человек”, які ня ёсьць паняцьцем аб’екту, а толькі прыметніка (“русский”), што паказвае не на права асобы, а толькі на абавязкі ды ейную прыналежнасьць да Агулу. Агул у Расеі зьяўляецца Богам. Ён пануе скрозь: у грамадзкім жыцьці (“абшчына”), у палітыцы (цэнтралізм), у рэлігіі (цэзарапапізм) і нават у сфэры ідэйнага жыцьця (дагматызм). Асоба ў гэтай сыстэме бяспраўная. Агул распараджаецца паводле свайго густу прыладамі працы асобы, аддаленай ад яго часта на дзесяць тысячаў кілямэтраў, як на загад Рыму ўкрыжавалі калісь назарэцкіх гэбраяў і пасьцінալі галовы скіфскім бунтаўніком. Агул ёсьць усім і ў рэлігійнай сфэры, дзе ўладная царква лічыць сябе адзіна прававернай (артадаксальнай) і дзе кожнае выйсьце з-пад ейнай духовай (сэкты) або адміністрацыйнай (аўтакефальнай царквы) улады выдаецца за бунт супраць народу, найвышэйшы рэпрэзэнтант якога йшчэ да нядаўна быў адначасова ахоўнікам царкоўных догмаў. Гэты самы Агул укладае таксама палітычны й маральны катэхізм для асобы, верыць у які ёсьць абавязкам кожнага расейца. Гэты цяжар Агулу, пры-чыну якога Глеб Усьпенскі бачыць ва “ўладзе зямлі”, зводзіць жыцьцё асобы ў Расеі (асабліва ў сялянскай Расеі) да жыцьця расьліны або жывёліны. Праўда, асоба дзейнічае нібы й разум-на, але гэты розум традыцыйны, падобны да інстынкту пчолаў.

“Нават у чачугаў, — піша Ўсьпенскі ў сваёй “Уладзе зямлі”, — паводле сьведчаньняў рыбакоў, існуюць “дзясяткі”, якія высылаюцца чачужнай грамадой на пошукі месца для нераставаньня. Волская рыба сазан, што таксама жыве сваімі

вясковымі грамадамі, мае выбарных, хадакоў і паручнікаў; яны звычайна йдуць папярод грамады; як падыходзяць да загарадкі, якую ставяць рыбакі ўпоперак ракі, спрабуюць носам, ці моцная яна, затым намагаюцца яе пераскочыць; калі гэта ўсё не ўдаецца, паручнікі павяртаюць назад: аддаюць справу грамадзе; тады грамадзкае веча сазанаў са страшэннаю сілай кідаецца на загарадку і б'е ў яе сваімі велізарнымі "рыламі". Пры гэтым многія гінуць, а іншыя ратуюцца праз адтуліну". Што ў такім чыста фізыялягічным арганізьме мусіць гінуць усялякая свабода асобы, усялякая спроба ўзьнесьціся па-над "традыцыйным розумам" — цалкам зразумела. І праўда, разгледзім у Расеі надзвычай слабы — у параўнаньні з Эўропай — развой індывідуальнай ініцыятывы, які так навязьліва прымушае сябе адчуваць у грамадзкай эканоміцы, у палітыцы, навуцы, мастацтве, у кожнай грамадзкай акцыі (за тым часам — у спосабе весьці вайны) у Расеі, і які ёсьць таксама прычынай, чаму Расея аддала параўнальна мала людзей. Прыбітая Агулам, прывучаная да рэглямантаваньня кожнага свайго кроку і нават думкі — асоба робіцца там непаваротнай, інэртнай, млявай. Ня маючы ўласных — апроч указаных і выпрабаваных Агулам — мэтаў, асоба ў Расеі хутчэй падобная да бездапаможнага дзіцяці, чымся да мэтанакіраванага, пэўнага ва ўласных сілах і ўласным розуме, змалку прывучанага да самастойнасьці жыхара Захаду. Гэта адбіваецца нават у вонкавым выглядзе й звычках маскаля. Пэўна, не аднаму даводзілася назіраць групы маскалёў на вуліцах Вены або Жэнэвы, ці ў флярэнтыйскіх карцінных галерэях: бессыстэмнае хістаньне з боку ў бок, няўменьне арыентавацца ў новым месьце, бязладзьдзе ў выразе, няпэўнасьць у рухах, імкненьне зьбіцца ў купы — як конскі статак у стэпе, калі ён чуе ваўкоў, — мяккія, расплывістыя, неакрэсьленыя рысы твару. Вось які гэта вобраз! Падобна выглядаюць адпушчаныя па доўгім сядзеньні ў турме вязьні. Звыклы нікуды ня йсьці й нічога не рабіць іначай, як з загаду й пераважна ў прысутнасьці жандара, — такі вызваленец нагадвае ўпершыню выпушчанага са стайні на панадворак маладое цяля, якое ўсё трапляе як ня ў тын галавой, дык у яму нагой. Як мала падабенства мае гэты тып з тыпам шараговага эўрапейца (хоць бы з Бродаў). Сьцісла й шырока акрэсьленае кола свабоднай асобы, па-за які ня сьмее пераступіць аніякая ўлада ("my house — my castle"[8]) надаюць ягоным рысам і паставе пэўнасьці, а рухам мэтанакіраванасьці й энэргіі.

Яшчэ больш яскрава (і фатальна) адбіваецца цяжар Агулу на духовай культуры маскаля. Расея ня ведала эўрапейскага гуманізму й Рэнэсансу. Вялікі зьмест гэтых рухаў — абве-шчаньне поўнай свабоды чалавечага "ego" (у гэтым ягоная думка), ацэнкі яго паводле ўласнай ягонае вартасьці, а не ягонае вартасьці для кагосьці (для дзяржавы, для царквы) — застаўся чужым расейскай

псыхіцы. Меркай усіх рэчаў стаўся на Захадзе суб'ект, а ў Расеі субстанцыя. У духовай творчасьці быў прызнаны аўтарытэт розуму — там, аўтарытэт бальшыні — тут. Нічым не абмежаваны пачатак бальшыні ўвогуле зьяўляецца ўладным у прымітыўных супольнасьцях. Ужо пазьней, у дарозе доўгае эвалюцыі, зазнаваў гэты пачатак разнастайныя абмежаваньні што да меншасьці ды асобы (прапарцыйныя выбары, забесьпячэньне прадстаўніцтва меншасьці, кваліфікаваная бальшыня, права сэцэсіі, votum separatum[9]). У першых часох развою чалавецтва меншасьць ігнаравалася, яшчэ больш — паасобных момантаў. Гэткую ж неталерантнасьць знаходзім у духовым жыцьці маскаля. Людзей, якія выходзілі з-пад уладнае (у пэўнай групе) догмы, анатамізавалі. Найяскравы прыклад гэтай ідэйнай нетале-рантнасьці даюць расейскія рэвалюцыйныя партыі, дзе чальцы аднае групы адчужаюць адзін аднаго ад сацыялізму з прычыны розных поглядаў на месца, дзе мае адбыцца передвыбарны сход, або з прычыны супярэчнасьці думак што да выгляду сацыялістычнай дзяржавы. Кожны, хто меў нагоду бытнавацца ў расейскіх студэнцкіх колах пачатку XX ст., ведае, якім атрутным духам нецярплівасьці заражаны тыя колы. Студы-яваць эсэраўскую літаратуру лічылася для сацыял-дэмакрата грахом — і наадварот; цытаваць рэакцыйнага пісьменьніка — рэччу небясьпечнаю; а чытаць “Новое время” — недараваль-ным злачынствам! Характэрна, што на так званых “сходках” (студэнцкіх вечах) права голасу мелі выключна рэпрэзэнтанты скрайніх партыяў, кадэтаў сустракалі зьдзекам, а зьяўленьне на трыбуне рэпрэзэнтанта “акадэмістаў” (“залатой моладзі”), асабліва калі ён чапурыста прыбраны, выклікала гучны рогат... Колькі цікавых людзей з арыгінальнымі думкамі і з розумам дасьледнікаў паламалі сабе карак у Расеі на гэтай тупой непадступнасьці Агулу для новых думак, пра гэта мы аніколі не даведаемся! Гэтая нецярплівасьць застрашальная, асабліва ў дачыненьні да іншых нацыянальнасьцяў. Дастаеўскі ненаві-дзіць немцаў усёй сваёй вялікай душой, гэтак жа як палякаў, якія ў яго ўсе або злодзеі, або шулеры (гл. “Браты Карама-завы”). Тургенеў і Купрын лічаць “хахлоў” за ніжэйшых існо-таў, Пушкін спэцыялізаваўся ў насьмешках з французаў (гл. “Яўгені Анегін”, “Дуброўскі”), Л.Талстой — зь немцаў і г.д. Прычына гэтае немца-француза і іншай фобіі згаданая ўгары: абсалютная няздольнасьць прызнаць рацыю існаваньня за чымсьці, што розьніцца ад агульнапрызнанага, пашыранага тыпу.

Гэты культ Агулу знаходзіць сваё вытлумачэньне ў адной характарыстычнай асаблівасьці расейскага жыцьця — у матар'яльнай нэндзы масаў, што ня ведае сабе роўні. Гэтая матар'яльная нэндза з розных прычынаў (брак найпрымі-тыўных вымогаў гігіены, рудымантарнасьць сацыяльнага заканадаўства

ды інш.) страшэнная. Дапамагчы ёй сталася suprema lex[10] грамадзкай ды індывідуальнай чыннасьці. Эканамічнае ўзвышэньне масы (народу) зрабілася лёзунгам палітычных партыяў, credo літаратурных школаў, прадметам сацыялягічных і філязофскіх тэорыяў. Панятак "народ" набраў у Расеі містычных рысаў; гэта слабы панятак, пра які можа даць уяўленьне францускі "le peuple"[11] у часе першай рэвалюцыі. Гэты панятак стаўся ў Расеі чымсь ірацыянальным. "Народ" зрабіўся меркай усіх рэчаў і ўсіх вартасьцяў. Слугаваньне яму было найвышэйшым шчасьцем, якое ў маскаля межавала з рэлігійным экстазам слугаваньня Хрысту. Як для вызнаўцаў Хрыста ўсялякая іншая чыннасьць і накірунак думкі апроч слугаваньня Богу й думаньня пра яго ёсьць грахом, так і для маскоўскага вызнаўца новага бога — Народу, Агулу — было грахом усё, што ня йшло беспасярэдна на задавальненьне патрэбаў гэтага абсалюту. У выніку кожнаму ўчынку ці думцы, што не хацелі вызнаваць новай рэлігіі, абвяшчалася анатэма. Той, хто перадрэвалюцыйныя ды рэвалюцыйныя часы (прыблізна 1900 — 1908 гг.) перабыў у Расеі, пэўна адчуў на сабе ўвесь маральны цяжар, маральны тэрарызм валхвоў бога — Народу (найзаўзятымі зь іх зноў жа былі рэвалюцыянэры). Усе праявы індывідуальнасьці безаглядна асуджаліся. Амбіцыя была грахом, сэксуальнае жыцьцё гэтаксама, разнастайныя эстэтычныя кірункі — злачынствам, пільнасьць і працавітасьць у дасягненьні асабістых мэтаў — дактрынарствам, сацыяльнае, матар'яльнае і нават маральнае ўзвышэньне над масаю — сорамам. Навука, мастацтва, тэатар, літаратура высьмейваліся й адкідаліся з тупой фанабэрыяй сярэднявечнага манаха, бо яны так ці йначай не слугавалі культу "Народу" і не ўсхвалялі ягоных "страданий". Вершаваная прапаганда заступіла месца паэзіі, "гражданские мотивы" — ейны зьмест; сярод аповесьцяў найбольшым посьпехам карысталася наймарнейшая макулятура (накшталт твораў нашае Натальлі Рамановіч), пазбаўленая ўсялякага таленту, але затое ажно перанасычаная наіўнай грамадзянскаю ці рэвалюцыйнаю тэндэнцыйнасьцю. Мастацтва дзеля мас-тацтва прыраўноўвалася да гульні ў "цюцюбабку", як занятак для "Народу" непатрэбны, а таму й асуджаны на сьмерць. Зачытваліся няздарнымі вершаплётамі (накшталт Тана-Багараза) за тое, што апявалі пралетарыят, "русского мужика" або трагедыю якогась няўдалага п'яніцы-лекара — сымбаль "русского интеллигента", — які гіне ад непаразуменьня з навакольнай "средой". І наадварот, недаўменна паціскалі плячыма, калі ў бібліятэцы студэнта выпадкова знаходзіліся паэмы Пшыбышэўскага, Оскара Ўайльда ці іншага паэта dei gratia[12]. Тэатар таксама лічыўся — як за цара Аляксея Міхайлавіча — "бесовским игрищем", бо зноў жа, ён не слугаваў узьвелічэньню таго самага боства — "Народу". Найвышэйшым валхвом, сайго роду Крыва-Крывейцісам гэтага культу

быў граф Леў Талстой. Ягонае адмаўленьне эўрапейскай навукі й мастацтва (гл. артыкул “Что такое искусство?”) саміх па сабе, якія ня ў стане беспасярэдна дапамагчы людзкай нядолі, ягоная чыста халопская нялюбасьць да мэдыцыны й лекараў ёсьць праявай і вяршыняй гэтае самае зьявы. Гэтае адмаўленьне ўсяго, што не слугавала беспасярэдна зада-вальненьню матар’яльных патрэбаў людзей часта прымае ў маскаля проста карыкатурныя формы, да якіх належыць перадусім прыроджаная ў кожнага маскаля агіда да ўсялякіх канвэнцыйных формаў і найпрымітыўных вымогаў эстэтыкі (“косоворотка” рэвалюцыянэра, лапці й блюзка графа Л.Талстога). Гэтыя астатнія, як асобы, якія, можа, і належалі да культуры, але на ўсялякі выпадак не спрычыняліся да ўлагоджваньня цярпеньня Агулу, безаглядна асуджаліся. І наадварот, усялякія прыпадабненьні да “Народу” (чобаты, нястрыжаныя валасы, грубасьць манэраў) “ладзіліся” ў Расеі сыстэматычна, як абавязковыя цырымоніі, якія належаць культу, якія ядналі асобаў з “Найвышэйшай істотаю” — Народам.

Імкненьне судакрануцца з сваім богам — Агулам — прывяло да безагляднае барацьбы з праявамі ўсялякага індывідуалізму, які ў Расеі лічыцца за бацьку ўсіх грахоў. У патрыярхальнай стадыі духовай культуры маскаля няма месца аніякаму ўзвышэньню асобы па-над галовамі масы, як імкненьню зраўняцца з Богам сярод першых хрысьціянаў. Гэтае адмаўленьне індывідуалізму знайшло сваё выяўленьне і ў літаратуры. Горкі быў першым паэтам уласна індывідуалізму ў Расеі, хоць і скарыкатурызаванага індывідуалізму. Да яго расейская літаратура або займалася абагаўленьнем мужыка (бэлетрыстыка народнікаў, Л.Талстой), або трагедыяй “лишних людей” (Чэхаў) — гэтых растаптаных доляй асобаў, якія перад рэвалюцыяй усьцілалі дарогу расейскага інтэлігента, як пту-шыныя трупы ў полі па арабінавай ночы. Тыпу моцнага індывідуаліста, які актыўна ўмешваўся ў навакольнае жыцьцё, расейская літаратура да Горкага ня ведала. Калі няшчасныя аўтары й хацелі вывесьці такі (няісны) тып, дык звычайна з таго выходзіла карыкатура (як тып Штольца ў “Абломаве”). Звычайна ж такія “моцныя індывідуальнасьці” ў расейскай літаратуры — калі яны ёсьць — нерасейцы (баўгары ў турге-неўскім “Напярэдадні”; “Хаджы Абрэк”, “Ізмаіл-Бэй” Лерман-тава; цыганы ў Пушкіна) або, калі ўжо расейцы, дык такія, якія не на расейскай глебе шукаюць задавальненьня сваіх патрэбаў (Рудзін Тургенева, які паміраe на парыскай бары-кадзе). На расейскай глебе такія тыпы не сустракаліся.

Тое, што ў згаданых аўтараў было звычайнай пісьмень-ніцкай інтуіцыяй, канстатаваньнем факту, тое робіцца ў графа Л.Талстога пастулятам. Пісьменьнікі XIX ст. сьцьвярджалі брак моцных індывідуальнасьцяў у расейскім жыцьці, Талстой выяўляе перадузятую нянавісьць да вялікіх людзей, і нават да ўсіх тых, хто

праз сваё сацыяльнае становішча ўзьнёсься (horribile dictu![13]) — па-над “Народам”! — да адвакатаў, сьвятароў, лекараў,ураднікаў і ўвогуле “бар”, для якіх Л.Талстой не шкадуе найцьмянейшых фарбаў. Сваю асаблівую нянавісьць зьвяртае гэты пісьменьнік на Напалеона (гл. “Вайну і сьвет”) за тое, што той пасьмеў стаць па-над Агулам, навязваючы яму сваю волю (між іншым, цалкам памылковы й наіўны погляд на Напалеона!). Ідэя, зразумелая й натуральная для кожнага эўрапейца, а менавіта, што вялікія людзі зьяўляюцца хіба прыладамі гісторыі, або, як сказаў бы Гегель, — “Geschaftsfuhrer des Weltgeistes”[14], для Талстога, як і для кожнага маскаля, чужая. Узаеміны паміж субстанцыяй і суб’ектам у Расеі яшчэ таго роду, што кожнае ўзвышэньне апошняга з гледзішча першае лічыцца правакацыяй Агулу. Гегель гаворыць, што “der freie Mensch ist nicht neidisch, sondern anerkennt das gern, was gross und erhaben ist”[15] незалежна ад зьместу гэтае велічы. Маскаль прыўносіць у ацэнку індывіда павучальны элемэнт і асуджае кожную “гордыню духа”, што паўстае супраць Агулу. Бунтаваць супраць законаў гэтага Агулу можа бясьпечна дазволіць сабе хіба mocny czlowiek або “dzieci szatana”[16] Пшыбышэўскага. У Расеі такога зухвала напаткае заслужанае пакараньне, як Раскольнікава ў “Злачынстве і кары”, прычым вымяраць гэтае пакараньне мае права Агул або Бог (што ў маскалёў часта адно й тое ж) — выключна яны: “Мне отмщение и аз воздам” — ёсьць motto-м Талстоў-скага раману (“Анна Карэніна”), — памфлету супраць бунтоў-нага раба-асобы. Бранды, дактары Штокманы (“Вораг народу” Ібсэна) і майстры Гайнрыхі (“Versunkene Glocke”[17] Гаўптмана) малазразумелыя для расейскае псыхікі. Ёй бліжэйшыя “Дзядзька Ваня” Чэхава або “Антон Гарамыка” ці “Няшчасная Ліза” Карамзіна — героі цярпеньня й пакоры. Яе ідэальны індывід іншы. “Праўда нашых дзядоў”, якая, паводле Ібсэна, за дваццаць год робіцца маной, ёсьць і застаецца для маскаля праўдай так доўга, як доўга за ёю стаіць бальшыня. Ідэалам асобы ёсьць для яго Платон Каратаеў ці Кутузаў з “Вайны і сьвету” — асобы, у якіх працэс іхнага адасабленьня ад Агулу паўстае на першых стадыях свайго разьвіцьця. Гэты ідэал ёсьць ідэалам Усходу, par exellence[18] Кітаю, Пэрсіі, Індыі і... Расеі. Ва ўсіх гэтых краёх няма йшчэ яскравага супрацьпастаўленьня суб’екту да субстанцыі, першы дарэшты паглынаецца другім. Гэта ня значыць, што ў расейскай культуры знайшлі сваё выяўленьне найвышэйшыя формы калектыўнага жыцьця — ідэі салідарызму (як гэта думалі старыя прыхільнікі “абшчыны” і новыя носьбіты ідэі расейскага мэсіянства). Трыюмф гэтых ідэяў вымагае такога ўсебаковага ўдасканаленьня і ўсамастойненьня асобы, якіх Расея ня ведае. Псыхіка сярэдняга маскаля ня ёсьць псыхікай trade union-а, ані нават Адама Сміта — бацькі эканамічнага й палітычнага індывідуалізму. Гэта псыхіка

звычайнага Івана або Пятра, якіх гняце, як змора, права “мира”, толькі дадаткам якога яны зьяўляюцца. Калі гэтую псыхіку можна назваць псыхікай калектывізму, то хіба калектывізму статкавага. Тым часам, як мэта асобы на Захадзе — унезалежненьне, “Selbstbe-hauptung”[19] свайго “я” — хаця б коштам сьмерці (Кармэн, Камброн пад Ватэрлё), мэта маскаля — расплысьціся, распусьціцца ў субстанцыі, зь якой ён выйшаў і якая гняце кожнае ягонае “слово, дело и помысел”. Да “зьліцьця з народам” заклікалі так званыя “почвенники” з Апалонам Грыгор’евым на чале. Да гэтага заклікала расейская інтэлі-генцыя сярэдзіны сямідзясятых гадоў — эпохі масавага “хождения в народ”, да гэтага заклікаў Л.Талстой, да гэтага заклікаў яшчэ нядаўна знаны расейскі сацыяліст А.Луначарскі, які выдумаў адмысловую рэлігію, богам якой быў “весь народушко”, да таго ж заклікалі славянафілы, якія бачылі ў пераходзе да народнага сьветагляду і звычаяў у жыцьці адзіны шлях да выратаваньня й скіраваньня адарваных ад “народнага карэньня” вышэйшых клясаў; тую самую праўду абвяшчаў Дастаеўскі, які паклікаў “гордого” інтэлігента зьмірыцца й без нараканьня прынесьці сябе ў ахвяру Агулу дзеля выкананьня тае вялікае місіі, што стаіць перад Расеяй — пашырыць ва ўсім сьвеце ідэі “праўдзівага хрысьціянства”; нарэшце, не чужыя былі падобныя ідэі Горкаму, які вымусіў цэлы дзясятак гадоў усю інтэлігенцкую Расею кленчыць перад сваёй басотай.

Кожная падзея тут ёсьць не выладаваньнем уласнай энэргіі, а толькі выкананьнем чыйгосьці прымусу. Гісторыя Заходняй Эўропы ведае мноства выпадкаў сьмерці за ўласныя, асабістыя перакананьні, а ў Расеі пераважная частка пакутнікаў (палітычных ці рэлігійных) — пакутнікі натоўпу: “На миру и смерть красна” — гаворыць расейская прыказка. Улада гэтага “мира” над асобай такая моцная, што нават учынак, варты асуджэньня, папоўнены масай, робіцца дабрачыннасьцю: абрады сэкты хлыстоў, якія надта суворыя што да індыві-дуальнага сэксуальнага “граху”, грунтуюцца на густах кале-ктыўнага “граху”, на хаатычным сэксуальным унясеньні ў грамаду вернікаў.

Ідэя прымяншэньня асобы што да масы, распыленьня ў ёй, зьліцьця зь ёю вядзе ў сваёй лягічнай пасьлядоўнасьці да культу сьмерці, будыйскай Нірваны. Гегель у сваёй “Philosophie der Geschichte”[20] гаворыць пра кітайцаў: “Там, дзе ніхто ня мае асаблівых правоў перад іншымі, усьведамленьне ўласнага прыніжэньня становіцца дамінантай; гэтае пачуцьцё пера-ходзіць у пачуцьцё ўласнай нікчэмнасьці. Адчуваньне ма-ральнай нікчэмнасьці выяўляецца гэтаксама ў пашырэньні рэлігіі Фо, якая за абсалютны, найвышэйшы пачатак лічыць Нішто (das Nichts), а за найвышэйшую дасканаласьць — пагарду індывіда”. Гэтае абстрактнае Нішто называецца Найвышэйшаю Існасьцю. Гэта прынцып вечнага спакою, ягоная сутнасьць у тым, каб быць

бязьдзейным і бязвольным. Гэтай “Найвышэйшай Істоце”, гэтаму Нішто пакланяюцца і ў Расеі, хоць агульнапрызнанай рэлігіяй гэты культ пакуль што ня зьведаны. Разнастайныя “изуверские” сэкты ў Расеі, якія, дзеля выратаваньня ад “граху”, спальваюць сябе ці жыўцом закопваюць у зямлю, і ёсьць гэтыя вернікі. Схіляўся да гэтых ідэяў і Л.Талстой, які ў “Кройцаравай санаце” так і гаворыць: “І гэта праўдзівя думка, што людзкае шчасьце ў тым, каб сябе ператварыць у нябожчыка”. І чым жа ж, як не “ператварэньнем сябе ў нябожчыка”, былі знакамітыя ўцёкі Л.Талстога, калі вялікі пісьменьнік, шукаючы свайго бога Нірваны, пакінуў за месяц да сьмерці свой дом і сваю радзіму, кабісьці куды вочы глядзяць?..

Нэгатыўны пачатак Арыенту — супрацьлегласьць да сьцьвярджальнага прынцыпу Захаду — выяўляецца ў Расеі таксама ў культуры цярпеньня. “На Ўсходзе, — піша Гегель, — людзкі боль робіцца рэччу культу й павагі, бо ў болю адчувае чалавек, што ён суб’ект, ён можа і мусіць спазнаваць сябе самога, быць сьведкам свайго існаваньня”. Тут, хіба ў гэтым раскашаваньні болем, індывід можа выяўляць сваё “я”, актыўнасьць якога мае такія вузкія межы. Дзеля гэтага тое цярпеньне было ўзьнесена ў расейскай літаратуры да роду культу, якому аддаваліся з раскошай, зь нейкай амаль сэксуальнай асалодай. Хто чытаў “Зьняважаных і абражаных” ці “Злачынства і кару” Дастаеўскага, або народныя вершы Някрасава (“Зялёны шум”), або філязофскія артыкулы Л.Талстога на тэму “непротивления злу”, таму зразумелая гэтая хваравітая, амаль паталягічная раскаханасьць у цярпеньні, што мяжуе з адмаўленьнем самога прынцыпу жыцьця. Да якой ступені калектыўная псыхіка маскалёў пасіўная, паказвае разуменьне каханьня — гэтай адной з найбольш выбуховых і найбольш сьцьвярджальных здольнасьцяў чалавечага “я” — у расейскай літаратуры. Тымчасам, як Amor Мапасана ці Гамсуна — перадусім дзеяньне, шуканьне й барацьба, што, як у зьвярыным сьвеце, часта заканчваецца сьмерцю (“Пан” Carmen), расейскі Amor — штосьці пасіўнае, не закладзенае ў самой існасьці чалавека, а толькі староньняя сіла, што, як вясновая навальніца, падае аднекуль яму на голаў.

Я ня ведаю болей характарыстычных прыкладаў з сусьветнай літаратуры, якія гэтак яскрава адлюстроўвалі б супя-рэчнасьці паміж эўрапейскімі й маскоўскімі поглядамі, паміж асобаю і агулам, як два вобразы: адзін з “Homo Sapiens” Пшыбышэўскага, другі з “Уваскрэсеньня” Л.Талтога. Ва “Ўваскрэсеньні” аўтар малюе сцэну ў вясковай царкве на Вялікдзень, калі ўзрушаны ўрачыстасьцю хвіліны князь Няхлюдаў “хрыстосуецца” (г.зн. цалуецца) з адным мужыком сыфілітыкам із сьлядамі агіднай хваробы на бязносым твары. У мяне, як, спадзяюся, і ў кожнага з хоць крыху разьвітым эстэтычным пачуцьцём чытача, гэтая сцэна, у якой аўтар хацеў падаць прыклад найлепшага хрысьціянскага

ўчынку, выклікала агіду. У кожнага чытача-маскаля гэтая сцэна выклікала адва-ротнае ўражаньне, як сымбаль таго распушчэньня індывіда ў масе, таго містычнага “приобщения” суб’екта да субстанцыі, якое — як “приобщение” да цела й крыві Хрыстовай — ёсьць найвышэйшай жыцьцёваю мэтай сярэдняга маскаля. У адной са сцэнаў “Homo sapiens” мы сустракаем падобны, але крыху іншы эпізод, дзе Фальк папракае Марыю ў ейнай набожнасьці. “Як ты можаш хадзіць у касьцёл, — пытаецца ён у яе, — дзе ўсё гэтак прасякнута пахам чалавечага цела?” Гэта ж так “zespala z tlumem”[21]. Зрашчэньне з натоўпам — гэта тое, чаго не выносіць кожная, якая выбіваецца ўгору, асоба на Захадзе, — не праз пагарду да натоўпу ўвогуле, а з інстынкту самазахаваньня, з жаданьня хутчэй узьнесьці яго да сябе, чымся самому апусьціцца да яго. І гэтае самае “zespolenie z tlumem” уласна і ёсьць тое, да чаго імкнецца хаатычная, арганічна яшчэ не адасобленая ад свае субстанцыі, статкавая душа сярэдняга маскаля.

Гэтае ймкненьне патануць у натоўпе дасягае ў Леаніда Андрэева ў адным зь ягоных апавяданьняў (назоў якога выпаў у мяне з галавы) чыста паталягічных формаў. Герой апавя-даньня — рэвалюцыянэр, — шукаючы ў чужым месьце прытул-ку ад магчымага арышту, хаваецца ў публічным доме, дзе ўпершыню мае нагоду спазнаць гэты бруд. Узрушаны сілаю новых уражаньняў, герой Андрэева прыходзіць да пера-кананьня, што “стыдно быть хорошим”, тымчасам як мільёны гінуць у багне прымусовай распусты. Рэвалюцыянэры адмаў-лялі права чалавека насіць белыя каўняры ды хадзіць на балет, пакуль “народ страдает”. Андрэеў ступае на адну прыступку вышэй і адкідае права асобы быць маральнай, пакуль існуе масавая прастытуцыя, бо нават з маральнага гледзішча ня сьмее асоба выходзіць з-пад улады субстанцыі, падобна да той самай хлыстоўшчыны, пра якую я ўжо згадваў, толькі што наадварот!

У гэтай нявызваленасьці асобы ад Агулу з гледзішча матар’яльнага, інтэлектуальнага, палітычнага і маральнага, якая зьяўляецца асноўнай рысай расейскай культуры, што збліжае яе з культурамі Арыенту, і ляжыць найбольшая небясьпека расейскай культуры для Захаду; для таго Захаду, які ўсёй сваёй цывілізацыяй і поступам абавязаны нічому іншаму, як уласна вызваленай індывідуальнасьці. Паводле Дарвіна, увесь поступ сьвету адбываецца шляхам адбору найбольш прыстасаваных. Але гэты адбор мажлівы толькі там, дзе ёсьць выбар, дзе ёсьць мільёны розных формаў, розных індывідуальнасьцяў, зь якіх потым маці-прырода вышуквае найбольш вартых, найбольш адпорных. У Расеі гэты працэс затрыманы, бо дыфэрэнцыяцыя асобаў ані ў сфэры матар’яльнай, ані ў духовай не пайшла далёка наперад. Адсюль яе беднасьць і ўбогасьць з культурнага

гледзішча. Таму мы мусім гэтую культуру безаглядна адкінуць, як культуру прымітывізму, што, прышчэпленая раз на Захадзе, адкінула б яго з культурнага гледзішча на тысячу год назад...

Унівэрсальнае становішча агулу ў грамадзкім і духовым жыцьці Расеі — толькі адзін з чыньнікаў расейскай культуры. Другім зьяўляецца абмежаванасьць і бяспраўнасьць грамадзкіх клясаў і станаў, якія найноўшая Расея ўспадкавала ад старой Масквы. Тут мы можам абстрагавацца ад прычынаў гэтага факту. Досыць яго толькі канстатаваць. Тымчасам, як на Захадзе самаарганізацыя і свабода станаў (а пазьней клясаў) сустракаецца ўжо на досьвітку гісторыі (рамесныя цэхі, самаўправа гарадоў, кліру, фэўдалізм, хуткая адмена пан-шчыны), у Расеі мы бачым якраз супрацьлеглае. Царква была там нямой прыладай у руках цэнтральнае ўлады. Такою ж яна засталася й дагэтуль. Сялянства вызвалілася з кайданоў прыгоньніцтва і ўступіла на шлях эканамічнага індывідуалізму за няпоўных дзесяць год да Парыскай камуны 1871 году, трэцяга стану данядаўна амаль не йснавала, гарады ня мелі жаднае самаўправы, фэўдалізм не пасьпеў сфармавацца, а што да шляхецтва, дык яно было вольным станам хіба што на першы позірк. Спачатку абавязанае да вайсковае службы, пазьней яно атрымала пэўныя прыватныя, некарпаратыўныя правы, як права валоданьня “душамі”, свабода ад кары на целе й да т.п. Правы карпаратыўныя (і тое надта абмежаваныя) атрымала яно ажно ў канцы XVIII ст., — г.зн., калі на Захадзе яны былі ўжо надзейна абароненыя.

Гэтае рабства, брак самастойнасьці клясаў (і станаў) мелі для духовай культуры Расеі найфатальнейшыя наступствы. Гэтыя наступствы былі: 1) скрайняя неразьвітасьць прававой псыхікі (пачуцьцё сваіх правоў і ўсьведамленьне сваіх абавязкаў) і 2) поўная няздольнасьць да калектыўнай, карпаратыўнае дзеі. Уплывам гэтага апошняга факту ёсьць перакручанае значэньне, якое набыла ў расейскім грамадзкім жыцьці дзея, чын індывідуальны: па-першае, казань самаўдасканаленьня, несупраціў злу і цярпеньне, па-другое, прапаганда анархізму.

Спачатку што да першага пункту. Нормы людзкіх паво-дзінаў можна падзяліць на такія, што толькі загадваюць (imperare) нешта аднаму боку (“любі блізкага свайго”), і такія, што да ўсяго іншага надаюць другому, як штосьці яму належнае (aeri attributum), тое, што вымагаецца ад першага (абавязак сплочваньня доўгу). Першыя нормы — нормы маральныя ці імпэратыўныя, другія — нормы прававыя ці атрыбутыўныя. Для грамадзкага жыцьця і для ўсяго поступу чалавецтва пытаньне, якая псыхіка ў гэтым грамадзтве ўладная, мае велізарную значнасьць. Там, дзе пераважная частка правілаў, што нармуюць узаеміны, разумеюцца як атрыбутыўныя (а гэтак ёсьць на Захадзе), іх парушэньне

выклікае рэзкі пратэст, выбух абражанага пачуцьця права; насупраць, пры парушэньні нормаў імпэратыўных, выкананьне ці невыкананьне якіх пакінута добрай волі “абавязанага”, гэты выбух не наступіць; у грамадзтве зь перавагаю чыста імпэратыўных нормаў няма здаровых падставаў для поступу ані асобы, ані агулу — такая супольнасьць пасіўная, малаадпорная ўсялякаму гвалту. І ўласна такою супольнасьцю ёсьць Расея. У ёй, як у кожным прымітыўным грамадзтве (Gemeinschaft[22] у проціпастаўленьні да Gesellschaft[23]), дзе пануе патрыярхальнасьць адносінаў паміж уладаю і народам, паміж станамі (прыгоньніцтва ажно да 1861 году!), дзе 80% жыхарства кіруецца звычаёвым правам, дзе сьцісла не акрэсьленыя правы адных і абавязкі іншых, — у гэтай Расеі безьліч нормаў, што ў Эўропе зьяўляюцца ўжо нормамі права, і да сёньня маюць характар чыста маральных (імпэратыўных). Яшчэ болей! Іх — гэтыя нормы — узьнесьлі нават да рэгулятара сацыяльнага жыцьця! Там старыя славянафілы сьцьвярджлі, што тымчасам, як заходнія дзяржавы ўтварыліся разбойствам і гвалтам, расейская — добраахвотным прызнаньнем улады. Паводле такога разуменьня, безумоўна, непатрэбныя былі аніякія папяровыя гарантыі паміж уладай і нацыяй, бо “ніякая дамова не стрымае людзей там, дзе няма нутраной згоды”. Найдакладней выказаў гэтую думку Аксакаў: “Узаеміны паміж народам і ўладаю абапіраліся — асабліва за дапятроўскіх часоў — на двухбаковы давер. Нехта мо’ скажа: народ і ўрад могуць ашукваць адзін аднаго. Патрэбныя гарантыі! На гэта адкажам: гарантыяў ня трэба, бо гэта ліха. Дзе патрэбныя гарантыі, там дабра няма”. У Расеі, дзе йшчэ нядаўна кожная найпрымітыўная калектыўная дзея (дапамога галодным) лічылася за злачынства супраць дзяржавы, асабістая дзея магла стацца ідэалам. На тым самым тле (абмежаванасьці масаў) паўсталі й цяпер дамарослыя кветкі расейскага “духу”, перадусім страх перад арганізаванаю калектыўнаю дзеяй. У сваім апавяданьні “Люцэрн” Л.Талстой апісвае вулічнага сьпевака, які марна спрабуе адкрыць для сябе сэрца й кішэні шаноўнай гатэльнае публікі. Абураны аўтар пытаецца: Чаму гэтыя інтэлігентныя гуманныя людзі, увогуле здатныя да ўсялякай сумленнай агульнае справы, ня маюць людзкіх пачуцьцяў да асабістае добрае справы? Чаму гэтыя людзі ў сваіх палатах, вілах ды таварыствах горача дбаюць пра пашырэньне хрысьціянства ў Афрыцы, але не знаходзяць у сваёй душы й найпрасьцейшага спачуваньня да чалавека?” Прынцып сацыяльнай пасіўнасьці, прынцып індывідуальнае дзеі знаходзяць у гэтым апавяданьні сваё найлепшае выяўленьне. Нядзіўна, што Гамсун называе Л.Талстога (у сваім рамане “Містэрыі”) “найактыўнейшым дурнем нашага стагодзьдзя”; для эўрапейца, які ніякага ўчынку дзеля папраўы долі асобы не ўяўляе сабе інакш, як толькі праз зьмену

сацыяльных стасункаў (параўнайце з усімі рэфарматарскімі рухамі Эўропы: Цьвінглі, Кальвін, Лютар), прапаганда індывідуальнай дабрачыннасьці, як рэгулятара сацыяльнага жыцьця, мусіць уяўляцца ні чым іншым, як ідыятызмам. Гэтак жа й Дастаеўскі прыйшоў да адмаўленьня актыўнага ўмяшальніцтва ў грамадзкае жыцьцё. Першы прапагандаваў “несупраціў злу гвалтам”, другі выдумаў тэорыю маральнага ачышчэньня празь цярпеньне, што, уласна, адно й тое ж, бо чым жа ж і мае выяўляцца несупраціў злу, як не спакойным цярпеньнем?! Ад гэтай прынцыповай пасіўнасьці ў грамадзкім жыцьці быў толькі адзін крок да казані самаўдасканаленьня асобы, як панацэі ад усіх сацыяльных няшчасьцяў. Гэты крок робяць абодва названыя аўтары — Л.Талстой і Дастаеўскі. Самаўдасканаленьне лічыў і Гогаль (ахвяра расейскай “куль-туры”) за панацэю ад сацыяльных хваробаў, думаючы, што прыгоньніцтва само сабой зьнікне, у меру таго, як усе дзедзічы прасякнуцца “духом благочестия”; таксама й Пісараў меркаваў, што на зямлі запануе рай, як толькі чалавецтваператворыцца ў цьвярозых рэалістаў “базараўскага” тыпу: сацыяльны поступ ён інакш і не разумеў, як мэханічна, праз памнажэньне носьбітаў гэтага ідэалу. Да таго самага ідэалу самаўдасканаленьня й міласэрнасьці спрычыняліся й бэлетрысты-народнікі (літаратура “кающегося дворянина” й любові да “меншага брата”). Найталенавіты і найбольш дзікі ўзор гэтага архаічнага разуменьня прыроды сацыяльнае нэндзы і спосабаў ёй дапамагчы знаходзім мы ва “Ўваскрэсеньні” Л.Талстога, дзе маральнае “просветление” асобы рэкамэн-дуецца як адзін із сродкаў барацьбы... з прастытуцыяй! Да ўсіх гэтых ідэалёгіяў (самаўдасканаленьне, несупраціў злу, сацыяльная пасіўнасьць, імпэратыўная псыхіка) спрычыняецца неўмяшальніцтва ў жыцьцё, прынцыповае вызнаньне існага сацыяльнага ладу, да якога (не рэфармуючы яго самога) асабісты чын індывіда меўся б прыўнесьці пэўныя карэктывы, гэтак жа, як хрысьціянская навука, што прыйсьце Боскага Царства на зямлі ставіла ў залежнасьць ад удасканаленьня асобы ў маральным сэнсе, ад любога ўмяшальніцтва ў існыя інстытуцыі (“аддайце Богу богава, а цэзару цэзарава”). Такая псыхалёгія магла паўстаць хіба ў супольнасьці рабоў (якой Расея па сваіх трох рэвалюцыях ёсьць і цяпер); дзе асоба ня мае правоў, там, натуральна, можа выратаваць толькі міласэрнасьць; дзе грамадзкі чын задушаны, ратунку трэба шукаць у чыне індывідуальным, у сацыяльнай пасіўнасьці, самаўдасканаленьні й дабрачыннасьці. “Не супраціўляйся злу!” — адзіна мажлівая для запрыгоненага чалавека мараль, якая зможа забясьпечыць яму сякое-такое супрацьстаяньне неабмежаванай прыхамаці ягонага пана...

Калі адным бокам неразьвітасьці прававой псыхікі й немажлівасьці ўмяшальніцтва ў грамадзкае жыцьцё ў Расеі былі

толькі што згаданыя тэорыі, то іншым бокам немажлівасьці творчага ўплыву на хаду падзеяў сталася прапаганда анархізму. Гэты апошні кірунак нідзе ня быў і ня ёсьць так моцна рэпрэзэнтаваны, як у Расеі. Як тэарэтычна (князь Крапоткін, Бакунін, Міхаеў, праф. Баравой, Горкі, часткова Л.Талстой, Андрэеў), гэтак і практычна (нігілісты, сацыял-рэвалюцыянэры — максымалісты, экспрапрыятары, тэрарысты). У суполь-насьці, дзе ўсялякая творчая грамадзкая праца йшчэ данядаў-на забаранялася, лёгка мог здабыць уплыў прынцып "дух разрушения есть в то же время созидающий дух" (дэвіз анархістаў); там не ўяўлялі сабе аніякага "созидания" іначай, як "разрушение". У супольнасьці, дзе натыкаўся на непера-адольныя перашкоды кожны калектыўны чын, натуральна, перамагчы меўся чыста асабісты, індывідуальны чын. У супольнасьці зь неразьвітай прававаой (атрыбутыўнай) псыхікай свабода індывіда іначай не магла быць зразуметая, як свабода ад усіх загадаў Агулу. Гэтым анархічным духам, як я ўжо згадаў, прасякнутая й расейская літаратура; назіраць яго можна і ў прыватным, таварыскім жыцьці, і ў жыцьці духовым, г.зв. расейскае інтэлігенцыі (дагматызм). Дзеля таго так мала сустракаем мы сярод гэтае інтэлігенцыі г.зв. Forschergeist-аў[24]; расейскія рэвалюцыянэры звычайна нічога ніколі грунтоўна не вывучаюць, а толькі ўсю сваю мудрасьць чарпаюць з капейкавых брашураў, што маюць ужо звыш складзеныя адказы на ўсе сацыяльна-палітычныя пытаньні; уцёкі ад усялякай творчае працы, страх перад прадуктыўным умяшальніцтвам у жыцьцё адбіваюцца й на чыста духовай сфэры маскоўскага жыцьця.

Нічым іншым, як бяспраўнасьцю й рабствам клясаў можна патлумачыць і тую нядбаласьць (расейскі "авось") і поўную адсутнасьць маральнай адказнасьці, што так зьдзіўляе нас у маскалёх. Раба нішто не ўратуе ад прыхамаці ягонага пана — дык навошта ж быць абачлівым? Навошта складаць якіясь там пляны? Навошта стала імкнуцца да нейкае мэты? Хіба ня можа любы плян быць перагорнутым дагары нагамі з аднаго слова пана? Шляхі жыцьця (як і законы панскае прыхамаці) неспасьцігальныя! Толькі хапай момант! Зусім як у "Пікавай даме" сьпявае Герман:

Что наша жизнь? Игра!
Добро и зло — одна мечта
Труд, честность — сказки для бабья,
Кто прав, кто счастлив здесь друзья?
Сегодня ты, а завтра я
Так бросьте же борьбу, ловите миг удачи!

Лавіць момант шчасьця ў той азартнай гульні, што назы-

ваецца жыцьцём, — закон жыцьцёвае мудрасьці маскаля. Псыхалёгія азартнага гульца — ягоная псыхалёгія, якая імпануе шматлікім наіўным прыхільнікам расейскай “душы”.

Ня меншы ўплыў на фармаваньне маскоўскай калектыўнай псыхалёгіі меў трэці чыньнік расейскай культуры — той, які я назваў этнічна-геаграфічным. Расея ёсьць краем невычэрпных прыродных багацьцяў, невычэрпнага чалавечага матар’ялу й бясконцай прасторы. На фармаваньне расейскай душы ўплывае гэта ў такой жа ступені, як палітычнае рабства і сацыяльная недыфэрэнцаванасьць. Гэтым трэцім чыньнікам тлумачыцца страшэнная непавага да часу, людзкае працы і чалавека самога па сабе ў Расеі, а таксама абсалютная няздольнасьць дбаць пра заўтра. Часу яму шанаваць ня трэба, бо страту яго яму кампэнсуе багатая прырода; ня мусіць ён шанаваць і людзкага матар’ялу; для “гнілога” Захаду могуць адыгрываць розьніцу два ці тры палкі, маскаль можа ўсьцяліць палі сотняй тысячаў чалавек, а заўтра на іхным месцы мець дзьве. Ня ведае ён таксама, што такое эканомнае ўжываньне энэргіі, дасягненьне максымальнага выніку пры мінімальных высілках. Гэта толькі ў Эўропе мусіць кожны чацьверты разьлічваць кожны крок; гэта толькі там прырода так бедна надзяліла чалавека зямлёй, што кожнае неразважнае збочаньне з раз абранай дарогі пагражае скінуць яго ў бездань. У Расеі зямлі дастаткова, і найбольш каркаломныя salto mortale ніколі ня маюць там фатальнага канца. Разьлічваць на сэкунды, будаваць посьпех нейкае дзеі на апераджэньні супраціўніка на дзесяць хвілінаў, матэматычна ўзважваць усе “за” і “супраць” — усе гэтыя прыкметы, за якімі відаць станаўленьне і заняпад эўрапейскай цывілізацыі, незразумелыя і глыбока несымпатычныя маскалю. Адсюль хаатычнасьць усіх ягоных учынкаў, брак трываласьці, няспыннае хістаньне ад параксызму энэргіі да апатыі, духовая, палітычная і маральная лянота — прыкметы мо’ каму й сымпатычныя, але, тым ня меней, шкодныя з гледзішча сацыяльнага, сьмяротныя для ўсялякага грамадзкага поступу. Шырыня расейскай зямлі, невычэрпнасьць ейных багацьцяў і чалавечага матар’ялу сталі праклёнам для Расеі, што аніяк не дае ёй выйсьці духова са стадыі прымітыўнае грамады...

Якія высновы можна вывесьці з гэтай кароткай характарыстыкі расейскай культуры? Толькі адну: гэтая культура прымітывізму, гэтак блізкая да ўсіх культураў Усходу, сьмяротная для нас — паўнапраўнае часткі Эўропы. Толькі Расея з сваімі невычэрпнымі багацьцямі можа дазволіць сабе раскошу мець такую “культуру”, якую ўжо мае. Нават такія дзяржавы, як Нямеччына й Аўстрыя, калі б і хацелі прышчапіць яе да свайго арганізму, мусілі б загінуць. Гэтак жа й мы. Каб выжыць у гэтай страшэннай барацьбе за йснаваньне, што вядзецца паміж нацыямі, мы мусім завесьці ў сябе нямецкую дакладнасьць,

энэргію і здольнасьць да працы. Цалкавітае распыленьне “я” ў вялікай цэласьці, культ Нірваны, Агулу, абмежаванасьць індывідуальнасьці, рабства духу — як ідэал, узьнясеньне інстынктыўнага, традыцыйнга статкавага розуму масы да ролі рэгулятара грамадзкага жыцьця, антысацыяльная прапаганда самапакоры, самаўдасканаленьня і анархізму — гэта ўсё элемэнты, якія нельга назваць інакш, як элемэнтамі культуры раскладаньня. Ад яе, ад гэтай культуры, як ад пошасьці, мусім мы пільнавацца, каб не струпяхлець дашчэнту. Таму ў нас, зважаючы на гэта, ня можа быць двух меркаваньняў. Або-або! Або Расея зьнішчыць нас, а тыя задаткі эўрапейскай культуры, якія мы маем (прыватная ўласнасьць на зямлю, унія, індыідуалізм), зьвядзе да ролі камічных, пакінутых ад мінуўшчыны экстравагантнасьцяў, якія, як смушкавую шапку ўлетку ці шырокія “як Чорнае мора” шаравары, змушаныя будзем здаць у музэй. Або павінныя гэтыя рэшткі культываваць і, супраць волі Расеі, сьцьвердзіць і замацаваць, вывесьці іх у моцную будову, навязваючы абарваную нітку даўняй гістарычнай традыцыі. Дакуль таго ня зробім, будзем мо’ мець “Энэіду”, пераніцаваных сацыялістаў-рэвалюцыянэраў (існаваньне якіх на Ўкраіне, дзе няма “міру” лічу за чысьцюткі ідыятызм і рабскае малпаваньне маскалёў), як маем пераніцаванае праваслаўе, пераніцаваную літаратуру (Віньнічэнка — украінскі Арцыбашаў) і г.д. Думаць, што ў гэтым пераніцаваньні няма бяды, памылкова. Кожная інстытуцыя нясе з сабою дух, які яе стварыў і якім яна прасякнутая. Узяць, прыкладам, унію — тэма, што робіцца ў нас надта актуальнаю. Тут гаворка не пра голеныя ці няголеныя вусы. Унія, як і ўся каталіцкая тэалёгія, паўстала зь сярэднявечнае схалястыкі, а гэтая схалястыка збудаваная на поглядах Арыстотэля. Што б там ні было, гэтая схалястыка абуджала калісьці дух творчае працы. Яна зьберагла рэшткі антычнай традыцыі, зрабіла пазьней магчымым Рэнэсанс і Рэфармацыю, рабіла прадметы веры прадметамі думаньня, узносіла чалавека із сфэры абсалютнае веры ў сфэру сумневу, досьледу, ведаў. Імкнучыся дайсьці розумам да царкоўных догмаў, яна ўмацоўвала — можа, мімаволі — аўтарытэт розуму, вольнае навуковае творчасьці. Яна сталася прычынай перамогі новага прынцыпу — прынцыпу розуму. Яна зьберагла антычную павагу да чалавека як чагосьці самадастатковага, як меры ўсіх рэчаў для наступных стагодзьдзяў. І гэта ўсё мы дарэмна шукалі б у расейскім праваслаўі і ў ягонай копіі — украінскім. Падобна й іншыя інстытуцыі, гвалтам зьнішчаныя ў нас Масквой, меліся быць у нас задаткам самастойнага разьвіцьця ў духу заходняе культуры. Ці наш культурны развой ішоў бы тым шляхам, што цяпер, калі б у нас Расея не насадзіла прыгоньніцтва, калі б яна ня зьнішчыла самаўправу гарадоў (магдэбурскае права), калі б не задушыла палітычную самаарганізацыю шляхты, калі б ня вынішчыла “рымскага” духу ў нашых школах, ніжэйшых і вышэйшых, калі б ня

выпхала на другі плян лаціну, гэтую асаблівасьць навукі ажно да канца XVIII ст., лаціны, якая была — як і унія — ня толькі формай, але й пэўным зьместам?

Той дух, які калісьці натхняў усю нашу культуру, быў духам Захаду: чалавек быў там каштоўны (як тое было ў Расеі) не сваёй ужытковасьцю для дзяржавы, для царквы, для "Бога", для Агулу, а толькі як увасабленьне ў целе несьмяротных здольнасьцяў духу, навязанага нічым і нікім, — ні традыцыйным розумам продкаў, ні тыраніяй "кампактнае бальшыні" (ібсэнаўскі выраз), ні ўтылітарным тэрорам некультурных масаў, не абмежаванага нідзе, ні ў духовым, ні ў палітычным жыцьці, ні ў навуцы, ні ў мастацтве. Гэты дух заходняй цывілізацыі мы маем зноў адшукаць у сабе, маем уваскрасіць забытыя традыцыі нашай старой культуры, калі мы ня хочам распусьціцца ў маскоўскай псэўдакультуры, што ёсьць перадусім культурай застою. "Ляці — і збавіш сябе" — "Сядзі — і будзеш збавёны" — у такой формуле бачыць знаны (і таленавіты) расейскі пісьменьнік Розанаў розьніцу дзьвюх культураў — эўрапейскай і маскоўскай. Мы мусім імкнуцца, каб цень Расеі ня лёг на нас. Не дапусьціць гэтага — сьвяты абавязак кожнага, для каго ідэалёгія "скапецтва" і "басоты", ідэалёгія "абуджанага" і зрэвалюцыянізаванага статку ня сталася йшчэ апошнім словам поступу.

[1] у будучыні (лац.)

[2] "скандальная кроніка" (фр.)

[3] апошняе, але істотнае (анг.)

[4] "парыскае жыцьцё" (фр.)

[5] Макэнзі Ўэлс і Сэтан Ўотсан — ангельскія вучоныя, культуролягі й славісты, якія пісалі пра Расею

[6] расейства (ням.)

[7] рымскі грамадзянін (лац.)

[8] мой дом — мая фартэцыя (анг.)

[9] права на адасабленьне (лац.)

[10] найвышэйшы закон (лац.)

[11] народ (фр.)

[12] з Боскае міласьці (лац.)

[13] страшна сказаць (лац.)

[14] галоўны рухавік сусьветнага Духу (ням.)

[15] вольны чалавек не зайздросьлівы, але з ахвотай вызнае тое, што вялікае і ўзьнёслае (ням.)

[16] моцны чалавек і "дзеці сатаны" (польск.)

[17] "Затанулы звон" (ням.)

[18] асабліва (фр.)

[19] самасьцьверджаньне (ням.)

[20] "Філязофія гісторыі" (ням.)

[21] яднае з натоўпам (польск.)

[22] суполка (ням.)

[23] грамадзтва (ням.)

[24] духаў пошуку (ням.)

Васіль БІРЫЧ

# “АФРАДЫТА - ОСТ“

У вагоне, пэўна, яшчэ можна было знайсьці вольнае месца, але ён знарок застаўся тут, пры вакне ў калідорчыку ля ўваходу. Тут было зацішней, як ні глянь. Навет калі найстрашнейшае — “крымінальполіцай, контроле” — дык і то было больш магчы-масьцяў для годнага адступленьня ў той ці ў той бок — зусім далоў, ці ў іншы вагон, ці навет праз гэты, быццам па “дакумэнты”. Крыўдна-ж было-б уліпнуць цяпер, у дарозе назад, калі туды — зыйшло ўсё так гладка.

Яно праўда, як цяпер выглядае, ці варта было наагул выбірацца ў гэтае падарожжа за сьвет ды так улегцы, без аніякіх афіцыйных дазволаў і дакумэнтаў, з аднэй толькі згодаю зычлівага, як на вынятак, гаспадара-баўэра (“бавора”, як перакручваў па-свойму дзядзька Сымон гэты, такі ўсёзначэнны для ўсяго паднявольняга народу “аўслендэраў” і асабліва “остаў”, дабрародны тытул непахіснай асновы й апоры вялікай нямецкай нацыі).

Але-ж няварта было й рыпацца. Яна — зусім зьмянілася да яго, зусім-зусім не такая. Праўда, гэта ўжо можна было-б вычуць самому з апошніх лістоў, зь іхнае неакуратнасьці і лякацічнае, казённае сухасьці мала не афіцыйных адпісак. Дык-жа яно й вычулася папраўдзе, і фактычна-ж толькі й хадзіла — праверыць і пераканацца навочна. Цяпер, здаецца, усё ясна. Застаецца толькі, прыехаўшы, спакойненька вылажыць усё ў лісьце, і, бадай, канцы. Будзе прынамся лягчэй, чымся ашуквацца далей, лягчэй, як-бы ня было й балюча пры гэтым. Толькі хто ён той, дзеля каго гэтая зьмена? Можа, сам Міколка — самы найлепшы, дасконны сябра? Не, баржджэй за ўсё гэны, чорны. Такі прыкры, агідны яму заўсёды

---

Друкуецца паводле выдання Беларускага выдавецкага Таварыства, Нью-Ёрк, Саўт Рывер, 1963г.

псыхалёгічны тып “сэрцаеда”, а на самай рэчы — чысьцюткае вады “блатняка”. Ну, але-ж дзяўчаты ў бальшыні сваёй, здаецца, ахвочыя ліпнуць якраз на гэткіх, навет калі й ведаюць добра самі, што чакае іх такая-ж доля, як мухаў на гэтых папяровых істужках, што разьвешваюць Немцы ў хатах улетку. Дый ці такое ў гэтым ува ўсім ужо дзіва? Зусім прыродна, калі ростань такая даўгая й далёкая.

А цяпер будзе яшчэ і поўная. Поўная ростань і поўная адзінота. Яно й лепш, што поўная. Няпоўная заўсёды карціць, цягне ў гэткія вось непатрэбныя й рызыкоўныя падарожжы. І тут, ля вакна, таксама лепш, што на адзіноце. Там, у вагоне, было-б куды прыкрэй — усе-ж прыглядаліся-б і рабілі-б сваю “кантроль” угледлівымі і ўедлівымі нямецкімі вачыма. А хіба цяжка пазнаць? Навет гэтая вопратка — анцуг, што ўдружыла прыхільная “баворава” нявестка, добрая, такая малочна-мляўкая Эльза з пляча свайго мужа — цяпер жаўнера. Адразу выдае, што з чужога пляча, дарма, што зусім тутэйшы. Сядзіць на ім, мала не як на тым калку. Добра-б, каб займець собскі, зусім, на сябе шыты эўрапэйскі гарнітур — анцуг. Толькі што з таго? Навет і ў сваім анцугу не прабудзеш-жа ўвесь час зь людзьмі як рыба, змусяць-жа й разьзявіцца. А тут-жа незаўсёды навет і зразумець ухопіш, чаго заманулася таму ці іншаму гэру або фраў, ня кажучы ўжо, каб спраўна й гладка адказаць. Дый навет адзін акцэнт, вымова... А наверх, як кажнаму несрпактыкаванаму злачынцу — навіку, толькі й здаецца ўвесь час, што ўсе ўжо пазналі, ведаюць добра і толькі чакаюць на зручны мамэнт, каб выкрыць, выдаць, злавіць ненавіднага ўсім ім зладзюгу-аўслендэра, можа бандыта, прынамся — паразыта, што прыпхаўся знарок на іхны белы хлеб і аб‘ядае бяз жалю й сумленьня, з горла выдзірае, аддзірае ад скупых і так іхных карткавых “абшнітаў”. Бо ня бачыць і ня хоча бачыць ніхто, як робіцца ім-жа гэты агорклы чужы хлеб, робіцца запраўды ў поце аблічча...

Не, не пабыць доўга й тут самому на адзіноце. Вось прэцца — і чаго?.. ды якраз да вакна, да ягонага вакна, як-бы не магла застацца там, дзе была... Праўда, на такія вульгарныя вызначэньні не заслугоўвае ніяк гэтая дзяўчына — маладзенькае, далікатнае, эфэмэрнае проста стварэньне і навет прыгожая. Яшчэ ўчора адназгодна прыйшлі зь Міколкам да выснаву, што Немак прыгожых няма. Дык хіба даводзіцца перагледзіць прысуд? Ну, выняткі-ж бываюць заўсёды і ўсюды. Запраўды, вельмі прыгожая, навет бездакорна прыгожая, тонка, далікатна-квола і пры тым неяк сарамяжа прыгожая. І на твары, на вуснах ніякага маляваньня: маладосьць і хараство не патрабуюць ані паправаў, ані ўдасканаленьняў, толькі дурная нясмачніна можа дапусьціцца

да гэтага. А тут-жа чыстая Афрадыта, вось-вось із шумавіньня морскага народжаная, Афрадыта ў дзявоцтве, не — лепш — Афрадыта гімназісткаю. Бо пэўна-ж яшчэ вучаніца, хоць-бы сабе й апошніх клясаў. Пад гэтым на ўсе гузікі зашпіленым плашчом вычуваецца бранзовы форменны хвартушок, бо толькі ён пасаваў-бы да гэтага глухога каўнерыка ледзь не пад бараду, што відаць знад плашчовага каўняра. На тонкіх пальцах абедзьвюх рук, што зачапіліся за бераг неапушчанага да канца вакна — ніякіх пярсьцёнкаў: яшчэ не заручаная і можа навет не каханка. Пэўна, дрыжоная дачушка старэнькіх таты й мамы — фаті унд муті, якіх-небудзь дробных крамнікаў у сярэднявечным гатычным мястэчку... Ну, але-ж ня выпадае так доўга й пільна разглядаць усупор ды вывучаць, рабіць тую-ж “контроле вачыма”, ад якое тут сам хаваецца. І небясьпечна навет... Наагул, ці ня лепш пашукаць зусім вольнага вакна ў нейкім іншым вагоне?

... Ці ёсьць у яго агонь? Агонь то ёсьць... Вось табе і “Афрадыта-гімназістка” — адразу разьбіваецца, гасьне з гэтым “агнём” адтвараны фантазіяй вобраз. Хоць гэтыя Немкі ўсе блізу кураць, ад дзяўчатаў таксама, і да гэтага ўжо тут прывыклася. Гэта толькі дома калісь нек аж ніякава было бачыць жанчыну, дзяўчыну пагатоў курачы. Толькі адкуль яны бяруць? Гэтая-ж, мусіць, паводля гадоў, яшчэ й на куртатую жаноцкую раўхэркарту, на собскую, правоў ня мае. А зацягваецца, як сталы курэц. І яе гэта навет ані ня псуе: пэўна-ж, прыгожай — усё прыгожа. Далікатны дымок добрае, даваеннае мусіць яшчэ цыгарэты дражліва казыча ягоны нюх. Сяньня і з гэтым ізноў ані не пашанцавала. На гэнай дурной і глухой станцыі — хоць-бы адзін канчар — “бычок”. Гнілая правінцыя. А што — набрацца нахабства раптам і бахнуць, каб пакінула, хоць “сорак”?

Адно, што ў ейнай мове ня знойдзеш такіх спэцыфічных і выразьлівых тэрмінаў напоў “блатных”. Хіба было-б — “фірцыг”, ці можа “оксляйн”? Бітэ, лясэн зі... Сьмех!..

А ткі праўда мусіць, што думкі могуць перадавацца наводдаль, як праз радыё. Асабліва — думкі курца курцу. Хоць тут барджджэй простая, звычайная павіннасьць узаемнай ветласьці. Але ён курыць, ды — шчыра дзякуе: ня стала-б у яго сумленьня эксплёатаваць чужую ветлівасьць ды рабаваць людзей, асабліва цяпер, калі з гэтым так “кнап” і асабліва тут, у дарозе. Зусім ня так “кнап”, як ён, можа, думае, а што ў дарозе, дык у дарозе-ж усё прасьцей і лягчэй, у дарозе зусім няма патрэбы саромецца й далікаціцца. — А ёй гэта якраз падарунак на дарогу. Няхай-жа ён возьме — “нээмен зі дох”. І як тут было ўстояць перад гэтым намагальным нямецкім “дох”, дый праўда — чаго так ужо далікаціцца? То пра “сорак” думаў

“бахнуць нахабствам”, а цяпер ад цэлых ад “сту” адмаўляцца?

Пакручастым дымком дзьвюх цыгарэтаў павілася й перавілася гаворка. Лёгкая ад пачатку, як гэты дымок. А зь ёю адразу пачало гаварыцца гэтак лёгка, як із сваёй і даўна знаёмай. Пэўна-ж, прыгожай — ня толькі ўсё прыгожа, але і ўсё лёгка. І ён зусім няўзнак сабе самому неўзабаве ўцягнуўся, і ад звычайных аднаскладовых мармытаньняў пацьвярджальнага ці адмоўнага характару пачаў удавацца аж у шчырэйшыя й даўжэйшыя выказаньні, ды навет зусім гладка, зрэдку толькі ўдала і ўмела ўспамаганы ейнымі трапнымі ўстаўкамі. Гэта ўжо ня так цяжка — вольна гаварыць па-нямецку, навет зь ягонай моваю. Трэба толькі адкінуць зусім той “страх мовы”. А галоўнае — каб было з кім гаварыць. Дый тое ўсё, што яна гаварыла, — разумелася таксама адразу й дарэшты. Праўда, і яна як-бы старалася тарнавацца да ягонага разуменьня, дабіраць словы, быць асабліва дабітнай. Ну, але й наагул лягчэй разумець, калі чалавек гаворыць добрай інтэлігэнтнай, літаратурнай мовай, а не якім-небудзь паганым дыялектам, як гэныя “баворы”...

... Прыгожыя мясьціны, ці-ж няпраўда — ніхт ваар? Ці ёсьць такія на ягонай бацькаўшчыне? О, так, гэта-ж адразу пазнаецца, што ён нятутэйшы. З усходу? Яна й сама так падумала адразу-ж. (Вось бачыш! Ну, але-ж хіба дарма — гэта-ж ніякае не... “крымінальпаліцай, контроле”!). На ўсходзе, яна чула, таксама ёсьць вельмі прыгожыя куткі... Ці няма ў яе на ўсходзе каго... каго блізкога? На экране ягонай сьведамасьці дзесь на заднім пляне і зь нейкім прыкрым адценьням — (зайздроства? І ўжо?) — мільганула выляксаваная постаць завадзкога “арыйца”, нейкага лейтэнанта ці як... І шле ёй лісты пра “прыгожыя куткі ўсходу”, як той гаспадароў Ганс сваёй малочна-мляўкай Эльзе... (Але-ж на пальцах няма пярсьцёнкаў, сам зацеміў адразу-ж...) — Ці ёсьць у яе хто на ўсходзе? І так, і не... Не, ця-пер няма. (Аж адлягло неяк, і зьнік з экрану той франт-лейтэнант? Гэта-ж зусім, як у яго самога — **цяпер** няма. “Родныя душы”?) Ды хто цяперашнім часам ня ведае, ня чуў аб усходзе?

Але, ягоная бацькаўшчына прыгожая. Ды часам зусім-зусім падобная да таго, як тут. Часта — у лесе асабліва — яму здаецца, што ён у сябе дома. Праўда, часта тут бывае яшчэ прыгажэй, як дома, толькі што чужое... — Вось гэта й ня добра — чужое ня можа быць прыгожым, сваё заўсёды найпрыгажэйшае. Ну не, ён із гэтым ня можа пагадзіцца. Вось, прыкладам, яна сама... (Адкуль толькі бярэцца гэтае... нахабства?). Ён шчыра мусіць сказаць, што ня бачыў яе, думаў, што зусім няма прыгожых сярод Немак (ну й цяў!). А цяпер ён гатовы прызнаць, што й на бацькаўшчыне ягонай ці

знайшлася-б ёй роўная... (Вой-вой! Ну й панёс! Адкуль толькі бярэцца? Дурань, дурань, бот, боўдзіла, “ост” няшчасны!).

Яна засьмяялася, дзякуючы за камплімэнт. Не, ні засаромелася — гэта адразу толькі была сарамяжнай і гімназісткаю. Мусіць, ужо прывыкшы. Каб ведаў — быў у яе адзін знаёмы, навет больш — сябра маленства... Яна абнізіла голас — айн юдэ, Жыд. Дык жаліўся ёй, як даймаюць глыбака яго камплімэнтамі, што ён непадобны да Жыда... — Але, але, ён і сам добра знае гэта на сабе: яму таксама часта спрабуюць лісьціць тым, што непадобны да “ўсходніка” (гэта, каб і яна ведала — цэлая праблема ў іх, “на ўсходзе”: падзел на “заходнікаў” і “ўсходнікаў”...). Толькі ён зусім не хацеў так... (дурань, бот). Не, і яна нічога... На нямецкіх жанчынаў і яна нявысокіх паглядаў. А што да яе асабіста, дык ейная **расавая гордасьць** (падчыркнена) завысокая, каб яе можна было даткнуць зграбным ці нязграбным “камплімэнтам”...

Гаворка абарвалася прыкрымі яму моўчкамі. Здаецца, зарабіў. Ужо й да “расавае гордасьці” дайшло — шануйся, хлопча! А так было ўсё добра — цяпер пакрыўдзілася, пэўна. Ну але — назад у вагон... няхай ён выбачыць на часінку...

Дудачкі, “на часінку” — так ужо яе, мусіць, і бачылі... Выбачэньне-ж толькі звычайная ветласьць, павіннасьць ветласьці... Усё папсаваў, сам папсаваў, ідыёта кусок! А як шкода... Якая цікавая і, відаць, глыбокая дзяўчына, ня толькі адно, што прыгожая...

Не, ткі варочаецца назад, толькі ледзь плішчачы вялізны нямецкі сутнік — кофэр. Ну, куды гэта варта, хіба ня мог ён? — Не, дзякуй, яна звыкла заўсёды сама сабе даваць рады. (Зазлавалася ткі?).

Ёй ужо высядаць на наступнай станцыі? О, не, яшчэ далёка-далёка... А кофэр — праўда, усе свае рэчы — яна прынесла, каб можна было сесьці. На ім так добра й выгадна сядзіцца, будзе й яму месца. Ну, хіба ён паважыцца цясьніць? Але тое самае немагальнае “дох” пасадзіла поплеч зь ёю, у зусім-зусім цеснай блізіні, што адразу моцным хмелем дала ў голаў. Яна пэўна злуецца на яго, на дурнога? О не, ані. Не, проста ёй заўсёды вельмі прыкра, калі сваё паніжаюць перад чужым. І ён не павінен гэтага рабіць ні перад ёй, ні наагул. Добра?

Гаворка ўзыйшла зноў на ранейшыя рэйкі нязмушанасьці й шчырасьці. О, як умее яна цягнуць за язык, разьвязваць язык, і то зусім няўзнак. І ён выкладаў перад ёй ужо ўсё-ўсё, і пра бацькаўшчыну, і пра сябе. Пра тых... катаў. Яна чула таксама й чытала. Яна верыць, што гэта — зусім не разьдзьмутая прапа-ганда, як думае шмат хто з тых, што не пераэкылі самі. Няхай будзе пэўная — гэта яшчэ далёка ня

ўсё гаворыцца й пішацца, ніякая не прапаганда. Але цяпер ужо ён разважліва спыніўся перад тым, каб не закрануць і ўсяго, што рабілі й чаго не рабілі там, “на ўсходзе”, і мала лепшыя ейныя суродзічы... Няхай, лепш не чапаць гэных пытаньняў, “расавых”, а з другога боку — блізкіх і да абсягу “крымінальполіцай”... (Усё можа быць, трэба быць пільным з усякім. І так за гэтай зюканінай зусім забыўся на гэную небяспеку й кінуў сачыць. Можа ўліпнуць зусім, як рудая мыш... Хіба што, яна тут, як анел-ахоўнік...).

Дык проста перайшлі на жудасьці вайны й фронту — хто гэтага ня чуў цяпер, хоць і сам можа не заўсёды бачыў? Жудасна, фурхтбар... Дый як ня бачыў? Калі-ж цяпер і тут фронт, усюды фронт. Калі-ж і цяперака во, якга, можа гакнуць і заскавытаць трывога — алярм, люфтгэфар, люфтангрыф... Праўда, што апошнімі днямі неяк сцішылася, нат на Бэрлін каторы дзень не наляталі — пярэдых. Адпачываюць, пэўна, рыхтуюцца да новых навалаў... Толькі над гэтым ня варта лішне сушыць мазгі — алярм на тое й алярм, каб ім загадзя не галовіліся, а адразу як па галаве... І яму таксама не хацелася алярму, ані так якога-небудзь найменшага закалоту ці замарокі ў мілай такой гаворцы. Дык і ўзгаварылася пра мілае, аж пра інтымнае навет... Нек само сабой вывязалася й пра гэтае падарожжа... Ага, дык вось чаму і яна яму ўспала адразу на вока, што такая ўжо прыгожая (а ткі згадала, мусіць, шэльма!). Ну-ну, няхай ён не правуецца й не саромеецца, гэта яна так, жартуе (таксама сьмела, халера!). А тая яшчэ можа адумацца, ягоная сяброўка, адумацца й зьвярнуцца назад да яго. Гэта часта бывае. Пэўна, трэба выявіць цьвёрдасьць, але й захаваць сваю вернасьць, каб умець і памякчэць, калі-б надышоў мамэнт. Калі толькі ён запраўды кахае. Кахаў? Гэта ўжо горш. Кахаў — гэта ўсяроўна, што й не кахаў. Няма таго, што ўжо мінулася. Ёсьць толькі тое, што ёсьць сяньня і што — поўная гарантыя — ня мінецца заўтра...

Сядзелі на кофэры поплеч, уставалі й стаялі ля вакна, таксама поплеч-цясьнютка, ізноў сядалі. І гэта ўжо неяк было так, як і трэба. П‘яніла, праўда, і час-часом мацней давала ў голаў. Гаварылі ўвесь час і таксама ўвесь час курылі. Яна й гаварыла найбольш курачы, як-бы праганяла дымам словы ці словамі дым. Курыла часта, блізу бязупынна і ўсё частавала яго. Ужо й не адмаўляўся, хоць даўно, а мо й ніколі так шмат ня курыў, і гэта, разам зь ейнай блізінёю, узбуджала яшчэ больш (балазе, хоць, што нямецкія цыгарэты, навет добрыя даваенныя, не такія моцныя). Якімі, аднак, сібернымі курцамі бываюць гэтыя Немкі, і такія яшчэ маладыя! Праўда, яна пакідала вялікія канчары — “бычкі”, але што-ж, калі ўсё — за вакно... Ну, гэта цяпер ужо невялікая сьмеласьць ці нахабства

будзе скарыстаць із гэтага: вось, у яго ёсьць адмысловая пушачка, дык чымся выкідаць гэтулькі дабра за вакно...

Сьмяялася доўга й шчыра, дакляравала здаваць яму акуратна ўсе недакуркі ў пушачку. Дык ужо давялося прызнацца, як адразу хацеў папрасіць “сорак”. Ну й чаму гэтак не зрабіў — куды гладзейшым быў-бы пачатак, заўсёды лепш, калі першую ініцыятыву выяўляе не дзяўчына... Не, а што да гэтага, дык звычайна яна ня курыць так шмат, хоць і праўда, гэта адно зь ейных... захапленьняў, ці што, і то яшчэ бадай адмалку, калі з гэным сябром маленства... Звычайна ўсё-ж курыцца менш, не таму, каб цяжка было з даставаньнем — ані не, ёй гэта зусім лёгка (так, і ён у гэта верыць, што ёй усё лёгка) — не, наагул лёгка ня толькі ёй, а кажнай дзяўчыне, адно ўмеючы, дастаць што хаця, ня толькі цыгарэты, і навет цяперашнім часам, дый то — нічым ня рызыкуючы й не авансуючыся... Трэба толькі ўмець. Ну, а што ў дарозе — дык-жа заўсёды, як у дарозе, адны — і гэта найбольш — бязупынна ядуць, як ніколі дома, іншыя — зноў — кураць. А яна-ж казала ўжо, што гэтыя цыгарэты ёй падаравалі добрыя людзі якраз на дарогу, дык значыцца, за дарогу іх і спажыць трэба.

Стаялі цяпер ізноў ля вакна, за якім ужо западала цёплая жнівенская ноч. Пакацілася зьнічка на ня зусім яшчэ сьцямнелым, а ўжо пакрысе зорным небе. Як прыгожа, ніхт ваар? Вось яшчэ, колькі разам. Гэта-ж цяпер якраз жнівень, канец жніўня, калі яны ападаюць цэлымі дажджамі. Хіба гэтыя зьнічкі не падобныя да нас — людзей, не — ніхт? Але, у ваднаго паэты ягонае бацькаўшчыны ёсьць прыгожы вершык аб гэтым. Ці ня можа ён успомніць і працытаваць ёй хоць крышку? Яна хацела-б толькі паслухаць, як гучыць ягоная родная мова. Калі ласка, з прыемнасьцяй. І ён прачытаў ёй Багдановічава “Глянь, як зорка ў цемню ляціць” — знаў-жа паэту мала не ўсяго напамяць, як і іншых некаторых, улюблёных. Ёй падабаецца — так мілагучна (камплімэнт хіба?). Ёй навет здаецца, што яна разумее — не, вычувае тое, аб чым тут хацеў сказаць паэта. І яна — бадай, з дакладнасьцяй, а ў галоўным, прынамся, зусім беспамыльна — перадала настрой і навет думку верша. Ну, ці-ж не... д‘ябліца, ці-ж няпраўда?

Ці-ж няпраўда — ніхт ваар, — як лёгка можна разумець чужую мову, навет ня ведаючы яе, калі толькі добра разумееш чалавека? Так-так, і ён-жа вельмі добра разумее яе, хоць і зь нямецкаю моваю ў яго, папраўдзе, зусім няцікава... О не, не, зусім ня так блага, ніхт зо шлім — гэта толькі лішняя сьціплась. А наагул, яны ўжо, здаецца, так добра разумеюць адно аднаго, быццам даўныя й добрыя знаёмыя.

А хіба не — хіба ня добрыя знаёмыя? Але, ды толькі-ж на час, на кароткі час, як тыя зьнічкі... А што ёсьць вечнага на сьвеце? Ну, усёткі... Праўда, ёсьць спосаб мець хоць нейкі працяг знаёмства. Што, як — што ён мае наўвеце? Вельмі просты спосаб — лісты. А, гэта можна, навет цікава часам, трэба толькі зараз-жа зьмяняцца на адрасы. Якраз добра — цягнік так дарэчы спыніўся, як ведаў, проста ля гэтага ліхтара, трэба толькі выкарыстаць баржджэй. Вось — зараз — лісток зь ейнага нотэсу, няхай ён запіша тут свой адрыс, а яна яму дасьць свой. Гэ, ліханька, літары скачуць, хоць цягнік стаіць — ускруціла дзяўчына. Вось, ягоны гатовы. Яна-ж яшчэ піша — хіба такі даўгі адрыс? Не, нешта яшчэ — толькі што? Ну вось, яна сама толькі ўложыць яму ў кішэньку, і каб ня важыўся чапаць, аж пакуль не расстануцца сяньня — ці чуе ён — гэрэн зі? — Дох... — у яго не намагальнае, а толькі слаба пярэчлівае “дох”. Не, не, толькі так. І ўжо ня доўга давядзецца яму чакаць. Дый там-жа няма нічога такога што-б магло карцець — адзін звычайнюсенькі адрыс, праўда-ж. Гэта проста ейная прыхамаць, няхай сабе капрыс, каб ня чытаць цяпер і тут, пры ёй, і ён мусіць слухацца, калі хоча, каб быў той “працяг знаёмства”.

Цягнік адыйшоў далей у ноч пасьля кароткае спынкі пад тым ліхтаром на нейкай станцыі, клумлівай — мусіць, вялікай. Ліхтар ужо прапусціў іх і толькі міргаў яшчэ здалёку. Ды нек ня слухалася зусім, што апавядала яна пра свае нядаўныя школьныя гады — таксама сьветлыя зьнічкі на цёмным цяпер небе... Не, яна ўжо не гімназістка, як ён быў падумаў адразу, але, праўда, школа ў яе яшчэ толькі-толькі за плячыма, мілая школа... А яму ўсё муляў і аж пёк у грудзі той “адрыс” у кішэньцы. Што там? Словы прызнаньня, надзеі, будучыні — ці насьмешка над прастарэкам, што зазнаўся — зарваўся вышэй, як прыстала? І адкуль яна ўмее так баламуціць, інтрыгаваць, гэтая — не Афрадыта, не сама д‘ябліца, д‘ябальска прыгожае й спрытнае чарцянё... І адкуль такая сіла загаду?

На гэнай станцыі пад ліхтаром, аказваецца, налезла шмат народу, напхнулася навет і ў іхны прыдзельчык — за тым сьпешным пісаньнем не спакмелася толькі. Цяпер іх добра прыціснулі да вакна, хоць між іх дваіх і без таго было цесна, і ці магло ўжо быць цясней за гэтае цеснае... Вось, яна мусіць нарэшце абвесьціць яму ўрачыста — сумнае ці радаснае, хто яго ведае: ёй ужо высядаць на наступнай станцыі... Яны закураць яшчэ апошні раз. Вось цыгарыльля, разрэжацца напалам, каб і ўсё ў іх ішло напалам, праўда? А што, ён-жа казаў, што абкурыць яе? Не, ёсьць яшчэ і тыя, але гэта знарок — дзеля ўрачыстасьці мамэнту, на расстаньне — цыгарыльля.

Яна курыць і цыгары, калі здараецца, наагул усё, што пападзя. Ёсьць навет і люлечка — айн пфайфхен, толькі дома. Ён ніколі ня бачыў, каб дзяўчына курыла... Дык-жа і яе ня вельмі хто бачыць із гэтым — гэта бывае толькі зрэдку, пад настрой, і калі зусім сама адна... Наагул, у яе такая павадэнцыя ў кажнай справе — ня спыняцца на аматарсьцьве, а імкнуцца як мага да стану прафэсіянала, усебакова кваліфі-каванага. Чаго ён сьмяецца? Хіба курыць — гэта прафэсія? Усё на сьвеце можа быць прафэсіяй — так, так, мой хлопчыку, (адкуль раптам гэты... матчын тон? Ці не... засмаркатая была-б? Але чаму яшчэ цяплей ад яго, як запраўды ад матчыных пешчаў...)

Так, так, мой хлопчыку, — зо, зо, майн юнгэ — усё можа быць прафэсіяй, навет і само жыць, навет і... Ды, ведама-ж... Лепш было-б наагул цяпер памаўчаць крыху, як і трэба заўсёды перад расстаньнем. Заўсёды, бо маўчыцца і тады, калі трэба шмат сказаць, а няможна ўжо сказаць усяго, і няма ведама, што сказаць, а што не — усё аднолькава важнае... Але, ейная праўда, няхай памаўчыцца...

Ой, — няхай ён выбачыць, яна зусім забылася — дый ён выстрымнуў сам, каштоўны такі недакурак, стрымнуў у ноч агністаю дугавінай, рассыпаючы іскры... Таксама — зьнічкі...

І раптам — у загуслай ужо цемры гэтага зусім нельга было пабачыць і прадбачыць — ейныя вусны прыціскаліся на мамэнт да ягоных, не, ня прыціскаліся — прыпячаталіся, як нешта мэталічнае і сьцюдзёнае, а сьцюдзёнасьцяй сваёй такое пякучае, як пячэцца ўзімку, вялікім марозам, настыглае зялеза клямкі, калі ўзяцца голай і цёплай рукою... Гэта было так неспадзявана, але разам із тым як-бы і ўрыхтавана, так, урыхтавана ўсім папярэднім ходам нутранога развою пачуцьця, што — не магло ня быць. Не магло ня быць, бо й ягоныя вусны — хоць быў толькі адзін, такі кароткі мамэнт — ухапілі адказаць нек зусім аўтаматычна, рэфлекторна, бязвольна, ад самога яго зусім незалежна. Аднак, якія ліпучыя гэтыя Немкі — адразу; зрэшта, гэта агульна ведама... Толькі, што ня зусім так, як нашыя — мухамі на ліпкія істужкі... І якая д'ябальская рызыка — гэта-ж поўна народу...

Што, хлопчык, спалохаўся? І няма чаго зусім хмыліцца назад — ніхто больш ня мог ані пабачыць, ані пачуць. Фэрдункэлюнг — зацямненьне — лепшая ахова ад усякіх няпрыемнасьцяў, ня толькі з паветра, асабліва, калі яно праведзенае так гэніяльна-проста і ўнівэрсальна, як тут — зусім ніякага сьвятла. А цягніковы грукат — глушыць і ня гэта... Но-но, няхай толькі больш не тапырыць губкі (гэта няпраўда! І ўжо занадта! Адкуль-бы й магла тут пабачыць!): больш ня будзе. Толькі адзін і адзіны... Пацалунак мае найбольшую вартасьць, калі ён адзін і адзіны. Праўда, можа разам із тым

— і найменшую, як наагул адзінка ў сьцягу натуральных лікаў (так, яна закаханая і ў матэматыку...). Бо за адным няма яшчэ ніякіх забавязаньняў і ніякіх вязяў, яны прыходзяць толькі за наступнымі. Адзін — як той недакурак-канчар, што стрымнуў у ноч зьнічкаю, як сама тая зьнічка...

Але, зьнічка. Бо хіба ня зьнічка гэта, калі жаўнер, забегшыся ў хату пры дарозе напіцца вады і хапаючыся, каб не адбіцца ад свае калёны, насьпех заадно цалуе й дзяўчыну, што напаіла, дзяўчыну, якую бачыць упяршыню (дый ці добра бачаць адзін аднаго ў цёмных сеначках?) і — ніколі больш не пабачыць? І яна заўсёды адкажа яму, гэтая дзяўчына, калі толькі яна — запраўды дзяўчына. І можа, гэта найбольшае шчасьце на сьвеце — перажываць зьнічкі і, наагул, быць зьнічкаю... Найбольшае шчасьце навет тады, калі-б і было найбольшым няшчасьцем адначасна... Гэтак павінна быць і ў іх...

Як-жа — а “працяг знаёмства”? Но-но, рукі прэч-вэг! — Ад кішэнькі, няслухмянае якое хлапчанё — яшчэ не пара! Дый што можа вычытаць у гэткай цемры? Што-ж, “працяг знаёмства” — лісты... “Белае поле, чорнае насеньне”... А пацалункі ў лістох — што-ж больш, як не звычайнюсенькая формула, зацяганы штамп, традыцыйны сымбаль бяз жывога, рэальнага зьместу й значаньня. “Цалую моцна, дасконна твой”... Ха-ха, “дасконна”, калі толькі — зьнічкі...

Ну вось, і зусім пад‘яжджаецца. Няхай ён будзе такім ласкавым і падасьць ёй гэты кофэр праз вакно, а то зь ім цяпер не праціснуцца празь людзей, а спынка тут такая кароткая — добра? Ейная далонь спрытна высьлізнула зь ягонай, і толькі тут дайшло, што дагэтуль, і няма ведама, як доўга ўжо, была яна там і ў моцным узаемным сьціску. Так-жа сьлізнула й сама гаспадыня далоні, завілася, як вужака, борзьдзенька й ёмка манэўруючы да выхаду, аж пакуль можна было сачыць у крыху разьведзенай вобліскам станцыі паўцемні (...як гэта трапна ў іх мове — шлянк і шлянгэ, стройная і — зьмяя...).

Галё, ейны кофэр? Ага, вось ён (сама памалу тут із сваймі лянгзамамі, калі штурхнулася каторага крышку!). Ну й праўда, як волава — бедная дзяўчына, і што ў яе там? Ужо яна трымае? Вялікі дзякуй! Да пабачаньня! Да пабачаньня зноў — аўфві-дэршаўэн! (што за іронія — якое-ж “ізноў”, калі — зьнічка?).

Ня пераймае яе ніхто, стаіць на пэроне сама і ўсьміхаецца яму — хоча яшчэ прапусьціць да канца, працягнуць зьнічкавы сьлед хіба?.. Цягнік ужо няўзнак аддаў, адплываць пачынае пэрон пакрысе назад, і яна, вось-вось — і па зьнічцы...

І раптам — пахопіста ірвануўшы па ўсіх гузіках,

расхрыстала плашч. Там — не, ня гімназічны хвартушок, як зманулася было напачатку, а пад левай грудзінай, мала не пад пахай, ды — адра-зу сьляпіцаю ў вочы — вялікімі літарамі, белым на сінім — “ОСТ”!

Дык вось нарэшце калі — запраўды — Афрадыта. Вось нарэшце калі запраўды нарадзілася, выйшла з морскага шумавіньня... — з “остам” на грудзёх... Расхрыстаная й выпрастаная, із скульптурным аж рухам узьнятае для апошняга адвітаньня рукі, зь пераможным, трыумфальным бліскам уваччу, такім самым мэталічным і сьцюдзёным ды пякучым, якім быў той пацалунак. Афрадыта з “остам”, Афрадыта-“Ост”.

Ашаламанеў зусім, толькі талопіўся нязьмігутна ў вадплываючае, аж пакуль ня сталася зноў пуста й цёмна перад вачыма. Толькі прад зрокам душы, нутраным, стаяла ўсё на ўвесь рост, новы рост — такой, пэўна-ж, і застанецца там назаўсёды, такой і будзе ўсплываць — вынураць адтуль пасьля, каб верадзіць і трывожыць, ці — можа й так — гаіць, супакойваць, лагодзіць...

Не, дык што-ж гэта? Як гэта? — пачынае ўжо сьвідраваць, калі атрасалася пакрысе першае ашаламаненьне. Як гэта? Гэта-ж трэба было гэтак доўга дурыць і задурыць, надзіць і любіць, так разыйграць, каб нарэшце — “ост”!

Вось табе й разьбярыся цяпер: Афрадыта-”Ост”. Не, яшчэ-ж ня ўсё — яшчэ-ж ёсьць гэны “адрыс”, цяпер ужо можна. Цьфу, — пырхнула за вакно гэтая дурнецкая хустачка “на выпуск” із кішэнькі — ліха і зь ёй, абы “адрыс” у жмені. Толькі-ж як прачытаць, калі — хоць вока выкаль. Ага, запальнічка! Ды ня выкрасаецца ніяк — ці то, што рукі трымцяць, ці выцякла бэнзына — сяньня-ж пабыла ў рабоце. Во й зусім ня крэсіць нат іскраў — хоць і яе за вакно!

Няма рады — “цярплівасьці, хлопчыку, гэдульд”, як сказала-б яна. Застаецца толькі ліхтар, які-небудзь такі, пры якім пісалася. Чакаць на яго. Толькі барджджэй, барджджэй!

Выхінуўся больш у вакно, ледзь не пераважыўся, і ўсе думкі сусярэдзіліся на адным: ліхтар. Ліхтар. Доўга ці не — здалося, ведама, ліха колькі — цэлую вечнасьць узіраўся напружана праз наганяныя рвучкім ветрам ад руху цягніка сьлёзы. На даляглядзе сыпанулі зноў вялікім дажджом зьнічкі, жнівенскія зьнічкі. Ага, вось-вось будзе і ён, ліхтар, ліхтарык, толькі-ж далёка як ад палатна чыгункі і такі сьляпы, прыдушаны да зямлі дашком таго халернага фэрдункэлюнгу. Не, нічога не ўхапіў. Ды, балазе, зараз насунецца другі — іх цэлы цуг маячыць адзін за адным паўз чыгунку — відаць, тут нейкі вялікі “бэтрыб” — хвабрыкі... Ага, ну во, лавіць!

Так і ёсьць, роўненькая, каліграфічная навет кірыліца

(цяпер ужо — ніякая неспадзеўка):

“Я — толькі жнівенская зьнічка (ну але...). Мой адрыс — прасторы сусьвету (так — лаві вецер у полі). А Немак прыгожых так-такі няма й ня бывае (пэўна-ж, калі — “ост”... Праехаў ліхтар, чакаць наступнага! Ага!) І няма — не павінна быць прыгожай Нямеччыны і нічога прыгожага, што не сваё. Бо ня бывае нічога лягчэй, як (чакай, Пятрок, Пятра, наступнага ліхтара... Ну.) паддацца і зрадзіць. А ў гэтым няма ўжо звароту, як тэй зьнічцы ў сусьветных прастор...”

(“ах” ужо не ўмясьцілася ці абарвалася пры выдзіраньні з нотэсу).

Вось і ўсё, і ня трэба больш ліхтароў.

Ах, — не ўмясьцілася... Абарвалася — ах... І ня трэба больш ліхтароў, толькі зьнічкі, дождж зьнічак, жнівенскіх зьнічак... Лаві вецер у полі!

А было-ж яно — цёплае — поплеч, і на вуснах было — мэталічна — сьцюдзёнае, а пякучае сьцюдзёнасьцяй настыглага зялеза... Было — сваё, а не пазналася, аж пакуль — “ост”... І цяпер — навек — толькі зьнічкаю.

Дзівашто і так лёгка было разумець, гаварыць панямецку. Дзівашто і Багдановіча так — блізу пераклала. Дзівашто і магла так дурыць, абдурыць, разыйграць. “Прыгожая Немка”. “Афрадыта гімназістка” і “Афрадыта-Ост”. І д`ябліца (чаму гэтага было ёй не сказаць — пра д‘ябліцу і... Афрадыту?), д‘ябальска-прыгожае й спрытнае чарцянё — ах!.. Не ўмясьцілася “ах”, абарвалася “ах”...

І цяпер — навек — загадкаю. Бо ці-ж не загадка — і гэтак, бездакорная ўсё-ж, як для каго, сымуляцыя Нямеччыны, і інтэлігентнасьць, ня толькі ў вонкавым (аж да эфэмэрнасьці), а запраўдная, нутраная. І маладжавасьць, гімназічнасьць пры такіх сталых абагульненьнях жыцьцёвае мудрасьці (і практыкі?), і матчын тон — “мой хлопчыку”... І вопратка (мінус “ост”, дый той — пад плашчом да апошняга мамэнту), і гэты нямецкі кофэр, цяжкі, як волава (а што ў ім?).

А “расавая гордасьць” — адкуль? (Ну, гэтую хіба пераадрасаваць можна на “остаўскі” адрыс — рэакцыя). А гэта што: “усё на сьвеце — прафэсія, навет і... ведама-ж...” Прафэсія... “зьнічкі”, “усебакова кваліфікаванае”? А гэта адкуль: “найлягчэй — паддацца і зрадзіць” — ці ня з... собскае практыкі толькі? Так, д‘ябліца — “зьнічка”... Закруціла, накруціла, замяла й пакінула — з носам, з “ост”-ам і “адрысам” у “сусьветных прасторах”...

... Цягнік чамусьці доўга стаяў на нейкай маленькай станцыі. Вакно — якраз супраць лесу. Дзесь па дарозе вытрасьліся памаленьку ўсе з прыдзелу, ля вакна — ізноў зусім адзін.

Пачало разьвідняць, ясьнела пакрысе і ў прыкрасьці думак. І вывіднела такое простае й жыцьцёвае, гледзячы на сьцежку ў лесе:

Усё звычайна і ўсё так проста,
Навет дзіву даешся часам.
То спатканьне, то раптам — ростань,
Бачыш — сьцежка ізноў завілася...

Усё звычайна і ўсё так проста, як гэтыя словы ўлюбёнага паэты. Звычайны і просты й гэты лісток з нотэсу, калі паглядзець на яго простымі вачыма ў досьветным разьвідненьні (перачытаць яшчэ раз). Так, што тут такога, і чаго, і на каго верадаваць? Разгладзіць, злажыць акуратненька і — схаваць. Ага, яшчэ-ж ёсьць... сьмеху варта: канчары — “бычкі” ў пушачцы. Не, які тут сьмех, і гэта — у музэй, у паноптыкум успамінаў (як гэта завецца: сувэніры? амулеты? рэліквіі?). Ніякага сьмеху: тут-жа былі, прыкладаліся тыя самыя вусны — мэталічна-сьцюдзёныя...

Колькі іх тут? Палічыць. Толькі ўжо не разьбярэшся, каторыя ягоныя, каторыя ейныя (большыя, хіба). Няхай, усе разам. Трынаццаць. Ізноў дрэнь — чортаў лік...

Ага, стой: у яе-ж ёсьць — сам напісаў — ягоны адрыс? Можа, напіша сама? Можа?

Чмыхнуў паравоз, выразна ня верачы ў гэтае “можа”. Доўга й далёка несла панад вяршалінамі дрэваў ягоны гук лясное рэха перадсьвітальнае цішы. І ці ад яго, ці ўжо ад пары, пачалі будзіцца й будзіць гэтую цішу першыя птушкі. Вось зараз прахопіцца там дзесь у нетры й пакрые ўсё сваім звонкім голасам якая-небудзь зязюля.

Можа, зязюлька, можа?

А ну, “Ку-ку, ку-ку!” Але — “куку з макам”! Адкуль табе ў жніўні абазьвецца зязюля? І яна-ж ужо ў зьнічках. А цікава, колькі накукавала-б? Можа, так сама трынаццаць — чортаў лік?

Можа, зязюля, можа?

А разьвіднела ўсё больш і больш. Цяпер каб зьнічка — ужо-б і ня ўбачыў. Неба пустое ўраньне і ўдзень, якія тут зьнічкі. Неба пустое, усё — пустое...

Нехта стукнуў пальцам па плячуку. Ага, вось яно, ужо забытае: “крыміналькпаліцай, контроле”. І на блясе пад кляпаю — нумар: трынаццаць. Нарэшце. Што-ж — “няма лягчэй, як паддацца” — і што застаецца больш? Зьнічкай-жа ўжо — у сусьветных прасторах — анел-ахоўнік.

Нехта, як тады, разьвітаўся на станцыі — “аўфвідэршаўэн”.

Ну няхай. Няхай сабе і крыміналькпаліцай, — цяпер. Бо было-ж усёткі было — аўфвідэршаўэн — да пабачаньня зноў — ізноў. Было — дык і будзе — ізноў!

Хоць і — у сусьветных прасторах.

Ян ЧАЧОТ

# СПЕВЫ ПРА ДАЎНІХ ЛІЦВІНАЎ ДА 1434 ГОДА

*Яна Чачота без перабольшання можна назваць першай зоркай нашага нацыянальнага адраджэння. Яго беларускамоўныя вершы і песні з‘явіліся ўжо ў першай чвэрці XIX стагоддзя і мелі вялікі водгалас сярод моладзі. Іх шырока спявалі, дэкламавалі на розных урачыстасцях, асабліва ў філамацка-філарэцкім асяроддзі. На беларускай мове шмат пісаў Ян Чачот і для сялянаў — дзеля іхнае асветы. У беларускай фаль-кларыстыцы Ян Чачот — таксама зорка першай велічыні. Шэсць выдадзеных ім у Вільні зборнікаў беларускага фальклору — праўдзівы подзвіг паэта. Шмат зрабіў ён і як мовазнаўца, упершыню звярнуўшы ўвагу на адметныя асаблівасці беларускае мовы.*

*І вось сёння мы можам гаварыць пра Яна Чачота яшчэ і як пра гісторыка. Зусім нядаўна, у 1994 годзе, былі апублікаваныя ў Вільні яго, можна сказаць, сенсацыйныя “Спевы пра даўніх ліцвінаў да 1434 года” — 55 песняў-баладаў пра найбольш цікавыя эпізоды з нашае гісторыі, пра славутыя постаці Вялікага Княства Літоўскага — сярэдневяковай беларускай дзяржавы. У запамінальных мастацкіх вобразах аўтар раскрыў старажытную гісторыю Беларусі, перыяд яе незалежнасці, сапраўды залаты век нашай дзяржаўнасці, калі з беларусамі (тады яна зваліся ліцвінамі) лічыліся далёкія і блізкія суседзі, размаўляючы з намі як роўныя з роўнымі. Уваскрасіць славу продкаў — такую задачу паставіў перад сабой у сваіх “спевах” Ян Чачот. У прадмове да свайго незвычайнага цыкла ён пісаў: “Як Літва, так і самыя яе зацятыя ворагі крыжаносцы — цяпер у мінулым, яны ўжо належаць сусветнай гісторыі. Літва з ідалапаклонніцкай стала ўжо хрысціянскай і славянскай, крыжакі зусім зніклі. Нарбут і Фохт разам з іншымі пісьменнікамі ізноў раскрываюць перад светам жыццё даўніх ліцвінаў і крыжаносцаў. Чаму б тады і мне не расказаць пра гэта ў жанры кароткай песні, не абражаючы нічыіх нацыянальных і нехрысціянскіх пачуццяў? Вычарпаўшы і добра асвятліўшы старажытную гісторыю даўно зніклых народаў, Еўропа захацела выцягнуць з няпамяці сярэдневяковую гісторыю народаў новых... Як мне здаецца, абуджэнне еўрапейскіх народаў ёсць зарука таго, што яны не згубяцца ўжо ў гісторыі, не сальюцца ў нейкую адну супольнасць. Кожны народ шукае ў попеле мінуўшчыны сваю славу, сваю адметнасць, даказваючы, што і ён заслугоўвае пашаны з боку іншых народаў. Дык няхай жа ні ў кога не выкліча незадаволенасці тое, што і ліцвін успомніць сваю*

*даўнюю славу, каб сціпла, па-хрысціянску расказаць пра яе...”*

*Свае песні-балады Ян Чачот засноўваў на фактах, узятых з “Хронікі Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсяе Русі” Мацея Стрыйкоўскага і з “Гісторыі літоўскага народа” Тэадора Нарбута, з якім паэт меў магчымасць пазнаёміцца, працуючы ў славутай бібліятэцы Храптовічаў у Шчорсах. Аўтар нават пазначае пад кожным сваім творам старонкі гэтых выданняў, з якіх ён браў той ці іншы факт. Праўда, сённяшнія беларускія гісторыкі крытычна ацэньваюць згаданыя працы, у якіх бачаць нямала выдуманага, міфічнага, не адпаведнага гістарычнай праўдзе. Усе тыя міфы і выдумкі, асабліва канцэпцыі даўніх гісторыкаў, перайшлі, натуральна, і ў Чачотавы творы.*

*“Спевы пра даўніх ліцвінаў...” паэт прысвяціў Марылі Верашчацы (Путкамер), каханай свайго сябра Адама Міцкевіча. З ёю Чачот падтрымліваў сяброўскія дачыненні да канца жыцця. Марыля звычайна апрабоўвала Чачотавы песенныя тэксты на фартэпіяна. Песні яго простыя, апісальныя. Часам іх псуе залішняе маралізатарства і апісальнасць.*

*Прапаную асобныя з гэтых твораў Яна Чачота ў маім перакладзе з польскае мовы і з маімі каментарамі.*

## РЫНГОЛЬТ АЛЬГІМУНТАВІЧ[1], ПЕРШЫ ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ, ЖАМОЙЦКІ І РУСКІ

Час успомніць нам Рынгольта,
Альгімунта сына,
За якім славутай стала
Наша ўся краіна.

Зайздрасць, ведама, заўсёды
Бачыць толькі крыва.
Пазайздросцілі Літве ўсе,
Што жыве шчасліва.

Выйшаў з Кіева са зброяй
Святаслаў той горды[2],
З ім Леў[3], Дзмітрый[4], а таксама
Курдасовы орды[5].

Ды Рынгольт іх стрэў на Нёмне,
Дзе падходзіць Дзітва[6],
І ўсчалася ўмомант з тымі
Прыхаднямі бітва.

Кроў цякла ракой, ды йшла там
Зноў на сілу сіла.

Дзень сканаў — Літва ў той сечы
Ворага разбіла.

Бітвы той сляды ля Нёмана:
Сыпаныя шчыльна
Курганы. Ды вёскі імя
Даўняе — Магільна[7].

[1] Рынгольт — легендарны літоўскі князь, нібыта бацька Міндоўга. Летапісы называюць яго вялікім князем.

[2] Святаслаў Усеваладавіч — кіеўскі князь.

[3] Леў Данілавіч — уладзіміра-валынскі князь.

[4] Дзмітрый — друцкі князь.

[5] Курдас — татарскі хан.

[6] Дзітва — рака, прыток Нёмана.

[7] Магільна — тут, відавочна, блытаецца старадаўняе мястэчка Магільна цяперашняга Уздзенскага раёна.

## МАГІЛА МІНДОЎГА. 1263г.

У Наваградку дагэтуль
Ёсць гара Міндоўга.
Там ляжыць ён, яго помніць
Будзе люд наш доўга.

Быў ён свой кароль, ліцвінскі,
Меў калісьці сілу.
Ды абманам жыў[1]. Абман той
Звёў яго ў магілу.

Быў прыняў святую веру,
Ды адкінуў вонкі.
Што ж ён гэтак Даўмантовай[2]
Не адрокся жонкі?

Галаву Даўмонт у гневе
Зняў з яго за жонку.
Тым Літву асіраціў ён,
Ліху здаў старонку.

Што ж з таго, што ўздзеў карону
Князь сваёй парою,
Раз не ўстояў перад тою
Жонкаю чужою?

[1] Тут, відавочна, мова перш за ўсё пра абманнае хрышчэнне.

[2] Даўмонт — нальшанскі князь. Забіў Міндоўга за тое, што адабраў ягоную жонку, калі тая прыехала на пахаванне сваёй сястры —

Міндоўгавай жонкі. Калі ў Наваградку стаў княжыць сын Міндоўга Войшалк, Даўмонт уцёк у Пскоў, зрабіўшыся яго ўладаром.

## ВОЙШАЛК[1], АЛЬБО ВАЛЬСТЫНІК МІНДОЎГАВІЧ. 1264г.

Адзецца можа ў скуру
Авечкі і воўк, як трэба.
Хадзіў у ёй і Войшалк,
Калі быў служкай Неба.

Хоць быў ён княскім сынам,
Насіў манаха расу.
Надзеўшы нават мітру[2],
Крыж не кідаў да часу.

Калі ж забілі бацьку,
Ён помсціць стаў ліцвінам,
Іх забіваў ён безліч
Найжорсткім самым чынам.

Каб край пашырыць, Войшалк
Валынь надумаў, хцівы,
У Льва адняць, прысвоіць
У час нелітасцівы.

Яго ж той ва Ўладзімір[3]
Пазваў з ліхім намерам.
Там частаваў ён госця,
Паіў сваім манерам.

Уночы Леў прыходзіць
У спальню госця ў тлуме.
З пасцелі ўзняўшы, кажа:
— Яшчэ мо вып‘ем, куме?

І ўзняшы меч, са словам
Нянавісці з размаху
Б‘е Войшалка. Хто быў там —
Аж анямеў ад жаху.

Такі канец прыйшоў во
Міндоўгаваму сыну.
Хто ворагам быў людзям,
Хіба б інакш загінуў?

[1] Войшалк (1223 — 1268) — князь наваградскі, вялікі князь ВКЛ (1264 — 1267), старэйшы сын Міндоўга. Каля 1254 г., аддаўшы Раману, сыну галіцкага кязя Данілы, наваградскую зямлю, пастрыгся ў манахі. Пасля забойства Міндоўга і яго пераемніка стаў літоўскім князем. Войшалк быў забіты Львом Данілавічам, уладзіміра-валынскім князем.

[2] Мітра — княская шапка.
[3] Уладзімір — горад на Валыні, цэнтр княства.

## ПРА ЯЦВЯГА[1] КОМАТА[2]. 1264г.

Вы пра Комата-яцвяга
Чулі? Не? Тады — увага!
Быў той Комат — нібы Кома[3],
Не сядзеў ён сіднем дома.

Як надумаў Сарамлівы
Баляслаў[4] нелітасцівы
Знішчыць люд той вальналюбы,
Не збаяўся Комат згубы.

З гікам, смела, зухавата
Мчаў у бой ён, бы на свята,
Біў чужынцаў, прагавіты,
Ды стралой быў сам прашыты.

І паляк, бы звар‘яцелы,
Біў яцвягаў дзень той цэлы,
Бо ўсё ж пана ўжо не мелі,
А ўцякаць яны не ўмелі.

І таму, сыны адвагі,
Усе пагінулі яцвягі.
Іх імя хіба мо рэкі
Захавалі нам навекі.

Хоць даўно без іх Падляшша,
Ды край помніць іх бясстрашша.
А ўцалеў з іх хто ў віхурах,
Дык згубіўся ўжо ў мазурах.

[1] Яцвягі, альбо ядзьвінгі (яшчэ — судовы, судзіны), — заходнебалцкія плямёны, якія ў 1 — пач. 2-га тысячагоддзя н.э. насялялі тэрыторыю паміж Нёманам і вярхоўямі ракі Нараў. Некаторыя гісторыкі лічаць яцвяжскімі Падляшша, Берасцейскую зямлю, частку верхняга Панямоння. Ад яцвягаў засталіся некаторыя геаграфічныя назвы галоўным чынам на Горадзеншчыне — ёсць там, напрыклад, рака Ятвезь і на ёй сяло Ятвезь.

[2] Комат — правадыр яцвягаў, пра якога не раз упамінаюць летапісы. Загінуў ён 22 чэрвеня 1264 года ў бітве з палякамі.

[3] Кома — камета. Стрыйкоўскі ў сваёй “Хронiцы...” піша пра камету, што якраз у той час пралятала над Польшчай. Хадзілі чуткі, быццам бы ад яе пачаўся там неўзабаве мор, які лічылі Божай карай за знішчэнне

яцвягаў.

[4] Баляслаў Сарамлівы — польскі кароль з 1279г.

## СВІНТАРОГ УТАНЭСАВІЧ[1]. 1268 — 1271 гг.

Як загінуў сын Мендога[2],
Уладаром Літва абрала
Князя з Жмудзі[3] Свінтарога,
Бо яго даўно ўжо знала.
Ён амаль быў стогадовы,
Добры сэрцам, не суровы.

Ён Літву не доўга цешыў:
І яго знайшла касая.
Пад гару, дзе замка вежы,
У жалобе люд спяшае
Пахаваць там Свінтарога,
Як і зычыў, ля парога.

Бы ў паход, яго прыбралі —
Шабля, лук, кап‘ё пры боку.
Выжлаў двух, хартоў звязалі,
З імі — сокала звысоку,
Потым ястраба з-пад неба
І каня з сядлом — як трэба.

Гэта ўсё на стос — вам дзіва? —
Узвялі. З слугой адданым!
Падняслі агонь імкліва,
Міг — і ўсё ў віры агняным!
Кінулі ў агонь — да высяў —
Кіпцюры мядзведзяў, рысяў[4].

Меркавалі: так жа будзе,
Як на гэтым, на тым свеце.
Так жа там ваююць людзі,
Так палююць, ладзяць клеці.
А караскацца ж на неба
Па крутых гарах там трэба.

Пахавалі Свінтарога
Па-паганску, урачыста.
Мы, хто сёння з ласкі Бога,
Мае сонца веры чыстай,
Час паганства ўсе ганьбуем.
Свінтарога ж — мы шануем.

[1] Свінтарог — легендарны князь Літвы (1268 — 1271). Паводле “Гісторыі літоўскага народа” Т. Нарбута, пражыў 98 гадоў. Упадабаўшы месца, дзе рэчка Вільня (Віленка, Вілейка) упадае ў Вілію, папрасіў свайго

сына Гермунта спаліць сваё цела там паводле паганскага звычаю. Гэтае месца (цяпер — цэнтр Вільні) было названа імем Свінтарога. Там была святыня Перуна і палаў вечны агонь — Зніч.

[2] Мендог — гэтак называлі яшчэ Міндоўга.

[3] Жмудзь, альбо Жамойць, — адна з назваў балтыйскага племя, продкаў сучасных літоўцаў.

[4] Згодна з паганскім звычаем, каб лаўчэй залазіць на неба памерламу, трэба было ў ахвярны агонь кінуць кіпцюры рысяў ці мядзведзяў.

## АЛЬДОНА, ГЕДЫМІНАВА ДАЧКА[1]. 1325г.

Гарады гараць і сёлы,
Там хапаюць бранак, бранцаў.
Крык ляціць праз горы-долы —
Хто стрымае нас, паганцаў?

Тых лясных ліцвінаў дзікіх,
Што так польскі край дратуюць?
Смерць ізноў нясуць на піках —
Ці каго хоць пашкадуюць?

Каб задобрыць іх, Лакетка
Шле сватоў да Гедыміна
Хоць сынок і малалетка,
Просіць зяцем быць для сына.

Гедымін аддаў Альдону
Ў жонкі тому Казіміру[2]:
Што ж, цяпер ім абарону
Разам ладзіць дзеля міру.

Тысяч шмат ішло палонных
У пасаг тады Альдоне[3].
Мчаў картэж вазкоў шматконных
У край польскі ў бомаў звоне.

Радасць скрозь у местах, сёлах,
Скрозь надзеі ўваскрасаюць.
Богу моляцца ў касцёлах,
Слёз шчаслівых не хаваюць.

Прыгадайма ж свята тое —
Гэтак цешыліся людзі!
З добрай згадкай штосьці святое,
Можа, кожны з нас набудзе.

[1] Альдона — трэцяя з сямі дачок Гедыміна. Перад замужжам прыняла хрышчэнне і атрымала новае імя — Ганна.

[2] Казімір III Вялікі — польскі кароль (з 1333г.)

[3] Як падае Нарбут, Альдоне ў пасаг апрача ўсяго былі перададзены

24 тысячы польскіх і мазавецкіх палонных. Вяртанне іх для Польшчы было сапраўдным святам.

## ГЕДЫМІН ВІЦЕНЕВІЧ, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1328 г.[1]

Плач, Літва, — такая страта
У цябе сягоння:
Твайго князя Гедыміна
Смерць знайшла ў Вялоне[2].

Бараніў ад зграй крыжацкіх
Нас ён па-геройску.
Сёння сам ад рук тых хіжых
Паў ва ўласным войску.

Дзіва ў немца: б‘е здалёку
Жудасная зброя[3]!
Гром, маланка — і няма ўжо,
Божа, князя-воя!

Кроў струменем палілася
З тых грудзей трывалых,
Што Літву ўсю засланялі
Ад ліхой навалы.

Ты чаму ж пакінуў, княжа,
Край, дзяцей уласных?
Ці ж яды тут не ставала
Ці дзяўчатак красных?

Ці ж ты Кіевам, Валынню
Не ўзмацніў дзяржаву[4]?
Ці ж з суседзьмі не зрадніўся
Нам і ім на славу[5]?

Дык чаму ж ты нас сам-насам
З немцамі пакінуў?
Без цябе як абаронім
Мы ад іх Айчыну?

Плач, Літва! Такая страта
У цябе сягоння:
Твайго князя Гедыміна
Смерць знайшла ў Вялоне.

[1] У сапраўднасці Гедымін загінуў у 1341г.

[2] Вялона — абарончы замак у Жамойці, на беразе Нёмана. Непадалёку крыжакі пабудавалі яшчэ адзін замак — Баербург. Якраз пры яго штурме, як сцвярджаюць гісторыкі, і загінуў Гедымін.

[3] Крыжакі скарысталі ў той бітве гарматы. Адно з каменных ядраў і трапіла ў Гедыміна.

[4] У выніку пераможных бітваў з валынскімі і кіеўскімі князямі Гедымін падначаліў сабе Кіеў і Валынь і пасадзіў там сваіх прыбліжаных.

[5] Маецца на ўвазе парадненне Гедыміна з польскім каралём Лакеткам праз жаніцьбу іх дзяцей.

## ЯЎНУТА ГЕДЫМІНАВІЧ, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1329г.

Шабля — рыцарам не робіць,
Як і князем — мітра.
Даказаў то добра Кейстут,
Што ўмеў дзеяць хітра.

Меншы брат Яўнута, млявы,
Толькі спаў на троне.
Ды шум Кейстутавай змовы
Князь пачуў спрасоння.

Босы ўцёк у кажушку ён
У снягоў сувоі,
Ды яго злавілі ў лесе
Кейстутавы воі.

Хоць сябры Альгерд і Кейстут,
Не было ў іх веры:
Княства долі змацавалі
Добра на паперы.

Стаў Альгерд вялікім князем —
Жыць ліцвінскай славе!
А Яўнуту ва ўладанне
Аддалі Заслаўе.

Меў ён розум: не ірваўся
За сваё да бою
Не заліў, як Свідрыгайла[1],
Ён Літву крывёю.

[1] Свідрыгайла Леў — вялікі князь ВКЛ у 1430 — 1432 гг. Вёў барацьбу з Жыгімонтам Кейстутавічам за вялікакняскі пасад, дзеля чаго ўступіў у саюз з Лівонскім ордэнам.

## РАЗЛАД ВІТАЎТА З ЯГАЙЛАМ

Жах, калі браты дзе ў доме
Распачнуць сварыцца.

Будзе трэсці дом, ён хутка
Можа й разваліцца.

Калі Вітаўт з Ягелонам
Бойкі распачалі[1],
Крыжакі з агнём у дом наш
Тут жа заспяшалі.

Тры разы ў хаўрус наш Вітаўт
З імі ўваходзіў
Тры разы Жмудзь прадаваў ім
І Літве тым шкодзіў.

І братоў стрыечных Вітаўт
Біў нелітасціва.
Прад яго нападам Вільня
Узнялася жыва.

Ён не змог яе ўзяць сілай —
Нішчыў край вакольны.
Здрадзіў брату, дык і здрадзіць
Крыжакам быў здольны.

Памірыўшыся з Ягайлам,
Ён свайго дабіўся.
Да крыві ж якой на Жмудзі
Быў ён прычыніўся!

Для нашчадкаў тут навука
Будзе вунь якая!
Хто ж так сварыцца, хто ў дом свой
Ворага ўпускае?

[1] Паміж браценікамі Ягайлам і Вітаўтам вялася барацьба за пасад. У гэтых спрэчках часта выкарыстоўваліся крыжакі, якія спусташалі краіну.

## ВІЦЕНЬ,
## ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ[1].
## 1283 — 1315 гг.

Вера наша, хрысціянства!
Шмат ты ран крывавых мела,
Покуль сэрцы ўсе ў паганскай
У Літве заняць здалела.

Бо цябе, што ўсім вяртаеш
Дабрыню, любоў, спагаду,

Прышчапіць Літве хацелі
Праз пажары, кроў і здраду.

Ордэн той, што меч крывавы
Нёс на ўласных дабрачынцаў,
Што ў набегах нішчыў Польшчу,
Што біў прусаў, бы злачынцаў,

Што ішоў вайной на ўласных
Святароў ды на рыжанаў[2],
Жыў рабункамі. Таму так
Шчыраваў “для хрысціянаў”.

Мечам злым хрысціў Літву ён,
Пляжыў Жмудзь, знёс мур Рамновы[3].
На пажарышчах тых ставіў
Ён за замкам замак новы.

Ды на трон Літвы сеў Віцень,
Князь рашучы, мудры, смелы.
Крыжакоў ён біў у сечах
Ад Літвы адвёў іх стрэлы.

Святарам жа іх ён собіў
І мяшчанам, што раўкамі
Прывялі яго пад Рыгу,
Каб змагаўся з крыжакамі.

Пад Браўнзберг, Каліш і Добжын[4]
Ён хадзіў з сваёй літвою,
Праслаўляў наш край у свеце
Зброяй праведнай сваёю.

Нездарма ж і смерць да князя
Не магла ўсё падступіцца.
Сам Пярун яго ў нябёсы
Ўзяў пад воблiск бліскавіцаў[5].

Шмат хто ў час той, кажуць, бачыў,
Як між хмар, дзе золак мройны,
На кані, бы месяц, белым,
Пралятаў ён, рыцар збройны[6].

[1] Віцень (г.н.невядомы — п. каля 1316) — вялікі князь ВКЛ (1293 — 1316). Шмат зрабіў для ўмацавання і пашырэння дзяржавы.

[2] Рыжскі архібіскуп быў супраць панавання крыжакоў над Рыгай, як і рыжане.

[3] Рамнова — легендарная паганская святыня, дзе гарэў Зніч.

[4] Браўнзберг (ці Бранева), Каліш, Добжын — гарады ў Польшчы.

[5] Як паведамляе Т. Нарбут, Віценя забіў гром. Ягонае цела завезлі на капішча Свінтарога і спалілі там згодна з паганскім звычаем.

[6] Аўтар тут падкрэслівае, што з імем слаўнага збройнага рыцара Віценя звязана нараджэнне герба Пагоня.

## АЛЬГЕРД І МАРЫЯ Ў ЧАСЫ ГЕДЫМІНА

Над Дзвіною дзевіч-вечар,
Тут Альгерд з раднёю:
Браць прыехаў шлюб з князёўнай
Нашай маладою.

Замак віцебскі ўсе свечкі
Сёння азараюць.
Ёй, князёўне, ёй, Марыі,
Косу расплятаюць.

Не плач, красна, не плач, міла, —
Хто б ёй слёзы выцер?
І табе руку, і княству
Падае той рыцар.

З ім табе і ўсяму княству
Зажывецца ў шчасці.
Вы забудзеце з Літвою
Гора ды напасці.

Ты ідзі за князя з Богам,
Каб жыць разам вечна.
Шчасце княстваў тых, што разам
Звязаны сардэчна[1].

[1] Віцебскае княства канчаткова ўвайшло ў склад ВКЛ у 1320 г.: яго атрымаў Альгерд ва ўладанне як бацькоўскую спадчыну жонкі Марыі — дачкі віцебскага князя Яраслава.

## СПАЛЕННЕ КРЫЖАКА РУДЫ[1] У ЧАСЫ ГЕДЫМІНА. 1320 г.

Ты дарма прыйшоў да Меднік,
Руда, з намі біцца:
Мусіш — звязаны, са зброяй —
На каня садзіцца.

Ды не ў бой ты зноў паскачаш,
А на стос агністы.
Панясеш багам паклон ты
Ад нас урачысты!

Ехаў Руда, мусіў ехаць
Пад кліч зычны рога

У гарачыя абдоймы
Віру агнявога!

Бы паходня, гарыць Руда,
А Літва ў гуморы,
Што багам сваім ахвяру
Шле такую ў зоры.

Хоць было ў Літвы былiннай
Шмат паходаў плённых,
Так яна паліла толькі
Крыжакоў палонных.

[1] Як расказвае храніст Пётр Дузбург, а за ім — М.Стрыйкоўскі, 27ліпеня 1320 г. пад Меднікамі адбылася вялікая бітва ліцвінаў з крыжакамі. Пасля перамогі над нямецкімі рыцарамі ліцвіны, аддаючы ахвяру сваім паганскім багам, спалілі аднаго з крыжацкіх военачальнікаў па імю Руда — на кані і ў поўным узбраенні.

## ПРА КНЯЗЬКОЎ КАРЫЯТАВІЧАЎ[1] У ЧАСЫ АЛЬГЕРДА. 1331 г.

Хто пустэльняй край свой зробіць,
Той не варт і згадкі.
Хто ж яго ўзвысіць, будуць
Помніць і нашчадкі.

Як прагнаў Альгерд татараў
Аж пад Волгу ў поле,
Карыята за геройства
Даў сынам Падоле.

І яны — ад стрэл і мечаў
Хеўры ваяўнічай —
Заснавалі замкі: Бэкат,
Смотрыч над Сматрычай[2].

На рацэ той, дзе ўвесь бераг
Камянямы скуты,
Карыятавічы ўзнеслі
Камянец славуты.

Меджыбож і Тэрэбоўля,
Вінніца з Браславам
Па-над Бугам — гарады іх,
Помнік іх і слава.

Так князі з Новагародка
Дзеялі ў Падолі.

Не забудуць слаўных дзеяў
Іхніх тут ніколі.

Хай жывуць у гарадах іх
Людзі ўсе шчасліва
І сыноў тых Карыяты
Спамянуць зычліва.

[1] Карыятавічы — унукі Гедыміна, дзеці яго сына Карыяты Міхала, які ўладарыў у Навааградку. Гэта — Юрка, Аляксандр, Тэадор і Канстанцін. У 1363 г. яны памаглі Альгерду разбіць пад Сінімі Водамі татараў, за што і атрымалі ва ўладанне Падоле.

[2] Бэкат, Смотрыч (над ракой Сматрычай) — гарады на Украіне, якія ўтварыліся вакол пабудаваных Карыятавічамі замкаў.

## АЛЬГЕРД, ВЯЛІКІ КНЯЗЬ ЛІТОЎСКІ. 1330 — 1345гг.

Як дагнаць жаўронку цяжка
Арла маладога,
Так паэту цяжка ўславіць
Песняй мужа тога.

Утаймоўваў крыжакоў ён,
Розныя плямёны.
У Альгерда ўрад быў мудры,
Добрыя законы.

А чужынец лез — дадому
З роднай гнаў святліцы.
Прысланяў сваё кап‘ё ён
Да яго сталіцы[1].

Быў ён грозны, ды гатовы
Да суседскай згоды.
“Не хачу, казаў, каб марна
Кроў лілі народы”.

Каб усе былі такія,
Што сядзяць на троне,
На зямлі, крывёй палітай,
Быў бы мір па сёння.

Люд да іх, як да Альгерда,
Жывучы ў дастатку,
Праз вякі б сваю пашану
Перадаў нашчадку.

[1] Маецца на ўвазе паход вялікага князя ВКЛ Альгерда на Маскву.

Яго войскі зусім нечакана з‘явіліся на Паклоннай гары, і вялікі князь маскоўскі Дзмітрый Іванавіч вымушаны быў багатымі дарамі задобрыць Альгерда, каб ён не забіраў Масквы. Альгерд згадзіўся на мір. Пры гэтым ён сказаў маскоўскаму князю: “Хоць мы з табой памірыліся, але мне інакш не гадзіцца, як толькі прысланіць кап‘ё сваё да сцяны твайго горада Масквы, каб славу ўчыніць, што вялікі князь літоўскі, рускі і жамойцкі Альгерд кап‘ё сваё да Масквы прысланіў...”

## КЕЙСТУТ

Ой, было, казалі, Кейстуту не міла,
Што сястру Ягайлы ў жонкі ўзяў Вайдыла[1].

Той Вайдыла з немцам свайго пана сватаў,
Праз яго ж аднялі Полацк ад Вайдата[2].
Ой, не даспадобы ўсё было старому,
Да Ягайлы ў Вільню заспяшыў ён з дому.
А перад сабою выправіў ён фуры,
Добра прыхаваўшы троцкаў паміж скуры[3].
Кейстут шапку князя ўсёй Літвы ўздзявае,
А Ягайлу ў Крэва княжыць пасылае.
Як пайшоў туды ён, дзе ўзняў бунт быў Дзмітрый[4],
Адплаціла Вільня князю здрадай хітрай.
Бо Ягайла шапку князя ўжо ўздзявае,
Кейстута ж у Крэва ў путах адпраўляе.
Аж чатыры дні там ён з чыёйсьці волі
Прасядзеў у гэтай жорсткае няволі.
Быў чатыры дні там, а ўначы на пяты
Склеп глухі падземны адчынілі каты.
Там і задушылі Кейстута старога,
Што зрабіў для краю добрага так многа.
Верны быў паганству ён, таму й самога
Адвязлі, дзе попел цела Свінтарога.
Там усклалі князя на касцёр высокі,
І ў пламенні ўзнёсся Кейстут пад аблокі.

[1] Вайдыла — прыбліжаны Ягайлы, з “плебеяў”. Ажаніўся з Ягайлавай сястрой Марыяй. Кейстут не любіў Вайдылу за яго інтрыгі.

[2] Вайдат — сын Кейстута, княжыў у Полацку.

[3] У 1381 г. Кейстут, схаваўшы сваіх вояў на вазах пад сенам ды пад скурамі на продаж, выправіўся абозам на Вільню, заняў яе, а Ягайлу паслаў княжыць у Крэва.

[4] Дзмітрый Карыбут Альгердавіч княжыў у Ноўгарадзе Северскім.

Прадмова і пераклад
**Кастуся ЦВІРКІ.**

Біскуп Ч.СІПОВІЧ

# ТРЫ ПАПЫ

Якое здарэньне ў 1978 годзе найбольш усхвалявала сьвет? Хіба ўсе згодзяцца, калі мы адкажам: сьмерць і выбары Папаў. У кароткім одступе часу двох іх памёрла: Павал VI і Ян Павал I; таксама два былі выбраныя: Ян Павал I і Ян Павал II і то выбраныя насуперак прадбачваньням і здагадкам розных экспэртаў і журналістаў.

Сьмерць і выбары Папаў нядаўныя здарэньні, якіх мы былі сьведкамі, але яны ўжо перайшлі ў гісторыю. Сучасныя камунікацыйныя сродкі ўдаступнілі мільёнам людзей або быць прысутнымі ў Рыме або абсэрваваць тыя падзеі здалёк праз тэлевізары. Тут мы затрымаемся на асобах Папаў, якія адыйшлі ў вечнасьць і пастараемся пазнаёміцца з новым, якому провід Божы вызначыў быць першым і найвышэйшым Пастырам Каталіцкай Царквы.

**Павал VI (1897—1978)**

Ян Хрысьціцель Монтіні — пазьней ён-жа Папа Павал VI — радзіўся ў вёсцы Кончэссіё непадалёк гораду Брэшыя дня 26 верасьня 1897г. Ягоны бацька, Юры Монтіні, быў па прафэсіі праўнікам і журналістам. Ягоная маці Юдыта з дому Альгізі была жанчынай руплівай і рэлігійнай. Бацькі будучага Папы належалі да сярэдняга класа італійскага жыхарства і былі грамадзка выраблёнымі і дзейнымі.

Хлапец Янка Монтіні быў кволага здароўя, таму наважыўшы астацца сьвятаром, ня мог жыць у сэмінарыіі ў Брэшыя, а прыгатаўляўся як экстэрніст. 20 траўня 1920г. быў высьвячаны на сьвятара. Пасьля пасылаюць яго на далейшыя студыі ў Рым, дзе і скончыў багаслоўскі курс у Папскім Унівэрсытэце Грэго-рыянум, а дыплямацыю і замежныя мовы ў Папскай Царкоўнай Акадэміі.

У 1923г. малады сьвятар Монтіні як атташэ знаходзіцца

Апошняе спатканьне Біскупа Ч. Сіповіча з Паўлам VI. 19.X.1977, V Зьезд Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў.

пры Апостальскай Нунцыятуры ў Варшаве. Тады ён, між іншым, спат-каўся з Магілёўскім Мітрапалітам Роппам, аб чым сам успамінаў на аўдыенцыі ўдзеленай пішучаму гэтыя радкі. У Польшчы, аднак, прышлося яму аставацца нядоўга. Вярнуўшыся ў Рым, працуе ў сакратар‘яце стану, а таксама выпаўняе абавязкі капэляна і царкоўнага кіраўніка сярод студэнтаў Італійскай Каталіцкай фэдэрацыі (1925—1933). Калі Кардынал Пачэльлі быў сакратаром стану, а пазьней Папам, Монтіні працаваў як ягоны падуладны, таксама ў цяжкія часы другой сусьветнай вайны; усяго разам праз 24 гады.

У 1954г. Ян Хрысьціцель Монтіні атрымаў біскупскія сьвячэньні і быў назначаны Мілянскім архіепіскупам, а ў сьнежні 1958г. Папа Ян XXIII надзяліў яго годнасьцю кардынала. Па сьмерці Яна XXIII яго наступнікам на пасад Апостала Пятра быў выбраны ў 1963г. Мілянскі кардынал і прыняў імя Паўлы VI.

Без сумніву, лепш прыгатаванага чалавека на рымскі пасад ад кардынала Монтіні цяжка знайсьці. Супрацоўніцтва праз доўгія гады з такімі выдатнымі людзьмі як кардыналы Гаспарры, Маглёнэ, Пачэльлі было нагодай пазнаць тэарэтычна і практычна царкоўныя і сьветавога маштабу справы.

На плечы Паўла VI лягло такое заданьне, як заканчэньне ІІ-га Ватыканскага Сабору, а яшчэ важнейшае і цяжэйшае — пра-вядзеньне ў жыцьцё ягоных пастановаў.

Літургічныя і юрыдычныя зьмены ў лацінскай Царкве,

Два Папы: Лючыяні — Ян Павал I і Вайтыла (будучы Ян Павал II).

увядзеньне жывых моваў, новых малітваў і абрадаў так моцна скалыхнула дагэтуль здысцыплінаваную Царкву, што не адзін з вернікаў, а нават і з пасярод герархаў, пачалі стаўляць пытаньне: ці не задалёка мы пайшлі?! Некаторыя датарнаваньні Царквы да жыцьця — кліч Яна XXIII і апошняга Сабору — “зразумелі” гэтак, быццам Царква можа абыйсьціся без “цяжкіх” догмаў, без тайнаў, пастоў, без ніякага аўторытэту ў навучаньні й кіраваньні; без ахвяры й крыжа... Знайшліся такія традыцыяналісты, як Лефэбр, для якога Царква, гэта скасьцянелы нейкі музэй, дзе перахо-вываюцца даўнія вопраткі і абрады. А ўсё, што новае, а пры тым і ўвесь Ватыканскі Сабор, гэта праступства і герэзія. З такімі і ім падобнымі Папа Павал цярпліва, з любоўю, але не пагаджаўся. Тое самае можна-б сказаць і пра шкодных для Божай справы прагрэсістаў.

Павал VI, абараняючы сутныя прынцыпы хрысьціянства, быў адначасова найбольш мадэрным з дасюлешніх Папаў.

Ягоныя паездкі ў Істамбул, Ерузаліму, Афрыку, Індыю, у

Папа Рымскі разглядае кнігу Ч. Сіповіча, якую яму падарыў аўтар.

Злучаныя Штаты Амэрыкі (Аб‘еднаныя Нацыі); ягоны экумэнізм, абапёрты на Хрыстовай праўдзе і на Хрыстовым запавеце, каб усе былі адно; ягоныя натугі і малітвы, каб захаваць супакой у сьвеце; наканец, ягоная пакора і гэраічная любоў бліжняга — ставяць яго ў рады найвыдатнейшых Папаў.

Павал VI быў прыхільнікам г. зв. дэтанту з камуністычнымі дзяржавамі. Гэта ён рабіў сьведама, каб аблягчыць паложаньне Царквы паза зялезнай заслонай, каб утрымаць там каталіцкую герархію. Гісторыя пазьней скажа сваё слова, ці й тут Павал VI асягнуў жаданую мэту — дабро Хрыстовай Царквы. У добрай, аднак, яго волі сумніву быць ня можа.

Астаецца пытаньне: а што зрабіў Павал VI для нас, беларусаў?

Ён добра ведаў, якое паложаньне Царквы ў нашай бацькаўшчыне, а таксама і тое, што робіцца на чужыне. Ён выклікаў у Рым сьвятара беларуса, прыняў яго паайцоўску, багаславіў на далейшую працу. Ён жадаў назначыць для Беларусі біскупа беларуса, які йбы мог свабодна працаваць і

арганізаваць царкоўнае рэлігійнае жыцьцё. Не дазволілі, аднак, на гэта тыя сьвецкія ўлады, якім залежыць перадусім, каб на Беларусі надалей трываў рэлігійны балаган і каб пашыралася бязбожжа.

Павал VI таксама цікавіўся беларускай эміграцыяй. Ён надалей жадаў, каб існавалі беларускія ватыканскія радыяперадачы; ён дапамог пралату П.Татарыновічу матэрыяльна ў выдаваньні ягоных беларускіх друкаў і часапісу "Зьніч".

Папа Павал VI вітаў як бацька Зъезды Беларускіх Каталіцкіх Сьвятароў. Незабыўныя ягоныя словы, высказаныя да нас, беларусаў, у прысутнасьці тысячы пільгрымаў іншых нацыя-нальнасьцяў:

*"Гэтая аўдыенцыя ёсьць хвілінай спатканьня, хвілінай еднасьці і духовай супольнасьці.*

*Першых тут вітаем групу Сьвятароў Беларусі — ужо самоназваньне іх тут нас усхвалёўвывае — (на залі доўгія апла-дысменты) — якія, аднак, не знаходзяцца ў сваей уласнай краіне, але праводзяць душпастырскую працу ва ўсім сьвеце сярод эміграцыі, выгнаньнікі са сваей Бацькаўшчыны.*

*Ваша Бацькаўшчына ёсьць у нашым сэрцы. НА ПРАЦЯГУ ГЭТАГА ТЫДНЯ МЫ ГУТАРЫЛІ ПРА ЕЙНЫ ЛЁС, ПРА ВАШ КРАЙ І РОБІМ УСЁ МАГЧЫМАЕ, КАБ ДАПАМАГЧЫ, КАБ ПАДТРЫМАЦЬ ТОЕ, ШТО ДАГЭТУЛЬ АСТАЛОСЯ Ў НАШАЙ БАЦЬКАЎШЧЫНЕ ВЕРНАГА, КАТАЛІЦКАГА, ДОБРАГА.*

*Данясеце да яе жыхароў, каб ведалі, што молімся за іх і што злучаныя з імі, ды нятолькі з імі, але з усімі расцярушанымі ў сьвеце, якіх аб'еднывае імя Беларусі".*

Вось аўтэнтычныя словы да беларусаў Папы Паўла VI, высказаныя публічна дня 19 кастрычніка 1977г., гэта значыць, некалькі месяцаў перад сваей сьмерцю.

За часаў Папы Паўла VI праблемы й патрэбы Беларускай Царквы разглядаліся так у Ватыкане, як і ў Крэмлю. Спадзяёмся, што пры цяперашнім Папе Яне Паўле II-ім яны будуць памысна для беларусаў закончаныя.

Павал VI памёр 6 жніўня 1978г. у сваей летняй вільлі Кастэль Гандольфо. Пасьля трох дзён ягонае цела было перавезена ў Ватыкан. Па дарозе дамавіна з целам Папы была ўнесена ў Лятэранскую базыліку — маючую тытул маці цэркваў — дзе тамтэйшае духавенства адправіла мольбы за душу памёршага. Ад 9—12 жніўня яно знаходзілася ў базыліцы сьв. Пятра, а шматлікія вернікі пераходзілі ля яго з ціхай малітвай на вуснах і нярэдка са сьлязьмі ў вачох, бо-ж памёр айцец хрысьціян. 12 жніўня адбыўся пахарон на плошчы сьв. Пятра, скромны, урачысты. Труна ляжала на дыване, які пакрываў каменьні. Гэтак была ўшанавана воля сьвятога Айца.

Архімандрыт У. Тарасэвіч і біскуп Ч. Сіповіч гутараць з Янам Паўлам II.

**Ян Павал I (26. VIII—28. IX—1978)**

25 жніўня 1978г. распачалася конклявэ. 111 кардыналаў увайшлі ў ватыканскія пакоі й замкнуліся ад сьвету. Аб выбары Папы меў закамунікаваць старавечным манерам комін сыкстынскай капліцы, выпускаючы белы дым, як той стары дзед, пыхкаючы люльку. На той белы дым прышлося чакаць нядоўга, бо ўжо вечарам наступнага дня памысна быў выбраны Папа. А галасы кардынальскай Калегіі згодна выбралі кардынала Альбіна Лючыяні, патрыярха Вэнэцыі. Радасную вестку падаў на ўвесь сьвет кардынал Пэрыкль Фэлічы, якога звонкі голас добра памятуем з часу апошняга Сабору, якога ён быў генэральным сакратаром.

Габэмус Папам!

І так распачаліся адна за другой неспадзеўкі. Дагэтуль мала ведамы кардынал Лючыяні, а выбраны вельмі хутка! Далей — імя Папы! Першы раз у гісторыі двайное. Як сам выбраны пасьля выясьніў, выбраўшы імёны Яна і Паўла, ён жадаў ісьці сьледам абодвых праслаўтых Папаў: Яна XXIII, каторы таксама быў патрыярхам Вэнэцыі, і Паўла VI.

Найвялікшым, аднак, сюрпрызам для цэлага сьвету была нечаканая сьмерць Яна Паўла I, якая як той пярун з яснага неба закончыла ягоны 33-дзённы пантыфікат 28 верасьня 1978г. каля гадзіны 11 вечарам. Папскі капэлян а. Ян Магі, не дачакаўшыся Папы ў капліцы раніцай у звыклай яму часе, асьмеліўся заглянуць у спальню. Над ложкам гарэла електрычная лямпа, у руках кніга “Сьледам за Хрыстом”, а

Папа ляжаў, заснуўшы на векі! Прыкліканы доктар сьцьвердзіў сьмерць з прычыны вострага інфаркту сэрца.

Папа Ян Павал I аказаўся той яркай зоркай на небасхіле, якую паміма яе кароткай зьявы, усе заўважылі. Быў ён просты, поўны ўнутранай радасьці Пастыр. Радзіўся ён у беднай сям'і ў мястэчку паўночнай Італіі Канале д'Агордо. Бацька Альбіна быў сацыяліст. Часта яго не бывала дома, бо выяжджаў на заработачную працу ў суседнюю Швайцарыю або ў Нямеччыну. Не перашкаджаў, аднак, сыну пайсьці ў сэмінарыю. І так Альбін Лючыяні здабываў асьвету ў Фэльтрэ, у сэмінарыі ў Бэльлюно і наканец на тым самым Рымскім унівэрсытэце, што і ягоны папярэднік Монтіні, Грэгорыянум. Вярнуўшыся ў сваю дыя-цэзію, быў душпастырам, прафэсарам у сэмінарыі. Апрацаваў катахізм, які дачакаўся аж шэсьць выданьняў. У 1958г. Папа Ян XXIII высьвяціў яго на біскупа. Павал VI перавёў у Вэнэцыю.

Пры ўсіх сваіх занятках кардынал патрыярха Лючыяні знаходзіў час пісаць артыкулы ці расказы ў італьянскія рэлігійныя часапісы. Між іншым, ён астаўся ведамым з лістоў пісаных да розных гістарычных асоб, як Марак Твэйн, Дыкенс, Чэстэртон, а нават Ісус Хрыстос. Гэтыя лісты пасьля былі надрукаваныя ў кніжцы "Ільлюстрыссімі" або "Слаўныя".

За кароткі час Папа пакінуў у спадчыне некалькі прыгожых прамоваў, пару назначэньняў у рымскай курыі і... незабыўны ўсьмех.

Адзін з казнадзеяў у час Літургіі за супакой душы Папы Яна Паўла I у Рыме сказаў: "Гэтага Папу, з якога ўсе каталікі былі гордыя, якога так хутка прыняў і палюбіў увесь сьвет, ці-ж мы не падглядалі звонку на працягу 33 дзён, з цікавасьцю чакаючы, што ён будзе рабіць? А ці-ж ня трэба было нам далучыцца да яго ўнутранна, каб прынамсі часткова дапамагчы яму несьці той цяжар праблемаў і трывогаў, перш чымся яны яго скрышылі? А тым цяжарам была Царква, якой ён меў кіраваць. Ад хвіліны свайго выбару яна толькі адзіная сталася прадметам ягоных дум, ягонай любві і ягонага жыцьця. Ён жыў, ён існаваў толькі для яе. ...Ён памёр адзінокі. Ці-ж можа быць сумніў, што ён аддаў сваё жыцьцё за Царкву, як той добры пастыр з Евангельля". (L'Osservatore Romano, 12.X.78).

**Ян Павал II.**

Раптоўная сьмерць Папы Яна Паўла I была моцным устросам для ўсіх, а ў першую чаргу, для Каталіцкай Царквы. Як самаход без матору, або дзяржава без ураду, так Царква без Галавы ёсьць моцна спараліжованай. Годзе сказаць, што ў час сэдэ ванкантэ ўсе папскія ватыканскія дыкастэры ня

Айцец др. Р. Тамушанскі і архімандрыт У. Тарасэвіч атрымоўваюць падарункі ад Яна Паўла II.

могуць нічога важнейшага пастанаўляць ці рашаць. Таксама ніхто ня можа назначаць новых біскупаў або забіраць голас у сусьветнай вагі справах ад імя Апостальскага Пасаду. Зрэшты, і матэрыяльныя выдаткі ў сувязі з паховінамі й выбарамі Папы ёсьць значныя. Калі яно здараецца, так як гэтым разам, што на працягу двох месяцаў памёрла аж двох Папаў, устрос адчуўся нятолькі на ўзгорках Ватыкану. Тымбольш завастрылася людзкая цікавасьць: а хто-ж будзе наступны?

Журналісты, не ўгадаўшы, што Альбін Лючыяні будзе выбраны Папам, гэтым разам былі асьцеражнейшымі. Але адзываліся галасы за выдатнейшымі кардыналамі італійцамі, а англамоўная прэса ўспамінала імя лёнданскага ўвэстмінстэрскага архіепіскапа кардынала Васіля Гюма. Бачна, што гэтым разам і выбарчая калегія кардыналаў ня хутка дайшла да згоды, каб $^{2}/_{3}$ плюс адзін голас укінуць у чашу на таго самага кандыдата. Белы дым з коміна сыкстынскай капліцы паказаўся толькі пасьля восьмага галасаваньня.

Але-ж! Ані прысутныя на плошчы сьв. Пятра, ані тыя, што сачылі радыя і тэлевізію, не маглі паверыць сваім вачам і вушам, калі пачулі ізноў голас кардынала Фэлічы, які аб'яўляў, што маемо Папу, а ім ёсьць Кароль Вайтыла, архіепіскап мітрапаліт кракаўскі!

На працягу ўсёй 2000-ай гісторыі Царквы 264-ы наступнік Апостала Пятра быў выбраны першы славянін, першы паляк! Пачуцьцё радасьці, як той прыбой вагромністай марской хвалі,

што залівае бераг і ўсе прыбярэжныя валуны, заліло сэрцы палякаў незалежна ад таго, дзе-б яны ні знаходзіліся. І гэта зусім зразумела. Стаўся цуд над Тыбрам і яго значэньня цяжка пераацаніць. Італійцы і ўся сусьветная прэса прыняла гэтае здарэньне з задавальненьнем. Аб савецкай гаварыць не прыходзіцца...

Чым-жа Айцы кардыналы кіраваліся ў выбарах, парушаючы даўжэзную традыцыю, што Папа выбіраецца з паміж дастойнікаў італьянскіх? А калі не італьянец, дык чаму-ж з паза зялезнай заслоны?

Перад усім трэба тут сказаць, што для каталікоў, якой-бы нацыянальнасьці Папа ня быў, ён ёсьць Галава Царквы, наступнік Апостала Пятра на рымскім пасадзе. Да яго тарнуюцца словы Хрыста, некалі сказаныя да Пятра: “І я табе кажу, што ты ёсьць Пётр (Скала), і на гэтай скале збудую маю Царкву і брамы пекла не перамогуць яе” (Мат. 16, 18).

Апрача дагматычнага рэлігійнага элемэнту, у выбарах Папы мелі і маюць важную ролю іншыя матывы ці прычыны, якія можам называць другараднымі, але-ж не абыякавымі для хрысьціянскага сьвету. Сама асоба на такое становішча павінна быць адпаведнай і належна прыгатаванай.

Кароль Вайтыла радзіўся ў Вадавіцах, непадалёк ад славацкай мяжы ў кракаўскай дыяцэзыі 18 траўня 1920г. Ня маючы 10 гадоў, страціў матку, а ў час апошняй вайны згінуў яго бацька ў вайсковым рангу падафіцэра. Будучы ў сярэдняй школе, мусіў цяжка працаваць, каб дапамагаць сваей сям‘і. У вайну працаваў у копнях каменя, у хэмічнай фабрыцы, студыюючы адначасова тэалёгію перш тайна, а пасьля ў кракаўскай сэмінарыі. 1 лістапада 1948г. быў рукапаложаны ў сьвятары. У гадох 1946 — 1948 прадаўжае студыі ў Рыме ў дамініканскім унівэрсытэце “Анджэлікум”. Тут у праф. Гаррыгу-Лягранжа абараняе дакторскую тэзу “Праблема веры ў творах сьв. Яна ад Крыжа”. У тым самым часе ягонымі сябрамі студыяў былі сяньняшнія кардыналы дамініканцы: Павал Філіп і Марыё-Людовік Чяппі, якія прыймалі ўдзел у конклявэ. Далей мы бачым сьвятара Вайтылу на парахвіі, прафэсарам у Любліне, занятым з акадэміцкай моладзьдзю. 4 ліпня 1958г. высьвячаюць пралата Вайтылу на біскупа, і ён ёсьць біскупам аўгзіліярным Архіепіскапа Базяка, а пасьля ягонай сьмерці ў 1964г. заступае ягонае месца. 26 чэрвеня 1967г. Папа Павал VI надае яму годнасьць кардынала.

Біскуп Вайтыла быў вельмі дзейным на ІІ-ім Ватыканскім Саборы, асабліва, калі парушаліся такія справы, як свабода рэлігіі, праблемы моладзі, сужэнства. Помню, як у час генэральнай сэсіі дня 25 верасьня 1964г., кракаўскі біскуп, гаворачы аб свабодзе, прыгожа тлумачыў евангельскія словы:

“Праўда вас высвабадзіць”. Тады ён, між іншым, сказаў: каб зьніклі царкоўныя падзелы, трэба пазнаць праўду. Атэісты ймкнуцца асвабадзіць чалавека ад Бога.

Біскупу Вайтылу была даручана рэдакцыя часткі Канстытуцыі “Гаўдіум эт Спэс”, якая разглядае ўмовы і лятуценьні сучаснага чалавека. У кніжцы “Любоў і адказнасьць” глыбей парушыў тайну сужэнства і прыгатаваньня да яго.

Папа Павал VI цаніў кракаўскага Архіпастыра. У сакавіку 1976г. даручыў яму кіраваньне 8-мі днёвымі рэкалекцыямі, у якіх сам і ягоныя супрацоўнікі бралі ўдзел.

З гэтага кароткага жыцьцяпісу цяперашняга Папы Яна ПаўлаII бачым, як Бог прыгатаўляў яго да вельмі адказнага становішча. Будучы з натуры здольным, ён моцна працаваў над сабой і каб здабыць веду. Ён прысвоіў некалькі чужэх моваў, любіў горы і спорт.

Вельмі важным у яго выбары было і тое, што ён знае камунізм і то нятолькі ў тэорыі. З выбарам Папы Яна Паўла II славянскі сьвет выходзіць са сваіх межаў. Як ня дзіва, але выбраны ён быў у кастрычніку, у дзень сьв. Ядвігі. Каб-жа ад гэтага кастрычніка ды пачалася новая эпоха, якая зьмяніла-б характар сацыялістычна-бязбожны, камуністамі прапагаванай сусьветнай рэвалюцыі! У адкрытым нядаўным пасланьні да польскага народу Папа выказаў асаблівую падзяку кардыналу Вышынскаму і філядэльфійскаму Кролю. Без сумніву, абодвы гэтыя дастойнікі нятолькі зьвязаныя кроўю і прыязьню, але кожны з іх, розным спосабам, мелі таксама ўплыў на вынік апошняй конклявэ.

Чаго мы беларусы можам спадзявацца ад новага Папы паляка?

Ён для нас з‘яўляецца Папам, Айцом, як і для ўсіх іншых. Разумеіцца, як ніхто ня зьменіць цячэньня Віслы ці Нёмана, таксама ніхто не пераменіць той існасьці, што нашымі суседзямі ёсьць палякі і наша гісторыя зазубляецца і пераплятаецца з іхняй. У мінулым мы мелі шмат горкіх дасьведчаньняў з боку палякаў, і што мы сёньня ня маем на Беларусі дастаткова свайго собскага духавенства, нясуць за гэта адказнасьць у вялікай меры польская перадваенная

адміністрацыя і іхняя герархія. Беларуская мова была недапусканая ў сьвятыні, а нямногія беларускія сьвятары ня мелі змогі працаваць сярод свайго народу. Мы спадзяёмся, што калі Бог пасылае Польшчы асаблівыя дары, то і палякі будуць мець адвагу прызнацца да крыўдаў, якія нам спрычынілі, і тады між намі і імі заўладае запраўдная братэрская любоў.

Пасьля апошняй вайны група беларускіх сьвятароў пачала душпастырскую працу сярод сваіх суродзічаў на чужыне. Мы заўсёды мелі ласкавую дапамогу з боку Папаў Піуса XII, Яна XXIII і Паўла VI. Мы маемо надзею, што і новы Папа, сын суседняга нам народу, які знайшоўся ў падобнай сытуацыі, як і наш народ, будзе апекавацца намі і паводле магчымасьцяў нам дапаможа на бацькаўшчыне і на чужыне.

Мы молімся за Папу Яна Паўла II і шчыра жадаем, каб Бог захаваў яго на многія годы!

Біскуп Ч. СІПОВІЧ

## ПРАЛАТ ПЁТР ТАТАРЫНОВІЧ (1896—1978)

Чуў я пра кс. П.Татарыновіча яшчэ перад маім выездам у Італію (1938), аднак ніколі не давялося мне тады з ім спаткацца. Ведаў, што ягоныя артыкулы друкуе “Хрысьціянская Думка” і што ён добры беларускі сьвятар. Сустрэліся мы толькі ў 1945г. у Рыме. Ня помню дакладна дня, але сам факт мне надоўга астаўся ў памяці. Жыў я ў Доме Айцоў Марыянаў пры вуліцы Корсіка й прадоўжываў мае студыі на Ўсходнім Папскім Інстытуце. Аднаго дня неяк пад вечар увалілася ў наш Дом са сваімі хатулямі з шумам група сьвятароў, клерыкаў і законных братоў. Усе былі летувісы Марыяны, уцекачы з Летувы, ахвяры вайны. Сярод іх, як нейкі вынятак з правіла, быў і кс. П.Татарыновіч. Калі ўсе гаманілі голасна й вясёла — бо-ж, нарэшце, дабраліся жывыя да свайго законнага Дому — наш Пётр стаяў абапёршыся аб балясы сходаў бледны і змучаны, поўны нейкай задумы. Чакаў, як і ўсе іншыя, пакуль знойдзецца яму пакой.

Мая радасьць была нязвычайная: нарэшце, у Вечным горадзе я буду не адзін толькі беларус! Радасьць, аднак, мая хутка перамешвалася з сумам: наш сьвятар нейкі занадта маўклівы, таёмны, толькі ягоныя вочы гарацць быццам ненатуральным перамучаным агнём. У чым-жа справа? Толькі крыху пасьля я даведаўся, што кс. Пётр хворы на сухоты і плюе крывёй. Ваенныя падзеі зрабілі сваё: ягонае хілае здароўе падкасілі яшчэ больш. Я запраўды спалохаўся.

Пралат Пётр Татарыновіч.

Рымскі клімат ёсьць слаўны з таго, што акурат дапамагае гэтай хваробе разьвівацца. І ёсьць ведамым, калі біскупы высылаюць здальнейшых клерыкаў на студыі ў Рым, дык іх перасьцярагаюць: “Лепш вярніся дамоў здаровы аслом (без дактарату), чымся мёртвым львом”. А наш а. Пётр прыя-жджае ўжо хворы, каб падлячыцца і студыяваць!..

Будучыня, аднак, паказала, што ўпарты беларус можа асягнуць тое, што, здавалася-б, зусім немагчымым. Кс. П.Татарыновіч паправіўся на здароўі, здабыў вучоную ступень і шмат папрацаваў у розных іншых галінах.

* * *

Пётр Татарыновіч радзіўся 2 чэрвеня 1896г. у вёсцы Гайнін на Случчыне. Яна належыла да мядзьведзіцкай парафіі, але таму, што каталіцкі касьцёл царскімі ўладамі быў зачынены, хлапца хрысьцілі ў Клецку 29 чэрвеня таго самага году. Бацькі будучага сьвятара Станіслаў і Караліна з дому Пашукевіч адзначаліся працавітасьцю і стойкасьцю ў сваёй веры. У 1866г. мядзьведзіцкі касьцёл царскі ўрад жадаў перамяніць на царкву і перадаць да ўжытку праваслаўным. Парафіяне супрацівіліся. Тады зачынілі сьвятыню разам са Сьвятымі Дарамі (1887г.). Праз 19 гадоў народ маліўся пад згрыбелымі ейнымі сьценамі аж да адкрыцьця яе ў 1906г., гэта значыць пасьля царскага маніфэсту. І сталася дзіўная рэч: Сьвятыя Дары вельмі добра захаваліся, як сьведчыў пробашч Ванькові͏ч, які адправіў

Дэлегацыя да Папы Пія XII (зьлева направа):
кс. П.Татарыновіч, кс. Ф.Чарняўскі, інж. Л.Рыдлеўскі, а. Ч.Сіповіч.
Рым, 8.XI.1946.

першую сьвятую Літургію ў адчыненай сьвятыні.

Пра тую сьвятыню а. Пётр пакінуў гэтакі ўспамін: “І я з сваімі родзічамі, яко маленькі хлопчык, там маліўся, там прыймаў першую Камунію Сьвятую, там нарадзіўся для ідэі”. У 1910г., магчыма, у той самай сьвятыні й атрымаў сакрамант крыжмаваньня.

Сярэднюю асьвету Пятрусь здабыў у Слуцку і Петраградзе. У той-жа паўночнай сталіцы цароў студыяваў філязофію і тэалёгію ў мітрапалітальнай магілёўскай сэмінарыі, затым у Менску, дзе рэктарам сэмінарыі быў а. Фабіян Абрантовіч, а адным з прафэсараў а. Андрэй Цікота. Тут у Менску з рук ягонага біскупа Лазінскага атрымаў сьвячаньні суб-дыяканату ў 1919г. Калі, аднак, менская сэмінарыя разам са сваім біскупам была перанесеная ў Наваградак, некаторыя сэмінарысты, а ў тым ліку і П.Татарыновіч пераехалі ў Польшчу ў Влоцлавак. Там ён і быў высьвячаны біскупам Зьдзітавецкім

Пралаты П.Татарыновіч, У.Салавей, біскуп Слоскан. Рым.

разам з 6-ма іншымі сябрамі беларусамі ў сьвятары.

* * *

Першай пляцоўкай працы новавысьвячанага сьвятара П.Татарыновіча быў Пінск (1921-22), сталіца Палесься. Дзялянкамі ягонай працы, апрача звыклай душпастырскай, былі: рамонт спаленай сьвятыні і кляштару, дзе пасьля мясьцілася катэдра і пінская сэмінарыя; школьніцтва, абслуга далёкіх асяродкаў пінскага дэканату, арганізацыя “Ювэнтус Хрысціана”. Доўга, аднак, тут не прышлося быць. “У тракце змаганьня з найбольшымі труднасьцямі ў Пінску, — піша пра гэта сам а. Пётр, — ордынарыят адклікае мяне ў тагдышнюю сталіцу біскупскую, Наваградак, дзе даручае вучыцельства ў Ніжэйшай Сэмінарыі Духоўнай, у школах элемэнтарных і нотарыят пры дыяцэзыяльным судзе, пасьля яшчэ і вікарыят

пры тамашнім дзекане кс. Букрабе, пазьнейшым біскупе. Але дзеля нястачы духавенства мушу пасьля блізу трохлетняй там працы (1922-24) сьпяшыць на пляцоўку ня менш працавітую ў Баранавічы, дзе на долю маю выпала будова для школьнай моладзі спэцыяльнай капліцы... і прэфэктура ў пяцёх школах элемэнтарных і адной сярэдняй. Першыя труднасьці былі пакананы ў першым-жа годзе працы. І калі жыцьцё наладзілася, і, здавалася, можна ўжо было папрацаваць на адным мейсцы спакайней, падасьпела шовіністычная інтрыга, паводле якое я аказаўся "яко прэфэкт взоровы, а яко Бялорусін шкодлівы". Апінія школьнага інспэктара Гульбіна, нотырычнага бязбожніка.

Кс. Біскуп З.Лазінскі прызнаў маю нявіннасьць, бо бачыў, як да мае беларускасьці ліпла навет праваслаўная моладзь і грамадзтва, аднак для сьвятога супакою парадзіў мне ўступіць і паслаў на глухую мазурскую вёску (1926г.). Пасьля году зноў, аднак, вярнуў мяне на тэрыторыю Беларусі, павяраючы мне, 6 месяцаў ужо вакуючае прабоства, Дамачэва, брэскага дэканату, убогае і надта труднае да адміністравання, адкуль парафіяне чынна выгналі майго папярэдніка".

У Дамачэве працаваў цяжка кс. П.Татарыновіч 5 год (1927-32). Аднавіў ён там касьцёл (паставіў тры новыя аўтары), плебанію, пабудаваў каталіцкі народны Дом. Дапамагаў усходнім каталіцкім парафіям (Дэлятычы ў Навагрудчыне), знайшоў і паслаў у езуіцкую калегію ў Холме добрага кандыдата на сьвятара — Гмэнюка.

Наступным месцам працы айца Пятра быў Столін, рэзыдэнцыя князя Радзівілла. У той ваколіцы знаходзіліся таксама 4 пункты вуніяцкія: Горадно, Альпень, Мэрлінскія Хутары і Калкі. Тут аставаўся а. Пётр ад 1932 да 1939 году. Аб сваей працы ў Століне запісаў сам ён наступна:

"Трудная была праца на гэтым прыгранічным разлеглым тэрэне, будучы ў частых выпадках азылям для ўсякага роду банкрутаў і афэрыстаў. Парафія складалася з разсваранага элемэнту наплывовага: войска, паліцыі, урадаўцаў, настаўніцтва і асадніцтва, якога месны праваслаўны й каталіцкі элемэнт паляшуцкі ды земянскі не любіў. Утрымаць якое-небудзь залатое мэдіюм у гэным конглёмэраце, вывесьці лінію Каталіцкай Акцыі і развою унійнага абсалютна нельга было без страты ласкі якой із старон. Найгоршы гнеў гразіў за ўспамаганьне Уніі, утрудняючай палянізацыю; ён не астаўся бязследным у маім жыцьці і працы... Паміма ўсяго гэтага, у працягу 6 год удалося, аднак, згуртаваць людзей добрае волі да каталіцкага чыну..."

Апошнюю парафію, Перлеева, на якую паклікаў кс.

Беларускія сьвятары і студэнты ў Рыме з нагоды Зьезду БАКА “Рунь” і Марыялягічнага Кангрэсу. Рым, XI.1954.

Татарыновіча ягоны біскуп, дзеля ваенных абставінаў ня мог абняць.

Што ёсьць характэрным для кс. Татарыновіча на працягу блізу 20 гадоў ягонай душпастырскай працы ў Пінскай дыяцэзыі, гэта ягоная стойкасьць як сьвятара і як беларуса. Сярод шматлікіх заняткаў ён знаходзіць таксама час, каб пісаць і друкаваць свае артыкулы і кніжкі ў розных віленскіх тагачасных часапісах, а такжа ў выдаваным езуітамі вунійным часапісе “Да Злучэньня”. Ведамыя ягоныя кніжкі: “Сьвяты Ізыдар хлебароб”, Вільня, 1928; “Купальле”, Вільня, 1930, і іншыя.

* * *

Пакінуўшы Палесьсе, кс. Татарыновіч едзе ў Варшаву. Тут ён цесна супрацоўнічае з Беларускім Камітэтам (др. Шчорс), вучыць рэлігіі ў беларускай школе, адпраўляе набажэнствы і гаворыць казані для беларусаў у касьцеле сьв.

Марціна пры вуліцы Піўнай (дазвол на гэта быў дадзены Варшаўскай Мітрапалітальнай Курыяй дня 22.II.1942). Пасьля бачна трэба было зьмяніць касьцёл, і на гэта быў дадзены дазвол ад тойжа Варшаўскай Каталіцкай Курыі з дня 19 лістапада 1943г., Нр. 6278. Як прыклад адносінаў польскай касьцельнай улады да беларусаў у сталіцы Польшчы падаю дакумант у беларускім перакладзе.

"У адказ на ваш ліст з дня 17 лістапада г.г. ветліва паведамляецца, што з боку Архідыяцэзіяльнай Улады няма перашкодаў, каб Паважаны Ксёндз Дабрадзей адпраўляў сьвятую Імшу (Літургію) для вернікаў беларускай народнасьці ў касьцеле Айцоў Васільянаў у Варшаве, замест у касьцеле сьв. Марціна, як гэта было дагэтуль".

Гэнэральны Вікары Кс. А.Фаенцкі
Натарыюс Кс. Т.Каўльбэрг

Захавалася таксама з часу працы айца Татарыновіча ў Варшаве віншавальная папера вучаніц і вучняў І-ае Беларускае Школы, якія ў дзень ягоных імянінаў выказываюць яму сваю ўдзячнасьць і пажаданьні. На першай бачынцы аркушованага ліста ёсьць намаляваны букет чырвоных розаў. Да таго самага ліста пры-шпілены бел-чырвона-белы падвойны бант. У нізе цераз увесь ліст вялікімі зяленымі літарамі маецца напіс: з павіншаваньнем іменінаў. Аб ідэйным настроі вучняў той школы няма ніякага сумніву. Аб ім сьведчаць вось хоцьбы гэтыя словы, якія каліграфічна выпісаныя знаходзім на другім лісьце віншавальнай паперы:

"Жывеце нам доўга, доўга і працуйце на ніве нашага Беларускага маральна-хрысьціянскага адраджэньня і на хвалу Нашай Каханай Маці-Беларусі". Там-жа маецца дата: 29.VI.1944.

У 1944 г. перад выбухам варшаўскага паўстаньня большасьць беларусаў выехалі са сталіцы, а зь імі і кс. Татарыновіч. Адведаў ён Вільню, быў на 2-гім Кангрэсе ў Менску і прамаўляў на ім. У лютым 1945 г. ён ужо знаходзіцца ў Роттэнбургу, пасьля ў Брэсляў, у Вурцах і дзесьці пад канец таго-ж году дабраўся да Рыму, аб чым ужо ўспаміналася.

**Пралат П.Татарыновіч у Рыме (1945—1978)**

Прыехаў у Рым маючы ўжо 50 гадкоў жыцьця паза сабой, зь якіх шмат прысьвяціў душпастырскай працы, а таксама нямала папрацаваўшы ў грамадзкай і культурнай галінах для свайго народу.

У Рыме а. Пётр затрымаўся ў доме Айцоў Марыянаў і тут хутка знайшоў спрыяючага яму апякуна ў асобе біскупа Пятра

Бучыса, тагочаснага генерала Марыянаў. Па ягонай рэкамандацыі ў лістападзе 1945 году быў прыняты на Папскі Інстытут Усходніх Навук. Скончыў яго ў 1949г. з навуковай ступенькай доктара, абараніўшы тэзу пра сьвятога Кірыла Тураўскага.

У верасьні 1950г. выходзіць першы нумар "Зьніча" ў Рыме, і ў тым самым годзе сьвет мог пачуць беларускі голас праз ватыканскае радыя. Абодвых важных у беларускім жыцьці пачынаў быў кс. др. П.Татарыновіч!

У першым нумары "Зьніча", верасень, 1950 год, з хваляваньнем ягоны рэдактар і выдавец падаваў вось гэткую вестку:

"Браты Беларусы!

Ваша мова дачакалася найвышэйшага прызнаньня. Вы можаце карыстацца ёю ў кожную пятніцу ў г. 18.30, слухаючы Ватыканскіх Радыёперадачаў на кароткіх хвалях..."

Спачатку гэтыя радыяперадачы адбываліся толькі раз у тыдзень, а калі а. Пётр перадаваў сваё каханае дзіця ў 1970 а. Архімандрыту Л.Гарошку, беларускую мову можна было пачуць пяць разоў у тыдні. Незаступімым памачніком у чытаньні праз радыё скрыптаў быў і да сяньня астаецца а. Кастусь Маскалік.

Усе мы пакрысе памагалі час-ад-часу айцу Пятру, але гэта было нясталым і недастатковым. Таму ўвесь цяжар адказнай працы валок на сваіх плячах сам іхні піянер.

Побач з працай у ватыканскім радыё кіпела выдавецкая дзейнасьць. Перадусім загарэўся "Зьніч", які ў падзагалоўку адрэкамэндовываў сябе як "беларуская рэлігійная адраджэнская часопісь". Калісьці беларускія вуніяты, пачынаючы ад Пацея, друкавалі ў Рыме свае маленькія рэчы, але ніколі яшчэ беларусы ня мелі ў Вечным Горадзе сваей сталай часопісі! Мэтай яго было здаволіць духовыя патрэбы беларусаў, а ў першую чаргу, беларусаў каталікоў лацінскага абраду.

"Зьніч" — гэта незвычайная зьява ў гісторыі беларускага друкаванага слова! І гэта нятолькі, дзеля мейсца свайго нараджэньня, але й дзеля доўгіх гадоў свайго існаваньня (1950—1975), а такжа й дзеля іншых абставінаў. На працягу блізу 25 гадоў адзін і той самы рэдактар і выдавец, той самы аўтар бальшыні артыкулаў, ён-жа і мастак і кольпортэр! Хто-ж ня помніць ксяндза Пятра, пахіленага над невялікай машынкай, нэрвова-задуманага, прыгатаўляючага артыкулы ў "Зьніч" або наступную радыя-перадачу?! Калі яго пыталі, дзе-ж рэдакцыя "Зьніча", ён паказываў на свой пісьменны столік і казаў з усьмешкай: тут! тут! Усё тут, і рэдактарства і

выдавецтва, толькі трэба езьдзіць у друкарню... Італьянцы шмат робяць друкарскіх памылак... Чатыры разы а. Пётр зьмяняў адрас свайго памешканьня ў Рыме, а прытым мусіў пераносіць і рэдакцыю і выдавецтва. Усіх вышла 120 нумараў “Зьніча”. “Зьніч” адзначаецца прыгожай вонкавай формай, з рознымі застаўкамі, абразікамі, здымкамі. Усё ў гусьце “заходнім”, можна было-б сказаць XIX-га стагодзьдзя. Быў ён ці адзін раз крытыкаваны дзеля аб‘ёмістых артыкулаў, дзеля мовы. Ня шмат ён меў аўтараў, бо баяліся дасылаць свае артыкулы. Рэдактар зьмяняў нятолькі мову!

* * *

Апрача “Зьніча” кс.Татарыновіч зьяўляецца выдаўцом малітаўніка “Голас Душы” (Рым, 1949); Сьвятой Эванэліі і Апостальскіх Дзеяў (Рым, 1954); Г.Сенкевіча “Кво Вадзіс” (Рым, 1956); Лістоў Сьвятых Апосталаў (Рым, 1974); Пакутных Псальмаў (Рым, 1964) у вершаваным перакладзе а. Я.Гэрмановіча; Наўзорнай (першай) Імшы Сьвятой — Літургіі (Рым, 1965, 1966). Ён ёсьць таксама аўтарам некаторых артыкулаў у італійскай мове: La Santissima Vergine Immacolata é l’ispiratrice dell’ unitá Cristiana in Biancorutenia, Academia Mariana Internacionalis, Romae, 1957, pp. 247—249. — La crocefissione della fede e dell’anima Cristiana Biancorutena, Palestra del Clero, fasc. n. 18, Settembre, 1954.

Праца і адданасьць кс. др. П.Татарыновіча не маглі аставацца незаўважанымі найвышэйшымі асобамі таго-ж Рыму, дзе з Божай волі ёсьць цэнтр хрысьціянства. 26 траўня 1961г. была нададзена яму годнасьць Пралата Яго Сьвятасьці. Годнасьць гэта вельмі вялікая, аднак звычайна яна ёсьць толькі пачэснай і выказываецца літургічна. Хутка, аднак, Пралат Татарыновіч быў назначаны Сябрам Найвышэйшай Рады Для Эміграцыі. Паведаміў аб гэтым біскупаў Б.Слосканса і Ч.Сіповіча ад імя Консыстарыяльнай Кангрэгацыі кардынал Конфалёніеры дня 12 чэрвеня 1961г. Пралат Татарыновіч уваходзіў у Раду побач усіх іншых нацыянальнасьцяў і яго абавязкам была апека над беларусамі каталікамі лацінскага абраду, расцярушанымі ва ўсім сьвеце.

Значная карэспандэнцыя пралата са сваімі суродзічамі ёсьць доказам, што ён перад і пасьля свайго назначэньня рабіў, што мог, і то ня столькі, каб апраўдаць свой важны тытул, а каб запраўды дапамагчы нашым братом. Дзеля гістарычнай праўды сьведчу як аўтар гэтага артыкулу і як прыяцель пралата, што да ўсіх ягоных працаў і назначэньняў я адносіўся з цэлай пашанай і, у чым толькі мог, дапамагаў. Што я яго выперадзіў у сане — гэта не была мая заслуга, а ласка Бога і Апостальскай Сталіцы.

* * *

Глянуўшы яшчэ раз на ўсё тое, што пралат Татарыновіч рабіў і што зрабіў, трэба дзякаваць Богу, які нам даў гэтак выдатнага сьвятара, дзеяча. Не забывайма, што прыехаў ён у Рым хворым з адчыненымі ранамі ў грудзях!

Дарагі Пётр, дазволь яшчэ раз гляну на цябе. Бачу паважнага прыстойнага сьвятара. Высокага росту, за моладу чорныя густыя бровы як дзве аркі над вачыма, таксама чорныя валасы на невялікай фарэмнай галаве. Пад канец жыцьця быў белы, а тая бель раскіданых валасоў прыдавала яму нейкага рамантычнага палёту.

У сяброўскім кругу быў вясёлы, гасьцінны, знаў шмат анэгдотаў і ўмеў расказываць. Ніколі не шкадаваў яды і напітку для гасьцей. Меў залатую канарэйку, якая ці раз вылятала з клеткі, сядала яму на плячо, калі ён пісаў...

Ужываючы ягонага слова, закончым гэтыя радкі: пралат доктар Пётр Татарыновіч быў сьвятар наўзорны, палымянай веры, поўны любові Бога і сваіх братоў беларусаў.

In paradisum deducant te Angeli!

Requiem aeternam dona ei Domine!

Д-р ІПЭЛЬ

# БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА

ПЕРАКЛАД З НЯМЕЦКАЕ МОВЫ
З. ГАРБАЎЦА І М. КАСЬПЯРОВІЧА
Прадмова перакладчыкаў

*Доўгі час Беларусь не магла карыстацца сваймі сувэрэннымі правамі. Гэта перашкаджала мецъ свае вышэйшыя навуковыя ўстановы і ўсебакова дасьледаваць свой прастор, прыроду, мастацтва і д. п., тварыць сваё бытаваньне. А калі й было якое-колечы зьбіраньне матарыялаў і распрацоўка іх нашымі суседзямі, дык з вядомага вялікадзяржаўнага пункту погляду — самаўладзтва, праваслаўе, велікаруская народнасьць, або ўсяпольская ідэя, каталіцтва і г. д.*

*Калі Вешацель пасьля прыдушэньня беларускага паўстаньня 1863 году пачаў рассылаць па Беларусі розныя “навуковыя” экспэдыцыі, каб давесьці, што Беларусь спрадвеку заходні "истинно-русский край", былі пасланы й мастакі з мэтаю вынікамі сваіх досьледаў давесьці, што беларускаго мастацтва таксама не было. Але мастак Струкаў зрабіў зарысоўкі грамадзянскага і культавога, (касьцельнага, царкоўнага, сынагогальнага) беларускага мастацтва больш менш об‘ектыўна. Зразумела, што ў яго зарысоўках ні Вешацель, ні яго прысьпешнікі не знайшлі нічога “истинно-русского”. Альбом Струкава быў закінены і толькі значна пазьней адшуканы Е.Р.Раманавым.*

*Раманаў напісаў працу аб альбоме Струкава (“Зап. Сев.-Зап. От. Имп. Рус. Геогр. О-ва”, т.3), а таксама ў аднэй з сваіх другіх працаў (“Старина доисторическая Сев.-Зап. Края”) закрануў найстарадаўнія курганавыя помнікі беларускага мастацтва.*

*А далей было шмат працаў з паказанага намі пункту*

---

Тэкст працы А.Іпэля друкуецца паводле брашуры віцебскага выданьня 1925 г. Тады Віцебшчына толькі што далучылася да ССР Беларусі, і выдаўцы папрасілі прабачэньня ў чытача за тое, што ў друкарні няма літараў "ў" і "ё". Іншыя асаблівасьці мовы перакладу захаваныя.

пагляду, бадай што, да апошняга часу. Часамі, як, напрыклад, проф. Паўлуцкім у вядомым выданьні Грабара (“История русского искусства”, вып. 8) беларускія помнікі мастацтва адносіліся да ўкраінскіх.

Цікавасьць да беларускага мастацтва нарастае асабліва ў канцы 19 сталецьця і пачатку 20. Аб помніках беларускага мастацтва гавораць: Паўлінаў у “Древних храмах Витебска и Полацка” і “Истории русской архитектуры”, Іодкоўскі ў “Древнос-тях”, зьмяшчаючы там працы: “Церкви, приспособленные к обороне в Литве и Литовской Руси” і “Замок в Мире”, а таксама Кандакоў і Таўстой у “Русских древностях” і інш. Гэтыя аўтары ўжо патроху разглядаюць нашы помнікі з спэцыяльна гістарычна-мастацкага, а ня толькі археолёгічнага боку.

Ды й самі беларусы аднавілі першапачатковую працу зьбіраньня і вывучэньня беларускага мастацтва. Вядомы беларускі культурны дзеяч Іван Луцкевіч наладзіў у Вільні ў 1913 годзе цікавую выстаўку сучаснага беларускага народнага мастацтва. Апрача таго, ён сабраў найкаштоўныя зборы мастацкіх рэчаў беларускае старась-ветчыны.

З цягам часу Беларусь перажыла разам з іншымі народамі панаваньне царскага самаўладзтва. Пашла ў нябыцьцё Кераншчына. З Берасьцейскаю згодаю нямецкая акупацыя апанавала Беларусь. У працівагу панаваньню расійскага самаўладзтва ў мірных абставінах немцы з штыхом у руках рабілі вялікую культурную працу па дасьледаваньню прыроды, быту, экономікі, шляхаў зносін і да таго падобнага. У гэтым кірунку вялікая Беларусь прадстаўляла амаль што непачаты прастор.

Па ініцыятыве Івана Луцкевіча сыстэматычна і плянава над беларускім мастацтвам у часе акупацыі працавалі дактары: Іпэль і Гайгалат і профэсары: Швіндрацгейм і Вэбэр з 10 арміі. Пры дапамозе Луцкевіча Іпэлем былі арганізаваны дзьве выстаўкі беларускага мастацтва — у Менску і ў Вільні. Да іх Іпэлем супольна з Луцкевічам былі ўложаны два каталёгі з каштоўнымі ўвагамі ў тэксьце. У гэты час Луцкевічам быў зьмешчаны ў газэце 10 арміі артыкул аб беларускім мастацтве. Апрача таго, як вынік дасьледаваньня, зьбіраньня й вывучэньня нямецкімі вучонымі беларускага мастацтва засталіся іх працы, выданыя 10 арміяй: Вэбэра аб Вільні, Гайгалата і Швіндрацгейма аб літоўскіх мастацкіх помніках і Іпэля артыкул аб беларускім мастацтве, які мы й падаем тутака ў перакладзе на беларускую мову.

Артыкул Іпэля мае бясспрэчна вялізарнае выключнае значэньне, як першы, што асьвятляе беларускае мастацтва ад яго пачатку ў сувязі з месцам яго разьвіцьця й featured рознымі ўплывамі на яго. Затым ён павінен быць крыніцаю, адкуль можна

*чарпаць першапачатковыя веды аб розных галінах беларускага мастацтва.*

*Артыкул, бязумоўна, не прэтэндуе на вычарпанасьць і скончанасьць, ня ставіць сабе мэтаю дасьледаваць дасканала ўсе галіны беларускага мастацтва, іх гісторыю. Ён зьяўляецца вынікам нядоўгай працы Іпэля, які сам кажа, што далей патрэбна падрабязнае, дакладнае дасьледаваньне, што й высьветліць канчаткова гісторыю беларускага мастацтва, а таксама ўнясе шмат каштоўнага ў гісторыю агульнага мастацтва.*

*Зусім слушна Іпэль паказвае, што польскае мастацтва ні ў якую эпоху не рабіла ўплыву на беларускае. Нам вядома з гісторыі, што польскае мастацтва заўсёды пераймала ад каго хаця і ніколі ня было кіруючым у разьвіцьці мастацтва, апрача аднаго выпадку ўплыву Матэйкі на “передвижников”, адыграўшага значную ролю ў заняпадзе малярства на тэрыторыі былой Расіі.*

*Наступным дасьледчыкам беларускага мастацтва прыдзецца дэталёва распрацаваць бегла зачэпленыя Іпэлем пытаньні і ўлажыць у іх конкрэтны зьмест, як, напрыклад, пытаньне беларускага малярства ў Польшчы, аб гравюрах, якія адыгралі значную ролю ня толькі ў Беларусі, але і для ўсяе тэрыторыі былой Расіі і г. д. Зусім не зачэплена Іпэлем існаваньне адначасна некалькіх школ гравюры, што відаць з ілюстарцыяў да артыкулу. А яны маюць значэньне нават і для сучаснага разьвіцьця мастацтва. Аб‘ёмная трактоўка аб‘ектаў на плошчы, монумэнтальная пабудова фігураў, ня гледзячы на невялікую велічыню ўтвараюць уражаньне помнікаў у прасторы. А ў другім адменьніку — зусім плоскасная трактоўка фігураў, іншае разьвязаньне прастору і г. д.*

*Але ўсё-ж, як мы ўжо казалі, цяперака, у адноўленай працы дасьледаваньня беларускага мастацтва й яго разьвіцьця, артыкул Іпэля будзе карысным як для шырокіх колаў грамадзянства, так і для дасьледчыкаў.*

*М. Касьпяровіч.*
*З. Гарбавец.*
*Віцебск, 1.2.25.*

**БЕЛАРУСКАЕ МАСТАЦТВА**

Лёс беларускае краіны быў заўсёды цяжкім. Як стары дзяржаўны мост паміж вадзяным пратсорам і дрыгвянымі балотамі, яшчэ ад першабытнага гістарычнага часу яна зьяўлялася абарончым месцам гульні Арэса. З часаў старадаўніх норманскіх князёў, што авападалі краінаю дрыгвічоў у 9 і 10 сталецьцях, тутака, паміж Кіевам, Менскам і Полацкам аж да часоў

Напалявона лютавала барацьба. І ў апошнюю вайну застаецца такі самы малюнак — прыліў туды й сюды, з усходу на захад, ваенных гушчаў з усімі жахлівымі вынікамі, руйнаваньнем і спусташэньнем. Тутака ня было грунту для захаваньня рэштак старасьветчыны, дзе-б маглі ўсталявацца мастацтва і культура. Яны прадстаўляліся самі сабе. Калі, напрыклад, у багаты кругабег гісторыі Менску за першыя 500 гадоў захаваліся цэлых два паданьні, аднаўляючыя стан, у якім знаходзіліся мастацкія і архіўныя рэшткі старасьветчыны краіны, асьветленыя ў выстарчаючай меры, — дык адно некаторыя мясцовасьці даюць нам жывы абраз працякаўшай высокай культуры краіны, што здолела ўтварыць гэта. Выстаўка беларускага мастацтва ў Менску ў 1918 годзе ўсё-ж паказвае, што пры дакладным дасьледаваньні можа знайсьціся шмат выдатных старых мясцовых мастацкіх твораў.

Каштоўным, прыродным музэем беларускага мастацтва зьяўляецца аддаленае глухое невялічкае места Слуцак на паўночным усходзе ад Менску. Розныя прычыны захавалі ў гэтым месьце старажытнасьці незачэпленнымі. Значным зьяўляецца тое, што ўладары краю — князі Алелькі й Радзівілы на ўладу праваслаўнае царквы не пасягалі, а вуніяты ў тых краёх мелі зусім невялічкі ўплыў польскае каталіцкае царквы. Тры старых найвыдатных драўляных царквы 15 сталецьця зьдзіўляюць мецэнатаў мастацтва, адведаўшых гэтыя малюнкі места. Адна з іх, Юраўская царква, што захавала яшчэ й цяперака свой стары іконастас, рэзаны і расьпісаны мясцовымі мастакамі, галоўным чынам, у яе надзвычайнай аздобленасьці, у яе прыемнай гармоніі, зьяўляецца красою ўсіх беларускіх цэркваў. Са сказанага відаць, што ў Слуцку можна знайсьці творы старой беларускай маляўнічай школы, якіх, зразумела, у цяперашні час у кніжках па гісторыі мастацтва яшчэ ня знайдзеш. Найстарадаўнія весткі аб гэтай школе знаходзяцца ў надпісу аднаго твору 15 веку ў Кракаўскім саборы, які кажа, што мастакі места Вільні выканалі гэты твор па загаду ўладара Казіміра Ягайлавіча. Прыгожы абраз Мадонны на Вострай Браме ў месьце Вільні ёсьць таксама твор, што адпавядае старой беларускай школе. Слуцкія цэрквы захоўваюць разнавобразныя малюнкі 17 і 18 сталецьцяў.

Іншыя добрыя мастацкія творы сабраны ў Магілёўскім храме-музэі, галоўным чынам, зьбіральнікам дарэктарам Строганавым. Тамака зьмешчана множ прыгожых беларускіх старажытнасьцяў, выратаваных ад гібелі. Зьдзіўляе, што ва ўсіх гэтых творах нязначны ўплыў візантыйска-расійскае школы. Кідаецца ў вочы сувязь з нямецкім мастацтвам, што добра перадавалася цераз Балтыку. Асабліва гэта засьведчываюць сярэбрана-выбіўныя працы. Дзьве вялікіх сярэбраных плашчаніцы Магілёўскае брацкае царквы азначаюць, нават без надпісу, што беларус Ваўчок, як мастак, блізкі да данцыгскіх працаў. Абраз Міхаля ў храме-музэі таксама гэта сьведчыць. Надзіва добра напісана данцыгская сярэбраная марка на мячы арханела!

Зусім сваеасаблівы Слуцкія сярэбраныя тканіны. Тульпаны й васількі — іх пераважны матыў. Каштоўныя старыя бармы і дыядэмы з уладаньняў Алелькаў зьяўляюцца аздобаю ў Слуцкай Тройцкай царкве.

Малярства міньятураў было ў стане значнага росквіту: амулеты, нацельнікі былі прадстаўлены ў шмат якіх сёлах. Амаль што кожная вёска мела манаполію на аднаго азначанага сьвятога. Другая вёска аналёгічнага вобразу маляваць не магла. Ксілеграфія ў высокім і нізкім мастацтве шмат практыкавалася. Аб гэтым сьведчаць шмат дабраватых гравюраў у старых кнігах. Асабліва гэта прадстаўлена ў вядомых беларускіх бібліях. Паасобныя часткова высока-мастацкія антымінсы або абразы ў праваслаўнай царкве ўтвараюць інтэгральны малюнак. Народ да сяго часу ўжывае ксілеграфію для друкаваньня на сваіх палотнах раскошных узораў (крашаніна).

Беларускае народнае мастацтва, так сама як літоўскае, прызвана яшчэ раз адыграць значную ролю ў гісторыі мастацтва. Але няхай будзе коратка азначана ў якой сувязі. Паказаныя краіны ўтвараюць мяжу паміж усходам і захадам на поўначы Эўропы. Першабытна-значны Дняпроўскі шлях нёс апошні ўплыў візантыйскага і старагрэцкага мастацтва ў іх. Бясспрэчна, мы яшчэ раз находзім тутака асноўныя формы грэцкага тэатру і грэцкіх храмаў у акрэсьленых гаспадарчых будовах, як, напрыклад, у надворных сялянскіх будынках у Рагачоўскім павеце, што збудаваны па пляну і ўзору элінска-раманскіх вілаў. Вядомыя беларуска-літоўскія крыжы ні ў якім выпадку ня знойдзены тутака. Нам вядомы такія самыя формы, напісаныя на антычных фрэсках. Як звычайна, форма старадаўняпаганскага культу малярства былі тутака хрысьціянізаваны. Так званыя наміткі й пасакі прэемственна бяруць свой пачатак ад грэцкае тэніі. Ці ня дзіва, што беларуская сялянка, таўчэ свае крупы па сёняшні дзень таўкачамі, аднакімі па формах з тымі, якія ў пятым сталецьці перад нараджэньнем Хрыста мы знаходзім на адным малюнку Полігнота ў руках траянскіх жанчын, калі яны абараняюцца ад грэкаў? (Wgl; S. 31).

Паміж іншым, у 18 сталецьці мы знаходзім на тэрыторыі Беларусі дзьве надзвычайных вытворчасьці сусьветнае значнасьці — Слуцкія паясныя фабрыкі і Урэчынскія шкляныя заводы. Трэба сказаць, што ў абедзьвюх фабрыках аб “польскім” мастацтве ня можа быць ніякай гутаркі. Кіраўнік і галоўны мастак паяснoе фабрыкі Леў Маджарскі, прыраджоны вэнгр, будучы ў турэцкім палоне навучыўся тканьню паясоў і прыгожым візантыйскім узорам. (Паміж іншым, ён дзед “польскага” композытара Манюшкі.) У Урэччы працавалі амаль што толькі нямецкія майстры і падмайстры — Вахстрэм, Каўфэль, Флеск і інш.

Беларусь яшчэ хавае ў сабе шмат невядомых каштоўнасьцяў, што маюць больш чым гістарычнае значэньне. Прыдзе час, калі аб іх будуць гаварыць. Гэта будзе тады, калі прыдзе час для самой Беларусі.

Уладзімер САКАЛОЎСКІ

# БЕЛАРУСКАЕ КУЛЬТУРНАЕ АДРАДЖЭНЬНЕ ВАЧЫМА НЯМЕЦКІХ ВУЧОНЫХ

На хвалі пасьлярэформавага руху ў Беларусі, паўстаньня 1863г. пад кіраўніцтвам К.Каліноўскага, спакваля прарэзваюцца заглушаныя царскім рэжымам кволыя парасткі нацыянальнага адраджэньня. Крывавыя падзеі тых гадоў гулкім рэхам пракаціліся па Эўропе. Яны абудзілі цікавасьць да лёсу беларускага народу, да яго духоўнага сьвету ня толькі сярод мясцовай інтэлігенцыі, навукоўцаў расейскай і польскай арыентацыі, але і далёка на Захадзе, дзе да гэтага часу не было пэўнага ўяўленьня пра Беларусь.

Пад узьдзеяньнем народніцкага руху і разьвіцьця новае беларускае літаратуры, а пазьней дзякуючы рэвалюцыйным падзеям 1905—1907гг. і ажыўленьню беларускае прэсы адбываліся зьмены, што садзейнічалі фармаваньню беларускай інтэлігенцыі, разьвіцьцю й станаўленьню нацыянальнае самасьвядомасьці народу. Гэтым і быў напачатку XX ст. абумоўлены інтэнсіўны працэс беларускага нацыянальнага адраджэньня. Дзякуючы гэтаму руху і спалучэньню шэрагу гістарычных акалічнасьцяў — такіх, як Першая сусьветная вайна, палітыка немцаў у дачыненьні да “народаў ускраінаў” — выяўляе актыўную цікавасьць да Беларусі маладая нямецкая славістыка.

* * *

Адраджэньне беларускае культуры, разьвіцьцё новае беларускае літаратуры, станаўленьне ў Заходняй Эўропе славістыкі, працы польскіх, расейскіх, а затым і эўрапейскіх вучоных пра Беларусь — найбольш значныя чыньнікі, якія ўжо ў XIX ст. садзейнічалі паступоваму пранікненьню зьвестак пра беларускую культуру ў Нямеччыну. Друкаваліся яны ў часопісах: “Altpreussische Monatschrift”, “Am Urquell”, “Globus”, “Ost und West”, “Slavonika”, але галоўным чынам у вядомым славі-стычным часопісе “Archiv für slavische Philologie”, заснаваным у 1875г. у Бэрліне выдатным харвацкім вучоным В.Ягічам.

Значная ўвага на ягоных старонках надавалася пытаньням старажытнае беларускае літаратуры. Да іх зьвярнуліся тады вядомыя славісты А.Брукнэр, В.Ягіч, Р.Абіхт, М.Мурко, А.Лескін і іншыя. Нагадаем найбольш значныя іхныя публі-кацыі: “Аб Супраскім летапісе”, “Бібліяграфічнае”, “Дзе атрымаў вучоную ступень Скарына?” А.Брукнэра, “Паказьнік літара-турных крыніцаў

Супраскага летапісу” Р.Абіхта, “Галосныя “ъ” і “ь”у Супраскім летапісе” А.Лескіна, “Сьляды кувады ў Беларусі” В.Ягіча і шмат іншых.

У “Архіве”, акрамя таго, расейскімі і эўрапейскімі вучонымі А.Весялоўскім, А.Брукнэрам, М.Мурко былі прарэцэнзаваныя найлепшыя тагачасныя беларусазнаўчыя публікацыі: працы “Агляд гукаў і формаў беларускай мовы” Я.Карскага, “Доктар Францыск Скарына. Яго пераклады, друкаваныя выданьні і мова” П.Уладзімірава, чэскімі славістамі М.Мурко і Ю.Паліўкам дэталёва прааналізаваныя найбольш папулярныя зборнікі беларускага фальклёру “Гомельскія народныя песьні” З.Рад-чанкі, “Беларускі зборнік” Е.Раманава, “Матэрыялы для вывучэньня побыту і мовы расейскага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю” П.Шэйна, першыя выпускі грунтоўнай этнаграфічнай працы М.Федароўскага “Люд беларускі на Русі Літоўскай”, зроблены абагульняльны агляд “Новых славянскіх зборнікаў казак”, у тым ліку і беларускіх.

Нават кароткі агляд публікацыяў “Архіву” паказвае, што на ягоных старонках знайшлі месца шматлікія праблемы беларускае філялёгіі. І хаця ў “Архіве” не адлюстраваныя пытаньні разьвіцьця новае беларускае культуры, тым ня менш ён меў выключнае значэньне для знаёмства зь беларусістыкай на Захадзе.

Асабліва хацелася б зьвярнуць увагу на нямецкамоўную спадчыну ў галіне беларускае філялёгіі славутага польскага вучонага Аляксандра Брукнэра. Ягонаю першаю і найбольш значнаю публікацыяй у гэтай галіне стаў разгляд выдатнага помніка старажытнага беларускага пісьменства “Беларускі «codex miscellaneus» зь бібліятэкі графа Рачынскага ў Познані”, куды ўвайшлі Літоўская хроніка, беларускія пераклады сярэднявечных аповесьцяў: “Аповесьць аб Трышчане”, “Апо-весьць аб Баве”, “Гісторыя аб Атыле, каралю ўгорскім”. І хаця “Познанскі кодэкс” ужо згадваўся О.Бадзянскім, аднак упершыню найбольш шырока і грунтоўна яго ахарактарызаваў А.Брукнэр, надаўшы “Кодэксу” значэньне найважнейшага помніка беларускае мовы й літаратуры. Акрамя таго, ён засьведчыў крыніцы перакладу і даў даволі падрабязную характарыстыку ягонай мове. Брукнэр з упэўненасьцю пісаў: “...Найважнейшыя характэрныя рысы мовы [“Познанскага кодэксу”] у гуках, формах і словах — беларускія, якія пасярэднічаюць паміж мала- і вялікарускімі, аднак ані зь першымі, ані з другімі не супадаюць: калі б спатрэбілася, то можна было б толькі на падставе гэтага помніка пераканаўча даказаць самастойнасьць беларускае мовы”.

Пазьней зьявіліся іншыя цікавыя беларусазнаўчыя дасьле-даваньні Брукнэра: “Аповесьць аб трох каралях-валхвах па-руску” і “Жарсьці Хрыстовыя на польскай і расейскай мовах”, “Прывіды Тундала ў чэскім і расейскім перакладзе”, “Польска-рускія інтэрмэдыі XVII стагодзьдзя”, “Руска-літоўская царкоўная вунія і яе літаратурныя помнікі” і шмат іншых. І калі разгле-джаныя ім “Жарсьці Хрыстовыя” былі ўжо вядомыя расейскім дасьледнікам,

Афіша Менскай краёвай выставы старасьветчыны і мастацтва. Верасень 1918г. (Нацыянальны музэй гісторыі і культуры Беларусі. Друкуецца ўпершыню.)

то ў выпадку з “Прывідамі Тундала” Брукнэр быў адкрывальнікам рукапісу, што засьведчыў у публікацыі “Аб мове так званых літоўскіх летапісаў” Я.Карскі, які кампэтэнтна сьцьвярджаў, што гаворка тут пра рукапіс са збору Сьвідзінскага зь бібліятэкі Красінскіх. Гэты тэкст быў пададзены ня цалкам, а толькі ўрыўкамі. Усе зьвесткі пра ягоную беларускую вэрсію засноўваюцца на артыкуле Брукнэра, і каштоўнасьць яго расьце, бо, як мяркуюць дасьледнікі, рукапіс загінуў у час ваеннага ліхалецьця.

Аднак яшчэ цікавейшым і значнейшым стаў ягоны разгляд польска-рускіх інтэрмэдыяў. У ім дасьледуюцца дзевяць пецярбурскіх рукапісаў са збору братоў Заслаўскіх, дзе пададзеныя камэдыі, трагедыі, інтэрмэдыі ды вершы на польскай, беларускай, украінскай, літоўскай і іншых мовах. З разнастайных матэрыялаў дасьледнік выбраў пераважна школьныя інтэрмэдыі, якія ён справядліва адносіць да польскае літаратуры, але ў той жа час гэта і яскравыя ўзоры беларускае народнае мовы XVII—XVIII стст., літаратурнай яе апрацоўкі палякамі. Погляду Брукнэра, што інтэрмэдыі напісаныя ўжо новаю беларускаю моваю, трымаюцца зараз і многія беларускія мовазнаўцы. Сёньня артыкул Брукнэра мае асаблівую каштоўнасьць, бо тэксты інтэрмэдыяў, знойдзеныя ім, загінулі ў часе Другое сусьветнае вайны, і пра іх можна меркаваць толькі з цытатаў і пераказу ў нямецкім славістычным часопісе.

Вокладка “Павадыра Менскай краёвай выставы старасьветчыны й мастацтва”, складзенага д-рам Альбэртам Іпэлем.

Сам пералік публікацыяў сьведчыць, што Брукнэр разгледзеў шматлікія праблемы старажытнае беларускае філялёгіі. Ён паказаў, што ўжо ў XVIст. у Беларусі існавала багатая перакладная літаратура, уласная школа перакладу: іншаземныя творы перакладаліся ня толькі з польскай, але з лацінскай, чэскай, сербскай і іншых моваў. Аднак асаблівае значэньне мела тое, “што Брукнэр з самага пачатку разглядаў беларускую мову не як рэгіянальны варыянт расейскае ці нават польскае, а як самастойную, трэцюю ўсходнеславянскую мову побач з расейскай і ўкраінскай, якая мела ўласную старажытную літаратурную форму... Брукнэр назваў характэрныя адзнакі беларускае літаратурнае мовы, што ўжо існавалі ў XVIст. і адрозьнівалі яе ад вялікарускае літаратурнае мовы: гэта поўнае вызваленьне ад залежнасьці царкоўнаславянскае, ня толькі ў галіне лексыкі, але і марфалёгіі, ад многіх лексычных палянізмаў”.

Да філялёгічнае спадчыны Брукнэра трэба далучыць яго нямецкамоўную публіцыстыку, прысьвечаную Беларусі. Яна друкавалася ў часе Першае сусьветнае вайны ў нямецкамоўных

Рудольф Абіхт (1850—1921).

часопісах “Polen”, што выдаваўся ў Бэрліне, “Polnische blätter”, якi выпускаўся ў Вене, ці зьяўлялася асобнымі выданьнямі. У шматлікіх публікацыях польскі вучоны ня толькі абуджаў цікавасьць да Беларусі, але, баронячы польскасьць, рэзка крытыкаваў Літву за яе прэтэнзіі на беларускія тэрыторыі, паказваў, што Вялікае Княства Літоўскае ў сваёй сутнасьці беларуская дзяржава, а яе Літоўскі статут — помнік беларускай дзяржаўнай і юрыдычнай думкі.

Плённы ўклад Брукнэра ў беларусістыку, на жаль, па-сапраўднаму не ацэнены. Зьвернем увагу з гэтае нагоды на выказваньне вядомага нямецкага мовазнаўца К.Гутшміта, які ў артыкуле “Да беларускай філялёгіі” пісаў: “Як вядома, гэта ён (Брукнэр) зьдзейсьніў дзеля польскае гісторыі мовы самую адказную падрыхтоўчую філялягічную працу. Нашмат менш вядомымі і ўсё яшчэ недастаткова ацэненымі зьяўляюцца ў гэтым сэнсе яго набыткі ў дасьледаваньні старажытнае беларускае мовы і літаратуры. Ён быў ня толькі першым славістам па-за межамі тагачаснае Расеі, але адным зь першых славістаў наагул, які ўзняў беларускую мову, гісторыю беларускае літаратуры і культуры на ўзровень самастойнага прадмета дасьледаваньня і тым самым садзейнічаў разьвіцьцю гэтае галіны славянскай філялёгіі”.

Вядома, больш значнае дачыненьне нямецкае

Аляксандар Брукнэр (1856—1939).

грамадзкасьці да нашага краю адбылося пазьней, у часе Першае сусьветнае вайны, калі кайзэраўскія войскі захапілі Беларусь. Тады, пасьля многіх стагодзьдзяў забароны, нарэшце афіцыйна была прызнаная (1916) беларуская мова, адкрытыя першыя бела-рускія школы, праводзілася значная культурна-асьветная праца. Нягледзячы на жорсткі акупацыйны рэжым, Нямеччына ў многім садзейнічала ня толькі далучэньню нашай краіны да цывілізаваных асноваў эўрапейскага жыцьця (адкрыцьцё мэдычных пунктаў і больніцаў, пашырэньне чыгунак і вузкакалеек, будаўніцтва дарогаў і шашовых магістраляў), але ў пэўнай меры, дзякуючы палітыцы вызваленьня “народаў ускраін”, спрыяла разьвіцьцю нацыянальнае сьвядомасьці беларусаў. Значны ўклад у разьвіцьцё беларускае культуры ўнесьлі тады нямецкія вучоныя праф. Р.Абіхт, д-р А.Іпэль, публіцыст В.Егер.

Тады ж беларуская культура знайшла шырокае ад-люстраваньне і ў нямецкай прэсе: “Zeitung der 10. Armee”, “Grodnoer Zeitung”, “Deutsche Kriegzeitung von Baranowitschi”, “Nowogrodecker Kriegszeitung”, “Pinsker Zeitung”, “Bialostocker Zeitung”, “Wilnaer Zeitung”, “Die Wacht im Osten” і інш., што выдаваліся на акупаванай тэрыторыі. На іхных старонках у разьдзеле “Мясцовыя навіны” зьмяшчаліся шматлікія артыкулы, рэцэнзіі, паведамленьні, эсэ, апавяданьні, вершы, рысункі, а таксама пераклады зь беларускае літаратуры і вуснае народнае

творчасьці, якія ахоплівалі амаль усе важнейшыя аспэкты беларускага культурнага жыцьця. Акрамя матэрыялаў пра тэатар (“Беларускі тэатар” В.Егера), літаратуру (“Літоўскі паэт Людвік Кандратовіч” С.Д.), кнігадрук (“Першая беларуская Біблія”, “Кнігадрукаваньне ў Вільні” В.Студніцкага), мастацтва (“Выстава новага мастацтва”), гісторыю (“Княжацкі род Радзівілаў”), рэлігію (Рэфармацыя ў Беларусі”), этнаграфію (“Этнаграфічныя назіраньні над матэрыяльнай культурай беларусаў” Ф.Куршмана), друкаваліся вершы (“Баранавічы”, “Травень у Баранавічах” Б.Вэра, спэцыяльны паэтычны зборнік “Альбом паэзіі пра Шчару”), проза (сэрыя апавяданьняў “Ля Шчары” Паўля Цымэрмана), нарысы (“Пеўчыя птушкі Беларусі”, “Кветкі Беларусі” Р.Гесэля), успаміны (“Аб баях за Баранавічы”), незабыўныя малюнкі В.Фэста і Ф.Шорлінга. Чатыры аб’ёмныя выпускі, прысьвечаныя дасьледаваньню жывёльнага і расьліннага сьвету Белавескае пушчы — “Белавежа пад нямецкім кіраўніцтвам” і шмат іншага.

Найбольш значныя заслугі ў дасьледаваньні беларускае культуры выпалі на долю брэслаўскага славіста Рудальфа Абіхта. У 1916г. ва ўзросьце 66 гадоў ён актыўна бярэцца за вывучэньне беларускае мовы і неўзабаве авалодвае ёю. Абіхт быў першым замежным вучоным, які ў 1916г. распачаў у Брэславе чытаньне ўнівэрсытэцкага курсу беларускай мовы для студэнтаў і чыноўнікаў нямецкай адміністрацыі ў Беларусі. А ў 1917—1918гг. выкладае яе для беларускіх навучэнцаў у настаўніцкай сэмінарыі ў Сьвіслачы. У 1918г. ён разам зь Янам Станкевічам выдае лемантар “Просты спосаб стацца ў кароткім часе граматным” для тых, хто хацеў хутка авалодаць беларускай мовай.

Абіхт першы сярод нямецкіх вучоных усталяваў шчыльныя й шырокія кантакты з прадстаўнікамі беларускай інтэлігенцыі і беларускаю прэсаю. Ягонаму пяру належалі шматлікія пераклады і артыкулы як на нямецкай, так і беларускай мовах, што публікаваліся ў “Гомане”, у нямецкіх часопісах і газэтах. Найбольш значны ягоны гістарычны агляд “Са старой і новай гісторыі Беларусі”, дзе прасочаны лёс беларускага народу ад часоў Русі да 1918г.

Абіхт таксама ўзяў чынны ўдзел у выданьні першай кнігі панямецку пра нашую краіну — “Беларусь”, падрыхтаваўшы для яе разьдзелы “Духоўная культура”, “Зь беларускае літаратуры”, “Зь беларускае вуснае народнае творчасьці”, куды, акрамя артыкула, увайшлі перакладзеныя ім мастацкія творы Я.Купалы, Я.Коласа, Я.Баршчэўскага, нізка беларускіх народных песьняў і падборка найлепшых беларускіх казак. Акрамя таго, нямецкі славіст падрыхтаваў і меў намер выдаць на нямецкай мове беларускую граматыку і гісторыю беларускае літаратуры, аднак сьмерць (1921) перашкодзіла здзяйсненьню яго добрых намераў.

На жаль, беларусазнаўчая дзейнасьць Р.Абіхта не знайшла да апошняга часу належнае ацэнкі ні ў беларускай філялёгіі, ні ў заходняй славістыцы. Гэта справядліва падкрэслена ў “Новай

нямецкай біяграфіі”: “Усе працы высакароднага вучонага дзякуючы іхнай дакладнасьці, багацьцю ведаў і глыбокім, самастойным, часам сьмелым думкам заслугоўваюць больш увагі, чым дагэтуль”.

Ня менш значны ўклад у вывучэньне і дасьледаваньне беларускай культуры зрабіў вядомы нямецкі мастацтвазнаўца Альбэрт Іпэль. Менавіта ён, не без дапамогі беларускіх віленскіх інтэлектуалаў, арганізаваў дзьве буйнейшыя выставы беларускага мастацтва ў Вільні і Менску, зрабіў шэраг значных публікацыяў. Гэта сэрыя (больш за 10) артыкулаў “Выстава Вільня—Менск”, прысьвечаных Менскай краёвай выставе старасьвеччыны й мастацтва, а таксама артыкулы мастацт-вазнаўчага характару “Менская краёвая выстава”, “Магілёўскі царкоўны музэй”, “Гомель” ды інш. Акрамя таго, Іпэль напісаў і выдаў некалькі значных працаў: “Вільня—Менск. Старасьвеччына і мастацтва”, дзе апісаныя шматлікія творы беларускага старажытнага і народнага мастацтва; “Павадыр па Менскай краёвай выставе” на чатырох мовах — нямецкай, беларускай, польскай і расейскай; разьдзел да кнігі “Беларусь” “Аб беларускім мастацтве”, прысьвечаны выяўленчаму мастацтву. Артыкул Іпэля — гэта першая спроба паказаць беларускае мастацтва ў эўрапейскім кантэксьце і асабліва ў параўнаўчым супастаўленьні зь нямецкім і антычным. Публікацыя адыграла ў свой час прыкметную ролю ў гісторыі беларускага мастацтвазнаўства і ня страціла актуальнасьці па сёньня, пра што яскрава сьведчыць публікацыя В.Шматава, а яшчэ ў большай ступені выстава і канфэрэнцыя, ладжаныя ў ліпені 1995г. Н.Высоцкай да 90-годзьдзя з дня нараджэньня выдатнага мастацтвазнаўцы. Нездарма праца А.Іпэля адразу прыцягнула ўвагу беларускіх спэцыялістаў і некалькі разоў перакладалася на беларускую мову, атрымала многія добра-зычлівыя водгукі і высокія ацэнкі ў беларускай прэсе 20-х гадоў.

Першы раз яна была перакладзеная ў 1921г. М.Байковым і надрукаваная ў часопісе “Вольны сьцяг”. У 1924г. беларускі мастацтвазнаўца М.Касьпяровіч выступіў зь вялікім артыкулам “Беларускае мастацтва і яго дасьледнікі”, дзе высока ацаніў артыкул А.Іпэля і публікацыі іншых нямецкіх вучоных, асабліва праф. П.Вэбэра, адзначаючы, што “ ў цяжкіх абставінах вайны і акупацыі яны зрабілі вялікую працу зьбіраньня і распрацоўкі матэрыялу ў галіне беларускага мастацтва... З патрэбнаю эрудыцыяй і падрыхтоўкаю нямецкія вучоныя, асабліва Іпэль, ставяць проста і аб’ектыўна пытаньні беларускага мастацтва...”. У 1925г. М.Касьпяровіч і З.Грабавец другі раз пераклалі артыкул Іпэля і выдалі асобнай брашурай, далучыўшы да яго зьмстоўную прадмову. Яны паспрабавалі акрэсьліць ролю працы Іпэля ў беларускім мастацтвазнаўстве: “Артыкул Іпэля мае бясспрэчна вялізнае выключнае значэньне, як першы, што асьвятляе беларускае мастацтва ад яго пачатку ў сувязі зь месцам яго разьвіцьця і рознымі ўплывамі на яго. Затым ён павінен быць

крыніцаю, адкуль можна чэрпаць першапачатковыя веды аб розных галінах беларускага мастацтва. Артыкул, безумоўна, не прэтэндуе на вычарпальнасьць і закончанасьць, ня ставіць сабе мэту дасьледаваць дасканала ўсе галіны беларускага мастацтва, іх гісторыю. Ён зьяўляецца вынікам нядоўгае працы Іпэля, які часам кажа, што далей патрэбна падрабязнае, дакладнае дасьледаваньне, што і высьвятліць канчаткова гісторыю беларускага мастацтва, а таксама ўнясе шмат каштоўнага ў гісторыю агульнага мастацтва".

Аўтары адзначаюць некаторыя выдаткі працы Іпэля: на іхную думку, тут не знайшлі асьвятленьня такія пытаньні, як беларускае мастацтва ў Польшчы, беларуская гравюра і інш. Аднак, нягледзячы на асобныя пралікі, дасьледаваньне Іпэля будзе карысным для шырокіх колаў грамадзтва і для вучоных.

Але найбольш дасьведчаная і кампэтэнтная ацэнка самой працы Іпэля і яе выданьня на беларускай мове была дадзеная вядомым беларускім мастацтвазнаўцам М.Шчакаціхіным: "Праца гэтая, нягледзячы на нязначнасьць яе памераў і нават вядомую павярхоўнасьць зьместу, мае ў гісторыі вывучэньня беларускага мастацтва асаблівае значэньне. Артыкул Іпэля зьявіўся ў свой час першым прыкладам цалкам аб'ектыўнага, пазбаўленага ўсякай тэндэнцыі падыходу да правільнай пастаноўкі праблемы беларускага мастацтва, прыкладам тым болей цікаўным, што ён належаў пяру чужаземца і да таго ж быў вынікам параўнальна кароткага і неглыбокага азнаямленьня аўтара з адпаведным матэрыялам. Тымчасам, аднак, не без удзелу, праўда, некаторых беларускіх культурнікаў, Іпэль здолеў сур'ёзна і правільна намеціць шляхі дасьледаваньня гэтага матэрыялу і першы нават адважыўся ўвесьці ў літаратуру раней невядомыя тэрміны: "беларускае мастацтва" і "беларуская школа малярства". І далей: "Апублікаваньне гэтага артыкула асобнай кніжачкай у беларускім перакладзе можна, зразумела, вітаць, паколькі пакуль што ён заставаўся малавядомым у шырокіх колах, нягледзячы на тое, што першы беларускі пераклад яго (М.Байкова) ужо некалькі гадоў назад быў надрукаваны ў часопісе "Вольны сьцяг". На жаль, аднак, віцебскія перакладчыкі не зусім дакладна справіліся са сваёй задачай: пераклад мае шмат памылак, часта досыць грунтоўных...".

Зьвернем увагу яшчэ на дзьве значныя публікацыі таго часу: артыкул Ф.Куршмана "Беларусы. Абуджаная славянская сялянская нацыя" і кнігу публіцыста Вальтэра Егера "Беларусь". Першы належыць пяру вядомага нямецкага славіста Бэрлінскага ўнівэрсытэту, які падобна праф. Абіхту падчас Першае сусьветнае вайны выявіў цікавасьць да Беларусі, да яе матэрыяльнай і духоўнай культуры. Будучы афіцэрам культурнага аддзелу Обэр Ост, ён ня раз выступаў перад нямецкімі вайскоўцамі зь лекцыямі, а ў прэсе — з артыкуламі наконт беларускай этнаграфіі. Першая значная публікацыя — артыкул "Этна-графічныя назіраньні над

матэрыяльнай культурай беларусаў”, якія раскрываў своеасаблівасьці побыту так мала знаёмага немцам беларускага народу. Найбольш вядомая праца Куршмана — “Беларусы”, у якой даюцца даволі падрабязныя і каштоўныя для свайго часу зьвесткі пра тэрыторыю, насельніцтва, палітычнае й культурнае жыцьцё Беларусі. Найбольш дэталёва ахарактарызаваны ў артыкуле беларускі пэрыядычны друк XX ст., раскрытыя роля і значэньне беларускіх газэтаў “Наша Доля” і “Наша Ніва”.

Але, безумоўна, найважнейшаю працаю таго часу стала кніга В.Егера “Беларусь” — першая на нямецкай мове кніга, цалкам прысьвечаная нашай краіне. Яна ахоплівае значны пэрыяд гістарычнага разьвіцця Беларусі ад старажытнасьці да ўтварэньня БНР, шырокае кола праблемаў, зьвязаных з жыцьцём і дзейнасьцю беларускага народу. Яркім сьведчаньнем таму — яе шырокі і разнастайны тэматычны дыяпазон, выяўлены ў разьдзелах “Край”, “Насельніцтва”, “Гісторыя”, “Народная гаспадарка”, “Духоўная культура”, “Аб беларускім мастацтве”, “Зь беларускае літаратуры”, “Зь беларускае вуснае народнае творчасьці”.

Выдадзеная ў пару бурных рэвалюцыйных падзеяў у Нямеччыне, кніга В.Егера не была заўважаная нямецкай грамадзкасьцю. У Беларусі на выданьне зьявілася некалькі водгукаў. Гэта паведамленьне беларускага лінгвіста М.Байкова “Кніга аб Беларусі на нямецкай мове”, зьмешчанае ў часопісе “Школа і культура Савецкай Беларусі” (1921, № 1/2) і ягоная ж рэцэнзія ў часопісе “Вольны сьцяг”, дзе кніга В.Егера разгледжаная больш шырока і падрабязна. Дадзеная ацэнка выданьня: “Чаго-небудзь новага дзеля беларускага чытача, асабліва таго, каму вядомы творы Я.Карскага, П.Шэйна, Е.Раманава і інш., зборнік не прадстаўляе, аднак трэба аддаць справядлівасьць немцам, яны старанна сабралі тое, што зьяўляецца найбольш прыкметным у розных галінах жыцьця беларускага народу”.

Значна пазьней, у 1925г., да кнігі В.Егера зьвярнуўся Я.Карскі. У артыкуле “Беларуская філялёгія за апошнія дзесяць гадоў”, зьмешчаным у часопісе “Zeitschrift für Slavische Phi-lologie”, ён пісаў: “Гэта кампілятыўная, сьпехам складзеная пасьля 1917 году праца, без камэнтароў. Вінеткі, узятыя з маёй “Палеаграфіі”, у некаторых месцах надрукаваныя наадварот... Адсутнічае ў гэтай кнізе разьмеркаваньне паміж агульнарускім, расейскім і беларускім”.

Выказваньне вядомага спэцыяліста, як бачым, даволі крытычнае. Аднак з высновамі Я.Карскага не зусім можна пагадзіцца. Вучоны глядзеў на кнігу В.Егера як на працу, што павінна была стаць вышэйшай прыступкай у беларусазнаўстве наагул. Мы ж лічым, што яе неабходна разглядаць як папулярнае выданьне, зыходзячы з намеру, якім кіраваўся сам аўтар: даць немцам агульнае ўяўленьне “пра амаль зусім невядомы ім беларускі народ”.

Помнікі беларускага мастацтва дасьледаваліся і ў іншых выданьнях нямецкіх вучоных і аматараў мастацтва. Асабліва поўнае і кампэтэнтнае адлюстраваньне яны знайшлі ў кнізе нямецкага мастацтвазнаўцы праф. Венскага ўнівэрсытэту Паўля Вэбэра “Вільня. Забыты цэнтар мастацтва”, дзе высока-кваліфікавана зроблены дасьведчаны мастацтвазнаўчы аналіз найбольш вядомых гістарычных і сучасных помнікаў архітэктуры Вільні ад старажытнасьці да 1916 году ў іх важнейшых мастацкіх праявах — стылях: гатычным, раманскім, барока, ракако, клясыцыстычным. Акрамя архітэктуры, разгледжаны ў кнізе і цікавейшыя помнікі віленскае скульптуры, іканапісу і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва. Працу добра дапаўняе публікацыя Вальтэра Егера “Царква сьвятой Ганны, манас-тырскія цэрквы сьвятога Бэрнардына і сьвятога Міхала ў Вільні”, дзе даецца даволі падрабязнае апісаньне помнікаў старажытнага горада.

Нават пабежны агляд далучэньня нямецкае славістыкі, нямецкіх навукоўцаў і культурнікаў да супрацоўніцтва на ніве беларускае культуры ў пэрыяд ад заснаваньня першага славістычнага часопіса “Archiv für slavische Philologie” да падпісаньня Рапальскага пагадненьня паміж Беларусьсю і Ваймарскай рэспублікай (1875—1922) сьведчыць пра абуджэньне ў нямецкіх славістаў цікавасьці да Беларусі, да духоўнага жыцьця яе народу, пра заснаваньне сталых кантактаў у галіне культуры, пра нарастаньне іх дынамікі. Гэтае супрацоўніцтва супала з часам інтэнсіўнага адраджэньня беларускае культуры і бурнага нацыянальнага руху, вынікам якога стала ўтварэньне ў 1918 годзе Беларускае Народнае Рэспублікі.

SPADИZYNA (Heritage) Magazine
5. Starańoъskaja st. Minsk, Republic of Belarus.